АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

# БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ ТВОРЧАСЦЬ

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1988

АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

# ВЯСЕЛЛЕ
# ПЕСНІ



У шасці кнігах

КНІГА 6

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1988

ББК 82.3Бел.-6
В99



Складальніца Л. А. Малаш

Музычны дадатак З. Я. Мажэйка

Рэдактар А. С. Фядосік

**Вяселле:** Песні. У 6-ці кн. Кн. 6 / Склад. Л. А. Малаш;
В99 Муз. дадат. З. Я. Мажэйка; Рэд. А. С. Фядосік. — Мн.: Навука і тэхніка, 1988.—664 с.: іл.— (Беларус. нар. творчасць / АН БССР, Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору).

ISBN 5-343-00310-9

У шостай кнізе змешчаны беларускія вясельныя песні, якія выконваюцца ў доме маладога, калі прывозяць маладую. Матэрыял раскласіфікаваны па функцыянальна-тэматычнаму прынцыпу. Запісы песень зроблены ў час фальклорных экспедыцый, узяты з архіваў і розных выданняў XIX—XX стст.

Кніга разлічана на фалькларыстаў, этнографаў, моваведаў і ўсіх, хто цікавіцца народнай творчасцю.

В $\frac{4702120105-023}{М316(03)-88}$ 127-88 ББК 82.3Бел.-6

ISBN 5-343-00310-9

# ВЯСЕЛЛЕ Ў МАЛАДОГА

Беларускі вясельны абрад характарызуецца супрацьпастаўленасцю элементаў яго бінарнага трыадзінства: 1) месца дзеяння (у хаце маладой і ў хаце маладога), 2) дзеючых асоб (род маладой і род маладога), 3) танальнасці дзеяння (канфліктна-драматычная, мінорная ў маладой і святочна-ўзнёслая, мажорная ў маладога). Такая генетычная прырода вяселля вызначаецца сацыяльна-эканамічнай сутнасцю шлюбу, у аснове якога знаходзіцца гандлёвая здзелка: адны прадаюць маладую рабочую сілу, другія яе набываюць. У выніку па-за пышнай параднасцю вяселля скрываюцца супрацьлеглыя інтарэсы двух радоў — роду маладой і роду маладога. Гэта асаблівасць шлюбнага кантракту праглядаецца на працягу ўсяго вяселля і даволі яскрава выяўляецца ў час пераезду нявесты да жаніха і ў яго хаце, у немалой ступені вызначае кампазіцыю вяселля і развіццё жанравага складу яго паэзіі.

Першая частка вяселля (у хаце маладой) з прычыны расставання нявесты з бацькоўскім домам, сяброўкамі, дзявочай воляй поўная напружаных перажыванняў, роспачы і жалю. Адсюль прамая або ўтоеная нядобразычлівасць з боку сваякоў маладой да роду маладога, які забірае яе. Эмацыянальны тон другой часткі (у хаце маладога), якая пачынаецца пераездам нявесты ў дом жаніха, з мінорнага тону пераходзіць у мажорны, узнёслы. Нягледзячы на пакуты маладой па дарозе да маладога, яна ўжо не мае права плакаць адкрыта, як дома, дзе «слёзы ліла ручаём», каб радня жаніха не палічыла гэты плач за незадаволенасць і нежаданне парадніцца з яго родам. Поўная трывожных перажыванняў, глыбока ўсхваляваная і разгубленая нявеста ўтойвае свой настрой ад радні маладога, якая адчувае сябе пераможцай. Такі псіхічны стан маладой выразна і лаканічна перадаецца ў песнях, дзе «петушыны» гонар пераможцы-маладога супрацьстаіць бяссіллю нявесты скрыць свае перажыванні:

Дзяцінка да пяром піша —
Дзеванька да насом чмыша.

Калі перад адпраўленнем да вянца, дзе кіруючая роля належыць роду маладой, дзеянне разгортваецца павольна, чынна і прэваліруюць песні пераважна лірычнага зместу, то ў час ад'езду маладой да маладога яго дружына паводзіць сябе як заваёўнікі, а выконваемыя ёй песні груба напамі-

наюць, што час ехаць дадому. Дружкі нахабна хапаюць нявесту, як дабычу, кідаюць у падводу на яе падушкі і хутка імчацца дадому. Напрыклад: «Ехала казакоў сем палкоў», «укралі (забралі) Валечку сілаю» і «хутка памчалі». Шпаркі выезд вясельнага поезда з двара маладой першапачаткова ўспрымаўся як ратаванне ад «нячыстай сілы». У песнях жа ён набыў ужо іншае значэнне: імкненне як мага хутчэй ад'ехаць ад роднай хаты і тым самым зменшыць тугу маладой па дому — «каб не зачула дзевачка, як яе матка плача, як зязюля кукуе». Усведамляючы сваё безвыходнае становішча, маладая сама просіць навозніка хутчэй паганяць коней і не звяртаць увагі на яе плач і пакуты:

Плачу, плачу да ўватруся,
Да да маманькі не вярнуся.

Па дарозе да маладога выконваецца асабліва многа засцерагаючых дзеянняў, якія суправаджаюцца варажбой і рознымі прыкметамі аб будучым лёсе маладых, спецыяльнымі развітальнымі дарожнымі песнямі, у якіх выказваецца пажаданне зберагчы маладых і ўвесь вясельны поезд ад шкодных сіл, забяспечыць будучай сям'і поспех у жыцці. Многія з гэтых рытуалаў узыходзяць да старажытнай магіі, а прадказанні і варажба пераважна заснаваны на аналогіі з суправаджальнымі акалічнасцямі і навакольнымі рэаліямі. Так, аб «няроўным жыцці шлюбнай пары» сведчылі «няроўная» («няғладкая») дарога, цугуючыя коні і інш. Калі коні пырскаюць, г. зн. жыццё маладых будзе вясёлым.

Звычайна з хаты маладой ад'язджаюць к вечару. Часта вясельны поезд робіць вялікі круг з такім разлікам, каб прыехаць да жаніха позна ноччу і збіць з толку шкодныя сілы. Дзеля гэтага маладую вязуць не па той дарозе, якой едуць па яе. Існуе многа спосабаў пераадолець сустракаемыя на шляху перашкоды. Так, на скрыжаванні дарог і на мастах кідаюць якія-небудзь рэчы (пояс, хлеб і г. д.), каб адкупіцца ад нячыстай сілы. Каб адпудзіць яе ў час язды, удзельнікі вясельнага поезда гігікаюць, крычаць, гойкаюць, сцёбаюць пугамі, голасна спяваюць, а музыкі гучна іграюць. Сустрэчнаму «плацяць» гарэлкай, каб уступіў дарогу. Да нашых дзён захаваўся звычай загароджваць дарогу жардзінай («строіць рагатку», «лавіць зайца»). А ў некаторых мясцовасцях пры ўездзе ў вёску маладога «робяць браму» з дзвюх бяроз, верхавіны якіх звязваюць разам. Пад брамай ставяць накрыты настольнікам стол з хлебам, соллю і двума кілішкамі віна. Праезд праз браму або рагатку выкупляе сам малады або яго сват. У дарожных песнях гаворыцца аб іншых шматлікіх перашкодах, сустракаемых уначы вясельным поездам, які едзе «па барах, па лясах», «цярэбіць дарожаньку», дзе «вецер бярозу паваліў», «дарогу заваліў» («заламіў»):

Цёмная ночка абняла,
Дарожка далёкая і грудлівая.
Вараны конічак а спадбіўся.

Шлях маладога праз лес сімвалізуе выпрабаванне яго мужнасці, храбрасці, бясстрашнасці перад ворагамі і «цёмнай ночкай». У некаторых песнях смеласць жаніха тлумачыцца тым, што ён не адзін — з ім маладая і ўвесь род, да таго ж і конь харошы.

Есць цэлая група песень пра коней, якія антрапамарфізуюцца. Жаніх просіць коней бегчы з гары асцярожна, каб не згубіць нявесты («звярушкі», «куны»), бо:

Тры дні без шапак сядзелі,
На гэту звярушку глядзелі.
Тры дні без шапак стаялі,
Пакуль гэту звярушку спаймалі.

Атаясамліванне ў песнях маладой са «звярушкай» («куніцай» і інш.) і яе ўмыканне паходзяць з часоў матрыярхату, той аддаленай эпохі, «калі дрыгавічы, заходнія крывічы (палачане) і радзімічы, продкі беларусаў, жылі яшчэ «звярыным спосабам», мацярынскімі радамі, якія займаліся галоўным чынам ляснымі промысламі» [1].

Другім старажытным, часта сустракаемым у дарожных песнях сімвалам з'яўляецца «кладка», праз якую малады праводзіць (перавозіць) на другі бок ракі маладую «ў іншы свет», г. зн. у свой род. Пераход праз кладку з'яўляецца вельмі адказным і хвалюючым момантам у жыцці дзяўчыны. Таму ў песнях кладка «гібкая», «угінаецца» пад нявестай, якую падтрымлівае жаніх. Кладка сімвалізуе таксама мяжу паміж дзявоцкім і жаночым жыццём, і, перайшоўшы яе, назад дарогі няма. Гэта метафара выразна выступае ў наступных радках:

Станьце, сваткі, каля кладкі,
Я вярнуся да сваей маткі.

Пад'язджаючы да вёскі маладога, удзельнікі вясельнага поезда («паязджане») пачынаюць спяваць як мага гучней, каб яго радня пачула і пачала рыхтавацца да сустрэчы:

Да няхай пачуе свёкар мой,
Няхай сустракае зялёным віном пад дваром,
Шчасцем-доляй за сталом.

Паязджане ў песнях звяртаюцца да «чорнай галкі», «шэрага саколіка», просяць «наказаць павестачку, што сын вязе нявестачку». Набліжаючыся да хаты, малады

Учуў адгалосачкі па бару.
Ён думаў, што зязюлька кукуіць,
А па ім яго матулька бядуіць.

[1] Никольский Н. М. Происхождение и история белорусской свадебной обрядности. Минск, 1956. С. 60.

Маці жаніха, якая чакае сына, як і маці нявесты, пакінутая дачкой, у песнях часта параўноўваецца з адзінокай зязюлькай, вутачкай і інш.

Прыезд маладой да бацькоў жаніха з'яўляецца адказным і ўрачыстым момантам другога этапа вяселля. Сустракаць маладых збіраецца не толькі ўвесь род, але і жыхары навакольных вёсак. Абрад спаткання маладых амаль поўна захаваўся да нашых дзён. Падрыхтоўка да ўрачыстасці пачынаецца загадзя, бо, згодна з народным павер'ем, ад пасляховасці яе правядзення залежала будучае жыццё маладых. Асаблівую актыўнасць у гэты час праяўляе хор, які, згодна з народным этыкетам і рытуалам, пры дапамозе імператыўных і тлумачальных песень як рэжысёр падказвае бацькам і іншым удзельнікам вяселля паслядоўнасць выканання неабходных дзеянняў і правіл паводзін, апявае душэўны стан прысутных. Так, хор напамінае, каб «засцілалі сталы, лавы», «налівалі кубкі», «сцялілі палаценца ад варот да клеці, дзе будуць ісці дзеці», «адчынялі вароты», «раскацілі трубачку» ад варот да ганка. У нашы дні дарогу ад машыны, на якой прывозяць маладых, да ганка засцілаюць не палатном, а дывановай дарожкай. Важна было не прапусціць ні аднаго элемента рытуалу і быць гатовым у час да прыёму «гасцей небывалых». Хор спявае аб неспакоі «мацеры-саколачкі», якая чакае «сына-сакала»:

Цёмная да нявідная ночка,
Зажурылася да саколікава мамачка,
Што яе сакала доўга нет.

Маці пакутуе ў дагадках, чаму так доўга няма сына: можа, яго там «на пачастунку затрымалі», можа, «яго сіўцы-варанцы прысталі», а «ці яму маладу Валечку не далі». Але тым не менш маці верыць, што ўсё павінна быць у парадку: і коні моцныя, і ён не адзін, з ім сёстры і сваты, і ёсць чым конікаў падкаваць у дарозе, і «яго Валечка пэўная». Свякроў ужо не адзін год «жадам жадала, пытам пытала» сваёй нявесткі, усе «свечы папаліла», «віном сені палівала», «цісовы сталы пазасцілала», «поўныя кубкі віна паналівала», «ва ўсіх варотах старажы стаўляла», «да на ўсіх дарогах пірагі паклала», «пару чаравік стаптала, за вароты выбягаючы», маладых дажыдаючы. У песнях апісваецца ўвесь падрыхтоўчы рытуал сустрэчы маладых, а таксама далейшыя дзеянні ў хаце маладога.

Калі вясельны поезд набліжаецца да варот, іх адразу адчыняюць і імгненна падпальваюць загадзя прыгатаваны куль саломы, праз які павінна праімчацца дружына. Хор у гэты час тлумачыць:

Паламянка была свякроўка:
У варот салому паліла,
Нявесці вочы смаліла,
Каб не была драмліва.

Або:

Каб не хадзіла па сялу,
Не абгаварыла ўсю сям'ю.

Першапачаткова праезд праз агонь меў ачышчальны сэнс. Пазней, як відаць з тэксту песень, гэты рытуал набыў другаснае значэнне. У песнях сустракаецца і варыянт гэтага абраду, калі замест падпальвання саломы ў варотах стаяла свякроў са снапом жыта, на які нявестка клала ёй падарунак — стан палатна. Пры гэтым хор спяваў:

Радзі, божа, жыта,
Мая нявестка мала,
Каб стоячы жала.

У народзе лічылася, што маладая (радзей малады) валодае цудадзейнай сілай пладавітасці, і таму верылі, што сваім датыканнем яна здольна перадаць гэту моц жывым істотам і розным рэчам, у даным выпадку — жыту. Жыта ж як сімвал урадлівасці і заможнасці ў сваю чаргу павінна было садзейнічаць пладавітасці нявесты. Маладая ўспрымалася як істота, якая быццам бы выпраменьвае дабрату, здароўе, шчасце, багацце і г. д. Сустракаўшая яе малалетняя залоўка бегла да маці і ўзрушана паведамляла:

Дзіўная нявестка...
У ёй на шыі зоранькі крэшуць,
У ёй на ручках месяцы свецюць,
З яе вяночка — дробны дожджык.

Сэнс гэтых сімвалаў раскрываецца ў адказе маці:

Ой, доню, доню, малы вум маеш:
Што дожджык ідзе— слёзанькі яе,
Што зоранькі крэшуць — пацёркі яе,
Што месяц свеціць — пярсцёнкі яе.

Калі поезд уз'язджае ў двор, хор, кіруючы вясельным дзеяннем, напамінае:

Вынесі, маці, дзежку,
Прывёз сын нявестку.

Часам свякроў марудзіла з выхадам насустрач маладым, за што хор дакараў яе і тлумачыў прычыну такіх паводзін («не хоча нявесткі», «збаялася», «спужалася» і г. д.). У такім выпадку нявеста заставалася на возе або ганку, а сын ішоў у хату прасіць маці, каб прыняла яе:

Прымі баярачку,
Што стаіць на ганачку,
Хусткаю да накрыта,
Слёзкамі абліта.

Звычайна пры сустрэчы нявесты перад ганкам ставяць дзяжу або кашолку з жытам, накрытую вывернутым кажухом, а ў выпадку нецнатлівасці маладой — свіную ражку. Нявеста ступае на кажух, а потым на палатно, разасланае аж да хаты, якое сімвалізуе яе будучую пладавітасць. Часам свякроў накрывае дзяжу сваім фартухом, не здымаючы яго, або рассцілае яго на зямлі. Нявеста становіцца на фартух і кланяецца свекрыві ў ногі. Гэта азначае пераемнасць і працяг роду. Пасля маладая павінна была сама распрэгчы каня, на якім прыехала, пакрыць яго палатном, а дугу закінуць на страху, каб яна больш не спатрэбілася для зваротнай дарогі да бацькоў. У гэты час свякроў вяртаецца ў хату, а затым з векам ад дзяжы, на якім ляжыць мёд, хлеб, соль і гараць дзве скручаныя разам свечкі, выходзіць на ганак насустрач маладым у вывернутым кажусе, за што ў песнях яе нярэдка называюць мядзведзіцай. Хор спявае:

Вітай, маці, свае родныя дзеці
Салодкімі мядамі, густымі хлябамі.

У рытуале сустрэчы выразна праглядаецца даўняя шлюбная абраднасць, элементы якой у беларускім вяселлі вылучаюцца ў форме трывала захаванай традыцыі, згодна з якой родны бацька ў выкананні шлюбных цырымоній прымае вельмі слабы ўдзел. Тут на пярэднім плане фігуруюць родная і хросная маці, што сведчыць аб тым, «што ў сваёй першапачатковай аснове беларускі вясельны рытуал узыходзіць да эпохі мацярынскіх радоў» [2].

У больш позні час разам з маці сустракаць маладых выходзіў і бацька з талеркай, на якой стаялі бутэлька віна і адзін, а пазней два кілішкі. Маладыя, падышоўшы да бацькі, двойчы выліваюць праз плячо віно з кілішкаў, а на трэці раз выпіваюць. Маці тройчы мажа ім мёдам губы, што сімвалізуе іх будучае салодкае жыццё. На двары свякроў абсыпае маладых жытам, хмелем, арэхамі (пазней — цукеркамі), а нявеста, уваходзячы ў хату, «сее багацце» — «сыпіць золатам і жытам і добрым жыццем».

Пераход маладой цераз парог хаты маладога сімвалізуе прыняцце яе ў новы род, членам якога з гэтага моманту яна становіцца. Таму рытуалу парога надаецца вялікая ўвага і значэнне. Месца перад парогам засцілаецца вывернутым кажухом, на якім стаяць маладыя, калі іх сустракаюць бацькі. Прычым маладыя ступаюць правай нагой на парог, а левай стаяць на кажусе. У іншых мясцовасцях яны пераступаюць парог. Кажух сімвалізуе багацце і шчасце, пад якім у старажытнасці ў адносінах да жанчыны разумелася шматлікае патомства. Ён замяняе больш ранні аксесуар гэтага рытуалу — шкуру мядзведзя, які лічыўся татэмам роду і ўплываў на пладавітасць маладой. З цягам часу такое значэнне кажуха было страчана і пачало тлумачыцца ў многіх песнях жаданнем свекрыві спужаць нявестку.

[2] Никольский Н. М. Происхождение и история белорусской свадебной обрядности. С. 141.

Хор ад імя маладой адказвае: «Я таго мядзведзя не баюся, я таму мядзведзю саладзінку кіну, а сваёй свякроўцы падкіну пярыну», а ў больш позніх песнях: «пераб'ю спіну, не шманаю, блізка ступаю». У песнях часам мядзведзіцай называюць таксама маладую, а маладога — мядзведзем, яго ж родзічаў, якія прыязджаюць па нявесту, — мядзведнікамі.

У некаторых мясцовасцях Беларусі захаваўся звычай, калі маладыя як да шлюбу, так і да бацькоў жаніха ехалі ў кажухах нават летам. Пазней маладому кажух замяніла барановая шапка, а маладой — хустка або кусок палатна. Як бачым, у беларускіх вясельных абрадах і песнях захавалася даволі многа архаічных элементаў культу татэма мядзведзя.

Калі маладажоны ўваходзяць у хату, хор урачыстымі і ўзнёслымі песнямі ўсхваляе храбрасць і дзейнасць маладога, пяшчотнасць і пачцівасць маладой. Жаніха называюць каралём-каралевічам, а нявесту — каралеўнай, параўноўваюць яе з пчалой, кунай, дожджыкам, хмаркай, вутачкай, зорачкай, каліначкай і інш.

У хаце маладых садзяць за стол, і пачынаецца бяседа. Кусок палатна, хустку або намётку, якой закрыты твар маладой, здымае бацька (сват, брат) маладога пугавішчам або музыкант смычком. Хор спявае шмат песень, у якіх змешчаны кпіны і здзекі ў адрас нявесты наконт яе малалецтва, няўмельства весці хатнюю гаспадарку, знешнасці, фізічных і разумовых недахопаў і г. д.:

Развяжыце, пакажыце,
Ці харошая графіня,
А ці будзе гаспадыня.
Развязалі, паказалі:
Да й харошая графіня,
Будзе з яе гаспадыня.
Курыная пасыпальніца,
Свіная памяшальніца.

Род пільна прыглядаецца да нявесты, вельмі крытычна і з засцярогай ставячыся да яе. Адаптацыя маладой у новай сям'і адбываецца вельмі марудна — аж да раніцы пасля першай шлюбнай ночы. Нявесту, якую лічаць яшчэ не сваёй, у выконваемых у гэты час песнях абразліва называюць «калодзіцай», «стрыжкай», «чортам з балота», «ражном», «дзеразой», «кадушкай», «рылатай», «пухатай», «пужалам вераб'ёў ганяць», «няхохай», якая будзе «пад платом ляжаць і вераб'ёў пужаць», «рудой, як лісіца» і г. д.:

Прывязлі да хаты калатуху,
На сяло разлятуху,
Да хлопцаў рагатуху.
Ці ў печы паліці,
А ці печ заваліці?

Больш за ўсё ў маладой цэніцца яе здольнасць да працы. Род жаніха заўсёды глядзеў на нявестку як на рабочую сілу і адразу ўскладаў на яе

самую цяжкую працу. У песнях часта прама гаворыцца пра яе абавязкі ў складзе новай сям'і: «Да к сцюдзёнай зіме плацце праць, а к краснай вясне кросны ткаць, а к цёпламу лету жыта жаць, а к цёмнай ночы на таку малаціць». Яе таксама чакаюць штодзённыя абавязкі — клапаціцца аб усёй сям'і: для свекрыві яна «рук падменачка», «пасцельніца», для бацькі — «разувальніца», для брацiка — «жартаўніца», для сястрыцы — «касаплётніца», «сям'і — прыветніца», для статка — «прыглядніца». А да таго ж маладая павінна ўмець «спеч-зварыць і з людзьмі гаварыць». Акрамя працавітасці і здароўя, ад яе патрабуецца яшчэ быць угодлівай, паслужлівай, паслухмянай, вясёлай, бадзёрай. Вобраз маладой у песнях нярэдка параўноўваецца з пакорлівай жывёлінай (авечкай, ягнём, цялём, казянём і г. д.).

Маладая разумее, што ёй прыйдзецца тут «век векаваць і ўсім слугаваць». Аб гэтым кажа і свякроў: «Узяла сабе нявехначку, нявехначку-пасылачку» — і цешыцца, што цяпер будзе толькі «парадак весці», а нявестка «хату месці, ваду насіць, хлеб мясіць, столікі засцілаць, лыжкі мыць». Поўнае заняволенне нявесткі з боку сям'і жаніха ўзыходзіць да часоў росквіту патрыярхату. У больш позніх песнях пра маладую ўжо гучыць выклік падняволенаму стану жанчыны. Патрыярхальныя норавы беларускай сялянскай сям'і пачынаюць разладжвацца ў сувязі з распадам вялікіх сем'яў і супраціўленнем сельскай моладзі існаваўшаму сямейнаму ўкладу:

А ты, свякроўка, не гадай,
На мяне работкі ўсёй не складай...
Засцеле столічак свякроўка,
Памые ложачкі залоўка,
Падмяце хатачку цётачка,
Прынясе вадзіцы Яначка.

Як ужо адзначалася, у старажытныя часы пры выбары нявесты на першае месца ставіліся яе працоўныя здольнасці, а багацце не адыгрывала значнай ролі. Пасаг нявесты складалі ў асноўным яе асабістыя рэчы. Нават статак, які яна атрымоўвала ад бацькоў, не меў эканамічнай вагі для сям'і, якая прымала яе, бо ён, згодна з існуючым на Беларусі народным правам, заставаўся ўласнасцю нявесты. Інстытут прыданага ў выглядзе грошай, зямельнага надзелу паяўляецца на Беларусі толькі ў XIX ст., калі эканамічны фактар у сямейных адносінах пачынае адыгрываць значную ролю. У выніку становішча маладой у сям'і мужа робіцца больш трывалым. У песнях гэтага перыяду гаворыцца, што багатая нявеста, якая прывязе з сабой «конікі стракаты», «кароўкі цялячыя», «авечкі ваўністыя», «пчолкі мядзістыя», «гускі пярыстыя», захоча сама кіраваць у сям'і. І тады нявестка будзе ўжо «не свінням памяшаніца, а свякроўцы загаданіца».

Менш за ўсё пры выбары нявесты цэніцца яе прыгажосць. Пад увагу прымаецца яе прыстойнасць і ўнатлівасць як будучай прадаўжальніцы роду. У песнях гаворыцца, што трэба глядзець не так на саму маладую,

«як на яе вяночак, што з ясных зорачак», і ці «ёсць на яе грудзі кветачка..., на кветачцы — божая расіца». Нявеста харошая таму, што яна «ні сцёрта, ні змята, толькі з застолля азята». Цэняцца таксама разумовыя здольнасці маладой, бо ў будучым яе чакае роля гаспадыні вялікай сям'і. Таму прысутныя пільна сочаць за кожным крокам маладой: што і як яна робіць, як уваходзіць у хату, як кланяецца і г. д. І калі яна паводзіць сябе адпаведна ўсталяваным нормам і этыкету, ёй спяваюць:

Чаму тое чужое дзіця да разумнае?
На двор уз'ехала ды зярном сыпнула,
А з возу ўстала ды да ножак пала.

Немалое значэнне надавалася таксама паходжанню маладой:

Харошае маткі, багатага бацькі...
Ціхага роду нявеста.

У той жа час род маладога, як гэта неаднаразова падкрэсліваецца ў вясельных песнях, формулах, зваротах, разумеў, што нявестка, «хоць харошая-нехарошая — тут будзе, ніхто ж яе з гэтай хаткі не збудзе», бо шлюб — гэта святы саюз, які заключаецца «навек», на ўсё жыццё.

Пасля кароткай вячэры, якая звычайна адбываецца позняй ноччу, маладых адводзяць у клець (камору, ток або хлеў) на шлюбную пасцель, якую прывозяць ад маладой так званыя вячэрнікі:

Прыслала нас маці
Ні піць, ні гуляці,
Бела ложа слаці.

Часам пасцель прывозяць самі маладыя, і тады сцелюць яго родзічы: «каморку прыбрала ятроўка, пасцельку паслала залоўка». У пасцель кладуць зерне, хмель, розныя зёлкі, «тры зелля, квеці, каб былі ў яе дзеці», і «мята, штоб была багата». У клець маладых суправаджаюць бацькі, сваты, сваццi, музыка з песнямі пра насякомых (муху, камара, шэршня, пчалу), услаўляючы клець, якая «варанымі коньмі важона», «на цалаванне стаўлёна», «на мілаванне зладжона». У час абраду пакладзін спяваюць пра мядзведзя, які лезе на мурaвейнік, клець, «сцёпку», пра ламанне каліны, страсанне расы:

Стаіць верба з расіцаю...
А Іваньку вербу ламаці,
А Мар'юшкі расу браці.

Песні, звязаныя з абрадам пакладзін (клеці, каморы), называюцца калінкамі, бо каліна сімвалізуе цнатлівасць, дзявоцтва. У Столінскім раёне калінку спявае сама нявеста:

Ой, у лузе каліна
Увесь луг украсіла.
Калі я не праўдзіва,
Штоб [redacted] да трэцяга дня
Галавою налажыла.

Гэту песню, якая мае клятвенны сэнс і звязана з грамадска-маральнымі абавязкамі маладых, нявеста выконвае тройчы. Асабліва важным лічылася, каб жаніх і нявеста, уступаючы ў шлюб, былі цнатлівымі. І калі ў адносінах да маладога гэта патрабаванне ў XIX ст. стала ўжо не абавязковым, то ў адносінах да нявесты яно паўсюдна кантралявалася самым строгім чынам. Цнатлівасць нявесты, якая ў песнях параўноўваецца з калінай, вішняй, вінаградам, ружай, — гэта гонар роду маладой і выкананне рэлігійнага абавязку ў адносінах да бога шлюбу. У песнях гаворыцца, што нявеста спіць пад калінай, ручкамі (або ножкамі) яе «кранула, а на яе каліна капнула, а на яе радзіна глянула». За захаванне нявестай цнатлівасці адказваў увесь яе род, і таму калі маладая аказвалася маральна нячыстая, то яе роду была вялікая ганьба: бацьку (хрышчонаму бацьку або брату) надзявалі конскую збрую і ганялі па вёсцы, матцы давалі піць з дзіравай чаропкі, а сваякі маладога спявалі абразлівыя песні.

Раніцай прыданкі прывозяць прыданае маладой і просяцца ў свата (бацькі маладой):

Пазволь да каморы,
Да цісовай кравацi:
Час дзеці ўздымаці.

Будзіць маладых ідуць зноў усе вясельнікі, але асаблівай актыўнасцю вылучаюцца прыданкі, якім «адно на ўме, што не былі ў гумне». Яны хочуць «паглядзець на калінку, чы хораша развілася, па кашулі разлілася». У клець прыносяць рытуальную смажаную курыцу, якой частуюць маладых. Затым нявесту пераапранаюць, а знятую з яе начную кашулю перавязваюць чырвонай істужкай, і маладыя разам з дружкам вязе яе з бутэлькай салодкай чырвонай гарэлкі да бацькоў маладой «на падзяку» за тое, «што насіла (маці) дачку ў фартучку». Ведучы маладых з клеці, спяваюць усхваляючыя іх песні:

Вумна-разумна Мар'ечка
Па двару ішла са свячою,
А ў клець ішла дзявою,
А з клеці ішла жаною.

У гэты момант, як і ў час знаходжання маладой у клеці, вясельнікі скачуць, пляскаюць у далоні і спяваюць сарамлівыя песні, якія нярэдка шакіруюць «строгіх» захавальнікаў маралі сваёй «нецэнзурнасцю» і «непрыстойнасцю». Такі крытычны падыход здзіўляў М. М. Нікольскага, бо,

як ён адзначаў, «тут да беларускай абраднасці прымяняецца чамусьці іншая мерка, чым да старагрэчаскай абраднасці з яе дзіянісіямі, вакханаліямі і распаўсюджанымі звычаямі ажыццяўлення «hieros gamos», і дабаўляў, «што шакіруючыя «сарамлівых» крытыкаў моманты сведчаць аб адсутнасці той ілжы і крывадушнасці, якія ўласцівы буржуазным шлюбным цырымоніям» [3].

У беларускім вяселлі ёсць цэлы цыкл песень пра прыданае нявесты. Сярод іх многа жартоўных, у якіх папракаецца маці, што не ўсё аддала, а пакінула малодшай дачцы; пра тое, што маладая была лянівая і не напрала, што кубел (куфар, скрыня, бонда) зусім пусты: «кінулі радно на дно і то пазычанае», «кінулі паясішча, да і то кверху свішча», «пасканей наклалі, а зверху хвартухом заслалі», маці дала «падушку з грэцкую галушку» (або: «з кіюшку») і г. д. Калі ж прыданае маладой аказваецца багатым, у песнях дэталёва пералічваюцца ўсе рэчы пасагу: радно, пасцілкі, катанкі, дываны, «многа палацен ткацкіх», «кашуль шытых», у кубле «па баках стаяць звойчыкі, пасярэдзіне чырвончыкі». Часам разам з кублам вязуць і жывёлу. Аб гэтым у песнях спяваецца: едзе «маці на карове», «бацька на валове», «дзядзька на цяляці», «сястра на ягняці», «брат на парасяці». Сам кубел атаясамліваецца з маладой, і таму яго вязуць адкрытым, «каб яна лёгка раджала». Кубельнікаў сустракаюць з павагай: бацька або малады выходзяць насустрач і выкупляе кубел.

Вялікая група песень звязана з апісаннем таго, як прыданыя (прыданкі, вячэрнікі і кубельнік) вязуць пасаг з яе дому. Перад ад'ездам бацька маладой добра частуе іх, таму нярэдка прыданыя доўга блудзяць па начы «па дарожцы казённай, чышчанай, мяцёнай», шукаюць, «куды іх сястра звязёна», якую яны называюць «пакрэўнай», «завіваначкай», «выхаваначкай», «зямляначкай», «галубачкай» і г. д. Дарожка, па якой едуць прыданыя, «мураўкай утрэсена», «дробнай рутанькай трушона». З асаблівай весялосцю, гучна, смела едуць прыданыя, калі за імі прыязджае малады з чырвонай гарэлкай і кашуляй маладой з доказам яе цнатлівасці. Коні тады, як спяваецца ў песні, ідуць «на ўсю ступню»:

Едзем жа мы, едзем
Парасчыным следам,
Цэльнаю ступою
За русаю касою.

Даведаўшыся аб прыстойнасці маладой, прыданыя ўпрыгожваюць коней калінай, чырвонымі істужкамі, а сабе ўтыкаюць за шапкі калінавыя галінкі.

У маладога з нецярплівасцю чакаюць прыданых, бо ўжо час пераапра-

---

[3] Никольский Н. М. Происхождение и история белорусской свадебной обрядности. С. 260.

нацъ і выводзіць маладую з клеці — «прасветаньку даці». Пры сустрэчы прыданкам спяваюць з'едлівыя песні:

Дзе вы, свахі, завурыліся,
Што к нам спазніліся?
Ці ў жлукце кіпелі,
Што к нам не паспелі?

Прыданкі адказваюць:

Мы ехалі, тарапіліся
Да з дарожанькі збіліся.
. . . . . . . . . . .
У чыстым полі блудзілі,
Многа разоў станавіліся.

Прыданкі застаюцца ў хаце маладога толькі «на адзін вечарок, на салодкі мядок». Вывеўшы маладую з клеці, яны суправаджаюць яе да калодзежа «за вадой», каб умыцца, паліць вады на рукі мужу і ўсім прысутным: гэта вада лічылася цудадзейнай, бо дапамагала быццам бы ад розных болек.

У гэты час (або раней разам з прыданкамі) прыязджаюць бацькі маладой, якім яна скардзіцца, што ў гэтай «чужой старане» не прывыкне, бо

Тут горы да высокія,
А вядзёрцы да вялікія,
Мая сіла да маленькая.

Хор яе супакойвае, гаворачы: «Пабудзеш тут год-другі, то горы паніжаюць, калодзезі набліжаюць, вядзерцы паменшаюць, твая сілка пабольшае, свякроўка палепшае». Маці яшчэ дома чуе сэрцам тугу і скаргу дачкі:

Маці выйшла на вулачку,
Прылажыла галовачку
К зялёнаму да яварочку:
Ці то яварыначка шуміць,
Ці то мая дзіця плача,
Раненька па ваду ідучы,
Ранняю расу росячы?

Песні аб чаканні маладой сваіх бацькоў складаюць асобную групу. У іх апавядаецца пра падрыхтоўку, адпраўленне насустрач ім музыкаў, каб бацькі не баяліся яе «сораму» і ганьбы з боку роду маладога, бо яна «краснаю паннаю к ім прыйшла, чырвоны хвартух прынясла». У выпадку цнатлівасці маладой бацькі прыязджаюць падпаясаныя «чырвонымі паясамі», і іх прымаюць з вялікай пашанай, сардэчнасцю і ўдзячнасцю за добра выхаваную дачку.

Пасля таго як нявесту вывелі з клеці, яе садзяць на дзяжу або лаўку, пакрытую вывернутым кажухом. Пачынаецца абрад завівання («захіхлання», «пакрывання», «чапання») маладой. Завіванне на каравai, які ляжыць на веку ад дзяжы, уносіць у хату на галаве сват маладога. У некаторых мясцовасцях маладую завіваюць у яе бацькоў да ад'езду да жаніха. Тады яе маці «белае завіванне», «вечнае пакрыванне», «тонкае бяленькае ад слёз макрэнькае» нясе на веку з каморы (скрыні) у хату. У выконваемых у гэты момант песнях дзяўчаты ўсе прынады завівання называюць зняважліва, іранічна, пагардліва. Так, маці адпраўляецца ў «кублішча на днішча па шаўковае чапчышча, белае намётнішча». Абрад завівання сумны для нявесты і. яе блізкіх, бо з гэтага моманту яна афіцыйна пераходзіць у «жаночы стан».

Маладую садзяць на дзяжу, пакрытую вывернутым кажухом. Замужняя сястра або хрышчоная маці (старшая сваццця, братавая або цётка) здымае вянок з яе галавы і падпальвае валасы скручанымі разам дзвюма грамнічнымі свечкамі, якія зроблены «з ярых пчол воску»[4]. Каб забяспечыць маладым шчаслівае жыццё, лічылася, што агонь для запальвання свечак неабходна выкрасаць пры дапамозе крэмню і агніва з першага размаху. І таму да крэмню звяртаюцца з заклінальнымі песнямі. Напрыклад:

Ой, крамяню, крамяню,
Да дай жа ты нам агню,
Свечачкі да й зажыгаці,
Маладую завіваці.

Затым валасы маладой змазваюць дравішным маслам[5], заплятаюць у дзве касы або заматваюць куксу, адзяваюць на яе чапец, які яна павінна насіць да смерці. Завіванне маладой адбываецца або ў прысутнасці ўсяго роду (маладая сядзіць за сталом перад караваем), або ў асобным пакоі пры поўнай адсутнасці мужчын, а часам і дзяўчат. У песнях пра завіванне празрыста праглядаюцца сваяцкія адносіны. Калі завівае сястра або цётка, то яна «жаласлівая», «белая, як лябёдка», а братавая і дзядзіна — «рабая (чорная), як гадзіна», «неміласлівая», «касіцу зламіла, слёзанькі не ўраніла». Падпаліўшы з чатырох бакоў валасы маладой, ёй надзяваюць чапец і закручваюць намёткай. Двойчы маладая скідае чапец далоў і толькі за трэцім разам падпарадкоўваецца волі завівальніц. У гэты час дзяўчаты спяваюць:

Шатайся-матайся,
Завівацца не давайся.
. . . . . . . . . .
Закінь чапец пад печ,
Няхай мышы носяць.

---

[4] Ярыя пчолы — пчолы, якія далі рой у гэтым годзе.
[5] Дравішнае масла — масла ад кароў першага ацёлу.

У момант надзявання чапца дзяўчаты б'юць розгамі завівальніцу па руках, каб перашкодзіць завіванню. Маладая ў песнях просіць сваіх сябровак, каб яны «беглі ў лес, набралі розачак і баранілі яе косачак». Але «дзяўчаты розачкі да рук збілі, косачак не ўбаранілі». Завіўшы маладую, завівальніцы скачуць па лаўках, танцуюць, плешчуць у далоні, спяваюць песні пераважна эратычнага зместу. Побач з маладой садзяць дружку, і свякроў закрывае іх палатном. Хор спявае:

Ой, хадзі, хадзі, Іванка,
Пазнай сваю Параску.
Ой, ці тая, ці не тая,
Мо падменена якая?
Можа, бабанька старая?

Малады, зайшоўшы ў хату, павінен адгадаць, якая з іх яго нявеста, зняць з яе пакрывала і пацалаваць яе. Завівальніцы патрабуюць выкупу.

Выкупіўшы нявесту, малады бярэ яе за руку і вядзе ў пакой, дзе ўсё падрыхтавана для пачастунку. Прыданкі, якіх яе «маці паслала святліцу аглядаці, яшчэ стала засцілаці», здымаюць у хаце маладога настольнікі, ручнікі і іншыя рэчы гаспадароў і замяняюць іх сваімі, усяляк ганячы чужое: «прымайце пяньковіцы», «караўкі», «рагожы», «патрэпнічкі», «бёрдам бітае» і ўсхваляючы рэчы маладой: «засцелем бялёвіцы, шаўковіцы, кітайкі, кужэльнічкі, шоўкам шытае» і г. д. Прыданае (ручнікі, настольнікі і г. д.) вывешваецца на сценах, а свякроў адкрывае скрыню маладой для ўсеагульнага агляду, каб людзі маглі ацаніць яе рукадзельныя здольнасці. Усе садзяцца за стол і пачынаецца бяседа; маладая частуе гасцей закускай, якую прывезла яе маці.

Вяселле заканчваецца раздзелам каравая і адорваннем маладых.

У шасці выдадзеных кнігах «Вяселле. Песні» змешчана пераважная колькасць (8870) твораў беларускай вуснай паэзіі, якія ахопліваюць асноўныя этапы вяселля. У іх увайшлі поўнасцю песні з фондаў архіва Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва Літоўскай ССР, бібліятэкі Вільнюскага дзяржаўнага універсітэта і кафедры літаратуры Гомельскага дзяржаўнага універсітэта. Матэрыялы астатніх сховішч, адзначаных у спісе крыніц, выкарыстаны часткова. У гэты збор уключана таксама вялікая колькасць беларускіх вясельных песень (яны значацца ў каментарыях пад паметай АФК, напевы да іх будуць дадзены ў кнізе «Вяселле. Мелодыі») з калекцыі навуковага супрацоўніка Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР Т. Б. Варфаламеевай.

Па-за межамі гэтага выдання засталіся вясельныя песні ў гонар розных удзельнікаў вяселля (свата, сваццi, баярак, дружак і інш.), аб пачастунках у час застолля, песні, якія выконваюцца ў час пярэзваў, розных гульняў («цыганы», «жабракі», «карагоды» і інш.), прыпеўкі, а таксама пажаданні маладым, прыгаворы, прамовы, віншаванні і іншыя малыя жанры вясельнай паэзіі.

*Л. А. МАЛАШ*

1. Ой, у полі крынічанька, відна дно,
Ужо нашае Маруські да не відно.
Бег, бег бацюхна расою
Даганяці Марыську з касою.
Бег, бег бацюхна, не нагнаў,
Да зачуў галасочак у от бы ўзяў.
Да зачуў галасочак от бы яе,
Да ў яе свёкарка ды на дварэ.

2. Цёмная ночка, а ўжо свет,
Праснулася матка — дачкі нет,
Выйшла за вароты — адзін след.
— Зялёным сенам трушона,
Туды мая дачушка павязёна.
Ой, пачула галасок як яе,
Аж у Петрыка на дварэ.
А ў свякровачкі ля печы,
А ў Петрыка ў клеці.

3. Была, была ночанька, а ўжо свет,
Праснулася мамачка — дачкі нет.
Увайшла ў святліцу — ні падушкі,
Увайшла ў камору — ні дачушкі,
Выйшла на падвор'е — слядкі знаць:
— Ужо майго дзіцяці не відаць.
А за сінім морам коні рэуць,
Куды маё дзіцятка павязуць.
А чуваць галасок як яе,
У маладога на дварэ.

4. Паплыў чаўначок па рацэ,
Заплакала матачка па дачцэ:
— Выйду за вароты — слядкі знаць,
Да кудэма павёз дачку зяць.
Чуваць галасок да як яе
У свякратка на дварэ,

З кованага воза да ўстаючы,
У новую святліцу ідучы,
На белае ложа ступаючы,
Дробныя слёзкі раняючы.

5. Ой, зярнятка маё яравое,
Дзіцятка маё дарагое.
Я радзіла цябе, гадавала,
У чужыя людзі гатавала.
Прыйду ў клець — кубла няма.
Прыйду у хату — дачкі няма,
Выйду за вароты — толькі след.
Куды ж гэта травачка паложана,
Куды мая Валечка павезена?
— Паложана травачка ў густы бор,
Павезена Валечка ў свёкраў двор.

6. Аглянулася маці, што шчарбінанька ў хаце,
А няма ложачкі паміж ложачак,
А няма дочанькі паміж дзевачак.
— Толькі след ды на парозе,
Дзіця маё ў чужым возе.
І па дварэ натрасёна,
І дачушка павязёна.
— Сынкі мае, да саколікі,
Сядайце ды на конікі.
Даганяйце ды хоць ля паўбору,
Не рабіце там разбою,
Дайце яму да віна пляшку,
Няхай аддасць да сястру вашу.
— Я не хачу да віна пляшы,
Не аддам да сястры вашай.

7. — А паглядзіт-ка, маці,
Ці ўся сям'я ў хаце?
— А ўся сям'я да душачкі,
Няма мае дачушачкі.
Мамка ў клець — кубла нет,
А за вароты — толькі след.
— Ой, я ёй, божа мой,
А дзіцятачка ты ж маё,

Расціла, пясціла,
Да за 'дзін вечарок пацярала.

8. Скакліва мамачка, скакліва,
Скочыла з печы да клеці. *
Ускочыла ў клець — кухра нет,
Прыйшла ў хату — дочкі нет,
Выйшла за варота — толькі след.
— Стрэсена дарожка, стрэсена,
Куда мая дачушка звезена.
Стрэсена дарожка ў шчыры бор,
Звезена дачушка к свату на двор.
— Ох ты, свату, сваточку,
На табе коніка ў вазочку,
Аддай маё дзіцятка ў вяночку.
— Не вазьму коніка ў вазочку,
Не аддам тваё дзіцятка ў вяночку.

9. Уснула мамачка, уснула,
Укралі дзіцятка — не чула.
Устала мамачка, а ўжо свет,
Выйшла ў сенечкі — шкапа нет,
Выйшла за вароцечкі — толькі след.
— Да й па тым слядку маё дзіцятка вядзёна.
І сядлайце, браточкі, вы коні,
Даганіце сястрыцу ды ў полі.
— Асядлалі, мамачка, асядлалі,
Гналі сястрыцу — не дагналі.
Пад'язджаючы пад лясок,
Зачулі сястры галасок,
Што яна ў свёкаркі на дварэ.
Шэрыя вутачкі маніла,
Дробныя слёзачкі раніла.
— Эй, гыля, гыля, гусі, дамоў,
А вы знаеце, дзе ваш дом?
Й я й, маладзенькая, не знаю
І ў вас, гусачак, пытаю.

10. Заснула мамачка, заснула,
Павезлі дачку — не чула.

* Кожны наступны радок паўтараецца.

Прачнулася мамачка, а ўжо свет.
— Была ў мяне дачка, а цяпер нет.
Сыночкі мае мілыя,
Запрагайце ж вы ўсіх коней,
Даганяйце сястру ў полі.
— Ехалі, мамачка, не дагнаць,
Нідзе слядочка не відаць.
Заехалі, мамачка, за лясок,
Пачулі сястрын галасок.
— Бярыце, сыночкі, сякеры,
Сячыце-рубайце шчыры бор,
А каб відзен быў зятні двор.
Сячыце-рубайце балоты,
Каб відны былі вароты.
Сячыце-рубайце сасонне,
Каб відно было аконне.

11. Ай, Танеччына мамачка, *
А ўчора плакала па касе,
А сёння плачаць па дачцэ.
А ў хатку войдзець — дачкі нет,
А ў клетку войдзець — скрыні нет.
За сталом месцейка гуляе,
На стале ложачка сухая.
— Каля саду дарожка правядзёна,
Куды мая дачушка павядзёна.
— На коні, братцы, на коні,
Даганяйце сястру ў полі.
— Ай, рады ж бы мы дагнаці,
А нідзе слядочка не відаці.
Пачулі галасок як яе,
Плакала ў свякроўкі на дварэ.

12. Выйшла маці за вароты — слядкі знаць,
— Куды маё дзіцятка павёз заяць?
Да павёз заяць дзіцятка лугамі,
Спляснула матачка да рукамі.
Да па новых сенях пахаджае,
Роднага сыночка пабуджае:
— Уставай, сыночак, да не ляжы,
Варанога коніка да залажы,
Родную сваю сястрыцу да дагані.

— Гнаў, мая матка, да не дагнаў,
Вараненькі конік паўдарожкі стаў,
Роднай сваёй сястрыцы не дагнаў.

13. Дрэпчыць вутанька па рацэ,
Плача матанька па дачцэ.
Вайшла ў камору — кубла нет,
Вайшла ў хату — дачкі нет.
Выйшла на улачку — слядкі знаць,
Куды павёз дочку зяць.
— Пасляшы, сыночак, лукою,
Вярні сястрыцу дадому.
— Ой, бег, матанька, колькі міль,
Нігдзе сястрыцы не ўганіў.
Чутна галасок як яе
У ліхога свёкра на дварэ.
За цісовым сталом, за белым абрусом,
З маладым мужам, як з гнюсом.

14. Татка па сенях пахадзіў
Да сваіх сынкоў пабудзіў:
— Да ўставайце, сынкі, да ўжо свет,
Ужо вашай сястрыцы даўно нет.
Браткі ў клець — скрыні нет,
Браткі за вароты — адзін след.
— Бяжыце, браткі, расою,
Ці не застанеце з касою,
Бяжыце, браткі, па расе,
Ці не застанеце ў красе.
— А беглі, татачка, не дагналі,
Толькі галасок яе пазналі,
У свёкра на дварэ стоячы,
Дробныя слёзкі ронячы.

15. Зялёная рута, жоўты цвет,
Пытаецца сын у мамкі, ці ўжо свет.
— Да ўжо, маё дзіцятка, даўно свет,
Да тваёй сястрыцы дома нет.
Да сядай, сыночак, на коня,
Да бяры ножанькі ў страмёна.
Да ляці, сыночак, гаечкам,

Ці не ўгоніш сястрыцы з вяночкам.
— Ляцеў я, мама, сколька міль,
Варанога коніка я ўтаміў, 2
Да сваёй сястрыцы не ўганіў.
Чуў я галасочак, як яе,
Плача яна ў свякратка на дзарэ,
У нову камору йдучы,
Белую пасцельку сцелючы.

16. Бяжы, брацейка, расою
За сястрынаю касою.
Бег брацейка, не дагнаў,
За баярамі не пазнаў.
За баярамі не відна,
А за скрыпкамі не чутна.
Зачуў галасок, як бы яе.
Ой, у свякрухі на дварэ.
Не так на дварэ,
Як за дваром,
Ой, у свякрухі за сталом.

17. — Бяжы, бяжы, сыночак, бягою,
Да за сваёю роднаю сястрою.
— Колькі ж, мая мамка, міль не бег,
Нідзе сваёй сястрыцы не ўвагнаў.
Толькі чуцён галасок, як яе,
Да ўжо ў свякратка на дварэ.
Яна на новы ганак ступае
Да свякратку добры дзень давае:
— Добры дзень, свякратка, добры дзень.
Да ўжо ж мой «добры дзень» не на тыдзень,
Да ўжо ж мой «добры дзень» на ўвесь век,
Пайшла славунька на ўвесь свет.

18. — А ты, Ванечка, большы брат,
Папасі коніка на расе,*
Даганяй семярыцу ў касе.
— Даганяў, бацюшка, даганяў,
Да багата баяр, я й не 'тняў,

---

* Кожны радок, акрамя першага і апошняга, паўтараецца.

А пачуў галасок за ляском,
У чужога бацькі на двара,
Да залаты чапец на галаве.

19. У панядзельнічак рана**
Наша Лідачка ўстала,
Абышла ўсе куточкі:
— Нет маёй роднай дочкі.
Ні краваці, ні падушкі,
Нет маёй вернай služкі.
Толькі на двара слядочкі,
Дзе каціліся каточкі.

20. Раненько на святку
Прыпадала маманька ■ слядку:
— Сёлькі-толькі слядкоў знаць,
Куды маё дзіця павёз зяць.
Залатыя калёсачкі бразчалі,
Куды маё дзіця памчалі.
Высокія вярбінанькі параслі,
Куды маё дзіця павязлі.

21. Падзіўлюся ў акеначка, а ўжо свет.
Ой, пайду я да каморы — дочкі нет.
Падзіўлюся на калочак — вяночак,
Ой, пайду я за варота — слядочак.
Ой, выйду я за другія — вербы параслі,
Ту ж маю донечку павязлі.

22. Гадавала дзіцятка, гадавала,
За адну ночачку ўціралa.*
Выйшла за вароты — толькі след,
Чабатамі вулачка змясёна,
Куды маё дзіцятка звязёна.

23. Выйдзі, мамка, за вароты — сляды знаць,
Куды тваю дзіцяхну павёз зяць.

---

* Кожны радок, акрамя першага і апошняга, паўтараецца.

Ці ў тое сяло блуднае,
Ці ў тое баяр'е глухое?
Не ў тое сяло блуднае,
Да ў тое баяр'е глухое.

24. Угледзелася маці,**
Што няма дачкі ў хаце.
Ні скрыні, ні пярыны,
Ні роднай дзяціны.
'Дно вісяць набілачкі,
Што ткала падарачкі.
'Дно вісяць новенькія,
Што ткала тоненькія.

25. За лясок сонейка закацілася,
Мамулька па дачцэ склапацілася.
Увайшла ў павету — скрыні нету,
Па двару патрушка патрэсена.
— Ужо мая дачушка павезена.
Жаночкі-суседачкі, даганяць пойдзем,
Дагнаўшы дачушку, назад возьмем.

26. Схапілася маці —
Нет у хаце дзіцяці.
Верацёнцы ў куточку,
А мычачкі ў пучочку.

27. Перапёлкіна маціцька,
Перапёлкіна родная,
То ў адно, то ў другое гняздо,
А перапёлачкі нет.
— Знаць, маю перапёлачку
Да сакалы ўкралі
І ястрабам аддалі.
Ганначчына маціцька,
Ганначчына родная,
То ў адзін, то ў другі вугал,
А Ганначкі нет.
— Знаць, маю Ганначку
Да сваты ўкралі
І Іванку аддалі.

28. Ды хвалілася мамачка, што дачка была,
А цяпер застаецца ёй печ ды дуда.
Ох, дуда будзе іграці,
А печка будзе гуляці.

29. Бедавалі браточкі, бедавалі,
Што далёка сястру аддалі.
— Будзем конікаў запрагаць,
Паўдарожачкі даганяць.
А калі дагонім — вернемся,
Калі не дагонім, там будзем,
Невядомая дарожка — заблудзім.
А ўз'едзем жа мы на шлях-бор,
Забачам жа мы сястрын двор.
У нашай сястрыцы шырок двор,
Новая хатачка, як пакой.
— Жыць табе, сястрыца, тут адной.

30. Курацъ-веюць буйныя ветры над намі
Ды гоняцца два брацейкі за намі,
Хочаць яны сваю сястрыцу вярнуці.
— Хоць ганіцеся, не ганіцеся — не дадзім:
Увесь гадок ела мядок ад яго,
Усю нядзельку піла гарэлку ўсё 'д яго.

31. Ды па загор'ю жоўтыя пяскі курацца,
Ды за сястрою два браціткі гоняцца.
— Ці ганіцеся, не ганіцеся — не аддадзім,
Як прыйдзець восень, тады другую ўкрадзем.

32. Ехалі валы-ўезакі,
Вязлі яны дзевачку,
А за ею яе маці,
Хацела яе адабраці.
Яна аглянула
І ручнічком махнула:
— Вярніся, мая матанька,
Ты баяраў не разаб'еш
І мяне не адбярэш.

33. Зайржалі конікі на браду,
Чулі яны на сябе ўсю бяду,
Што брат за сястрой гоніцца,
Вострай шабелькай грозіцца.
— Стой, мой швагрочка, не ўцякай,
Не ўвадзі маю сястрыцу,
Дам табе коніка-варанца,
Вярні маю сястрыцу з-пад вянца.
Дам табе коніка, што пляша,
Вярні сястрыцу мне, што плача.
— Не хачу коніка-варанца,
Не вярну сястру з-пад вянца,
Не хачу коніка, што пляша,
А вазьму сястрыцу, што плача.

34. Ды за лес сонейка коціцца,
Брат за сястрою гоніцца.
— Падажджы, пастой, швагер мой,
На табе кабылку лысую,
Вярні маю сястрыцу з касою.
На табе каня-варанца,
Вярні маю сястрыцу ад вянца.
— Я твайго варанца не вазьму,
Я твае сястрыцы не вярну.

35. Шурын за зяцем гоніцца.
— Стой, мой зяця, не ухадзі,
Маей сястрыцы не ўвазі.
На табе коніка пры сядле,
Аддай маю сястрыцу пры касе,
Пры дзявоцкай красаце.
— Не нада мне твой конік пры сядле,
Не дам сястрыцы пры касе,
Пры дзявоцкай красаце.

36. Заржалі конікі на браду,
Чулі яны на сябе прыгоду,
А што брат за сястрой гоніцца,
Здзеўшы шапачку, клоніцца:
— Пастой, швагерка, не ўязджай,
Дам табе коніка-варанца,

Вярні маю сястрыцу ад вянца.
Дам табе шабельку, уся ў злоце,
Вярні маю сястрыцу пры цноце.
Дам табе хустачку, уся ў шоўку,
Вярні маю сястрыцу ў вянку.
— Мне тваей хустачкай не махаць,
Мне з тваей сястрыцай век векаваць.
Мне тваей шабелькай не ваяваць,
Мне з тваей сястрыцай век векаваць.
Мне на тваім коніку не паязджаць,
Мне з тваей сястрыцай век векаваць.

37. Ці гром грыміць,
Ці хто едзець па масту?
Ні гром грыміць,
Ніхто не едзець па масту —
Брат за сястрою гоніцца.
— Пастой, швагрутка, не ўязджай,
На табе коніка-варанца,
Падай сястрыцу з-пад вянца.
На табе каня з ухналькамі,
Вярні маю сястрыцу з каралькамі.
Аддам табе свайго каня з вуздою,
Вярні маю сястрыцу з касою.

38. Цёмная мгла к зямле прылягла,
Наша князгінька ракой працякла.
За ей брахалка сцежкам-дарожкам,
[Сцежкам-дарожкам], крутым беражкам.
— Пастой, сястрыца, пагаворым з табой.
— Некалі мне стаяць, некалі гаварыць,
Коніка не ўдзяржаць, жанішка не ўяднаць.
— Пастой, брахалка, пастой, родненькі,
Пагаворым з табой.
Коніка ўдзяржала, жанішка ўяднала.

39. Хадзіў-хадзіў ясен месяц па небу,
Шчытаў-лічыў ён дробныя звёзды,
Не дашчытаўся, не далічыўся аднэй зараньк і,
Каторая раней за ўсіх усхадзіла,
Каторая ясней за ўсіх свяціла.

— А дзе ж мая заранечка ўзойдзіць?
Каму яна віднюсенька асвеціць?
Хадзіў-хадзіў дзявочы татка па двару,
Шчытаў-лічыў ён сваіх дробных дзетачак,
Не дашчытаўся, не далічыўся аднэй дзевачкі,
Каторая раней за ўсіх уставала,
Каторая ўсю работку рабіла.
— А дзе ж яна, мая дачушка, начуець?
А каму ж яна слугуець?
Ці свякратку, ці свякроўкі?

40. Хадзіў-пахадзіў ясен месяц па небу,
Лічыў-палічыў заранучкі на небе,
Не далічыўся адной зораньки вячэрняй.
— А бог знаець, бог ведаець, дзе яна?
Каму яна, каму яна гэту ночаньку свяціла?
Да ці яна, да ці яна ў поўнач з месяцам хадзіла?
Хадзіў-пахадзіў Андрэйка па хаце,
Лічыў-палічыў сямеечку ды сваю,
Не далічыўся адной Ганулькі сваёй.
— Ах, бог знаець, бог ведаець, дзе яна?
Каму яна, каму яна гэту ночаньку служыла?
Да ці яна, да ці яна ў поўнач з міленькім хадзіла?

41. Хадзіў-пахадзіў ясен месяц па небе,
Лічыў-палічыў, ці ўсе звёздачкі на небе,
Ды не ўлічыў найяснейшай звёздачкі,
Пайшла звёздачка да пана бога служыць
Не на дзянёчак, не на гадочак, а на ўвесь век.
Хадзіў-пахадзіў Зінчын татка па хатцы,
Лічыў-палічыў, ці ўсе дзевачкі ў хатцы,
Ды не ўлічыў найроднейшай дачушкі,
Пайшла дачушка да мілага служыць
Не на дзянёчак, не на гадочак, а на ўвесь век.

42. — Ой, бору мой, бору мой,
Чаму, бору, не шумён?
— Як мне, бору, шумён быць,
У мяне, бору, пташак нет.
Адна была зязюля,
Адна была й шэрая, 2

І тую арлы задралі.
Арол сабе на пер'е,
Сакол сабе на мяса.
— Ой, двору мой, двору мой,
Чаму, двору, й не мяцён?
— Як мне, двору, мецен быць,
У мяне, двору, дзевак нет.
Адна была Марусечка,
Адна была й малада, 2
Тую сваты павязлі.
Сваты сабе на гульню,
Міколка сабе на жану.

43. Ой, ні горачкі, ні далінačкі,
Усё ж вада пазаймала.
Ой, ні дзевачкі, ні маленечкі,
Усе замуж пааддавалі,
Толькі асталася тая маладая Ганна.
А ўжо ж па тую маладую баяры прыехалі
І як населі-налеглі,
Мусілі яе ўзяці.
Яе мамачка, яе родненька
Усё просіць яе, унімае:
— Ой, не ідзі, Ганначка, не ідзі, дзіцятка,
Ужо рожа зацвітае.
— А мне з рожаю не жыці
І вянкоў не віці,
З дзеўкамі не гуляці.
А дзе жанкі ідуць,
Чэпчыкі нясуць,
Мяне абжыдаюць.

44. Казалі, ў нашым лесе да бяроз многа.
Усенькі бярозы паламаліся —
Адна бярозка засталася,
Тая ў суботу рана да й зламалася.
Казалі, што ў нашым сяле дзевачак многа.
Усенькі дзевачкі замуж пайшлі —
Адна дзевачка прызасталася,
Тая ў нядзелю рана да й звянчалася.


3. Зак. 1480

45. — Зялёна дуброўка, чаму не звочка?
— Калі была звонка, цяпер не буду.
— Новае падвор'е, чаму не весела?
— Тады было весела, цяпер не будзе.
Была адна Марусенька, і тую сваты ўзялі,
І тую сваты ўзялі і Віцечку аддалі.
— Не будзе зязюлька цяпер кукаваці,
Толькі будзе цяпер па мне мая мамка бедаваці:
То няма каму па ваду хадзіці,
То няма каму работку рабіці.

46. Калі наша Ганулька дзеўкай была,*
Тады наша вулачка звонкай была.
Усю ноч музыкі ігралі,
Да свету дзевачкі гулялі.
Калі наша Ганулька стала жонкай,
Не стала вулачка наша звонкай.
Не сталі музыкі іграці,
Не сталі дзевачкі гуляці.

47. Скацілася зара
З Пятрова двара.
Была зорка ясненька,
Была служка верненька
Да свяціла ясненька,
Да служыла верненька.

48. Чыя гэта мамачка
Выйшла рана да на вулачку, 2
Прысланіла да й галовачку 2
К зялёнаму да яварочку?
— Вой, што ў явары грача:
Ці не маё дзіця плача,
Раненька па ваду йдучы,
Буйную расу росячы, 2
Ціхіх салаўёў абуджаючы?
— Салавейка, ранняя птушка,
Паляці ты ў маю старану, 2
Папытайся ў маёй мамачкі. 2
Вой, я тут запрададзена,
Вой, дарам да й аддадзена.

Калí я тут запрададзена,
Няхай ідуць да й выкупяць,
Калі я дарам аддадзена,
Няхай ідуць пераймаюць.

49. Не сядзі, Манька, блізка к нам, блізка к нам,*
На цябе ветрык павеець, павеець,
Тваё золата развеець, развеець.
Тваіх дзетак тут нету, тут нету,
Некаму будзець пабіраць, пабіраць,
Табе ў ручкі падаваць, падаваць.

50. На крутым чырвоным беражку
Ды на белым каменні
Не бела лебедзь клікала,
А маці аб дочцы плакала.

51. Ой, з-пад гары, з-пад горачкі
Каціліся тры зорачкі:
Першая зара, другая зара,
А трэцяя зарнічанька.
Была ў мамачкі адна дочачка
Да адзінічанька.
Дзесь яна пайшла ў крыніцу
Па вадзіцу.
Няма вадзіцы, няма вадзіцы,
Ні донькі адзініцы.
Ох, калі б яна да ўтамілася,
Дык вадзічка б змуцілася,
А калі б татары ўкралі,
Дык траўку патапталі.

52. Ой, была ў мяне, ой, жыла ў мяне
Ды дачка адзіная. 2
Сама не знаю, не разгадаю,
Дзе ж яна падзелася? 2
Ой, калі б яна па ваду пайшла,
То б вядзёркі пабрала. 2
Ой, калі б яна на вячорачкі —
То б маточкі пабрала. 2
Вядзёркі мае на лаўцы,
Маточкі мае ў кладоўцы.

53. На дварэ папялішча,
А матка дачку ішча:
— А куды мая дачушачка пайшла?
А ці ў лес за грыбамі?
Пайшла бы яна з каробачкай,
А калі ў лес за брусніцай,
Пайшла бы яна з сястрыцай.

54. У нядзеленьку раненька
Кліча мацёнка Ганначку:
— Гдзе мае мілае дзіця?
Ці ў ягоданькі пайшло?
Усе дзевачкі з ягодак ідуць,
Маей Ганначкі не вядуць.
Тут было добра, там будзе лепшай,
Набярэць ягодак большай.

55. Скача певень ды па дошчачцы,
Плача маці ды па дочачцы.
А дошчачка не ўвагнулася,
А дочачка не вярнулася.

56. А ў полі, у полі стаялі пакоі,
А ў тых пакоях тонкая пралля,
Тонкая пралля, звонкая ткалля.
Па яе панажочках куначка скача,
Па ёй, маладзенькай, мамачка плача.

57. На дварэ папялішча,
Мамачка дачку ішча:
— Дзе ж мая дачушачка,
Дзе ж мая работніца, 2
Дзе ж мая прыборніца?
Дзе ж яна начавала,
У каго ж яна вячэрала?
Калі ў чыстым полі,
Дык скрой яе, божа,
Калі ў Колечкі на белай ложы,
Дай, божа.

58. Хадзіла павачка па крутой гарэ,
Пагубіла паванята ў шаўковай траве.
Ой, тыя паваняты палаўлёны
Да баярам на вячэру згатаваны.
Ох, хадзіла да матухна па святліцы
Да шукала свае дачкі-адзініцы:
— Да ўжо маё дзіця заручонае
Да ў чужую старaначку павязёнае.

59. А хто там у лесе,
А хто там у цёмным,
А хто там ходзя, а хто блукае?
Мамачка ходзя, усё гукае,
Свайго дзіцяці даўно шукае:
— Вярніся, дачушка, з цёмнага лесу.
— Хаця і ўвідзіш — сэрца не ўцешу.
Было ж не піці горкай гарэлкі,
Было не аддаваці мяне маладзенькай.
Горку гарэлку праклінаць будзеш,
Мяне, маладзеньку, забываць будзеш.

60. За лесам, лесам
Сава кугіча,**
Мамка дачушку
Дадому кліча:
— Ідзі, дачушка,
Ідзі дадому,
Куплю я шубу
Табе да долу.
— У цябе, мамка,
Не векаваці,
Тваёй шубачкі
Не прычакаці.

61. Мамуля мая забедавала:
— Дзе маё дзіця ночку начавала?
Начавала ночку ў зялёным садочку,
Начавала другу пры зялёным лугу.
— Мамуля мая, не бядуй па мне,
Прыедуць госцікі, забяруць мяне.
Ці табе, мама, жалю не будзе.

— Дзіця маё, мілае маё,
Адкуль цябе чакаць буду?
Чакаць буду пад новым дваром,
Частаваць буду добрым вінцом.
Мамуля частуе ды пытаецца:
— Як табе, дачанька, прабываецца?
— Цяжка, матуля, траве ў палыне,
Так і мне, мамуля, ў чужой старане.

62. Дома мамачка забедавала, забедавала:
— І дзе мая дачушка заначавала, заначавала,
Ці ў цёмным лесе пад калінаю, калінаю?
Калінку ламала, ў галоўкі клала, ў галоўкі клала,
Кляновым лісточкам прыкрывалася, прыкрывалася,
К чужому дзіцяці прыхіналася, прыхіналася.

63. Мая мамачка забедавала,
Дзе яе дзіця заначавала.
У цёмным лесе пад каліною,
Белыя ручкі пад галавою.
— Не бядуй, мамачка, не бядуй па мне,
Да ты ж казала, не забудзеш мяне.
Ой, забыла, забыла за адзін дзянёчак,
Цяпер не ўвідзіш цэлы гадочак.
Прабыла гадочак, прабыла другі,
А на трэці гадочак затужылася,
Да мамачкі ў госцейкі захацелася.
Іду сцежачкай—сцежачка гразка.
— Мая мамачка, як жа мне цяжка.
Іду барамі, іду лясамі,
Не віжу свету за слязамі.
— Мая мамачка і мой татачка,
Што ж мне рабіць?
Цяжка маладой на свеце жыць.

64. Маць па дачушцы забедавала,
Дзе ж дачушка заначавала.
Заначавала пад каліною,
Белыя ручкі пад галавою.
— Каб я мела сакольле пер'е,
Я б да матулькі паляцела.

Каб я мела саколле вочы,
Я б прыляцела сярод ночы.
Лячу палямі, лячу лугамі,
Не бачу сцежкі я за слязамі.
Як прыляцела да роднай хаткі,
Пытае мамка, што за парадкі.
— Не пытай, мамка, не пытай мяне,
Думала, мамка, не збудзеш мяне.
Ой, збыла, мамка, за адзін дзянёчак,
Цяпер не ўбачыш цэлы гадочак.
Ой, збыла, мамка, за адну гадзінку,
Цяпер не ўбачыш цэлую зімку.
На што радзіла, на свет пусціла,
Долі не дала,
У катавы ручкі замуж аддала.
Аддала, мамка, ў катавы рукі,
А мне, маладой, да смерці мукі.

## ПА ДАРОЗЕ

65. — Ты, каліна, развівайся,
Ты, дзеванька, размышляйся.
— Ды ўжо ўсё развіёна,
Ды ўжо ўсё размышлёна,
Пара коней залажона,
Толькі сесці дый паехаць.
Гарыць агонь на дубочку,
А я, млода, на вазочку.
Гарыць агонь за лясамі,
Я не бачу за слязамі.
Гарыць агонь на бярозе,
А я, млода, у дарозе.

66. Везе (он) карогаў, як агонь,
А на тэй карагові пісана:
Месяц з зарою,
Едзе кавалер з жаною.
Каб жа нам на ту гору крутую,
Штоб нам у доманьку святую.
У нашай домінцы п'юць-гуляюць
І пташанькі спяваюць.

67. Тасенька, не стой,
Пад табой конік не свой.
Куды, Тасенька, сястрыцу павязеш,
Адтуль ці прывязеш?
Не на тое мы аддалі,
Каб назад бралі.
Калі добра жыць будзе,
Мы яе адведаем,
Калі худа жыць будзе,
Мы зязюлю прышлём.
Зязюля будзе кукаваць,
Паможа гора гараваць.

68. Звіўся рой над гарой — улятаць хочыць.
Сабраўся Ванічка — уязджаць хочыць.
— Ты ж не стой, Ванічка, не стой,
У цябе конь не свой, конь не свой.
Конь не свой, дуга крадзеная.
Ну, вязі Надзеньку, пакуль дадзена.
Дадзена, дадзена ды прададзена.

69. Колькі мы хадзілі, ездзілі,
Такога дзіва не відзелі,
Што самі нам Лену выдалі,
За правую ручаньку вон вывелі,
За правую ручаньку, за мізін палец,
За залот персцень.

70. А далі ж нам, далі,
Укінулі ў сані,
Не ведаем самі:
І пасцілку з лісцінку,
І падушку, дзяружку,
І Хвенечку, як цялушку.

71. — А мы вас не прасілі, а вы нам самі далі
Ды ўкінулі ў сані, каб ехала з намі.
— А вы людзі багатыя, як чэрці лазатыя,
Самі вы пешкі шлі, жаніха ў мяшку няслі,
І ногі тырчалі, і сабакі гірчалі.

72. Вядуць мяне ў татаршчыну,
Заўтра пашлюць да на паншчыну.
Вярэнечка за плячыма,
Слёзанька перад ачыма.
У вярэньцы луста малая,
Бо не свая маці давала.

73. Прашчай, прашчай, Дунечка, сястра наша.
Цяпер жа мы не твае, ты — не наша.
Павезлі Дуньку за сяло,
Каб іх за сэрца ўзяло.
Павезлі Дуньку за масты,
Каб іх узяло за мазгі.

*Госці жаніха:*

74. — Скажыце вы нам спасіба,
Што мы вам дарогу прыбяром
І ваша ламачча забяром.

*Госці нявесты ў адказ:*

— Бярэце вы наша золата,
Вязеце за сяло,
Штоб вам за жывот узяло.
Бярэце вы наша сцякельца,
Штоб вас узяло за сэрца.

75. Ухапілі нашы падушкі,
Каб жа вас узяло за душкі.
Ухапілі наша серабро,
Каб жа вас узяло за рабро.
Ухапілі наша золата,
Каб жа вас узяло сёлета.

76. Бадай вашы, сватове, косці брашчалі,
Як вы нашу дзеваньку ўзялі і памчалі.

77. Хваліць бога, аддала дачку, 2
Палягчэла майму жываточку.
Ой, не будзе па хаце хадзіці, 2

Майго сэрца сушыці.
Ой, не будзе маёй хаты месці 2
Да дзяцей маіх клесці.

78. Спасіба таму паязду,
Што звязлі з двара глымазду.
Спасіба таму кучару,
Што звязлі з двара чучалу.

79. Дзякаваць Сцяпану,
Што ўзяў загавану.
Дзякаваць Самсону,
Што ўзяў нашу соню.
Дзякаваць Дзяніс у,
Што ўзяў нашу віс у.

80. Прыехалі сваты з-за лесу
Да везлі нашу павесу.
Прыехалі сваты з-за Чыку
Да везлі нашу зашчыпу.

81. Рады радчукі, рады,
Да што Любачку ўкралі.
Ой, а рухчаны свішчуць,
Чорта ў полі ішчуць.

82. Зялёная ёлачка пахілілася,
Маладая дзевачка зажурылася.*
Зялёна бутылачка няпоўна вады,
Украў нашу дзевачку парань малады.

83. Паехалі, нас не ждалі,**
Штоб яны не даждаліся.
Паехалі, не вярнуліся,
Штоб яны абярнуліся.
Паехалі, пакаціліся,

* Кожныя два радкі паўтараюцца.

Штоб яны пакруціліся.
Паехалі з пацярухаю,
Прыехалі з харашухаю.

84. А дзе сваты дзеліся,
А дзе праваліліся?
За нявестай сабраліся,
А пра нас забыліся.

85. — Ах, мой зяцю-разбою,
Разбіў маю камору,
Разлучыў мяне з дачкою.
— Не журыся, мая матанька,
Я назад к вам іду
З святою зарою
І з сваёй жаною.
А мая жоначка,
Як у небе зоранька,
Як ся ява сіяе,
Наша радзіна гуляе.

86. Ой, зяць цешчу просіць
Да ў руках шапку носіць.
— Ой, цешчанька, мая матухна,
Адчыні сваю волю
Да паедзем за мною,
За русаю касою,
За доччынай красою.

87. Сватове-панове,
З'язджайце з падвор'я,
Зачыняйце вароты,
Каб дзевачка не чула,
Як зязюлька кукуе,
Як яе мамка плача,
Па садочку ходзячы,
З вішанькамі гаворачы:
— Вішанькі ды чарэшанькі,
Ды чаму ж вы зарадзілі,
Да без маёй сем'яніны?

Да без маёй сем'яніны,
Да без роднага дзіцяці —
Хто вас будзе шчыпаці?
— Абшчыпяць нас пташачкі,
Аб'ядуць мурашачкі.

88. Ударце па конях,
Па залатых кольцах,
Штоб я не пачула,
Як будзе матка зваць:
— Вярніся, маё дзіцятка,
Вячэрай вячэраньку,
Пасцялі пасцеленьку.
— Не вярнуся, мая матухна,
Дзе ж я буду сю ноч начаваць,
Там буду вячэраньку вячэраць,
Буду там пасцельку слаць.
Хіба ж к табе заўтра буду
Святою зарніцаю,
Маладою маладзіцаю.

89. Кудравы вазіла,
Паганяй коней жыва,
Каб не чула маладая,
Як яе мамка плачыць,
Па кублу качаяся:
— Ой, кублу, мой кублу,
Не за год налажоны,
За адзін час павязёны.

90. Кучаравы й да павознічку,*
Бі ж каня да паганяй
Із бацькова двора,
Штоб я не зачула,
Як мая матка плача,
У галубнічку стоя,
К галубнічку прылягаючы,
Сваё дзіця ўгаджаючы.

91. Паганяй да коня з двора, 2
Штоб жа ж я да не зачула,

Як матка плача, 2
За варота выбягаючы
Да дзіцяці пазіраючы: 2
— Дзе ж мое да дзіця дзелі?
Ці на возе павезена? 2
Ці на чаўне паплаўлена?
Штоб на возе павезена,—
То б дарога курыла,
Штоб на чаўне паплаўлена,—
То б вада лялела.

92. Малады ды павознічку,
Наламі ды бярээнічку,
Паганяй ды коні спора,
Каб я, маладая, не ўчула,
Як зязюлька кукуе,
Як салавейка шчабеча.
Гэта мяне мая матка кліча,
На маём месце сеўшы,
Косачку распусціўшы,
Слёзачку разраніўшы,
Руту-мяту паліваючы,
Мяне, маладую, успамінаючы.

93. — Хлопча-малойча,
Паганяй барджэй каня
З айцоўскага двара,
Каб я, млада, не чула,
Што мой ойчанька плача,
Па новых сенях ходзячы,
Белыя ручкі ломячы.
— Божа мой едзіненькі,
Гадаваў свае дзіцятка,
Да некага пасылаці,
Мілым дзіцем называці.

94. Ой, бі каня, паганяй каня,
Каб мамачка ды не пачула
І назад коніка не вярнула.
У бару сасёнка зялёненькая
Ды галлё на ёй высока.
— Буду ад цябе, мамка, далёка.

95. Да, ой ты, сваце,
Не глядзі, што я плачу,
Да паганяй скарэй клячу.
Ой, як пад гору дубінаю,
Ой, як з гары ляшчынаю.
Ды яшчэ ехаць чатыры мілі барамі,
А пятая — цёмнымі лясамі.

96. Паганяй, дружка, клячу,
Не дзівіся, што я плачу.
Плачу, плачу ды ўватруся,
Да маманькі не вярнуся.
Ад маманькі — ды дзявіцаю,
Да свякроўкі — маладзіцаю.

97. Зашумела дуброва зялёна,
Зашумела дуброва зялёна,
Ды куды ж наша маладая вязёна?
Яшчэ ж яна не так зашуміць,
Яшчэ ж яна не так зашуміць,
Як сама радзіна паедзе,
Чырвону каліну павязе.

98. Ой, едзем мы, едзем —
Ні дарожкі, ні следу
За тэй пацярухаю,
Маладою харашухаю.
— Дый пастой, кабыла,
Дый пярыны забыла.
Не так забыла,
Як не зрабіла.
Дала маці пярыны
Дый й з ячнай мякінай.
На дарозе дагнала
Дый тыя забрала.

99. Пастой, жанішок, вазьму грошай мяшок.
Ой, няма мяшка: украла мышка.
Ой, стой, кабыла, пярыны забыла.
Не так забыла, як не зрабіла,

Пласконнае радно з возу ўпала,
З возу ўпала, кабылку спужала.
Ой, стой, кабылка, у сястры пасцілка,
Ой, стой, жарабок, у цёткі палажок.

100. Пастой, варанушка,
Звалілася падушка.
Пастой, вараная,
Звалілася другая.

101. Стойце-пастойце, вароны коні,
У чысценькім полі:
Забыла маць падушкі даць.
Не так забыла, як не купіла.
Стойце-пастойце, вароны коні,
У чысценькім полі:
Забыла маць пасцелю даць.
Не так забыла, як не зрабіла.
Стойце-пастойце, вароны коні,
У чысценькім полі:
Забыла маць дзяружку даць.
Не так забыла, як не зрабіла.

102. Ой вы, сваткове мае, мае,*
Падажджэце мяне ў гае, у гае:
Забыла маці радна даці,
Не так забыла — не зрабіла.
Маці старая, нядужая,
Сястра малая, няўмелая,
Я, маладая, не ўхапіла.

103. Забыла маці рагожы даці.
Не так забыла, як не зрабіла:
Быстрая рэчка не зарадзіла.
Дала раднішча недадарышча,
І то з воза ўпала, коні палякала.

104. Пачакайце, сваты,
Хоць перад хатай:

Забыла маці ручнікі даці.
Не так забыла, як не зрабіла.
Чужая ніва
Дый не ўрадзіла.

105. А заржала сіва кабыла ў браду,
Забыла маці пярынак даці дзіцяці.
Не так забыла, як не зрабіла, не дала,
Чорнымі вачыма за вароцечкі правяла.

106. Станьце, сваткі, да каля кладкі,
Я вярнуся да свае маткі:
Забылася маці пялёнак надраці,
А я, маладая,— спавівішча ўзяці.

107. Вярнісь, кабыла,
Люльку забыла.
Падажджы, жарабёнак,
Набяру пялёнак.
Падажджы, дружок,
Вазьму весь мяшок.

108. Памалу, сватове, з гары спускайцеся,
А з гары ў даліну не ўдарце ў каліну,
Не здрагніце княгіню.
А забыла маць
Пялюшачак даць.
Я ж, малада, не забыла
І ў карман уложыла.

109. Ой, б'юць хлопцы ў бубны,
Што няма ніц у кубле.
З яе хлопцы смяюцца,
Што вытопкі трасуцца.

110. Чоран кубел, чоран,
Значна, што не повен:
Укінулі радно на дно,
Да і то з кубла відно.
Укінулі паясішча,
Да і то кверху свішча.

111. Ой, вязлі ж яе ля пруду,
Да зрабілі яе на груду.
Ой, вязлі ж яе кругом сяла,
Чаму сваё дзіця не ўзяла?

112. Запрагай сваю клячу,
Не ўважай, што я плачу.
Ды пастой тут ля лужы:
Забылася лапці мужу.
Пачакай ля кладкі:
Забылася чапца ў маткі.

113. Чухі свацці, чухі,
Да забылі дзяругі.
Не так забылі,
Як маці не дала,
Бо і ў маці няма.

114. Забыла маці
Кашулю даці
Свайму дзіцяці.
Ці яна забыла,
Ці не зрабіла,—
Не дала.

115. Не радом бяроза стаяла,
Не радом кудравая,
Не пуцём сватоўя ехалі,
У дагон гналась Рыпінушка.
— Вы пастойце, сваты,
Пагадзіце, мілыя,
Падыду я к бацюшкі
Пад акошачка,
Падыду я к роднаму,
Папрашу я ў бацюшкі
Варанова каня.
Не даець бацюшка
Варанова каня.
Паязджайце, сваты,
Вы не жджыце мяне.



4. Зак. 1480

Не радом бяроза стаяла,
Не радом кудравая,
Не пуцём сватоўя ехалі,
У дагон гналась Рыпінушка.
— Вы пастойце, сваты
Пагадзіце, мілыя,
Падыду я к матушкі
Пад акошачка,
Папрашу я ў матушкі
Сундучок з дабром.
Не даёць матушка
Сундучок з дабром.
Паязджайце, сваты,
Вы не жджыце мяне.

116. Берагом бяроза стаяла,
Берагом бяроза.
Радам сватаўё ехала,
Радам сватаўё.
Упагонь гналася Алёнушка,
Упагонь гналася.
— Пастойце, сваты, абажджыце мяне,
Пастойце, сваты.
Забягу к бацюшке пад вакошачка,
Забягу к бацюшке.
Учора ён суліў дзевяць гарадоў,
Учора ён суліў.
А сягоння даець адзін горад,
А сягоння даець.
Берагом бяроза стаяла,
Берагом бяроза.
Радам сватаўё ехала,
Разам сватаўё.
Упагонь гналася Алёнушка,
Упагонь гналася.
— Пастойце, сваты, абажджыце мяне,
Пастойце, сваты.
Забягу к мамушке пад вакошачка,
Забягу к мамушке.
Учора суліла дзевяць сундукоў,
Учора суліла.
А сягоння даець адзін сундук,
А сягоння даець.

Вазьму я ключы бацькіны,
Вазьму я ключы.
Адамкну я сундукі маткіны,
Адамкну я сундукі.
Награбу я й рукаў золата,
Награбу я й рукаў.
А другі награбу серабра,
А другі награбу.
Адным рукавом дзевяроў ажаню,
Адным рукавом.
А другім рукавом заловак замуж аддам,
А другім рукавом.

117. Далі нам дзеўку,
Дайце нам пасцельку.
Далі нам падушку
З грэцкую галушку.
Да і тая з возу ўпала
Да каня спужала.
Пастойце, вазы,
Да нарубаем лазы.
Не парушкі везці,
А лазою трэсці.

118. Дала матка падушку
Да з грэцкую галушку,
І тая ўпала, каня спужала.
А каліта, каліта
Да ўсё золатам набіта,
А ты, шэльма, не ўгадала —
Толькі крэмень ды красала.
Шарманка — стукалка,
Выбівалка — грукалка,
Сама яна стукае, падбівае, грукае.

119. Пуховая падушка
Да па возу брыкала,
Конікі папужала.
Конікі-адналеткі,
Сватачкі-малалеткі.
Конікі вараныя,
Фурманы маладыя.

120. Стойце-пастойце —
Прычына стала:
Саломная падушка
З возу спала,
Рагожная дзяруга
Каня спужала.

121. Пастойце, коні, патароча стала.
Ой, рано, рано, патароча стала.*
Пухова падушка із возу спала.
А прыданыя шлі, падушоньку нашлі.
Хлопцам аддалі, штобы ўмесце спалі.

122. Рыссю, коні, рыссю
То гарою, то далінаю
З пуховаю да пярынаю.
А пярына з воза ўпала,
Конічанька спужала.
Мы ж думалі, яна пухавая,
А яна ж саламяная.

123. Маланка ў мамухны нежна была,*
За ступаю паронкі забыла была.
— Вярніся, дружко, із мяшком,
Забяры паронкі із гаршком.

124. Мы ехалі лесам
Ды пакрыліся лістам.
Пакрыліся баброМ
Ды вязём дзеўку з дабром.

125. Ой, цёмна, цёмна з-пад зары,
Ой, рана, рана з-пад зары*
Свіснуў Даніла на кані,
Ля пераезду стоячы,
Перавознічка просячы:
— Перавознічкі вы мае,

* Рэфрэн «Ой, рано, рано» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.
* Тое ж.

Перавязіце вы мяне.
А так, дарма, не хачу —
За ўсю дружынку заплачу:
Сам за сябе — тысёнцы,
За Аксінню — чырвонцы.

126. Зашчабятаў салавейка на моры,
Заіграў дзяцінка на коні,
Да на беражочку стоячы,
Перавозпічка просячы:
— Перавязі, перавознічку, перавязі,
Хаця мяне, маладога, не даражы:
Ад яе, маладой, тысёнцэ,
Ад мяне, маладога, чырвонцэ.

127. Свіснуў там маладзец на зары
На вараненькім на кані,
Ля перавозу стоячы,
Перавознічкаў просячы:
— Перавозцы мае, рыбалоўцы,
Перавязіце маю радзіну,
Кроўную радзіму,
Што захочаце, заплачу:
За красну дзеўку — капейку,
А за русу касу — чацвяртак,
А белае лічанька пойдзе так.

128. У нядзельку рана на зары,
Рана, рана.*
Да свіснуў Антоська на кані,
Свіснуў-прысвіснуў к Дунаю:
— Ціхі Дунайчык-перавоз,
Перавязі мой цяжкі воз.
Да я ж табе дарма не хачу.
Да я ж табе дорага заплачу:
За русу коску — тры рублі,
За белу ручку — тысячу,
За млоду Каську — не злічу.

---

* Рэфрэн «Рана, рана» паўтараецца пасля кожнага радка.

129. Ехаў Грыгорка на кані:
— Мілыя мае шынкары,
Ці не вы перавоз занялі?
Я за перавоз заплачу —
Усё сваёй дружыны не замачу.
Я за дружыну — рублiну,
Я за сваценьку — палцiну,
За сябе, малайца,— чырванца,
Я за сваю жану — тысячу.
Хоць я дарага заплачу,
Сваёй дружыны не замачу.

130. Не голуб бучыць на моры,
Не галубка ў вазярэ.
Клічыць-гукаіць мiльянка,
Ля перавозу стоючы,
Перавознічка просючы:
— Перавознічак малады,
Падай перавоз залаты,
Я ж табе дарага заплачу:
За сябе, малайца,— чырванца,
За сваю дзеваньку — сто рублей,
За сваю дружыну — палціну,
За сваценьку — рублiну.

131. Ды не голуб гудзець у вадзе,
Не галубачка ў гняздзе —
Архіпка перавоз гукаець:
— Перавозчыкі вы мае,
Перавязіце вы мяне,
Ды я вам перавоз заплачу:
За ўвесь паяздок — сто рублей,
За сябе, малайца,— чырванца,
А за сваю княгіню — палцiн,
А за русу касу — чацвяртак,
А белае лічанька хоць і так.

132. Да па той бок Дунаю 2
Перавоза ж гукаючы:
— Перавязі, перавознiчку, 2
Па той бочак бералознiчку.

Я ж дарма не схачу,
Я ж табе заплачу
Залатымі, чырвонымі, 2
Рублямі цалковымі.

133. Кацілася соўнышка ды за цёмны лясок,*
Выхадзіла Танечка на круты беражок,
Клікала-гукала перавозчыка.
Услышыў, увідзіў ды Івасенька:
— Ай, нашто, Танечка, табе перавоз,
Я б цябе, маладу, на руках перанёс.
Дый бяры, Танечка, і мяцёлачку,
Прывязу к маманьцы перапёлачку.

134. Борам, борам цяцерачка ляцела,*
Лістом, лістом дарожачка запала.
Там Валечка перавозу шукала,
Адкуль узяўся Іваначка на кані.
— Нашто табе, Манечка, перавоз?
А я б цябе на ручачках перанёс.

135. Стаяла бяроза каля перавоза,
Прасіла Олечка перавознічка:
— Перавознічку, перавязі рэчку,
З гэтага края на той бок Дуная,
Няхай я забачу свога падвор'я:
Кажуць, варота з шчырага злота,
Кажуць, пакоі із макавоі,
Кажуць, святліцы із макавіцы,
Кажуць, дзеверы ўсе маладыя,
Кажуць, заўвіцы ўсе — русы касіцы.
— Гэта праўданька не змуцілася:
У нас варота із шчырага злота,
У нас покоі із макавоі,
У нас святліцы із макавіцы,
У нас дзеверы ўсе маладыя,
У нас заўвіцы ўсе — русы касіцы.

136. Вецер бярозу паваліў,
Сярод дарогі палажыў.

Трэба дарожку прачышчаць,
Вараных конікаў прапускаць.
— Вы бяжыце, конікі, на той двор,
Увядзіце дзевачку на мой двор.

137. Ой, да яны ехалі лесам,
Цярэбілі да дарожаньку.
Прыцярэбілі к броду,
П'юць коні да сівы воду,
Да напіўшыся, іржуць,
Што харошу маладу вязуць.

138. Што за пыл па дарозе,
Што за шум на бярозе?
Іванька з вайны едзець,
Дзевяцера каней вядзець,
На дзесятым сам едзець.
Вязець сабе паненачку
Белую, румяную, 2
Янінку каханую.

139. Што за шум на дуброве,
Што за пыл на дарозе?
Іванька з вайны едзець,
А за ім войска валіць,
А як мак расцвітаець,
Як чырвоная рожа.
Памажы яму, божа,
А й цесця зваяваці,
А й цёшчу справаваці,
Галечку сабе ўзяці.
— А я цесця зваяваў,
А я цешчу справаваў,
Галечку з сабой узяў.

140. Дымно,
Дымно, у полі дымно,
За туманам свету не відно.
Стаіць,
Што гэта да за дым стаіць?

Там Сяргейка да ваюе.
Ваюецца,
Там Сяргейка да ваюецца,
Па ём матка яго журыцца.
— Матачка,
Не журыся й, мая матачка.
Як свет дадому іду,
Іду,
Як свет дадому
Іду святою ж зарой,
Зарою,
Святою ж зарою,
І з сваёю ж жаною,
Светлаю,
Светлаю зарніцаю,
Са сваёю маладзіцаю.

141. Ай, ці пыл, ці дым на вуліцы?*
Малады Ванечка ды ваюецца,
Ля яго радзіна ўся дзівуецца.
Пад ім конь, як агонь, ляціць,
Пад канём, пад агнём зямля дрыжыць,
Ля боку Танечка, як жар, гарыць.

142. Што за пыл, што за дым ды на вуліцы?
Там малады Пецька ды ваюецца,
Каля яго татулька дзівуецца.
— Чаго табе, татулька, дзівавацца,
Што я ўмею, малады, ваявацца?
Пада мной сівы конь — то ваеннік мой,
Вострая шабелька — смеласць мая,
А нявеста — весялосць мая.

143. Сіні дым па вуліцы,
Якубка з конікам ваюецца:
— Конь мой, конь, конь вароненькі,
Шабля мая, шабля вострая.
Шабля вострая — вайна мая,
Млада Ганнуля — радась мая.
А я сваю вострую шабельку шараваць буду,
А я младу Ганнулю шанаваць буду.

144. Ай, пыл, пыл па дарозе,
Пыл, пыл па дуброве,
Пыл у полі пылуіцца,
Там Грышутка ваюецца,
Над ім яго брацікі дзівуюцца.
— Братцы ж вы мае родныя,
А не сам я ваююсь,
Гаспод бог нада мною,
Воран конь пада мною,
Настулька пад рукою.

145. — Ці ў цябе, дзяцінка, сакаловы вочы,
Што ты не баішся цёмнае ночы?
— Чаго ж мне баяцца цёмнае ночы?
Бог нада мною, конь пада мною,
Уся мая дружына едзе са мною,
А мая дзяўчына поруч са мною.

146. Сівы конь дарожку дратаваў,
Пад круту гару сільна браў,
Чырвона золата везучы,
Белае серабро ўпобачкі.
Чырвона золата — Іванька,
Белае серабро — Манечка.

147. Да бела каляска браскушча,
І да й у той калясцы павозка,
І да й у той павозцы Волечка.
Цяжка ж, лягенька ўздыхае
Да на свае коні гукае:
— Да бяжыце, конікі, бяжыце,
Да мяне ад бацька вязіце.
Як далей, так далей ад бацька,
Як бліжэй, так бліжэй к свякраўку.

148. Бяжы, конічак, да не ржы,
Папала не ў хлеў, а ў каржы.
Бяжы, конічак, шчэ трошкі,
Не папала на хлеб, а ў крошкі.

149. Тарарай калёскі, тарарай,
Павязлі Мар'янку з пекла ў рай.
А яна ж таго раю не хацела б
Ды назад у пекла падляцела б.

150. Ехалі, ехалі па-над прызбаю
Ды кабылкаю шустраю.
Ехалі, ехалі — конь прыстаў,
А малады з маладою з воза ўпаў.
Зялёная рутачка, жоўты цвет,
Як не будзеш памагаць, пайду ў свет.

151. Ехала маладая —
Конь прыстаў.
Маладая злезла —
Конь памчаў.

152. Хвала табе, божа,
Што ў мяне куна ў возе.
Хаця я да знебылася,
Да такі ж я спамаглася.
Хоць усю ночку не спала,
Да трое чаравічак стаптала.
Хоць чаравічкі стаптала,
Да куначку сабе паймала
Пад зялёненькім гайком
Да са чырвоненькім чубком.

153. Ехалі сваты, гойкалі,
Пабілі бакі, ойкалі.
— Памалу, сваты, з гарушкі,
Не пацярайце падушкі.
Не выпусціце звярушкі.
Нам гэта звярушка дарага:
Тры дні без шапак сядзелі,
На гэту звярушку глядзелі.
Тры дні з сецямі стаялі,
Пакуль гэту звярушку спаймалі.

154. Ехалі сваткове чэраз бор,
Рубалі дзерава, да ўсё клён,
Цясалі цёсанькі тонкія,
Рабілі скрыпачкі звонкія.
— Зайграй, скрыпачка, голасна,
Заплач, Матронка, жалосна,
Па сваёй касе русай.
І па бацькавай раскошы,
І па раненькаму ўляганню,
І па позненькаму ўставанню,
І па смачнаму сняданню.

155. — Ці не сяло відаць?
— Нягось што!
— Ці не нявехну вязуць?
— Нягось каго!
— Ці яе там ажыдаюць?
— Нягось што!
— Чаму яна не плача?
— Чорт чаго!
Да няхай той плача
І равецца,
Хто яе ў гэты дом
Дажджэцца.

156. Вязлі маладу а ўсю ноч,*
Не відзела ні сяла, ні двара.
Ўвідзела сяло нішчае,
Думала заплакаць з нішчаго.
— А няхай жа плачыць свёкар мой,
Што прывёз бяду на свой двор.
А не я ж, то бяда сама малада,
Ай, то ж то бяда — скрыня мая!

157. Кавала зазулька на тынку,
Плакала дзеванька па вянку.
Кавала зазулька на бярозе,
Плакала дзевачка ў дарозе.
— Не плач, дзеванька, у дарозе,
Патчэш абрусы ў каморы,
А выбеліш на моры,

На глыбокім Дунаю,
На беленькім камені.

158. Зялёненькі наш паясок,
Вясёленькі наш паяздок.
А дзе ж мы селі — запелі,
А дзе ж мы сталі — зайгралі,
Каго хацелі — узялі,
Нікому шапачкі не знялі.
А й толькі знялі аднаму —
Свайму сватаньку роднаму.

159. Добра мы ваявалі:
І шапак не ламалі,
І шабель не выймалі,
К сабе Марыльку ўзялі.

160. Добра мы ваявалі: 2
Сякеркі не бралі,
Лучынкі не ўчасалі
І агню не ўкрасілі.

161. Залатая наша песенька,
Сярэбраны галасок,
Вясёленькі паяздок.
Ай, дзе мы селі — запелі,
Ай, дзе мы сталі — зайгралі.
— Па што ехалі? — Па дзеўку.
— А што мы вязлі? — Гарэлку.
Гарэлку вязлі — папілі,
Па дзеўку ехалі — узялі.

162. Мы ехалі да дарогаю,
Зялёнаю дубровою,
Да дуброўку-траўку рвалі,
Мяккую пасцель слалі, 2
Маладых спаць клалі.

163. Мы ехалі да вадзіліся,
Нашы коні патаміліся.
Мы ехалі, да наш конь прыстаў,
Малады Іванка з воза не ўстаў.

164. — Разлягайся, дуброва,
Папраўляйся, дарога,
Пад нашы маладыя,
Пад коні вараныя.
Разлягайся высока,
Папраўляйся шырока,
Разлягайся і звіні,
Папраўляйся і грымі.
Бо нашы маладыя,
Як зоранькі ясныя.
Як месячык ясны,
Такі Ясенька красны.
Як зоранька вячэрняя,
Така Марыська маладая.
— Не ўважай, што я плачу,
Паганяй сіву клячу.
Не ўважай, што я тужу,
Паганяй, хоць нядужу.
— Конікі вараныя,
Хутчэй ступайце,
Каб нашыя маладыя
Устыду не набраліся,
Каб на іх не сказалі,
Што яны доўга спалі.
Да каб на іх сказалі,
Што яны рана ўсталі,
Галоўкі пачасалі,
А шыйкі паўмывалі,
Пацеры згаварылі,
А бацькоў перапрасілі.

165. Разлягайся, дуброва,
Папраўляйся, дарога,
Пад нашы маладыя,
Пад коні вараныя.
Весяліцеся, зялёны гаі,
Ужо Ясь Марысю мае,

Харошую, маладую,
Як кветку ружаную.
А ў нашай Марыны
Пуховыя пярыны,
Лабэндзевы падушкі
Для Ясенька, для душкі.
— Конікі вараныя,
Чаго ж так патаміліся?
Ці вы так доўга ідзеце,
Ці вы цяжка вязеце?
— Яшчэ мы нядоўга ідзем,
Але цяжанька вязем:
Маляваную скрыню,
Пуховую пярыну, 5
Марыську-гаспадыню.

166. Разлягайся, дуброва,
Папраўляйся, дарога.
Да едзе к нам да дзевачка —
Пад русаю касою,
Пад руцяным вяночкам,
Пад шаўковым шнурочкам.

167. Разлягайся, дуброва,
Весяліся, дарога. 2
Едзе брат за сястрою,
За русаю касою. 2
За руцьмяным вяночкам, 2
За дзявочым станочкам.

168. Абозы, абозы,
Сталі коні ў дарозе.
Трэба коні паўпасаці,
А што коням есці даці?

169. — Ці давалі коням грэчку,
Як ехалі па дзевачку?
— Давалі, паілі,
У дарогу паспелі.
А дарога — каранiстая,
А дзевачка — наравістая.

170. Як ехалі мы па дзевачку,**
Дык давалі коням грэчку.
Гадавалі да пшаніцаю,
Цяпер едзем з маладзіцаю.

171. Ой ты, коню-весялю,
Ты духваеш на сілу.
Ці завязеш на двор красну скрыню,
А ў хату гаспадыню?
Ды не скрыню, то калодзіцу,
А не дзеўку, то малодзіцу.

172. На дварэ стучыць-гручыць,
А Пецечка каня вучыць,
Каб стройна галоўку нёс,
Каб Манечку добра вёз.
Праз вуліцу, каб не ўпыліць,
Каб Манечку не ўгнявіць.
А праз поле, каб не кўрылася,
Каб на Пецечку не журылася.

173. Зарзалі конікі ля броду,
Чулі яны на сябе прыгоду,
Што будуць хурманы ліхія,
Накладуць вазы цяжкія
Да будуць конікаў біць, караць,
На крутую гору паганяць.

174. Бягуць конікі, усе скачуць,
Аддаюць дзевачку, усе плачуць.
Бягуць конікі, радуюць,
Аддаюць дзевачку, шкадуюць.
Бягуць конікі, развяцца,
Аддаюць дзевачку, позняцца.
Бягуць конікі, тупуюць,
Аддаюць дзевачку, скупуюць.
Бягуць конікі, пляшучы,
Аддаюць дзевачку, плачучы.

175. Снегам, коніку, снегам,
Мы за табою следам
З усею радзінай,
З сваею дзяцінаю.

176. Да бегам, коні, бегам,
Штоб не прыпалі снегам,
Снегам, снегавіцаю,
З маладою дзявіцаю.

177. — Да чый гэта конічак за борам,
На чатыры ножачкі падкован?
— Да гэтага коніка цесць падараваў,
На чатыры ножачкі падкаваў,
Каб з дарожачкі не збіўся,
Да левай ножачкі не зламаў,
Да дачушку дамоў часта прывозіў.

178. Как пад гарою, пад крутою кузенька стаяла,
А ў тэй кузеньке кавалікі кавалі,
Кавалікі маладыя — падкоўкі залатыя.
— Кавалі маладыя, а дзе вы золата брали?
— У маладога Якушкі пярсцёнак з рук знялі,
Варанога коніка к свадзьбе падкавалі.
— Дзяржы, дзяржы, Якушка.
— Я бы рад удзяржаць, дый ім здзержу нет.
— Улей вады, насып аўса, коні самі стануць.
— Авёс з'ядуць, ваду пап'юць, коні гуляць стануць.
— Дурна, дурна Ганутанька, дурна, неразумна.
Сенца палож — вады ўлей, коні самі стануць.
— Вараны конь, чаго ты цяжола ўздыхаеш,
Ці я цяжол, ці мая Ганутанька грузна?
— Ні ты цяжол, ні твая Ганутанька грузна,
Адтаго я ўздыхаю, што мне дальнюю дарожаньку ехаць.
— Я дальнюю дарогу ўсю шагам паеду,
Пад гораньку, пад крутую, сам далоў злезу.

179. Зарзалі конікі вараны,*
Запелі свашачкі малады.
Паехалі ў дарогу,

5. Зак. 1480

Ой, к таму сялу бальшому,
Ой, к таму свату багату.

180. Горкая рэдзечка ў гародзе,
Няшчасны хлопчык ў дарозе.
Прывязаў коніка к бярозе,
Адрэзаў з бярозкі тры розкі,
Сцёбнуў коніка па ножках.
— А ступай, коська, шырока,
Яшчэ наша дзевачка далёка.
А ступай, коська, вузенька,
Ужо наша дзевачка блізенька.
А ступай, коська, ступою,
Ужо наша дзевачка са мною.
А ступай, кося, туп-туп-туп,
Ужо наша дзевачка тут-тут-тут.
А ступай, кося, у лазу,
Ужо наша дзевачка на вазу.

181. А з гары, гары і ■ даліны *
Бягуць конікі чатыры.
А ўсе чатыры сівыя.
Вязуць карэту сінюю,
А ў той карэце панечка,
А на карэце Манечка.
Русаю косаньку часала
І на конікаў гукала:
— Бягіце, конікі, шырока,
Майго свёкра двор далёка.
Бягіце, конікі, павужай,
Майго свёкра двор бліжай.
Бягіце, конікі, ёсць на чом,
Я ў свайго татухны ні пры чом.

182. А ў варот бяроза стаяла,
Веццем вароты ўслала.
Ай, туды ехаў Майсейка,
Выламаў з бярозкі тры розкі,
Секануў коніка пад ножкі.
— Бягі, мой конічка, усё рыссю
К майму бацюшкі з карысцю,

К маёй матушкі з радасцю.
— Адчыні, бацюшка, новы дом:
А едзець к табе сын на двор,
Вядзець к табе карыстку,
А маладую нявестку.
Умей, мой бацюшка, зацяваць
І па войцецку называць.
Табе, мой бацюшка, служачка,
А мне, малайцу, дружачка.

183. Да рыссю, коні, рыссю,
Да дадому з карысцю,
З мяккаю да пярынаю,
Маладою да княгіняю.
На пярыне мякка спаці,
З княгіняю размаўляць.

184. Ехаў Колечка ракою,
Абняў дзевачку да рукою.
— Не плач, дзевачка, не тужы,
Абняў цябе свой, да не чужы.

185. А борам, борам, барыночкам
Ехала дружына радочкам.
Пасталі пад садам усе радам,
Пісалі бумагу сінюю,
Узялі Ніначку сілаю.
Не пяром мы яе пісалі,
Не сілай мы яе ўзялі.

186. Ой, борам, борам ды тым барком
Ехала казакаў сем палкоў,
Вязлі карэту сінюю,
Узялі Ганулю сілаю.
Не так сілаю — за грошы,
Што яе Пракопка харошы.
— Ой ты, Пракопка, ты вялік,
Чаму ты не прывёз чаравік?
— А як жа я маю вазіці,
Калі не ўмееш насіці.

— Прывязі, прывязі —
Буду насіць па гразі.
Ой, не так па гразі, як па нізу,
Ды яе матулька паблізу.
— Не хадзі, мая матулька, за мною:
Не маю размоўкі з табою,
За мною Пракопка, за мною,
З табою размоўка, з табою.

187. З гары, з гары, з горачкі *
Беглі чатыры конічкі,
Вязлі карэту сінюю,
Узялі Рыпінку сілаю.
Не сілаю — за грошы,
Што я Ахрымка харошы.
Не сам ён харош, конь яго:
Чатыры ножачкі ў золаце,
Пятая грывушка ў серабрэ.
Кавалі былі ў дарозе,
Грабенцы былі ў язвозе.

188. Я месяца да перакрою.
— Не свяці да нада мною,
Засвяці да над ёлкаю,
Бо я еду з дзеўкаю.

189. Тупу коні да па дарозе,
Харошая панна ў возе,
Высокая, як быліна,
Чырвоная, як каліна.

190. І зялёная арэхаўна **
Усё на тын налягае,
А з-пад той арэхаўны
Сівы конь выбягае.
Ён не сам выбягае,
Толечка выязджае.
Вязе сабе паненачку,
Тонкую, высокую,
Тонкую, высокую,
Валечку далёкую.

191. Цераз сяло Букоцкае
Ехала войска дзявоцкае.
— Выйдзіце, людзі, дзівіцца,
Едзе Іван жаніцца.
Сам едзе на коніку,
А Галю вязе на возіку.

192. А едзем жа мы борам, барамі,*
Борам, барамі.
Бор будзе шумець, падкоўка ляшчэць.
Падкоўка ляшча, пясочак шасня,
А людзі пачуюць, дзівіцца будуць,
Ці не сам пан едзе, ці не паню вязе.
Кірэйка едзе, Аўдоццю вязе.

193. Едзем, едзем борам, барамі,
Шырокімі мастамі.
Бор будзе шумець,
А падкоўкі будуць звінець.
А скажуць людзі,
Што баяры едуць,
Каралеўну вязуць.
А кароль, кароль — малады Іванка,
А каралеўна, каралеўна — маладая Валечка.

194. А ехалі мы барамі,*
А сталі барочкі шумеці,
А выйшлі баяры глядзеці,
Ці не пан той едзець барамі,
Ці не паню вязе канямі.
Ай, пан той едзець — Васечка,
Ай, паню вязець — Валечку.

195. Чаго ж гэта пыл клубіцца? *
Гэта ж троечка нясецца.
Ці не пан едзець? — Ванечка.
Ці не паню вядзець? — Манечку.
Не вялікі пан Ванечка,
Не вялікая паня Манечка.
Гэта ж хлопец наш младзенькі,
Гэта ж дзяўчына наша младзенькая.

196. Служыў жанішок каралю,
Заслужыў сабе дзве свячы.
Да й ехаў ад цесця ўначы,
Чэраз тры сялы граючы,
Блізкія суседзі будзячы.
Блізкія суседзі пабудзіў,
Свайго баценьку звесяліў.

197. Пыталася Ганначка
Старшае свашкі:
— Эй, свашка-пташка,
Куды мы паедзем?
— Паедзем, Ганначка,
Міма гай зялёны,
Міма сад вішнёвы.
Міма гай ехаці,—
То каліну ламаці,
Міма сад ехаці,—
То вішні шчыпаці.
Сад паламалі,
Галубы паганілі,
Залатога кубачка
Коньмі разбілі.
— Маладая Ганначка,
Калі будзеш наша,
То мы сад пасадзім,
Галубы прынадзім,
Залатога кубачка
Меддзю наладзім.

198. Ой, Дунай, Дунай, Дунайцом
Ляцела галубка з галубцом.
У яго галубка пытала:
— Галубок ты мой сізенькі,
Куды мы з табой паляцім?
— Паляцім, галубка, у шчыры бор,
Там нашы галубы зляталісь,
Нас з табой дажыдалісь.
Ой, Дунай, Дунай, Дунайцом
Ехала Анечка з малайцом.
Яго дзевачка пытала:
— Малойчык ты мой беленькі,

Куды мы з табой паедзем?
— Паедзем, Анечка, на мой двор,
Там наша радзіначка з'язджалась,
Нас з табой, Анечка, дажыдалась.

199. — Куды мяне вязеце?
— У людзі, у людзі.
— Ці будзеце шанаваць?
— Будзем, будзем.
— Ці будзеце пасцель слаць?
— Будзем, будзем.
— Ці будзеце піць даваць?
— Будзем, будзем.
— Дзе пасцелеце?
— На таку, на таку.
— Што пасцелеце?
— Асаку, асаку.
— З кім паложыце?
— З дзецюком, з дзецюком.
— Чым накрыеце?
— Кажухом, кажухом.

200. Коціца ды калясачка,
У калясачцы ды дзве ягадкі —
Суніца з брусніцаю —
Братавая з залвіцаю.
Братавая сільна плача,
Залвіца разважае:
— Не плач, мая братавая,
Мая мамка не благая:
Куры не пяюць — уставае,
Світае — на работку ідзе,
Сняданне каля полудню,
Полудзень каля вячэры,
Вячэра каля поўначы,
А спачывай хоць стоячы.

201. З-пад чырвонае каліны
Бегла коней чатыры,
З чатырма да калёсамі.
А ў тых да калёсах —

Братова з залувіцаю.
Братова сільна плача,
Залувіца разважае:
— Не плач, братавенька,
Будзем ехаць недалёка:
Пераедзем гэту рэчачку —
Угледзім маю мамачку.
Мая мамка не ліхая —
З вечара ўставае,
Кур пяе — абед дае,
Світае — на поле ідзе.
На полі снапок звяжа,
А ў хаце слоўца скажа.

202. Стрэлкамі рэчанька машчона,*
Куды наша Ганначка звязёна.
Праехалі рэчку — сталі,
У Ганначкі праўду іскалі.
— Ці забудзеш, Ганначка, сваю старану?
— Калі добра будзе — забуду.
Худа будзе — спамяну сваю старонку.
Добрая мая старана,
Дзе я радзілася, расла,
А худа та старонка,
Куды мяне цёмна ноч завяла.
А не цёмна ноч, конь вараны,
А не конь вараны, а князь малады.
А князёк, князёк — Грышачка,
А княгінька — Ганначка.

203. Паляцеў саколік у чыстае поле,
Ой, жаль мне сакалочка, палёту яго.
Да няма гадок, да няма другі,
Ой, жаль мне сакалочка, палёту яго.
На трэці гадок прылятае сакалок,
Сакалок прылятае, галубку нясе,
Ой, жаль мне галубкі, пер'ейка яе.
Галубку на юшку, пер'ейка на падушку,
Ой, жаль мне галубкі, пер'ейка яе.
Паехаў Іван і ў чужую зямлю,
Ой, жаль мне Івана, поезду яго.
Да няма гадок, няма другі,

Ой, жаль мне Івана, поезду яго.
На трэці гадок едзе Іван,
Іваначка едзе, Мар'ечку вязе,
Ой, жаль мне Мар'ечкі, косачкі яе.
Мар'ечку звянчалі, косачку зламілі,
Ой, жаль мне Мар'ечкі, косачкі яе.
Мар'ечку пад венчык, косачку пад чэпчык,
Ой, жаль мне Мар'ечкі, косачкі яе.

204. — Была, была ночанька, а ўжо свет, *
Куды мяне везіцё, там хаты нет.
— А павязём цябе ў чужую,
А пакуль мы сваю збудуем.
Паставім хату на ляду,
Не будзеш хадзіці па ваду.
Памосцім лавачкі гібкія,
Гібкая лавачка згібнецца,
У гаршчэчкі вадзіца пальецца.
Паставім сені вярбовы,
А не будзем хадзіць па дровы.
Вярбовы сені крышуцца,
А ў хату трэсачкі сыплюцца.

205. Ой, гукнемо, Аніська,
Ці далёка да сяла, ці блізка?
Аж яно за тры мілі —
Мы свае коні да патамілі,
Па дарозе, па карэннейку,
Па дуброве, па краменнейку.

206. Пад'язджаючы пад сяло,
Заграй, дудачка, весяло:
Наша розачка зеляненька,
Наша дзевачка маладзенька.
У нас розачка — макаў цвет,
А ваш хлопчык — стары дзед.

207. Пад'язджаючы пад сяло,
Зайграй, дудка, весяло,
Што б наша сяло весяло было,

Што б наша рута зелянела,
Штоб наша маладзіца весялела.

208. — Пад'язджаючы пад сяло,
Зайграй, дудачка, весяло.
— А я йграла, йграла.
— З кім ты, дзевачка, гуляла?
— З табою, хлопчычак, з табою
Пад зялёнаю вярбою

209. І пад сяло пад'язджаючы, і пад сяло,
Іграйце вы, музыкі, весяло
І ад сяла да сяла.
П'еце вы, свацейкі, да сяла.
Чужая і старана,
Тут чужая старана,
Каб нам не было сорамна.

210. Ірай, дудачка, з сёл да сёл,
Каб мой міленькі быў вясёл.
Іграй, дудачка, ад сяла да сяла,
Каб мая Маша была весяла.

211. Едзем, едзем, зараз будзем, божа, божа,*
Недалёка ад масточка.
— Сталы-лавы засцілайце,
Нас, маладых, пераймайце.

212. Ой, едзем сялом-весялом,*
Запяем песеньку галасом,
Каб наша сваціца пачула
І новую браму адамкнула,
Кубачкі віна наліла,
Нашых маладых сперaніла.

213. Ой, заржы,
Ой, заржы, сівы конь,*

* Рэфрэн «божа, божа» паўтараецца ў канцы кожнага радка.
* Кожны радок, акрамя першага і апошняга, паўтараецца.

Да няхай зачуе свёкар мой,
Да няхай страчае ў варотах
З зялёным вінам за дварам,
З шчасцем, з доляй за сталом.

214. Ой, гукнемо мы нізенько,
Бо ўжэ нашэ село блізенько.
Да няхай маці чуе
Да вячэру гатуе.
Няхай маці спадзяваецца,
У шубонькі адзяваецца,
Шубонькі новенькія,
Мы самі малодзенькія.

215. Гукну я ў гору,
Ці блізка дадому.
Да няхай нашы чуюць
Да вячэру гатуюць.
Няхай чуюць да прачуваюць,
Нам вячэру да наліваюць.
Заб'ю я цяцеру на вячэру.
Цяцеру на юшачку,
А пер'ейка — на падушачку.

216. Чуйце нашы, чуйце
Да вячэру гатуйце.
Цяцеру на вячэру, 2
А пірог на пячэню,
Гуску на закуску,
А пер'е на падушку.

217. Ой, хвоя, хвоя зялёна
У бару стаяла, шумела,
З кораня ўпала, звінела.
— Не я шумела — галлё маё,

Не я звінела — стрыжань мой
Раздаў галасок на ўвесь бор.
Няхай матухна зачуе,
Нам вячэраці гатуе.

218. Ужо Колечка ў сяло ўязджае,
Свайму бацяньку голас падае:
— Адчыняй, бацяньку, новы варата,
Вязем вяночка са шчырага золата.
У Вільні былі, дарага купляді,
Сто рублёў мелі, усе выкладалі.

219. А цёмная-нявідная ночачка,
Зажурылася а сакольная пташачка:
— Зачым-засім майго сокала доўга нет?
А ён паляцеў цераз тры бары ў зелен сад.
Негдзе яго дробныя пташачкі злюбілі,
Яны яго на калінку садзілі,
Там яго крынічнай вадзічкай паілі,
Яны ж яго ягадкамі кармілі,
Яны ж яго дробнай цырачкай дарылі.
А цёмная-нявідная ночачка,
Зажурылася а й Лёнечкава мамачка:
— Зачым-засім майго сыночка дома нет?
Паехаў ён цераз тры сялы к цесцетку.
Негдзе яго красны дзевачкі злюбілі,
Яны яго за скам'ёю садзілі,
Яны ж яго красным вінам паілі,
Яны ж яго краснай дзевачкай дарылі.

220. А й цёмная да восеньская ночачка,
Зажурылася сакаліная мамачка,
Зажурылася сакаліная родная:
— Куды, куды да мой саколя паляцеў? 2
А знаць, да ён цераз садочак паляцеў,
А знаць, жа ён да цераз зялёны паляцеў.
А й там яго чорныя галкі злюбілі, 2
Яны ж яму чорную галачку дарылі. 2
Хоць дарылі, да й не ўдарылі — не далі. 2
А й цёмная да й нявідная ночачка, 2
Зажурылася да й Іванькава мамачка:
— Чаго, чаго майго сыночка доўга нет,
Чаго, чаго майго роднага доўга нет?
Наверна, ён цераз мясцечка паехаў. 2
А й там яго да мяшчаначкі злюбілі, 2
Яны яму мяшчаначку дарылі. 2
Хоць дарылі, да не ўдарылі — не далі,
Хоць дарылі, да й падманілі — не далі.

221. Ой, цёмная, нявідная ночачка,
Зажурылася сакольная мамачка:
— Зачым-засім майго сокала з палёту нет?

Няўжо ж ды ён цераз шчыры бор паляцеў?
Няўжо ж яго чорны галачкі паймалі?
Няўжо яго на каліначку саджалі?
Няўжо яго і калінкаю кармілі?
Няўжо яго і расічкаю паілі?
Няўжо яго і зязюлькай дарылі?
Ой, цёмная, нявідная ночанька,
Зажурылася Славікава мамачка:
— Зачым-засім майго сыночка доўга нет?
Няўжо ж ды ён цераз местачка паехаў?
Няўжо ж яго там мяшчаначкі злюбілі?
Няўжо яго за цясовы стол садзілі?
Няўжо яго зялёным віном паілі?
Няўжо яго белым пірагом кармілі?
Няўжо яго маладой Тамаркай дарылі?

222. Тужыла-бедавала сакалова маці:
— А ўжо на дварэ нярана — нашага сакала няма.
Знаць, яго спаймалі сакалічкі,
Знаць, яго павялі да пшанічкі,
Знаць, яго кармілі пшаніцаю,
Знаць, яго паілі вадзіцаю.
Тужыла-бедавала суджанькава маці:
— Ужо ў нас на дварэ нярана — нашага суджанькі няма.
Знаць, яго спаймалі швагерачкі,
Знаць, яго павялі да свяцелачкі,
Знаць, яго кармілі пірагамі,
Знаць, яго паілі віном зеляным.

223. Тужнавала-бедавала салаўёва маці:
— На дварэ белы свет — салавейкі нет.
Знаць, яго пташачкі ўлавілі,
З сабой ў гняздзечка пасадзілі,
Чырвонай калінай накармілі,
З крыніцы вадзіцай напаілі.
Тужнавала-бедавала Гаўрылкава маці:
— На дварэ белы свет, а Гаўрылкі нет.
Знаць, яго баяры з сабой узялі,
З маладой Аленкай пасадзілі,
Салодкім мядочкам накармілі,
Віном зеляном напаілі.

224. Ой, жанішка баценька доўга жджэ,
Маладзенькага баценька доўга жджэ:
— Ой, дзесь яго вільвіяны зайнялі,
Ой, дзесь яго да на мядочку прапілі.
Зайнялі яго опальскія дзеванькі,
На мядочку яго прапілі,
Палажылі ў пярыначкі спатачкі.
— Ой, спі-паспі, зяцю, ты у нас,
Як дзень светлы, як сыр белы,
Як яснае сонца, што свеціць у аконца.

225. Па жанішкові яго баценька бядуе,
Па маладому яго баценька бядуе:
Ой, дзе ж бо ён гэту ночку начуе?
Ой, чым жа ён вараны коні харчуе?
Харчуе коні то пшаніцаю, то аўсом,
Сам частуецца салодкім мядком.
— Ой, частуйся ж, мой сынок, частуйся,
Частуйся, мой родны, частуйся,
Ты да мяне ў гасціненьку гатуйся.
Ужо жанішку баценька даўно жджэ,
Ужо роднага даўно жджэ,
Калі ён яму верну служку прывязе.
— Ой, жджы-пажджы, баценька, з гадзіну,
То я прывязу табе суджаньку верну.

226. Цімошкава маці тугуе:
— Дзе ж маё дзіцятка начуе?
— Ой, не тугуй, маценька, не тугуй,
Бо я начую пры бару,
У свайго цесценькі на двару.
Мае конікі на стайні, на стайні.
Мае сядзелкі прыбраны, прыбраны,
А сам малады ў новай каморы
З Матронкаю на ціхай размове.

227. На вуліцы дождж,**
Да і мароз будзець.
А дзе ж мой сыначка
Начаваць будзець?
Ці ў полі, ці ў полі

Пад ялушкай?
Ці ў хаце, ці ў хаце
З Людачкай на падушках?

228. Журылася мамулька ў парозе:
— Як мой там сыночак у дарозе?
Ці бягуць яго конікі,
Ці йграюць яго музыкі,
Ці пяісты яго свацейкі,
Ці мавісты яго маршалкі?
— Не журыся, мамулька, ў парозе,
Харашо мне было ў дарозе.
Ой, і беглі мае конікі,
Ігралі мае музыкі.
І пяісты мае свацейкі,
І мавісты мае маршалкі.

229. Журыцца мамачка ў парозе,
Што яе сыночак у дарозе.
Ці яго конікі не бягуць,
Ці яму дзевачку не аддаюць?
Бягуць конікі розненька,
Аддаюць дзевачку позненька.

230. Паехаў суджанька жаніцца,
Мая матулька журыцца:
— Чаму майго дзіцяці доўга нет?
Ці яго конікі прысталі,
Ці яму дзевачкі не далі?
Зачуў жа тое суджанька:
— Не журыся, мая мамачка, не журыся,
Мае конікі ў грунь бягуць,
За мной дзевачкі ўслед пяюць.

231. Ой, цёмная да нявідная ночачка, 2
Зажурылася да саколікава мамачка: 2
— Нету, нету майго сокала ў доме, 2
Да можа ён да з дарожачкі зблудзіўся, 2
А можа яго вараны конічак падбіўся?
Да ё ў яго вараныя коні пад возам,

Да ё ў яго родныя сястрыцы ўсе разам.
Яны яму ж да коніка падкуюць. 2

232. — Ой, вечар, вечар, вечарок, вечарок,
Да чаму ж не едзе мой сынок, мой сынок?
Да ці ж не калёсы паламаў, паламаў?
Да ці ж не конікі патаміў, патаміў?
— Ой, я ж калёсы не ламаў, не ламаў,
А я ж конікі не таміў, не таміў.
Я ў свайго цесця ў гасцях быў, у гасцях быў
Да сабе ж Манечку палюбіў.

233. Каля бору дарожанька-чарназём,
А там ехаў млады мальчышка чарнаброў.
А чуў-зачуў у шчырым бары адгалоскі,
А ён думаў, шэра зязюля кукуець,
Ажно яго родная мамка бядуець:
— Ці яго там вараны коні прысталі,
Ці яму там маладой дзяўчынкі не аддалі?
Яго конікі вараныя верныя,
Яго дзяўчыначка маладая пэўная.
Яго коні, як гаголікі, гарцуюць,
Яго дзяўчыначка, як паненачка, танцуець.

234. Данілачка бацька
Па двару ходзіць,
З богам гаворыць,
Сына выглядае.
— Што й маго сынонька
Доўга не мае?
Чы коні забрана,
Чы не звянчана?
І коні не брана,
І яго звянчана,
Ано яму Волькі не дана.

235. Ды ўжо на дварэ вечарок,
Ды чаму ты не едзеш, мой сынок?
Да не рабі начлегу ў дарозе,
Да прывяжы коніка к бярозе.

Выраж з бярозы тры розкі
Ды сербані коніка пад ножкі.
— Прашу цябе, конічак, падбяжы,
Дам табе аброку — пад'ясі.
— Да мяне, бярозу, дождж паліваў,
А табе Манечку бог гадаваў.

236. П'яна, п'яна ў Іванькі галоўка,
Ждала, ждала яго мамка дамоўкі.
— Ці не прыйдзе мой дзіцятка з няволі,
Ці не прывязе мне нявольніцу?
А пусцім жа мы яе ў сваім доме па волі,
Па волі да й па новенькай каморы.
А будзем мы на нявольніцу глядзець,
Ці будзець яна нашай хатцы радзець.

237. Ці ярэець сіні васілёчак,
Баравы цвяточак?
Ці жалеець чужая маці
Чужога дзіцяці?
Ой, не ярэець сіні васілёчак,
Баравы цвяточак.
Ой, не жалеець чужая маці
Чужога дзіцяці,
Толькі жалеець каня варанога,
Сына маладога:
Каб не падбіўся конік вараненькі
У доўгай дарозе,
Каб не спазніўся сынок маладзенькі
Супраць цёмнай ночкі.

238. Мікалайкава ж матка
На пераклець ступала 2
Да на зоры загадала:
— Зоры мае да забаўныя,
Двое дзетак да забавілі.
Адно ж ды — раджонае,
А другое ды — суджонае.
Раджонае гадавацъ будзем,
Суджонае пасылаць будзем,
Ой, па дровы ж да па лучыну,
Па ўсяку прычыну.

239. А хлопчыкава ж матка 2
Па двару да пахаджае,
Да пахаджае.
Па двару да пахаджае
Да на зоры да пазірае.
— Ой, зоры ж вы, зоры, 2
Засвяціце ў полі,
У полі.
Засвяціце ў полі,
Там у мяне да дзяток двое,
Двое.
Там у мяне да дзяток двое.
Адно дзіця да раджонае,
Да раджонае.
Адно дзіця да раджонае,
А другое да суджонае,
А хлопчык да раджоны, 2
А дзевачка да суджоная.

240. Месяцу ясненькі, асвяці ды маё поле,
Тут маіх да дзяцей двое:
Адно дзіця да радзонае,
А другое — да суджонае.
Радзонае да пяром піша,
Суджонае да носам тжмыша.
Дзяцінка да пяром піша,
А дзеванька да носам тжмыша.

241. А Іванкава мамка
Сію ночку не спала,
Да на ганку сядзела
Да на зоркі глядзела:
— Ты, зорачка-перапёлачка,
Параві ты маіх дзетачак
Да ў вялікай дарозе,
Да на лютым марозе.

242. Жаніхова маці 2
У акенца сядзіць
Ды на зорачкі глядзіць:
— Зорачкі мае ясныя,

Не змарозце майго сыночка,
Бо мой сын дый у дарозе,
На вялікім марозе.
Яго конікі ды ціха ідуць,
Важкія ды скрыні вязуць.
Яго коні не каваныя,
Вязуць скрыні маляваныя.

243. Зоры мае вы вячэрнія, 2
Не стухайце вы рана: 2
Мае дзеці ў дарозе 2
Ды на лютым марозе. 2
Ножкі ў іх пазмярзаліся,
Вочкі ў іх пазліпаліся.
Сваты маладыя, коні варапыя,
Ганіце конікаў дадому,
Садзіце маладую на дзяжу,
Усіх караваем абдзялю.

244. Да была ночка, да ўжо ж дзень,*
Свякруха нявестку даўно жджэ.
— Каб я ведала, што будзе мая,
Паслала б каня, як арла,
Каб мая нявестка тут была,
Сені-хатачку падмяла,
Белую пасцелечку паслала
Да мяне мамкаю назвала.

245. — А ці ведаеш ты, свёкарка,
Што тваю нявехну конь не вязе?
— А каб я ведаў, што яна,
Запрог бы каня, як арла,
Па свайго сына-сакала.
Запрог бы кабылку ізранку
Па сваю нявехну-каханку.

246. А была ночанька, а ўжо свет,
Свякроўка нявехны даўно жджэ,
Цэлую ночачку свечкі жжэ,
А к беламу ранню — недагарачкі

Дзеля сваёй нявехны жаданкі.
— А нявехна мая жаданка,
А ні год я чакала, а ні два я чакала,
Ледзьве я сягоння прычакала.
А ні сені мае не мецены,
А ні лавы мае не мыты,
Ні сталы мае не пакрыты.
Калі мая нявехна прыедзе,
Яна мае лавачкі памые
Да і сені памяце,
І маткаю назаве.
Памые лавачкі бяленька,
Накрые сталы цяненька,
Называе маткай радненькай.

247. Была, была ночанька, а ўжо свет,*
Свякроўка нявестку даўно жджэць,
А ўсю ночачку свечы жжэць.
Папаліла свечачкі сучаныя
Для сваёй нявесткі суджанай.
А пад белы свет — агаркі
Для сваёй нявесты-каханкі.
Каханка-нявеста, каханка,
А яе косанька-кованка.
Як наехалі кавалі,
А ўсё з чужыя стараны,
Яе косачку раскавалі
І істужкі пабралі.

248. Чыя гэта мамачка
Усю ночку не спала, 2
Сыночка й дажыдалася? 2
— Ці не едзе й дзіця маё,
Ці не вязе нявестачку, 2
Ручкам маім адменачку?
Яе пашлю, дзе будзе цяжэй,
Сама пайду, дзе будзе лягчэй.

249. Я ночкі не спала, нявестачку ждала.*
Даждала нявесту, я сабе памочніцу.
Туды-сюды яе пашлю, сама ўперад пайду.

Нявеста, нявеста,
А нявеста а ні з места.
Нявеста за мною, як гром з маланнёю.

250. Была, была ночачка, а ўжо дзень,
Свякруха нявестачку даўно жджэ.
— Дзе ты, мая нявехна, бывала?
Ці ў полі жыта зжынала,
Ці ў бару ягадкі збірала?
— Я ў полі жыта не жала,
Я ў лесе ягадкі не брала,
А ў свайго татачкі гуляла.
Гуляла ў татачкі колькі лет,
А прыстала к свякрухі на ўвесь век.

251. Учора была ночанька, а цяпер дзень,
Ужо свякроўка нявехну даўно жджэ.
Шыла яна шубаньку да долу,
Ды прыбудзь, нявехна, дадому.
Шыла яна шубаньку да зямлі,
Ды прыбудзь, нявехна, да сям'і.
Шыла яна шубаньку па пяты,
Ды прыбудзь, нявехна, дахаты.

252. Да нявехна ж мая кахана,
Не дзень, не два я ждала,
Закуль к сабе нявехны прыждала.
Хадзі ж, хадзі, нявехна, са мною,
Ушыю табе суканьку да долу,
Чорным собалям аблажу,
Да на цябе, нявехна, злажу,
Да на цябе харашэнька пагляджу.
Насі, насі, нявехна, здарова,
Ужо ж табе другая гатова.

253. Была ночка, да відна — ужо дзень,
Свякроў нявехну даўно жджэ.
Свякроў нявехны жадам жадае,
Па ўсіх дарогах старажы стаўляе.
— Едзь, мая нявехна, дадому,
Сшыю табе шубу да долу.

— Яшчэ, свякроўка, не пара:
Не ўзышоў месяц, ясна зара.

254. Свякруха нявесткі вельмі ждала
Да па ўсіх дарогах пірагі паклала.
У адну дарогу пірага не стала,
І з тае ж дарогі нявесткі прыждала.
— Нявестка мая, жадана мая,
Я ж цябе ждала як дзень, так ночку,
Да пакуль прыждала, уся мая ночка.

255. Свякроў нявехны да жадам жадала,
Да пытам пытала,
Па ўсіх дарогах старажы стаўляла,
А сама, старая, у варот стаяла
Да нявехны ждала.
— Ой, нявехна мая, да дзіцятка маё,
Да што ж табе міло,
Да мёд ці віно?
— Ні мёд, ні віно,
А міло да дзіцятка тваё.

256. Свякроў нявесткі
Жадам жадала,**
Па ўсіх дарогах
Старажоў стаўляла.
Дзе нявестка едзе,
Там сама стала.
— Не едзь, нявестка,
Ка мне гардліва,
Ды едзь, нявестка,
Ка мне шчасліва.
Не едзь, нявестка,
Ка мне ганарова,
Ды едзь, нявестка,
Ка мне пакорна.
Пусці ты долю
Па роўным полю,
Пусці ты шчасце
Па новай хаце.
Хай доля па полі

Усюды гуляе,
Шчасце па хаце
Усюды разглядае.

257. Ой жа, сонейка калясом грае,
Свёкар нявестку даўно жадае.
Даўно жадае і выглядае,
Па ўсіх вуліцах вехі ўстаўляе.
— Штоб мае дзіцяці не заблудзілі,
Штоб шчасця-долі не пагубілі.
Кінь сваю долю па маім полю,
Кінь сваё прыдолле ў мае надвор'е.

258. Ліс[ц]ем дарога прысцілаецца,
Свёкар нявестку дачакаецца.
Прыедзе нявестка
Прыгожа, урадліва,
На долю шчаслiва.
— Ой, доню, доню,
Распусці долю
Ды на маім полю.
Каб на маёй ніве
Жыта радзіла,
Каб у маёй аборы
Кароўкі рыкалі,
Каб у маёй стаенцы
Конікі іржалі,
Каб мая нявестка
Сына радзіла,
Каб яна радзіла
Дзевяць сыночкаў,
А дзесяту дочку.

259. Да свякроў нявестку да жадам жадае,
Да жадам жадае, да пытам пытае,
Да ў кожных варотах старажы стаўляе.
— Да каторы сторож да будзе шчаслівы,
Да ў тыя вароты да нявехна ўедзе.
Да выкіне сілу да на маю ніву,
Да выкіне долю да на маім двору.
Да каб мая ніва да была ўрадліва,
Каб мая нявехна да была шчаслiва.

260. Свякруха нявесту жадам жадала,
Жадам жадала, пытам пытала,
Па ўсім дарогам старажоў стаўляла.
— Стойце, мае старажы, едзе мая нявеста.
Не будзь, мая нявеста, вельмі хвасліва,
А будзь, мая нявеста, багата-шчаслiва.
Распусцi шчасце ды па маёй хаце,
Распусцi долю ды па майму полю,
А прыдоллейка — па застоллейку,
Ды здароўейка — на маю сямейку.
Каб мая хата ды была багата,
Каб мая нiва была ўрадлiва,
Каб мая сямейка была весяленька.

261. Свёкарка нявехну на вароцех страчае
Да долю пытае:
— Не будзь ты, нявехна, у мяне скваплiва,
Да будзь ты, нявехна, у мяне шчаслiва,
Разнясi ж ты сваю долю
Да па маему полю.
Разнясi ты свае шчасце
Па маiх адрынах.
Разнясi ж ты сваю долю,
Дзе бог жыта родзiць.
Разнясi ж ты свае шчасце,
Дзе худобка ходзiць.

262. Стаiць маманька ды на вулiцы, доўга жджэ,
Цi скора сын нявестачку прывязе.
Ды вязе нявестка,
Што сялячачкi пралi,
Што мяшчаначкi ткалi,
Белыя лебедзi на моры бялiлi,
А сястрыцы ў куфар злажылi.

263. — Ой, крапiся, зямелька, крапiся,
Што на цябе дробны дождкык iдзе.
Ой, радуйся, свякруха, радуйся,
Што сын да табе нявехну вязе.
Ой, ручную ды рабочую,
Да на дзела ахвочую.

— Сюды-туды да нявехну пашлю,
Ой, сама ж я ўпярод пайду,
Лепшае да дзела зраблю.
Ой, сама я да старэйшая,
Маё дзела да спарнейшае.
А свякруха як уюн ўецца,
А нявехна не павярнецца.
А свякруха, як ластаўка,
А нявехна, як засланка.

264. Ой, радуйся, матка, сын вязе нявестачку,
У хату карыстачку.
У хату шчабятуху, а ў клуню малатуху.
Шчэ ў клуні не малоціцца,
А ў хаце ўжо калоціцца.

265. Хвалілася,
Хвалілася Воўкава мамка:
— Да як буду да сына жаніці,
Дак не буду,
Дак не буду ўсю ночку спаці,
Буду к сабе нявехначку ждаці.
Ці не будзе,
Ці не будзе мамкаю зваці?
Ці не будзе,
Ці не будзе кашулечку мыці?
Да зачуў жа,
Да зачуў жа тое Васілька.
— Да не хваліся,
Да не хваліся, мая мамачка,
Да не тая,
Да не тая гадзіна настала,
Штоб нявехна мамкаю звала.

266. Ой, Толіна маці **
Да патаптала боты.
Да патаптала боты,
Да выходзячы за вароты.
Да патаптала анучы,
Да нявехначку ждучы.

267. Да Колеччына матка да выбіла да дарожачку,
Да выбіла да дарожачку, за вароты выбягаючы,
За вароты выбягаючы, на дуброву пазіраючы,
Да ці шуміць дубровушка, да ці пыліць дарожачка,
Да ці звіняць колы залатыя, да ці едуць дзеці маладыя.
— Ой, хваліць да цябе, божа, да шуміць да дубровачка,
Да й шуміць да дубровачка, да й пыліць да дарожачка,
Да звіняць колы залатыя, ужо едуць дзеці маладыя.
Да едзе мой сыночак, да вязе мне да павестачку,
Да вязе мне да павестачку — маладую да нявестачку,
Да й у хату работнічку, да на поле й ахвотнічку.

268. Васечкава мамачка *
Пару чаравічак стаптала,
За вароты выбягаючы,
На дуброву пазіраючы,
Ці шуміць зялёна дуброва,
Ці грыміць бітая дарога,
Ці бягуць коні вараныя,
Ці едуць дзеці маладыя.
— Вой, шуміць зялёна дуброва,
Вой, грыміць бітая дарога,
Дый бягуць коні вараныя,
Дый едуць дзеці маладыя.
Адно, адно едзе — раджонае,
А другое едзе — суджонае.
Раджонае шкадаваць буду,
А суджонае пасылаць буду
У крыніцу да па вадзіцу.

269. Іванаў бацюшка,
Іванаў радзімы,
Выйдзі за вароцечкі,
Прыпань ко дарожаньке:
Не шумяць лі калёса,
Не звіняць лі падковы?
Твой сын-сокал едзець,
Пераменушку вязёць,
У поле работніцу,
А ў доме кукобніцу,
Гаршкам прыбойніцу,
Гасцям прыветніцу.

270. — Васількава мамка,
Выйдзі за вароты, 2
Прыкладзі галовачку 2
А к белай бярозе 2
І к буйной дарозе,
Паслухай грымоты:
Ці дарожка грыміць, 2
Ці бярозка шуміць?
— Ні дарожка грыміць,
Ні бярозка шуміць.
Гэта мой сынок едзе,
Мне нявестачку вязе.

271. Іванькава да маманька
Па двару да пахаджае,
К дарожаньцы да прыпадае:
Чы не стогне да дарожанька,
Чы не шуміць да дубрpremoанька,
Чы не свішчуць да нагаечкі,
Чы не гукаюць маршалачкі,
Чы не бражжуць колы залатыя,
Чы не едуць нашы маладыя?
Застагнала да дарожанька,
Зашумела да дубраванька,
Засвісталі да нагаечкі,
Загукалі да маршалачкі,
Прыехалі нашы маладыя.

272. — Жоначкі-лябёдачкі, выйдзіце, паслухайце,
Ці не шуміць дуброўка зялёная,
Ці не стучыць дарожка шырокая,
Ці не ляшчаць падкоўкі сталёвыя,
Ці не бягуць конікі пігатыя,
Ці не вязуць канягіню багатую,
Ці не бягуць конікі пляснівыя,
Ці не вязуць канягіню шчаслівую?
— А стучыць, стучыць дарожка шырокая,
Бягуць, бягуць конікі пігатыя,
Вязуць, вязуць канягіню багатую,
Бягуць, бягуць конікі пляснівыя,
Вязуць, вязуць канягіню шчаслівую.

273. Іванаў баценька
За вароценькі выйшаў,
К дарозе прылягае
Ды дарогі слухае:
— Ці стогніць дарога,
Ці шуміць дуброва,
Ці едуць мае госценькі,
Ці ўсе вясёленькі,
Ці пяюць песенькі?
Адна невясёла,
Што ад бацька прывязёна.
Прывязёна ў ночы,
Заплаканы вочы.

274. З даліны вятры веюць,
З-за гары сваты едуць.
Шумяць лісты на каліне,
Чуваць сваты на даліне.
Шуміць лісток на бярозе,
Чуваць сваты на дарозе.
Шуміць лісток на дубочку,
Чуваць сваты ў дварочку.
— Выйдзі, татуля, з клеці —
Едуць твае дзеці:
Адно дзіця раджонае,
А другое — суджонае.
Адно дзіця сам радзіў,
А другое — бог судзіў.

275. Выйдзем, выйдзем, паслухаем,
Ці не едуць, ці не гойкаюць,
На конікаў ці не нокаюць,
Канчукамі ці не лопаюць.
Ай, чуваць сваты, чуваць,
Новыя колы звіняць,
Шоўкавыя павады шумяць,
Ай, вязуць, вязуць багатырачку.
— Ай, засцілай, мамка, парогі, парогі,
Вязуць нявестачку з дарогі, з дарогі.
Засцілай, мамка, столікі, столікі,
Вязуць нявестку здалёкі, здалёкі.

276. Ой, равуць коні, равуць,
Знаць, багатырачку вязуць.
Ой, да не так яны б раўлі,
Ды каб худобачку вялі.
Ой, ды з куфрамі, із пярынамі,
Ды із чорнымі із стварынамі.

277. Ды равуць валы, равуць,
Багатырку вязуць.
Вязуць скрыню з талярамі,
Едзе сама з ганорамі.
Мы таляры лічыць будзем,
А мы яе вучыць будзем.
Таляры мы палічылі,
А яе мы не навучылі.

278. Равуць коні, равуць,
Багатырачку вязуць.
А не так жа будуць раўці,
Як будуць кухарыкі вязці.
Ды вязуць карову рагату,
А нявестку багату.
Карова на цяленні,
Нявестка ж на нараджэнні.

*Радня маладой спявае:*

279. — Ой, равуць коні, равуць,
Багатырачку вязуць
З скрынкамі, з пярынкамі,
Пуховымі падушкамі.
А ў яго ні клеці, ні павеці,
Недзе куфраў падзеці.

*Свякройка пяе ў адказ:*

— А ты, сваццінька мая,
Усё няпраўданька твая:
Ёсць і клець, ёсць і павець,
Ёсць дзе і куфры падзець.

280. Ай, вумная-разумная Матрунка
Нагнала конікаў поўны двор,

Накацiла кублiкаў поўну клецъ.
А ў нашага свата нi клецi, нi павецi,
Нi клецi, нi павецi, недзе кублоў дзецi.

281. — Да чаго ты, дзевачка, без кубла,
Да цi кудзелькi не скубла?
Цi табе мамка не давала,
Цi самой ахвота не брала?
— А я i скубла, i прала,
I тры пачыначкi напрала,
Ды не знаю, дзе паклала.

282. Прала кудзельку — смыкацела,
Вязлi куфар — грукацела.
— Да нi я ж вiнна —
Матка мая, матка мая,
Чаму рана не будзiла, 2
Не будзiла,
Прасцi кудзелькi не вучыла.
Да не мне стыдна —
Матцы маёй, матцы маёй,
Што рана не будзiла.

283. Iрзуць конiкi, iрзуць **
I багатырачку вязуць,
I скрыню, пярыну,
Маладую княгiню.
I скрыню каваную,
I княгiню хаваную.
I скрыню каваль каваў,
I княгiню татка хаваў.
I скрыня з замочкам,
I Манечка з вяночкам.

284. Ой, чуваць сваты, чуваць,
Жалезныя колы звiняць, 2
Шаўковыя павады шумяць.
Ой, равуць конi, равуць,
Багатырачку вязуць 2
З скрынкамi, пярынкамi,

З пуховымі падушкамі,
З чырвонымі істужкамі.
А нашаму кубельнічку
Ляжыць сто рублей у ельнічку,
А пяюнням — пірог з макам.

285. Ды чуваць сваты, чуваць.
Ды па чом яны чуваць?
Ды па том яны чуваць —
Зялезныя колы стучаць.
Іржуць конікі, іржуць,
Багатырачку вязуць
З крынкамі, з пярынкамі,
З пуховымі падушкамі.
— Адвярніце, пакажыце,
Ды што ж там за княгіня,
Ці будзець гаспадыня?
Ці ўмеець таўчы-малоць,
Ці ўмеець ваду насіць,
Ці ўмеець дзяжу мясіць?
Таўчэ-меля — апыліцца,
Ваду нася — абальецца,
Дзяжу меся — абарвецца.

286. Ой, развяжыце дый пакажыце,
Што там за графіня,
Ці будзе добра гаспадыня?
Ці будзе ўмець печкі паліць
Ды свякровачцы гадзіць?
Развязалі дый паказалі —
Дый харошая графіня,
Будзе добра гаспадыня:
Будзе ўмець печкі паліць
І добра свякровачцы гадзіць.

287. Адвяжыце, пакажыце,
Што ж там за княгіня?
А княгіня — не княгіня,
А ці будзе гаспадыня?
Каб ля печы не стаяла,
З гаршка сала не цягала 2

І на кошку не казала.
Невялікая княгіня
І не будзе гаспадыня:
Толькі курам пасыпаці
І свінням памяшаці.

288. Ой, равуць валы, равуць,
Багатырачку вязуць.
Вязуць скрыню і пярыну,
Маладую гаспадыню.
— Адвяжыце, пакажыце,
Ці вялікая графіня?
Невялікая графіня,
Але ў нас будзе гаспадыня.
У вас пасціла авечкі,
У нас будзе каля печкі.
У вас пасціла свіння,
У нас будзя гаспадыня.

289. Да равуць коні, равуць,
Багатырку вязуць.
— Перастаньце, коні, раўсці,
Бо няма чаго вязці.
А ні скрыні, ні пярыны,
А ні з яе гаспадыні.
Свінням будзе памяшальніца,
Курам будзе пасыпальніца.
Яна свіней не накорме,
Курэй пад печ не загоне.

290. Выйдзі ж, матачка, паглядзі, паглядзі,
Што ж табе баяры прывязлі, прывязлі.
А прывязлі скрыню, пярыну, пярыну,
Маладую дзевачку, княгіню, княгіню.
Не так княгіню — нячосу, нячосу,
Што не ўмее косачкі часаці, часаці,
Толькі ўмее верабейкі пужаці, пужаці.
— Шугі-шугі, верабейкі, у таткавы канапелькі,
А ў свёкравы не буду, не буду,
Бо я ў свёкра жыць буду.

291. Выйдзі, выйдзі, мамачка, паглядзі,
Да што мы табе прывязлі:
Да ці авечку, ці ягня,
Ці з усяго свету паганя?
Ой, прывязлі гасцінец, ён жывы,
Гэта ж табе, мамачка, наравы.

292. — Выйдзі, выйдзі, свёкарка, паглядзі,
Што мы табе сягоння прывязлі:
Ой, ці то козачка, ці казяня?
Ці малада Олечка, ана?
— Ой, калі ты козачка,
То бяжы ў двор,
А калі малада Олечка,
То ступай на прастол.

293. — Падыдзі, мамачка, да століка, паглядзі,
Ці харошую нявестачку прывязлі.
Ці будзе ўмець гаспадарачкай кіраваць,
Ці будзе ўмець тваёй старасці шанаваць?
— Хоць харошая, не харошая — хай будзе,
Ніхто за яе работкі рабіць не будзе.

294. Да выйдзі, выйдзі, мамулька, паглядзі,
Ці харошую табе нявехну прывязлі.
Як яна будзе па тваёй хатцы хадзіці,
Ці будзець яна табе старэнькай гадзіці,
Ці будзець яна тваймо сыночка ўважаць,
Ці будзець яна табе піцькі падаваць?

295. Паглядзі, мамачка, у аконца,
У двары месячык ды сонца,
Ясны месячык ды сонца.
Ясны месячык — сын твой,
Ясна сонейка — нявестачка.

296. Выйдзі, маці, паглядзі,
Што мы табе прывязлі:
Ці шляхцянку,

Ці мяшчанку,
Ці з сям'і сялянку?
Выйдзі, маці, з хаты,
Не забудзь папытаці:
Ці ўмее кросны ткаці,
Ці ўмее наравації?
Каб ніт не путаўся,
Каб бёрда не зламалася.
Каб свёкар не дзівіўся,
Каб людзі не смяяліся.

297. Выйдзі, маценька, на паместачка
Ды пабач нявестачку
Нашага панічэнька,
Ці прыгожа на тварыку,
Ці хараша ўбрана
Наша маладая.
Ды не забудзь запытаці,
Ці ўмее кросны ткаці,
Ці ўмее наравіці,
Каб бёрда не пабіці,
Каб ніт не ніціўся,
Каб свёкар не сварыўся.

298. Выйдзі, мамачка, паглядзі,
Каго мы табе прывязлі.
Прывязлі саву ў рукаву,
А прывязлі кошку ў лукошку,
А прывязлі драча, што плача.
А прывязлі саву курэй драць,
А прывязлі кошку ложкі мыць,
А грача, што плача.

299. — Выйдзі, мамачка, на ганачку пастаі:
Ці добрую нявестачку прывязлі?
Калі добрая — вядзі яе ў камору,
А нядобрая — адпраў яе дадому.
— Калі добрая — у печы пятух пячэцца,
А нядобрая — у клеці бізун пляцецца.
Калі добрая — будзем добра частаваць,
А нядобрая — будзем бізуном паганяць.

300. Выхадзіт-ка,
Свацц命 новая,
Выхадзіт-ка ты,
Матка родная,
Састрэнівай
Сваю чаданьку,
Ай, чаданьку
Параджанага.
Ён едзіць жа
З бальшой цэркві,
Ай, вязець жа ён
Пераменушку.
Пераменушка
Маей матушке,
На пасылачках
Майму бацюшке.
Ай ты, радуйся,
Мая матушка,
Цяпер ёсць каго
Табе гукаць,
Цяпер ёсць каго
На работу слаць:
Ці ў полі жаці,
Ці ў гародзе капаці,
На параначкі
Жывацінку гнаці,
Ці ў бяседушку
Ідзіць гуляць.

301. Выйдзі, мамачка, паглядзі,
Што табе баяры прывязлі.
Маладую чырачаньку ў двор прывязлі,
Яна будзе шчабятаць і крычаць,
Старую свякруху [illegible] двору выганяць.
— З сваім мілым, сваім любым
У гэтым двару буду векаваць,
Дробных дзетак буду гадаваць,
Свайму міламу буду ручку цалаваць.
— Мілы мой, а я твая,
Прыкрый палок, каб не азябла.

302. Устань, мамачка, даўно спіш —
Прывязлі ж табе рыжую мыш.

Устань, мамачка, з каморы —
Прывязлі табе прытвору.
Выйдзі, мамачка, з карытцам —
Прывязлі нявестку сварыцца.

303. Адчыні, мамухна, новы тын,
Мы вязём нявесту, як твой сын.
Адчыні, мамухна, ваконца,
Мы вязём нявестку, як сонца.
Вот табе, мамухна, паслужка,
А мне, маладому, падружка.
Табе, мамухна, піць падаваць,
А мне, молайцу, пасцель слаць.
Загадай, мамухна, як хаця,
Пагадай, мамухна, як дзіця.

304. Адчыні, татачка, новы двор,
Едзе сынок твой.
Вязе нявесту, як зару,
Табе, татачка, за слугу,
А мне, татачка, за жану.
Табе, татачка, пасылаць,
А мне гора падзяляць.

305. — Адчыняй, мамачка, новы двор,
Не татарын едзе — сынок твой,
Не татарку вязе — нявехну.
— Нявехна кахана мая,
Да ні года, да ні два чакала,
Чуць к панядзелку прыждала.
К лютай зіме плаццясь праць,
І к вясне-красне кросны снаваць,
І к цёпламу лецечку жыта жаць.

306. — Адчыні, мамачка, новы двор,
Ці не госцік едзе — сынок твой,
Ці не госцю вязе — нявехну.
— А нявехна мая кахана,
А ні год, а ні два чакала,
Я ж сабе чалядзіну прыждала.

Да туды ж і сюды ж пашлю,
А сама ж я ўпярод пайду.
Мая лытка таўсцейшая.
А сама я ўпраўнейшая.

307. — Паглядзі, свякроўка, у аконца,
Вязе сын нявехну, як сонца.
Адчыняй, свёкратка, да вароты,
Вязе сын нявехну, як золата.
Адчыняй, свёкратка, да каморку,
Вязе сын нявехну, як зорку.
Да высоку, высоку, як вярба,
Да здарову, здарову, як зіма,
Да вясёлу, вясёлу, як вясна
Да рабочу, рабочу, як лета, 2
Да багату, багату, як восень.

*У адказ:*

— Выйшла сонейка, іграе,
Спіць мая нявехна, не дбае.
Узыйшло сонейка, да ўгору ідзе,
Калі мая нявехна з каморы ідзе.

308. — Адчыні, свякратка, варота,
Бо едзе нявехна, як злота.
Адчыні, свякратка, аконца,
[Бо едзе нявехна, як сонца.]
Да ўж месячык на перакрої,
Да ўж суджанька ў паўдарогі.
А яго матка сустрачае,
Сваю нявехну віном-мёдам вітае:
— Да нявехна ж мая,
Да маладзенька,
Да не будзь хлуслівa,
Будзь шчаслівa,
Распусці долю
Да па сваём полі,
Шчасце пры долі,
Па маём падвор'і.
Каб у мяне на полі
Да жыта радзіла,
Каб мая сямейка

Вясёла хадзіла.
Каб маё падвор'е
Не схмурнела,
Каб у мяне на полі
Да жыта радзіла.

309. — Запалі, мамка, жыжу,
Вязуць табе грыжу.
Запалі, мамка, агонь,
Вязуць табе ражон.
Запалі, мамка, свечку,
Вязуць табе спрэчку.
— Я ж яе не баюся,
Я з ёю адгрызуся.

310. — Адчыні, матулька, варота,
Вязём табе нявехну, як злота.
Адчыні, матулька, ваконца,
Вязём табе нявехну, як сонца,
А прымі, матулька, карытца,
Вязём табе нявехну сварыцца.
— А я вароцечкі адчыню,
А я нявестачцы дагаджу.
Праз ваконца буду глядзеці,
Як мая нявестачка прадзеці.
Нашто нам з нявестачкай сварыцца,
Будзе мне нявестачка карыцца.
Яна ж будзе ў каморы спаці,
А я буду дзіця калыхаці.

311. Адчыняй, матка, варота,
Вязем нявестку, як злота.
Адчыняй, матка, дзверы,
Вязём нявестку, як звера.
Адчыняй, матка, верх, верх,
Вязем нявестку, як мех, мех.
Запалі, матка, свечку,
Вязем нявестку, як сечку.
Адчыняй, матка, хату,
Вязем нявестку багату.
Адчыні, матка, аконца,
Вязем нявестку, як сонца.

312. Расчыні дзверы, новы двор,
Вязём нявестку на выбор.
Не сядзі, дзеверку, не сядзі,
А выйдзі на двор, паглядзі,
Што мы табе прывязлі —
Не гэтых палёў красачка,
Не гэтых садоў яблычка,
Не гэтых дзевак дзевачка.

313. — Адчыні, мамачка, новы двор,
Вязём нявехну на выбор.
А не нашых бароў ягадка,
Не нашых палёў кветка.
Адчыні, матка, хіжу,
А вязём у хату грыжу.
А хіжу замчыстую,
А грыжу вяньчыстую.
— А хіжу замыкаць будзем,
А грыжу сунімаць будзем.

314. Прачыні, свякроўка, новы двор,
Едзе к табе нявехна і сынок твой.
Прачыняй, свякроўка, новыя варота,
Вядзём табе нявехну з балота.
Да вынось, свякроўка, нову дзяжу,
Бо вядзём табе нявехну дзеразу.

315. — Адчыняй, мамулечка, новы двор,
Вязём табе нявестку на выбор.
Адчыняй, мамулечка, новы тын,
Вязём табе нявестку, як твой сын.
Адчыняй, мамулечка, ваконца,
Вязём табе нявестку, як сонца.
Адчыняй, мамулечка, хатачку,
Вязём табе нявестку, як красачку.
— Не ўспею, дзіцяткі, не ўспею:
Хаджу па двару і мак сею,
Дажыдаю ўсхода зелянога,
Дажыдаю макаўкі чырвонай.
Зеляненькі ўсход — мой сынок,
Чырвоная макаўка — нявестка.

316. Адчыняй, мамка, новы двор,
Вязуць нявестку на выбор.
Адчыняй, мамка, клецечку,
Вязуць нявестку цветачку.
Адчыняй, мамка, вяршочак,
Вязуць нявестку з вярчочак.
Ды вязуць патвор на двор,
І што з гэтага патвора будзець,
Яна на цябе балотам кідаць будзець.

317. Адчыні, мамка, хату і сені,
Дзве пташачкі прыляцелі:
Верабей з перапёлкай,
Стасік са сваёй жонкай.
Мамка свечкі шукала,
Свечка ў зёлкі ўпала:
То ў руту, то ў мяту,
— Прашу, дзетачкі, ў хату.

318. Паглядзі, свякроўка, праз вакошачка,
Прывязлі нявесту, як кошачку.
Паглядзі, свякроўка, праз шчыліну,
Прывязлі нявестку, як пчаліну.
Паглядзі, свякроўка, праз дзірачку,
Прывязлі нявестачку, як сцірачку.
Ты выйдзі, свякроўка гарбатая,
Прывязлі нявестку багатую.
Ты выйдзі, свякроўка, шчадрывая,
Прывязлі нявестку шчаслівую.

319. Падзівісь, мамачка, ў балону,
Прывязлі табе варону,
Падзівісь, мамка, ў кніжачку,
Прывязлі табе стрыжачку.

320. Зірні, свякруха, ў куток:
Сядзіць нявестка, як мяшок.
Зірні, свякруха, на паліцу:
Сядзіць нявестка з рукавіцу.
Зірні, свякруха, за стол:
Сядзіць нявестка з пастол.

321. Адкрывай, сваццbackground, вароты —

Вязём мы табе турботы:
На ўсю ночачку — шаптушкі,
Пад галовухну — падушкі,
А на ножухны — дзяружкі.

322. Весяліцеся, людзі.
Ой, весяліцеся, людзі,
Багатырачка ідзе,
Сем воз дабра вязе,
На васьмом сама едзе,
На дзевятым каравай дзержыць.
Яна ў лесе гадавалася,
Сем лет не ўмывалася,
А на восьмым умылася.
Ой, на восьмым умылася,
Яна нам спадобілася.

323. Саступіцеся, варожанькі,
З нашае да дарожанькі:
Будзе ехаць багатырачка.
Сем воз дабра вязе,
А на восьмым да сама едзе, 2
А за ёю ўвесь тавар ідзе. 2
Уся бацькава худобанька, 3
Дзевачка да малодзенька.

324. Расступайцеся, людзі,
Багатырачка едзе
Да багата дабра вязе:
З новымі да кубельцамі,
З тонкімі палаценцамі.
З тонкімі да беленькімі,
Да з паперaю раўненькімі.

325. Адчыняй, бацeньку, варота,
Ідзець табе нявеста багата
Да вядзе конікі стракаты,
Да вядзе волікі рагаты,
Да вядзе цялушкі цялісты,

Да жане авечкі ваўністы,
Да вязе пчолікі мядзісты,
Да ляцяць гусанькі пярысты,
Пытаюцца дзеванькі, дзе сесці.

326. Адчыняй, татачка, новы двор,
Ой, едзе сынок твой
Да вязе нявехну багату,
Да вязе кароўку рагату,
Да вязе авечку касмату,
Да вязе гусачку з дзюбкаю,
Да сядзіць сам жа з любкаю.

327. Адчыняйце ж вароты,
Й адчыняйце залоты:
Повен двор статку жане,
Поўну клецъ дабра вязе.
Статачку да рагатага
Ад бацькі да багатага,
Мацеры да разумнай.

328. Не ўпалыхайся, свякратка,
Багатую ды нявестку вязуць:
Чараду статка гоняць,
У куфары чырвонцы звоняць.
Кароўкі ды ўсе дойныя,
Падцёлкі ды ўсе цельныя,
Авечачкі ды ўсе котныя,
Свіначкі ды ўсе паросныя.

329. — Выйдзі, выйдзі, мая матанька, з хаты
І прымі маю дружыну да хаты.
— Як будзеш, маё дзіцятка, прахаці,
То й прыму тваю дружыну да хаты.

330. Ой, не рой, не рой, яра пчоланька, па бору,
Ідзе Колечка із дружынаю дадому.
Як прыехаў ён пад вароцечкі, схапіўся,
Сваёй матаньцы да белых ножак скланіўся.

— Ой, не гаруй, мая мацюнка, на мяне,
Што я прывёз чужое дзіця да цябе.
— Чы добры будзеш, мой сыночак, ля мяне,
То прыму чужое дзіця да сябе.
Як горды будзеш, мой сыночак, да мяне,
То адашлю чужое дзіця ад сябе.

331. Не відаць месяца із-пад аблака,*
Не відаць Ванюшкі із бальшой паязды,
Толькі відаць, толькі відаць адна шапачка.
Шапка на ім, шапка на ім, што жар гарыць,
Конь пад ім, конь пад ім, как арол, ляціць.
— Матушка родная, матушка родная, перараймай гасцей,
Коні мае, коні мае прытаміліся,
Мая малада, мая малада пераплакалася.

332. Каціўся хмельнічак пад вароцікі,
Прасіў-маліў адчыніць вароцікі:
— Ды ўжо ж мае конікі застаяліся,
Ды ўжо ж мая дружбанька замарозілася,
Ды ўжо ж мая Марылька засмуцілася.
— Ды ўжо ж тваіх конікаў у стайню паставім,
Ды ўжо ж мы тваю дружбаньку сагрэем,
Ды ўжо ж тваю Марыльку развеселім.

333. Сізыя галубы па бару лятуць,
Сізую галубку з сабой вядуць.
Малады Колечка ад цесця едзіць,
Маладу Валечку з сабой вязець.
— Адчыняй, татачка, мне вароцечкі,
Адчыняй, татачка, мне цісовыя:
Ужо мае конікі памарыліся,
Ужо мае браточкі ўсе згуляліся,
Ужо мае сваточкі ўсе спяяліся,
Ужо мае скрыпачкі ўсе сыграліся.
Да парваў шапачку я знімаючы,
Нізкія паклоны адбіваючы.
Ужо мая Валечка сасмуцілася,
Да ў паўдарожкі варацілася.

334. За гарой, за крутой калакол звініць,*
А хто ж там едзіць, як сакол ляціць?
Іванька ж там едзіць, як сакол ляціць.
Прыехаў к варотам, стукнуў ботам:
— Татухна родны, адчыні вароты,
А то ж мае конікі перабегліся,
Я і сам, маладзец, перапаўся,
Пакуль да двору дапытаўся.

335. Ціхая пташачка салавеечка
Раненька ў зялён сад прылятаець,
Ціхія песенькі ўспяваець.
Нежнае дзіцятка Лёнечка ў мамкі,
Нежнае дзіцятка Лёнечка ў таткі,
Праехаў к варотам, стукнуў ботам:
— Адчыні, мамулька, мне вароцікі.
— Не адчыню, сынок мой, чаго бавіўся?
— Адчыні, мамулька, я пажалюся:
Я ж гэту ночаньку а ўсю не спаў,
Я стаміў коніка гарцуючы,
Я стаптаў боцікі танцуючы,
Я сцёр-змяў шапачку — кланяўся,
А змачыў платочак — уціраўся,
Да свае Евачкі дабіваўся.

336. Ціхая пташачка салавеечка,*
Ён ляціць і крычыць на каліначку:
— А не стой, каліна, дзе я ляту,
Я табе, каліна, вяршок зламлю,
Я твае, каліна, ягадкі склюю.
Ціхае дзіцятка молад Ванечка,
Ён едзець і клічаць татульку,
Ён едзець і клічаць свайго роднага:
— Адчыняй, татулька, мне вароцікі,
Адчыняй, родненькі, мне шырокія.
Ужо ж мае конікі памарыліся,
Ужо ж мае сваточкі патаміліся,
Ужо ж мая музыка сыгралася,
Ужо ж мае свацьцы спяяліся,
Ужо ж мая дзевачка сплакалася.

337. Цыранькі птушачкі, салавеенькі,
Ціха яны з куста на куст пералётваюць,
Цішэй таго Якубка, ён на двор уз'язджаў.
Ён на двор уз'язджаў сваім братцам крычаў:
— Братцы мае, братцы, удалы малайцы,
Выйдзіце вон, выйдзіце вон з высокага церама,
Прыміце вы, братцы, маіх коней і людзей,
І коней, і людзей ды і дваіх маладых.
Вараныя коні — папрыбегаліся,
Дуданькі-весялухі — папрыгудзіліся,
Скрыпанькі-разухі — папрырэзаліся,
Свацейкі-спявухі — папрыпяяліся,
Дзеванькі-скакухі — прыскакаліся,
Сам, маладзец, Якубка — перазяб-перадрог,
Маладая Ганнуля — перапужалася,
З румянага лічыйка перапалася.

338. Зялён сад-вінаград павіваецца,*
Колечка ў матулькі дазваляецца:
— А матулечка, а родная, пусці ў двор,
А ўжо нашы аўтобусы набуксаваліся,
І ўжо нашы сваточкі зажурыліся.
— Колечка, сыночак, едзь у двор, мы праждаліся.
І ўжо ў нас сталочкі пазасціланыя,
І ўжо ў нас румачкі паналіваныя.

339. Агнём, конікі, агнём,
Да не бойцеся жару.

340. Чаму вы нас не вітаеце,
Пра здароўе не пытаеце:
Чы гаразды мы з'ездзілі,
Чы і ўсе і да прыехалі?
Паехала да дзевяцера,
Прыехала да дзесяцера.
Дзесятая прылучылася,
Яна нам знадобілася.
Дзесятая багатая,
Вумная-разумная.
Ступіць — не пахіліцца,
А што скажа — не памыліцца.

341. Ой, выйдзі, выйдзі, родны бацюшка, раненька
Да прымай мяне да з дарожанькі барждж энька,
Бо мне ў дарозе, родны бацюшка, ганьба была,
Да што я табе маладу нявехну ўмовіла,
Да што я з яе руцьвян вяночак ізняла,
Да што я яе ў белы рубочак павіла.
Да затое мне, родны бацюшка,
У дарожаньцы ганьба была.

342. Не было ветру, навеяла,
Не было дажджу, намачыла,
Не было гасцей, панаехалі.
Прыехаў Кірылка з сваей княгінюшкай.
— Выйдзі, бацюшка, на ўлушку,
Пераймай мяне, малодчыка.
Прывёз табе слугу верную,
Сабе жонку маладую.

343. Вось табе, мая мамачка,
Дый чужое дзіцятачка.
А я вёз дый не ленаваўся,
А ты пасылай, дый не чурайся.
Яе пашлі дый сама ідзі,
Ей загадай дый сама зрабі.

344. Ой, на табе, матка,
Ды чужое дзіцятка.
Жыві харашэнька з ею,
Ды загадвай ты ею.
На ніўку яе пашлі,
А сама наперад пайдзі.
Яе пашлі на шыроку,
Сама пайдзі да на вузку:
На шырокай — жыта жаці,
На вузенькай — паляжаці.

345. Зоранька світовая світае,
Мар'юхна варота таргае:
— Адчыні, баценька, варота,
Ось табе нявестка малада.

Чорны очы заплакала,
Што косаньку пастрадала.

346. — Адчыні, матка, ды варота,
Вязу табе нявехначку, як злата.
— Ой, рада ж я прыняці,
Ды не знаю, як назваці?
Ці з сяла сяляначка,
Ці з места мяшчаначка,
Ці з двара двараначка?
— Ні з сяла сяляначка,
Ні з места мяшчаначка,
Ні з двара двараначка,
А з Валыні ды валыначка,
Будзе ў хаце гаспадынечка.

347. Да прыехаў Іванка,
Да прывёз да баярачку,
Пасадзіў да на ганачку,
Сам пайшоў у хатку
Па сваю родну матку.
— Мамачка мая родная,
Прывітай да баярачку,
Што стаіць да на ганачку.
Што стаіць завітая,
Хустаю накрытая.
— Дзіцятка маё, малады,
Рада б я прывітаці,
Ды не знаю, як назваці.
— Прывітай да гарэлкаю,
Назаві да нявехнаю.
Прывітай да віном саладзенькім,
Назаві дзіцем маладзенькім.

348. Прывёз судженька да баярачку,
Паставіў да на ганачку,
Сам скочыў у святліцу
Да роднай сястрыцы:
— Сястрыца мая родная,
Прымі тую да баярачку,
Што стаіць да на ганачку.

— Брацітка мой родненькі,
Рада б я да прыняці,
Да не ведаю, як назваці.
Назвала б я па імені,
Да баюсь, каб не пані?
— Сястрыца мая родная,
Да не ёсць яна пані,
Ёсць яна да валыначка,
Маладая да князіначка,
У гэтым доме гаспадынечка.

349. Да прыехаў малойчык,
Прывёз завівалначку,
Паставіў на ганачку,
Сам пайшоў да святліцы,
Да роднае сястрыцы:
— Прывітай завівалначку,
Што стаіць на ганачку.
— Да як жа мне прывітаці,
Калі не ўмею назваці.
— Назві хоць валынкаю,
Будзе ў хаце гаспадынька.
Сустрэў свякратка яе і пытзецца:
— Ці ўмееш усё дзела рабіць
І ці маеш, мая нявехна, чым дзяжу накрыць?
— Свякратку, мой татку,
Штоб я была за маладзенька,
Каб не ўмела ўсяго дзела рабіць
І каб не мела чым дзяжы накрыць.

350. А ўзышоў месячык над ракою,*
Узвёў зорачку за сабою,
Паставіў зорачку ў рад з сабою.
— Тут табе, зорачка, свету ждаці,
А мне, месяцу, падсвячаці.
А ўз'ехаў Віцечка ды на мамкін двор,
А ўзвёў за сабою Леначку,
Пасадзіў Леначку ў рад з сабою.
— Тут табе, Леначка, век векаваці,
А маю мамку паважаці,
Роднаму татку піць падаваці,
А мне, маладому, пасцель слаці.

351. Як прыехаў наш Іванька з вайны
Да паставіў каравая пад сяньмі,
Да прыйшоў прасіць баценька,
Каб каравая памог нясці.
— Надаела каравая насіць,
Мая правая ручка баліць.

352. Ой, ўзышоў ясён месяц над ізбою,*
Ён узвёў зараньку за сабою.
— Вот табе, зоранька, цёмна ночанька,
Ах, і мне, месяцу, дробны звёздачкі.
Уз'ехаў Шурачка на мамчын двор,
Ён узвёз Кацечку і з сабою.
— Вот табе, мамулька, верна слуга,
Ах, і мне, маладому, навек жана.

353. Узышоў месячык над ізбой,
Ён вывеў зараньку за сабой.
— Стань, мая зоранька, поплеч са мной,
Асвецім мы з табой зямлю і ваду,
Зямлю і ваду, і Мар'юшку маладу.
Уз'ехаў Іванька к татку на двор,
Ён узвёз Мар'юшку з сабой.
— Стань, мая Мар'юшка, поплеч са мной,
Мы ж будзем кланяцца разам з табой.
Я ж буду кланяцца свайму татухну,
Ты ж, малада,— свякратухну.
Я ж буду кланяцца сваей матушкі,
Ты ж, малада, — свякровухні.
Я ж буду кланяцца свайму брацiку,
Ты ж, малада,— дзевяратухну.
Я ж буду кланяцца сваей сястрыцы,
А ты, малада,— заловушкі.

354. Узышоў месячык над ізбою,
Ён узвёў зараньку за сабою,
Паставіў зараньку поплеч сябе.
— Стой, мая зоранька, як я стаю,
Я ўжо, месячык, настаяўся.
Свяці, мая зоранька, як я свячу,

Ой, я ўжо, месячык, насвяціўся,
Па цёмных тучаньках нахадзіўся.
Уз'ехаў Пятрушка на бацькін двор,
Ён узвёў Аўдотку за сабою,
Паставіў Аўдотку поплеч з сабою.
— Стой, мая Аўдотка, як я стаю,
Служы, мая Аўдотка, як я служу.
Ой я, маладзец, наслужыўся,
Па цёмных ночках нахадзіўся.

355. Узышоў месяц над ізбой,
Узвёў зораньку за сабой.
— Вот табе, божанька, палуночніца,
А мне, месяцу, палусветніца.
Уз'ехаў жанішок на бацькін двор,
Ён узвёз княгіньку за сабой.
— Вот табе, татанька, разувальніца,
Вот табе, мамухна, пасцельніца,
Табе, брацец, жартоўніца,
А вам, сястрыцы, касаплётніца,
А мне, малойцу, малада жана.

356. На дварэ дождж ідзець — папрыкаець,
У Лёнечкі шапачка паблекаець,
А ў яго мамулька родная пытаець:
— Сыночак родненькі, дзе барыўся?
— Мамулька родная, пакуль справіўся.
На чужой старане не па-нашаму:
Па лугам-берагам шоўкі растуць,
Па быстрых рэчачках мяды цякуць.

357. — Дзе ж ты, малойчык, забавіўся,
На цябе татачка загневаўся.
— Я свайму татачку спакаруся,
Нізка ў ногі пакланюся.
— Татачка мой родненькі,
У чужой старане не па-нашаму.
Ды змарыў коніка гарцуючы,
Ды стаптаў боцікі танцуючы,
Ды змяў шапачку, у руках носячы,
Стурбаваў галоўку, цесця просячы.

358. Іванава мамачка па двары хадзіла,
З зорачкамі гаварыла:
— Зорачкі мае ясныя,
Дзеткі мае маладзенькія,
Чаго гэта вы спазніліся?
— Былі коні нашы ў полі,
Пакуль коні палавілі,
Маладзенькіх запазнілі.

359. Не сварыся, мая маманька,
Не сварыся, мая родная,
Што мы доўга так барымся.
Было зачым забарыціся,
Ёсць на што падзівіцеся.
Мы не спалі, не драмалі,
Што хацелі, то выбіралі.
Выбралі сабе адную
Любачку да маладую.
Высокая, як яліна,
Чырвоная, як і каліна,
Яшчэ вышэй ад яліны,
Чырванейша ад каліны.

360. Сягоння рана мамка сыночка вітала,*
Яна ж у яго ўсю праўдачку пытала:
— Дзе ж ты, сыночак, гэту ночку начаваў?
Дзе ж ты, сыночак, сабе радзімку назбіраў?
— Начаваў я, мая мамачка, ў прыдвор'і,
Радзімку збіраў, мая мамачка, на полі.
— Што абсела цябе радзімка чужая,
Маёй радзімкі ля цябе нідзе не відаць.
Цяпер табе будзе гэта радзімка мілая,
А мая будзець табе радзімка чужая.

361. А дымна поле, дымна,
А нічога не відна.
Там Іванька з вайны едзіць,
Татка яго пераймаіць,
Пра ваёнку пытаіць:
— А Іванька, дзіця маё,
А ці добра ваявалі?

— Татулечка мой родненькі,
А не я ваяваў жа,
Ваявала цёмна ночка
І вострая шабелечка.
Сівы кося пада мною,
А гаспод бог і са мною.

362. Не лажыся, маці, спаці,
Ідзі дзеці сустракаці.
Сяяці, маці, да лучынаю,
Сын прыехаў да з дзяўчынаю.
Свяці, маці, да газніцаю,
Сын прыехаў з маладзіцаю.
Выйдзі, маці, як дзень белы,
Бо прыехаў сын твой мілы.
Выйдзі, маці, за варотачка,
Бо прыехала да нявестачка.

363. Ой, мамачка мая, [выйдзі,]
Не зрабілі мы табе крыўды,
А зрабілі мы табе славу,
Што прывезлі дзяток пару:
Аднае дзіця раджонае,
Другое дзіця суджонае,
Аднае — хатку мясці,
Другое — парадак вясці.

364. Ой, чуваць сваты, чуваць,
Каваныя колы стучаць.
Выйдзі, маці, з клеці,
Перайммі свае дзеці:
Адно дзіця раджонае,
А другое — суджонае.
Адно дзіця любіць будзеш,
А другое — судзіць будзеш.
Адно дзіця спаць будзе,
А другое — патураць будзе.

365. Зачыняй, свякроў, хату,
Вязуць табе бяду ў хату.

Свякроўка збаялася,
Пад прыпечак схавалася,
Ступай закацілася,
Памялом пакрылася.

366. Кланяйся, Зеха, і маей радні,
Я тваей, Азар, накланяўся,
Хоць за цябе і сватаўся.
Выхадзі, свякрова санлівая,
Сустракай нявестку шчаслівую,
Выхадзі, свякрова багадзельная,
Сустракай нявестку рукадзельную,
Выхадзі, свякрова гарбатая,
Сустракай нявестку багатую.

367. Коціцца-валіцца із кублом, із дабром,*
Выхадзі, свякроўка, ой, санлівая,
Устрачай нявесту, ой, красівую.
Коціцца-валіцца із кублом, із дабром,
Выхадзі, свякроўка, ой, гарбатая,
Прынімай нявесту, ой, багатую.
Прывязлі нам нежанку, прывязлі манежанку,
У нас парогі высокія, у ей ногі кароткія.
Мы паложам кладачкі, перавязём манежанку.
— У нас не будзеш нежыцца, у нас не будзеш манежыцца,
У нас раненька ўстанеш, у нас позненька ляжаш.

368. Выйдзі, свякруха гарбата,
Прыехала нявестка багата.
Выйдзі, свякруха з гарбом,
Прыехала нявестка з дабром.
Выйдзі, свякруха, паглядзі,
Што мы табе прывязлі:
Ці асла, ці асліцу,
Ці дзеўку, ці маладзіцу.
Хоць мы ночку не спалі,
Табе сем'яніна прыдбалі.

369. Ждала свякрова нявестку,
Кунамі двор слала.

— Каб мая сіла была б,
Я золатам двор выбіла б.
— Выхадзі, свякрова гарбатая,
Сустрачай нявестку багатую.

370. Маці дзяцей дажыдала, дажыдала, *
Віном сені палівала.
— Каб мае сені шумавалі,
Каб мяне дзеці шанавалі.
Шумуйце, сені, шумуйце,
Шануйце, дзеткі, шануйце.
Я ж цябе, сынку, гадавала
І нявестачку дажыдала.

371. Прыбірай, маці, куточак,
Да прыедзе ж сын-сакалочак,
Да прывязе табе вестачку —
Маладую да нявестачку.

372. Мамачка-вутка,
Увівайся крутка,
Знай сваё дзельца,
Сцялі палаценца
Ад варот да клеці:
Едуць твае дзеці.
Адно — раджонае,
А другое — суджонае.
Адно — нараджала,
Другое — выбірала.

373. Засцілай, мамка, парогі,
Едзе жа твой сын з дарогі,
Засцілай, мамка, столікі,
Вязуць нявесту з далёкі.
Нясі, мамка, белы сыр,
Едзіць жа твой мілы сын.
Адчыняй, мамка, акяніцу,
Вязуць нявесту-чараўніцу,
Адчыняй, мамка, ваконца,
Вязуць нявесту, як сонца.

374. Да вынесь, мая мамачка, лапату,
Да вязём табе нявехну ў хату.
Да вынесь, мая мамка, дзяжу,
Вязём табе нявесту, як дзеразу.
Да адчыні, мамачка, новы двор,
Едзе к табе нявехна і сын твой.

375. Закідай, маці, лапату на хату,
Прывезлі табе гуркату ў хату.
Да думай, матухна, шчэ й гадай,
Да чым нявестку прывячаць:
Да ці жытнічкам, ці пшанічнічкамі,
Ці варэнікі ў масле,
Ці гарэлачка ў пляшцы?

376. Вынось, маці, дзежку,
Прывёз сын нявестку:
Да каморы ключніцу,
Да хаты работніцу.
Чом, маці, не выходзіш,
Чом дзежкі не выносіш,
Чом нявесткі не просіш?

377. Вынось, маці, дзежку, 2
Сын вязе нявестку: 2
Да каморы — скрыню,
Да хаты — гаспадыню,
Да сяней — рагатуху,
Да ганку — памятуху.

378. Вынось, маці, дзежку, *
Бо прывёз сын нявестку:
Высоку, як яліну,
Чырвону, як каліну.
Яе пашлем плацця праці,
Самі пойдзем муку браці.
Яе пашлем да каровы,
Самі пойдзем да каморы.

379. — Тупу, конікі, тупу,
Прывёз маршалак ступу.
Ні скрыні, ні пярыны,
А ні з яе гаспадыні.

*Сванька адпявае:*

— Няпраўданька ваша,
Наша маладая ўдалася,
Е скрыня і пярына,
Будзе з яе гаспадыня.

380. Пастаў, бацька, леску,
Прывёз сын нявестку,
Пастаў другую,
Прывёз сын маладую.

381. — Выйдзі, татачка, нам на двор,
Звіўся раёчак паз гумно,
А нявестачка грым на двор.
— Ці раёчак аграбаць,
А ці нявехначку пераймаць?
Папераду раёчак аграбу,
Любую нявехну перайму.

382. Выходзь, мамачка, з векам,
Сустракай сваіх дзетак:
Роднага — сыночка,
Наваяўленую — дочку.
Сустракай сваіх дзетак
З чараю мёду,
Каб былі твае дзеткі
Любы ўсяму роду.

383. Тупу-тупу каля дзежачкі
Да радзі, божа, сыраежачкі.
Ці мне сыраежачкі браці,
Ці мне нявехны прыждаці?

384. Выйдзі, матуля, з талеркай, з талеркай,
Едзе сыночак з паненкай, з паненкай.

Адчыні, маці, акяніцу, акяніцу,
Вязе сыночак маладзіцу, маладзіцу.
Адно дзіця радзона,
А другое — сондзона.

385. Узняліся люты марозы з-пад зары,
Змаразілі нашага Колечку на двары.
— Выйдзі, выйдзі, родна мамка, пераймі,
Вынесь, вынесь кубак мёду, два віна,
Абагрэй ты свайго сыночка ля каня.

386. Ой, выходзь, мамачка, проці нас,
Налівай кубачкі, частуй нас.

387. Пад парогам верба, на вербе кветы,
Вітай, маценька, свае родны дзеці
Салодкімі мядамі,
Густымі хлябамі.

388. Ой, нясі, маманька, сыр, сыр,
Ажаніўся сын, сын.
А як нявехна прыйшла,
То маці сыра ўнесла.

389. Дайце маладым мёду,
Яны добрага роду.
Дайце маладым сыра,
Штоб да году радзіла сына.

390. Во зарзалі сівыя коні на дварэ,
Прыехалі мае дзетачкі да мяне,
Пераймаю і з хлебам і з соллю да сябе.
— Во проша, проша гэты хлеб-соль спажываць,
Во ці будзеце маёй старасці шанаваць?

391. — А дзе тая маці,
Што не йдзе страчаці

Чужога дзіцяці?
Ці яна не ўмее,
Ці яна не смее,
Як не хоча страчаці
Чужога дзіцяці?
— Да яна і ўмее,
Да яна і смее,
Да яна не хоча прымаці
Чужога дзіцяці.

392. Ой, знаці, знаці,
Што чужая маці
Не хоча прыняці
Чужога дзіцяці:
Вывернула кажушок
Ды хоча спужаці.
— Не пужай, мая мамка,
Бо я не баюся,
Я перад табою
Нізенька скланюся.
Злезла з воза
Ды на ножкі стала,
Яна чужую мамачку
Роднай назвала.
— Хоць яна не радзіла,
Ды па мяне хадзіла.
Абівала ножкі
Аб мае парожкі.

393. Знаці, знаці, што не свая маці: *
Наварыла вячэры, да не хоча даці,
Вывернула кажушак да йдзе пужаці.
А я ж, маладая, дагадалася,
Да таго кажуха не спужалася.
— Не пужай, свякрухна,
Я ж цябе не баюся —
Злезу з возу да да ног скланюся.
Я ж у цябе, маладзенькая, да нанач прашуся,
Да ноч начаваці,
Век векаваці.

394. Ой, знаці, знаці, што чужая маці,
Вывернула кажушак, хацела спужаці,
Я ж яе не баюся, бліжай станаўлюся.
Яна будзе варчаці, а я ёй маўчаці,
Яна будзе гаварыць, а я буду наравіць.
Не дае вячэраць і ўкладае спаці
У зялёнай дуброве пад яліною.

395. Знаці, знаці, што чужая маці:
Не дала вячэраці чужому дзіцяці,
Паслала пасцельку, палажыла спаці.
— Пасцялю пасцельку наўпярод цябе —
Знаю, знаю, матушка, не ўбуду ў цябе.

396. Ой, знаці. Марачку, знаці,
Што ў яе не свая маці:
Хадзіла ў кажусе, ў мядзведзевым вусе,
Да хацела яе задраці.
— А я ж гэтага вуха не баюся,
Да за Іваначку дзяржуся.

397. Выйшла маці ў аўчыне,
Хацела нявестку злякаці.
Нявестка не баіцца,
За стол сама садзіцца.

398. За лесам у гаі мядзведзь гукае,
Выйшла свякроўка, нявестку лякае.
— Да я таму мядзведзю мядзіну кіну,
А сваей свякроўцы пераб'ю спіну.

399. Да знаці, знаці, што чужая маці,*
Вывернула кажушок да ідзе пужаці.
— Да не пужай, мамка, бо я не баюся,
Калі вам я не трэба, я назад вярнуся:
Я ў свайго бацюхна да на год наймуся.
— Прымі, мяне, бацюхна, і з кусочкам хлеба,
Кажа мая свякроўка, я ім не трэба.

400. Палымянка свякроў, палымянка:
У варотах агонь паліла,

А нявехны вочы смаліла,
Каб яна не была драмліва.
— Драмліва нявехна, драмліва,
А на работу ляніва:
Бялы кужаль прала — драмала,
А кросенцы ткала — ўсё спала.
Па цяпельца пайшла — спяклася,
Па вадзіцу пайшла — аблілася.
— Свякруха мая, няпраўда твая.
Па вадзіцу пайшла — вады прынясла,
Па цяпельца пайшла — прынясла, уздула.

401. — Прывязлі патвор на двор.
А хто ж яго патвараць будзець?

*Нявесціна сваццця адказвае:*

— Мы свёкарку не кланяемся,
А свякроўкі патом-таго.

402. Не трыце, не мніце,
Паціхонечку вядзіце.
Не цёрлі яе, не мялі —
Паціхонечку прывялі.

403. Садовыя яблычкі
Ды з узгор'я ляцелі.
Летучы, расшыбіліся,
Аб зямлю разбіліся.
Маладая Ганначка
А здалёку везена:
Косачка растрэсена,
Слёзачка разліта.

404. Тупы-тупы каля дзежачкі,
Хоць грошы не ўсе,
Чалядзін да душы;
Хоць грошы патрацці,
Чалядзіна патрафіці.

405. Успомні, Зіначка, што маці казала,
Як у дом да свякроўкі адпраўляла.
Ступі першаю на свякроўкін парог,
Каб у доме гаспадыняю была,
Каб за мужам, як розачка, расцвіла.

406. Да ўступіла нявеста ў сей дзень
Да дала свёкру добры дзень.
Яе свёкар не пазнаў
Да ўсё паняю назваў.
— Не пані, свёкарку, не пані,
Я твая нявенька з дарамі,
З новенькімі кублямі.
Не тужы, свёкар, да не тужы,
Я свае кароўкі падаю,
У дуброве чужыя пастушкі наганю.
Я свае кароўкі напасу
На ранняй расе ўсе,
На баценькавай паласе.

407. Свеціць месяц, свеціць з трыма зорачкамі,
Прыязджай, Марыся, з трыма дружачкамі.
Прыйшла Марыся, стала ў куточку.
— Прымі, матуленька, за родную дочку.
Прыйшла Марыся, стала ў парозе,
Паліліся ў Марысі дробныя слёзы.
— На табе, Марыся, рубля залатога,
Адчапісь, Марыся, ад сына мога.
На табе, Марыся, каня варанога,
Уязджай, Марыся, із двара мога.

408. Свякруха, свякруха,
Я цябе шкадую,
Падайдзі блізенька,
Цябе пацалую.

409. Нявеста ў свой дом ўступае,
Добры дзень свёкру дае.
— Добры дзень не на адзін дзень,
Не на рок, да на ўвесь век.

410. Ступай, Манечка, на два парогі,
Падай свёкру на белы ногі.
— Свёкра-баценька, не гардуй мною,
Бо я ўжо буду ўсей век з табою,
Усей век з табою, тваей слугою.
Скажаш работу — рабіці буду,
Скажаш славечка — не забуду.

411. Дубовая дошчачка ломіцца,
Зеха свёкру клоніцца.
Дубовая дошчачка зламілася,
Зеха свёкру ўкланілася.
А Зеха-пава свёкру ў ногі пала,
Свёкру ў ногі пала, быславення прасіла.

412. Маладая дзевачка, як дарожкай ехала, так весела спявала,
Яна на двор уз'ехала, цяжка ўздыхнула,
Як у хатку ўвайшла, сільненька заплакала.
— Чы не гэта хатачка, што па ёй хадзіць буду,
Чы не гэта сямейка, што я ей гадзіць буду?

413. Звонкае дзераўца кляніна *
На пні стаяла — шумела,
Валілі яе — звінела.
Ціхая дзіцятка Танюшка
Полем ехала — маўчала,
На двор уз'ехала — стала гаварыць:
— Тут мая квацерка расписана,
Тут мая пасцелька паслана,
Тут мая вячэрка згатавана.
Расписаў квацерку Валодзя,
Згатавала вячэрку свякроўка,
Паслала пасцельку залоўка.

414. Ганначка ўвайшала ў нову хату,
Увайшла ў нову хату,
Пачала гаварыць, 2
Госпада-бога прасіць:
— Памажы ж мне, божа,
У гэтай новай хаце 2

Увесь век каратаць 2
І старых паважаць.

415. Гнала Ганначка ў поле чорных кароў,
У шчырый двор.
Там яна, малада, блудзіла,
Прыблудзілася к цялятам,
Усё к Якушовым варотам.
Стукнула ў вароты:
— Тут мая кватэра нанята,
Смачная вячэра гатова.

416. Пасціла Манечка валы ў полі,
Пасучы, пагубляла,
Шукаючы, заблудзіла.
Прыблудзіла к сеці,
К свекраткавай клеці.
— Тут мае бычкі равуць,
Тут мае дзеўкі пяюць.
Тут жа мне жыці і быці
І галоўку палажыці.

417. Свякратка нявехну сустракаў,
Ён ёй кароўку дараваў.
— Вот табе кароўка на ржышчу,
А мне кашулька на аслішчу.
Няма дзевачкі ў доме,
Пагнала валы ў поле.
І валы пагубіла,
І сама заблудзіла.
Прыблудзіла к сеці,
К свякраткавай клеці.

418. Ой, прывёў павук паву 2
Ды пасадзіў на лаву:
— Ту-ту, павачка, ту-ту, 2
Пільнуйся свайго куту.
Тут табе жыці-быці, 2
Тут табе векаваці,
Тут табе і ўміраці.

419. Паглядзі, матачка,
Што ж гэта к нам у хату ўляцела: 2
Дай чорнае, валахатае,
Пышнае да багатае.
А ў лесе гадавалася,
Дай мне вельмі спадабалася.

420. Свёкар нявестку паздраўляе
Да на ум навучае:
— Не будзь жа, нявестка, сварліва,
Да будзь дабратліва.

421. Што-та ўлезла кашлата-махната,
Шчасліва-багата.
Яно нам дорага стоіць:
Сем міль коні гналі,
Пакуль яго спаймалі.

422. Да прывязлі з цёмнага бору ваўчыцу,*
На народ гляніць, аж вяніць — баіцца.
Як ты будзеш, мой Іванька, туліцца?

423. А прывязлі мядзведзіцу —
Саплівую, хрыплівую,
Трэба яе да панадзіці,
Па чэраву пагладзіці.

424. Свёкар нявесту вядзець,
Шоўкам дарожку мяцець,
Аўсом пасыпаець,
Вадой паліваець.
— Расці, авёс, вялікі,
Мая нявестка мала,
Каб стоячы жала,
Седзячы вязала.

425. Дзевяратка мой мілюсенькі,
Вядзі мяне памалюсеньку.

Не вядзі мяне па межачцы,
Вядзі мяне па дарожачцы.
Па межачцы мае ножкі не йдуць,
Па дарожцы яны самыя бягуць.

426. А чаму ж нам не пець, а чаму ж не гуляць,*
Калі наш Ванечка добрага роду.
Дзе п'ець, гуляець — а ў двор начаваць.
Кунню шубачку на плечках нясець,
Ён сваю Анечку за ручку вядзець:
— Хадзі, хадзі, Анечка, майго дому глядзець,
А ў маім дамку, як у божым райку,
Вусенькі йграюць, дзеўкі гуляюць.

427. Дзень добры, нявестачка,
Як я цябе не знала,
То й нявесткай не звала.
Як я цябе пазнала,
То й нявесткай назвала.
Каб ты была здарова, як зіма,
А вясёла, як вясна,
А ціха, як лета,
А багата, як восень.

428. Анно й нявестка на парог ступае,
Яе свякроўка паздраўляе:
— Здарова, нявестка, у маёму дому,
Здарова, малада, у маёму дому.
Распусці долю па маёму полю,
А прыдоллечку па застоллечку, 2
Сваю красіцу ў маю сынныцу, 2
Сваю сіліцу ў маю аборыцу.

429. Пахілілася бела бярозка над вадой,
Прыехаў малады Іванечка з маладой.
Падвёз яе пад новую святліцу,
Прыйшла яго матачка вітаці,
Будзе ў яе пасажачку пытаці.
— Я не маю пасажачку, не маю,
Бо я тваю сямеечку не знаю.
Пакуль тваю сямеечку узнаю,
Тады табе пасажачку згадаю.

430. Кругла мала балоценька, рана-рана, *
Невялічкае прытамністае.
Прытамніла дзевяць канёў,
Дзевятага, дзевятага
Павознічка, майго брата
Надкосвічка, надкосвічка.
А сястрыцу, а сястрыцу
Баярачку, баярачку.
Братовачку, братовачку,
Прыданачку, прыданачку.

431. Да чые ж то конікі
Да прыйшлі з дарожанькі, 2
Палі на ножанькі?
— Ці вы стары, што прысталі,
Ці цяжкія вазы везлі?
— Ды не стары, што прысталі,
Мы цяжкія вазы везлі,
Везлі скрыню маляваную
І дзяўчыну гадаваную.
Везлі скрыню сталярыстую
І дзяўчыну ганарыстую.

432. Ой, дымы, дымы па-за садамі,
Ой, то не дымы, пара з коней ідзе,
Малады Колечка жоначку вязе.
— На ж табе, татачка, сто коней у двор,
А табе, мамачка, нявехну за стол.
Навучай яе, як сама знаеш,
Штоб тонка прала, ды не парвала,
Штоб шоўкам шыла, ды не намыліла.
— Мы ж цябе, Колечка, не зневажаем,
З шчасцем-доляй паздраўляем.

433. Конічак да мой сівенькі,
Пабег ён у дарожаньку,
Падкаваў сабе ножаньку.
Знайшоў ён пару дзетачак —
Першае — да раджонае,

* Рэфрэн «рана, рана» паўтараецца ў канцы кожнага радка.

Другое — да суджонае.
Першае — да шкадаваці,
Другое — да пасылаці
У шчыры бор да па ягадкі,
У крыніцу да па вадзіцу,
У каморку да на прыборку.

434. Конічак жаркі, жаркі
Да прывёз у хату сваркі.
Конічак рыжы, рыжы
Да прывёз у хату грыжы.
Конічак белы, белы
Да прывёз у хату беды.

435. Добра наша да мяцеліца, 2
Прывяла да дзетак двое, двое.
Прывяла да дзетак двое,
Харошыя да абое, абое.
Харошыя да абое.
Адно дзіця да раджонае, раджонае,
Адно дзіця да раджонае,
А другое да суджонае.

436. Прывязлі, прывязлі здалёку,
Да не з нашага боку.
Выйдзіце ды паглядзіце
Да і з возу зніміце.
З возу зніміце
Ды за стол пасадзіце,
Ды на яе паглядзіце.

437. Прыехала князе **
Ды з возу не злазе.
Йдзіце ж ссадзіце
Дый у хату вядзіце.
За стол пасадзіце
Ды людзям пакажыце.

438. Прыехала да нас пані
У чорным жупане.

Не хоча сама ссядаці,
Трэба яе павітаці.

439. Раўлі конікі, раўлі,
Багатырачку везлі.
А будзем глядзеці,
Дзе яе шчасце падзе:
Ці ў хаце на дзяціне,
Ці ў хляве на скаціне,
Ці на бурых каровах,
Ці на вараных коніках.

440. Каля чорнага броду
Піў сівы конь воду,
Да напіўшыся дый заржаў,
Да ніхто ж яго не пазнаў.
Да пачула яго Іванава мамка,
Да стала каня паздраўляць:
— Спасіба ж табе, коню,
Што ты маіх дзетак прывёз.
Адно дзіця да раджонае,
Другое — да суджонае,
На пасадзе пасаджонае.

441. У канцы сяла вална біла
Ды прыбіла дзве рыбанькі.
Ніхто тых рыбак ды не паймае,
Ды не паймае, ды не пазнае.
Выйшла-выбегла маладога маці,
Яна рыбак пазнала і іх назвала:
— Чырвоны окунь — гэта дзіця маё,
Шырокая плотка — то нявестачка.

442. — Сватове-панове,
Чаго скора прыехалі
З гэтаю перапёлкаю?
— Яна сама прыляцела,
Яна тут жыць захацела.

443. А не матка гэта — мачыха,
Выправіла дочку скрозь ночку
І лучыначку не ўздула,
Праважатага не дала.
Ай, мамка гэта — свякроўка —
І лучыначку ўздула,
І сыночачку аддала.
Яна сваю нявесту страчаіць,
Харашэнька вітаіць:
— Жыві, мая нявестка, гардзіся,
Толькі з свякроўкай не сварыся.
Жыві, мая нявестка, зажывай,
Толька свёкарку ўважай.
А нявеста наша ў вяночку,
Харашэнька жыві з сыночкам.
А нявеста наша ў цвятах,
Ты ж наша нявеста наўсягда.
Як гэта наметачка доўгая,
Дай, божа, нявесцы доўгі век,
Як гэта намётачка часценька,
Дай, божа, нявесцы шчасцейка.
Я ж гэту намётачку шыць буду,
Я з нявестачкай жыць буду.

444. Ехалі чэраз рэчку,
Набралі вады бочку.
Выпілі ды па кубачку,
Прывезлі к вам нашу галубачку.

445. Ды прыехаў з малодачкай маладзец,
Сабраліся ўсе людзі паглядзець.
Прыехаў з багатырачкай багатыр,
Сабраліся ўсе людзі, увесь мір.

446. Маладзічка-багатырачка,
Божа мой. *
Борам ехала, бары ламала,
Лугам ехала, кужалі слала.

---

* Рэфрэн «Божа мой» паўтараецца пасля кожнага радка.

Бары ламала, каб не ўчапіцца,
Кужалі слала, каб не ўрасіцца.

447. Прыехаў староста з вайны
Да й наракае на дзеўкі:
— Да не адчыняйце дзвярыны,
Да не выпускайце звярыны.
Я сваго коніка ўганіў,
Пакуль звярыну палавіў,
Я свае ботанькі патаптаў,
Пакуль звярыну ўсю ўлапаў.

448. Ой, хлопцы-малодцы,
Пазачыняйце вароты,
Не пускайце звярат.
Мы тры ночкі не спалі,
Пакуль тую звярыну спаймалі.

449. Усцешылася хата,
Што нявестка багата.
І ешча таму господыня,
Што стане кубел-скрыня,
І ешча тому абора,
Што стане вол і карова.

450. Зрадавалася хата,
Што нявестка багата,
Што на сціл пасцеленькі,
А на кручкі ручнічкі,
А на дзежку ды надзежнічкі.

451. Здрыганулася хата,
Што нявеста багата.
Прывезла кухроў пару
Ды абору тавару:
І радзюжак, падушак,
І абору цялушак.

452. Знаць, Хадорка багатага бацькі:
Укрывала харомы паневамі,
Шырок двор — хусцінкамі,
Цесныя вулічкі — пасцілкамі.
Масціла масточкі паранечкамі,
Прудзіла прудочкі сярожкамі.

453. Прывезлі мы патвор на двор.
А з таго патвору
Поўненька камора.
Прывезлі мы маладзіцу
У нову святліцу,
На крашчону зямлю,
У вясёлую сям'ю.
Тут зямля камяністая,
Тут і сям'я наравістая:
Што ступіш — праступіш,
Што зробіш — не ўгодзіш.
— Выйдзі ж, матка, паглядзі,
Што ж мы к табе прывезлі:
Ці рабую казаньку, ці цяля,
Ці можа нявехна малада?

454. Не радуйся, свякроўка,
Што ціху нявестку выбрала.
Не ціха ў хату ступіла,
Не мірна галоўку скланіла.
Увайшла ў хату з падскокам,
Як скланілася — галава бокам.
Кінула вочы па печы,
Паразганяла ўсе дзеці.
Кінула вочы па палу,
Паразганяла ўсю сям'ю.

455. Ой, не радуйся ты, свякроўка,
Не ціхоню мяне папала.
Я ж тваю хатаньку развесялю,
Я ж тваю сямейку разганю.
Вазьму ў парозе памяло
І цябе выганю за сяло.
Вазьму ў парозе доўгі кнут,
Заганю свякроўку ў цесны кут.

456. Не радавайся, маці,
Чужому дзіцяці.
Не будзеш пасылаці
У бор па брусніцы, 2
На мяжу па суніцы.

457. Цякла рэчанька беражыстая,
Наша дзевачка наравістая.
На двор заехала, свёкра клікала
Да казала свёкру бор церабіці.
Бор церабіці, сені рубіці,
Сені новыя і высокія.
— Каб я, маладая, не ўпынілася,
Не ўпынілася, не ўпынілася,
Па новых сенях пахаджаючы,
Цяжку работу парабляючы.

458. Не пужайся, мамулька, *
І прывезлі ж табе курку
Пасадзіць на прымурку.
Як будзець сакатаці,
Не найдзеш месца ў хаце.
І як станець нясціс̌ь,
Будзеш толькі трасціся.
Як выйдуць пыляняткі,
Выганяць свякроў з хаткі.

459. Прывезлі, мамка, курку — 2
Не ўсядзіш на прымурку.
Як курка засакочыць — 2
Мамачка заякочыць,
Як курка закудахчыць — 2
Мамачка заплачыць.

460. Сякі-такі наш Іванька-манюка,
Казаў-маніў, за сіне мора паеду,
Казаў-маніў, царскую дачку прывязу.
— Агляніся, наш Іванька, на сябе,
Не лепшая твая Манечка за цябе.

Агляніся, наш Іванька, на ўсіх нас,
Не лепшая твая Манечка за ўсіх нас.

*Адказваюць сваты маладой:*

— А ён вас усіх харошых пакідаў,
А нашу нехарошую спадабаў.
Усе нашы сваты за столікам смяюцца,
Што вашы дзевачкі-красоткі звядуцца.

461. Маладзенькі Яначка
Казаў, паеду за граніцу,
Прывязу сабе царыцу.
Не прывёз сабе царыцу,
А такую самую дзявіцу.
— Паглядзі ж ты на яе,
Яна не харашэйшая за цябе.
Сваім дзеўкам ганьбу даў,
Не харашэйшую ўзяў.

462. Маладзенькі Вовачка сваёй Манечкай выхваляўся,
Над сваімі дзеўкамі насміхаўся.
І казаў, харошая, ажно яна курносая.
І казаў, як панётка, ажно яна, як калодка.
І казаў, парадніца, ажно яна чалядніца.
І казаў, умее чытаць-пісаць,
А тут не ўмее свінням замяшаць.

463. Аб'язджаў за тры мілі,
Да прывёз камок гліны.
Аб'язджаў за тры вярсты,
Да прывёз камок жарствы.
Як казалі, так і ёсць,
Косыя вочы, доўгі нос.

464. Гэй, Мікодам, а гэтак жа выбіраў,
Гэй!
А не па сабе ж ты ўзяў:
Яе іменне агідка,
На-яе глядзець брыдка.
Гэй, Мікодам, завядзі яе за печ,

Бо няма на што глядзець.
Гэй!

465. Ездзіў хлопец сем гадоў сватамі
Ды выбраў сабе дзеваньку з доўгімі пятамі,
Што на печ не ўзлезе,
З печы не злезе.
Трэба тапор браць
Ды пяты адсякаць.

466. А ці табе ж, Іванка,
Кот вочы выдраў:
Харошымі перабіраў,
А якую выбраў?
З тоўстаю нагою,
З вялікаю галавою,
З вялікімі вачыма,
З шырокімі плячыма.
На двор не з'едзе,
А й у хату не ўлезе.
Стане пры парозе,
Як пень пры дарозе.

467. — Каб табе, Васілька,
Кот вочкі выдраў,
Якую ты сабе
Жоначку выбраў:
Сама маленька,
Галава, як сявенька.
Спераду пузата,
Ззаду гарбата,
У яе вокі ў абодва бокі.
— Дзевачкі-сястрыцы,
Я ездзіў па ночы,
Я не прыглядаўся ў яе вочы,
А як стала відна,
Мне самому стыдна.
Ва ўсім вінаваты
Мой сват пракляты,
У чужую вёску павёз мяне ў сваты,
А ў нашай вёсцы,
Як мак, дзяўчаты.

468. — Ой, ці табе, Іванка, кот вочы выдраў,
Што ты сабе Волечку нехарошую выбраў.
— Ой, не я выбіраў, выбіраў бацька,
А вёз уночы да не бачыў у вочы,
А як стала віднець,
То стала мне стыднець.
Як стала видненька,
То стала мне стыдненька.
Не смейцеся, сястрыцы,
Бо ўжо павянчаўся,
Было гаварыць, як яшчэ не звязаўся.

469. Каб табе, малойчык,
Кот вочкі выдраў,
Якую ты, малойчык,
Жонку выбраў.
Хваліўся, што хароша,
А яна курноса,
Хваліўся, што багата,
А яна лупата.
Сама ў святліцы,
А ногі на паліцы,
Сама на возе,
А ногі на парозе.

470. Бадай табе, сыночак,
Ды кот вочы выдраў,
Што ты сабе, сыночак,
За жоначку выбраў.
Ды яна ж не ўмее
Ні шыці, ні мыці,
Да будзеш, дзіцятка,
Без штаноў хадзіці,
Ды будзеш, дзіцятка,
У людзей прасіці.

471. -- Прыехаў Васечка з людзямі нязнанымі, *
Прывёз сабе жонку з доўгімі нагамі.
Сядзіць на возе, ногі на парозе,
Сядзіць на куце, як сава на кусце.
Спусціла насішча, як сава хвасцішча.

*Адпяваюць:*

— А мае ж вы галубіцы,
Ляціць курыца па вуліцы,
Хоць вы яе цалкам з'ежце,
Толькі ў вочы нам не лезце.

472. Еэдзіў малойчык
У госці нязваны, **
Выбраў дзевачку
З доўгімі нагамі.
За стол не села —
У печ паглядзела,
Што ў нашай маткі
Усё непарадкі.

473. Прыехала маладзенькая,
Між людзьмі маленькая.
Трэба ў яе папытаці,
Ці ўмее кросны ткаці.
— Залувіцы, мае сястрыцы,
Вы будзеце кросны ткаці,
А я буду цэўкі сукаці.
Прала я кудзельку да таненька,
Слала я пасцельку да бяленька.

474. Прыехала да нявехначка,
Вельмі ж яна маленечка.
Не смею ды папытаць,
Ці ўмее яна тонкія кросны ткаць
Ды жыта жаць.
— Мамка мая дарагенькая,
Я сама хоць маленькая,
А галоўка мая вумненька,
Я ўмею да жыта жаць,
Тонкія кросны ткаць.

475. Мы прывезлі савішча
Да ў гэтае дварышча,
Да нікуды не глянула,
Глянула на кляцішча.

Да на новыя клеці,
Да чы будзе дзе спаці.

476. Забедавалася свякроўка,
Што драмлівая сыноўка.
Кудзельку прала — драмала,
Красёнцы ткала — спала,
Дзяжу мясіла — угразла,
Пад печ палезла — увязла.

477. Ой, ездзілі мы ў дарогу,
Прывязлі сабе залогу
Чорныя палаці выціраці.
Не будуць палаці гуляці —
Будзець залога выціраці.

478. Радуйся, маці,
Ідзе нявестка да хаты
З вялікімі ачыма,
З шырокімі плячыма.
Добрая рабатуха,
А лепша калатуха.

479. Нашы коні да тупу-тупу,
Прывезлі мы да на двор ступу.
Ох, не ступу, а калодзіцу,
Ох, не дзеўку, да малодзіцу.
Нашы коні га-ля-ля, га-ля-ля,
Прывезлі мы да на двор гультая.
— Выйдзі, маманька, да з хлебам,
Прывезлі мы да табе бабу з дзедам.

480. Топат, коні, топат,
А вязём у двору клопат:
Ні скрыні, ні пярыны,
Ні ў двор гаспадыні,
Ні спеч, ні зварыць,
Толькі пол заваліць.

481. Ай, тупу, кося, тупу,
Прывязлі на двор ступу:
Ні ў печы паліці,
А ці печ заваліці.
Ці ў калёсы мазніца,
Ці ў хату маладзіца?

482. Голя, мацёнка, голя,
Прывёз сынок гноя,
Ні хаты, ні печы замятаці,
Толькі на печы стагнаці.

483. А ўз'ехаў патвор на двор, *
А ўзвёз патворніцу,
Сам сабе нароўніцу.
А ні хаты падмесці,
Ні вады прынесці.
Ні спеч, ні зварыці,
Ні з людзьмі гаварыці,
Толькі печ загрузіці.

484. Да прывезлі маладую —
Не белую, да рудую, 2
Не сытую, да худую.
— Што вы, сваты, ёй рабілі,
Чаму гэтак зарудзілі?
Ці вы лаўкі ёй сціралі,
Ці коміны выціралі?
Вядзіце яе на рэчку
Ды памыйце, як авечку,
Палажыце вы на кладку
Ды пранікам па азадку!

485. Баліць жа мне галовачка і плечкі,
Што адгоніць нявестачка ад печкі,
І адбярэць і качаргу, і чапялу,
Загадаець спанькі легчы на палу.

486. Прыехаў маршалак малады
Ды прывёз ён нам тры бяды:

Прывёз казу на вазу,
Прывёз сучку на мычку, 2
Прывёз саву пад пахай.
Каза сена паела,
Сучка яйцы папіла,
Сава куры падрала,
А табе, маршалак, няслава.

487. Сядзіць малойчык, як сакол,
Да прывёз сабе неспакой:
На ўсю ночачку цёмную
Часаці воўну чорную.
Неспакой-ночку другую —
Будзе часаці сівую.
А чаму яна ссівела?
Бо доўга ў бацькі сядзела.

488. Узышло сонейка з яснай зарой, *
Уз'ехаў Ванька з маладой жаной.
— Да ні пужайся, матулька,
Ціхога роду нявестка:
Ціха ў хатку ўступіла,
Нізка галоўку скланіла.
За стол садзіцца — баіцца,
За хлеб бярэцца — трасецца,
На печ узлезіць — смяецца.

489. Выйдзі, мамачка, да паглядзі,
Што мы табе прывязлі.
Высоку, як яліна,
Чырвону, як каліна.
Не радуйся, маценька,
Маладой нявестачцы.
Як не навары́ш сама,
То не будзеш есці.
Выйдзі, маценька, на сходанькі,
Паглядзі нявестаньку:
Ці прыгожа, ці ўбрана,
Ці падыходзіць на лічанька
Нашаму панічаньку,
Ці хароша па мове
Нашаму панове.

490. Выйдзі, маці, у сенаньку,
Падзівіся на нявестаньку,
Да не так на нявестаньку,
Як на ей вяночак,
Што з ясных зорачак.

491. Хадзі, мамачка, да століку, паглядзі,
Ці харошую нявестачку прывязлі;
Ці ёсць у яе ў грудачках кветачка,
Ці ёсць у яе за свашачку дзевачка.
Ёсць у яе ў грудачках кветачка,
Ёсць у яе за бальшаначку дзевачка.
На кветачцы божая расіца,
За бальшаначку родная сястрыца.

492. Не лякайся, мацёнка, **
Што нявестка малая.
Мы яе падвышшымо,
На шоўку паставімо.
На шоўку паставімо,
Золатам падважымо.
Золатам падважымо,
Розума не ўложымо.

493. Ступіла Галечка на парог,
Махнула хустачкай на народ:
— Расхініцеся, падружкі,—
— Будзе мяне свёкарка вітаці,
Белага рубля даваці.
Белага рубля ў рукі.
Каб не было разлукі.

494. Расступіцеся ж, дзіўныя людзі,
І блізкія суседзі,
Бо за вамі не знаці
Да майго свякраці.
Трэба ж яго пазнаці,
Дзень добры даці 2
І бацькам назваці.
Ой, хоць няродны,

Назваці годны.
Хоць нераджоны,
Назваць суджоны.

495. Зайшло сонейка за падоллейка,
Прывязлі маладую да на падвор'ейка,
Да махнула рукаўцом наўпроці сонца:
— Станьце, сватове, у вадну старонку,
Каб я, маладая, свёкра пазнала,
Бацькам сваім назвала.
Стаіць свякратка, сам сабе думае:
— Чаму тое чужое да дзіця разумнае?
Яшчэ не прыйшло: дзень добры дало,
Яшчэ не стала -- да ўжо на ножкі ўпала?

496. Да божа мой, божа, твая моц вяліка,
Чаму тое чужое да дзіця разумна?
На двор з'ехала, дабром сыпнула,
З воза скочыла, свёкра пазнала,
Свёкра пазнала да на ножках упала.
— Свекратка-бацька, пазволь падвор'я,
Пазволь падвор'я да белага застолля.
Мы тваё падвор'е капытамі саб'ём,
Да белае застолле мёдамі сальем.
Мы тваё падвор'е коньмі ўставім,
Да белае застолле дружынамі ўсадзім.

497. А й харошае дзераўца свідзіна, *
Чэраз поле ляцела — звінела,
К і дварочку прылятала — гаварыла:
— А й харошага роду Ганутка,
Яна, не знаўшы свайго свёкарку, спазнала,
А яна родненькім татачкам назвала.
А й харошае дзераўца свідзіна,
Чэраз поле ляцела — звінела,
К і дварочку прылятала — гаварыла:
— А й харошага роду Ганутка,
Яна, не знаўшы свякровачку, спазнала,
А яна родненькай мамачкай назвала.

498. Сейце, міхалкоўцы, пшаніцу,
Прывязу вам яглiцу,
Будзе на мяжы ляжаці
Да вераб'і пужаці.

499. Маці сына сустракала
Й аўсом абсыпала:
— Радзі, божа, авёс рослы,
Штоб маё да дзіця жала, жала,
Штоб маё да дзіця жала,
Харошыя снапкі вязала.

500. Ой, знаці, знаці, гаспадынька ў хаце.
Як у хату ўвайшла, то й работку найшла.
Пасеяла жыта па ўсім куточкам:
— Няхай маё жыта да рассяваецца,
Няхай маё жыцце да разбываецца.

501. Нашу маладую рынду вядуць, 2
Рынду вядуць,
А за ёю жыта сеюць.
Наша маладая малая, малая —
Яна седзячы жыта жала,
Стоячы сноп вязала.
Наш малады, як кветка, як кветка,
Ваша маладая — шкарпэтка.

502. Дзевачка ў хатку ідзець,
Долечка ўперад ідзець.
— А доля, мая доля,
Дзе ж цябе пасадзіці:
Ці ў хаце на куце,
Ці ў клеці на замку,
Ці ў хлеве ля конікаў?
— Я ў хаце абкапчуся,
У клеці абпылюся,
Ля конікаў разжывуся.

503. Да ступіла нявехна на парог,
Да махнула ручнікам напярод,

Да сыпнула золатам і жытам,
І добрым жыццем.
Да стаяла яблынька на двары,
Пусціла гольчанка да зямлі.
— Прыхіліся, матанька, ка мне,
Чы міла я, дзяцінанька, табе?
— Як на табе кашуленька бяленька,
Так ты мне, дзяцінанька, міленька.

504. Маладая Галечка,
Й абдары цябе божа 2
Да на першым парозе:
І ў садочку пчолкамі,
У хлеве кароўкамі,
На полі буйным жытам,
А ў хаце добрым жыццем,
У гародзе кветкамі,
Й а ў хаце дзеткамі.

505. Уступіла Матронка ў гэты дом,
Дай божа шчасліва,
Каб гэта ніва радзіла,
Каб тут абора пладзіла,
І каб была сям'іца здарова,
І каб гаварыла вясёла.

506. А з усходу сонца грэе,
А з заходу вецер вее, **
Маладая жыта сее.
— Зарадзі, божа, жыта
Буйнае, ядраное,
Ядраное, каласістае.
Наша малада мала,
Каб стоячы жала.
Ваш малады хвастліў,
Каб стоячы касіў.

507. Зарадзі, божа, жыта *
У прыбудушчыя годы
Коласам каласіста,

Ядром ядраніста.
Наша Аўдотачка мала,
Штоб стоячы жала,
Седзя снапы вязала.
А ў полі —- капамі,
А ў гумне — стагамі.

508. Ой, дай, божа,
Ой, дай, божа, цёплае лета.
Зарадзі, божа,
Зарадзі, божа, густое жыта.
Наша Ганка мала,
Штоб стоячы жала,
Хвартушка не ўмарала,
Серпіка не зламала.
Хвартушок беленькі,
Серпічак новенькі.
Хвартушка матка вытчэ,
Серпіка каваль зробіць.

509. Няхай наша пшанічанька тут родзіць,
Няхай наша дочанька тут ходзіць.
Няхай наша пшанічанька красуе,
Няхай наша дочанька тут начуе.

510. Зарадзі, божа, лён
Галаўчысты,
Валакністы
І кужалісты.
Каб рана ўставала,
Тонка прала,
Звонка ткала,
Бела бяліла
І чыста хадзіла!

511. Да ў нашага свата
Да жыта ўдалося,
Да ў трубы звілося.
Да ў том жа жыце
Да перапяліца

Да звіла гняздзечка,
Да знясла яечка,
Да вывела дзеці,
Што люба глядзеці.
Да надула пер'ейка
Да хоча ляцеці.
— Ляці, ляці, вутачка,
Хоць на Украіну,
А я, маладзенька,
І тут не загіну.

512. За сцяною, за камяною гавораць,
За другою, за залатою слухаюць.
Малады Валодзька са сваёй мамулькай гавора:
— Ці чуеш, мая мамулька, ці не чуеш,
Што ў полі ядранае жыта гаворыць?
Трэба, трэба ядранаму жыту радзіці,
Будзе да яго маладая жнейка хадзіці,
Будзе яна госпада бога прасіці:
— Радзі, божа, ядранае жыта і ў полі,
Здароў будзе, мая свякроўка, і ў доме.
Свякроўка, мая родная матулька.

513. Выйдзі паглянь, мая матанька,
Што ў цябе за нявестачка:
Із рукаўца вецер вее,
Із лічанька сонца грэе.
Умна да разумна,
Харошая да багатая.

514. Блізкія ды суседачкі,
Выйдзіце, паглядзіце
На нашага ды маладога,
На паненачку яго, што стаіць.
Сама яна невялічанька,
Па лічаньку — белалічанька.
З-пад яе ды рукавічанька
Ціхі вецер павявае,
А з яе ды белага лічанька
Ясна сонца ззяе.

515. Не гай — дарога разлягаецца,
Лістком дарога прысцілаецца.
І тудыма ехаў Цімошка малады,
Ён маладзенькі, невясёленькі:
Бацька старэнькі, братка маленькі.
Хоць ён маленькі, та разумненькі.
Выйдзе, пагляне і бацоньку скажа:
— Вядуць, бацоньку, дзіўную нявестку:
У яе плечыках месячык свеціць,
А ў яе очыцах зоранькі блешчуць,
На яе вяночак дождживк крапае,
Яе сэрданька, як ножам, крае.

516. Бразнулі звоны напярод коні,
Ужо наша нявеста на двор з'язджае,
Няма каму выйсці нявесткі ўзнаваці:
Свякроў старая, заўвіца малая.
Выйшла заўвіца нявестку ўзнаваці.
— Ой, маці, маці, дзіўна нявестка:
У яе на шыі зоранькі крэшуць,
У яе па ручкам месяцы свецяць,
З яе вяночка дробны дождж ідзе.
— Ой, доню, доню, малы ум маеш,
Што дождж ык ідзе — слёзанькі ў яе,
Што зоранькі крэшуць — пацюркі ў яе,
Што месяцы свецяць — пярстэнкі ў яе.

517. Ясна зоранька на страху ўпала,
Дзіўная нявеста на двор з'ехала.
Выйшлі залоўкі пераглядаці,
Перагледзеўшы, пайшлі дахаты.
Пайшлі дахаты мацеры казаці:
— Ой, мама, мама, дзіўна нявеста,
Дзіўна нявеста на двор з'ехала:
З яе косанькі ветрычак вее,
З яе лічанька сонейка грэе.

518. Не ўспела нявеста на двор уз'ехаці,
Бяжалі дзеванькі пераглядаці,
Перагледзеўшы, пайшлі дахаты.
Пайшлі дахаты мацеры казаці:

— Ой, маці, маці, наша родная,
Наша маладая на дзіў-дзіўная,
На дзіў-дзіўная, на цуд-цудная:
У яе заполі іграюць саколы,
У яе галоўцы золата ззяе,
У яе за плячамі кітаечка мае.

519. Прыехала к нам, прыехала к нам
Дзіўная ды маладая:
З-пад яе ножкі, з-пад яе чаравічкаў
Галубок ды вылятае,
На ёй хустка шалкавіста,
Як сонейка, грае,
З-пад яе ліца да бяленька
Ясна сонца ззяе.

520. Маладая Манечка з бацькавага двара *
Дробным гарошкам скацілася,
На свёкравым дварэ
Бярозкай станавілася.
Выходзіць свёкар, дзівуецца,
Як бярозанька вятлуецца.
— Не садзіў, не паліваў,
А бяроза вырасла.
Ай, бяроза белая,
Белая кудраватая.
— А не дзівісь, свёкар, не дзівісь, бацюшка,
Не бяроза я белая,
А я нявестка верная.
Не бяроза кудраватая,
А я нявестка багатая.

521. На нашым панадворку вырастала бярэзінка —
Тонкая, высокая, белая, кудравая.
Не ёсць гэта бярэзінка, а ёсць гэта нявестанька —
Тонкая, высокая, белая, румяная, Стасеньку каханая.

522. Ехала сялом хмараю,
З'ехала на двор дождж ыкам,
Увайшла да сяней сокалам,

Увайшла да хаты зарою,
Села за столікам паняю.
Ой, прыйшла свякруха — не ўзнала,
Яшчэ й паненкаю назвала.
— Прыкрыйся, паненка, хвартушком,
Каб не прыпала пылочкам,
— Я табе, свякруха, не пані,
Я твая нявестка жадана.
Ой, ждала мяне ты ні разок, ні два,
ні дзве нядзелькі,
А ждала мяне з малое дзяцінкі.

523. Выйдзі, матанька, паглядзі,
Што ў цябе за дзіва на двары.
Лесам ехала — шумела,
Полем ехала — звінела,
У сені ўплыло рэчкаю,
У хату ўвайшла паваю,
За стол села паннаю.
Яе свякроўка не пазнала
Ды паненкаю назвала.
— Я табе, матанька, не пані,
Я табе нявестка жадана.
— Ты мая нявестка жадана,
Ды не год я цябе чакала,
Ды не год, ды не два,
Пакуль ты вырасла, як вярба,
Як вярбонька зеляненькая,
Ты вырасла маладзенькая.

524. Ой, умненька да разумненька Ганначка
Лесам ехала — шумела,
Полем ехала — грымела,
Сялом ляцела імглою,
На двор сцякала ракою,
У сені ўскочыла рыбкаю,
У хату ўвайшла паваю,
За стол села паннаю.
Да яе свёкарка не пазнаў,
Да яе паннаю называў:
— Накрыйце паненку ручніком,
Каб не пакрылась пылочкам.

— Я ж табе, свёкарка, не пані,
Я ж табе малада з дарамі,
Я ж табе нявестка з прыданым.

525. Ці зорачка, ці не зорачка маладая Аксіначка?
Вуліцай ішла цёмненькай хмарачкай
І к двору прыйшла дробненькім дожджыкам,
Па двору прайшла ясненькай зорачкай,
У сені ўвайшла шэранькай вутачкай,
У хату вайшла сізенькай павачкай,
За стол села злічненькай панначкай.

526. Казалі людзі, што мая нявехна
Негадзяйка будзе,
Аж мая нявехна вумная:
Праз шчырыя бар'е куною ляцела,
Праз быстрыя рэкі вуткаю плыла,
У чыстым полі каліною стала,
К сваему свякратку на двор імглою ўпала.
У новыя сені пчалою ўляцела,
У новую камору яснаю зарою,
На белую ложу паннаю лягла,
З ложы ўстала, паняю стала.
Свякратка не пазнаў
Да паняю назваў.
— Свякратку, мой бацюшку,
Не есць я пані, да валыначка,
У гэтым доме гаспадынечка.

527. Ой, у лузе, у лузе красна каліна,
А красней таго Ганна ў таткі.
Маладая Ганначка па дворы хадзіла,
Па дворы хадзіла, увесь двор скрасіла.
У сеннечкі вайшла — сенцы заззялі,
У хатачку вайшла — паны стаялі,
Паны стаялі, шапкі знімалі,
Шапкі знімалі, яе пыталі:
— Ці ты царэўна, ці ты каралеўна?
— Я не царэўна, я не каралеўна,
Я Іванава дачка ды Ганначка.

528. Коні ржуць, багатырку вязуць.
Як узвёў на поле — поле лялела,
Як увёў у сяло — сяло весяло,
Як увёў на двор — двор асвяціла,
Як увёў у сені — сені азалаціла.
Як увёў у хату — хата багата.
Пасадзіў на лаўку — лаўка гнецца,
У маладога Колечкі сэрца б'ецца.

529. — Маладзенькі малойчык,
Што ў цябе на куце ззяе? 2
Ці не месяц узыйшоў?
— Дзевачкі, мае сястрыцы,
Ды ў мяне на куце ззяе 2
Дзевачка маладая.
У яе на галоўцы
Кветачка залатая 2
Ды як сонца іграе.

530. — А як жа мне ў хатаньку ўвайсці? *
А як жа мне свякровачку ўзнаці?
— Спрасі мяне, скажу табе — узнаеш:
Стаіць ля печы, лаплены плечы — свякроўка.
Стаіць ля лаўкі, анучы-караўкі — свякроўка.

531. Пыталася дзеўка а ў панядзелка, дзе свякроўка.
— Ходзіць каля печы, лаплены плечы — то свякроўка.
Ходзіць каля боку, бельма на воку — то свякроўка.
Ходзіць каля полу, шубка да долу — то свякроўка.

532. Маладая Стасечка між гор лодкай плыла,
А на гары — ліпай стала,
А ў варотах — расой пала,
На дзядзінцы — госцяй стала,
Госцяй стала, у Юзюні запытала:
— Маладзенечкі мой Юзюнечка,
Пакажы сваю сямеечку,
А я буду пазнаваці,
Ручкі-ножкі цалаваці
І дарамі дараваці.

533. Ясная зорка на страху ўпала,
Дзеўка-нявеста на двор з'ехала.
Як з'ехала, то і запытала:
— Чы ёсць у хаце родная маці,
Ой, ці ёсць каму падарак даці?
— Ой, ёсць у хаце родная маці,
Будзе каму падарак даваці.

534. Не ясна зорка на страху ўпала,
Маладая нявестка на двор наехала.
На двор наехала, людзей пытае:
— Ці будзе зіма, як ціха лета,
Ці будзе свекар, як родны бацька,
Ці будзе свякруха, як родная маці.
— Не будзе зіма, як ціхае лета,
Не будзе свекар, як родны бацька,
Не будзе свякруха, як родная маці.

535. Хадзіла зазулька да па сенажаці,
Пыталася ў салавейка, дзе гняздзечка класці.
— Кладзі сабе, зазулька, дзе летась клала —
Будзе табе ад усіх пташак добрая слава.
Хадзіла дзеванька да па новых сенях,
Пытала ў суджанька, як свякроўку зваці.
— Называй, дзеванька, як сваю ты звала,
Будзе табе ад усіх людзей добрая слава.

536. Ці я вам не казала,
Як з дому выязджала:
Мяціце хату-сені,
Да будуць у вас госці.
Да сокал з перапёлкай,
Петрачка з сваёй жонкай.

537. Не спала ночку,
Не спала другую,
Пакуль вытаптала
Для матанькі слугу, 2
Для сябе другую,
Для свайго брататка
Жонку маладую.

538. Не спала я ночку,
Не спала другую,
Выскакала, выплескала
Сваёй матцы служку.
Не спала я ночку,
Хоць бы й дзве,
Стала б чалядзінай,
Хоць бы й дзе.

539. Хоць мы ночанькі не спалі,
Нявесты даждалі.
Хоць другую недаспім,
На работу будзіць з кім —
К вясне-красне кросны ткаць,
А к цёпламу лету жыта жаць,
А к багатай восені пшаніцу і ўсякую пашніцу.

540. Хоць я ночачку не спала,
Да мамачцы служачку дастала.
Хоць я другую такую,
Да мамачцы служачку вярную,
А братачку жану вечную.
Да мамачцы служку піць падаваць,
А братку жану век векаваць.

541. Ой мы, свашкі-спявашкі, **
Цэлу ночку не спалі 2
Да тры пташачкі ўкралі.
Ой, адна пташачка —
Маладая дзеванька,
А другая пташачка —
Сястрыца-прыданіца,
А трэцяя пташачка —
Яе братчык-прыданчык.

542. — Свашачка-мурашачка,
Дзе была, дзе ездзіла?
Што чула, што відзела?
— Я была на та́ржочку,
Таргавала братовачку,

Таргавала за сто рублей,
А купіла за тры грошы,
Што мой брацішка харошы.

543. Хоч я і бавілася,
Такі я справілася:
Прывязла маладую
Харашо ўбраную.

544. Ой, хоць я знебылася,
Але я здабылася.
Хоць ночкі не даспала,
Але я скарыстала.
Прывезла нявестачку
З ручкамі, з ножкамі
І з сінімі очкамі.

545. Хоць жа я знебылася,
Такі ж я здабылася,
Галасок пагубіла,
Нявестачку зарабіла.
Галасок па дуброве,
Падарачкі ў маём доме:
— Адчыняй, маці, хату,
Вязу табе бяду ў хату.

546. І да хоць я знебылася,
Ды балазе спамаглася:
Тры нядзелі коні ганіла,
Пакуль вутачку ўлавіла.
І адчыні, свякратка, аконца,
Вязу табе нявехну, як сонца,
І адчыні, свякратка другое,
Вязу табе дзеткі абое.
І дзякуй богу і панядзелачку,
Прывязла к табе дзевачку,
Да не з гор прыкацілася,
На маем дварэ прыпынілася.

547. Адчыні, матулька, новы двор,
А вязём нявестку на выбор.
Хоць мы ночачку не спалі,
А каго хацелі — узялі.
Хоць мы другую не паспім,
Мы ж яе работкі паглядзім.
А пашлём маладу па ваду,
А самі пойдзем па заду
І будзем глядзець, як ідзець:
А ці роўныя ножачкі,
А ці яркія вочачкі.
Ножачкі роўныя, як струна,
Вочачкі ясныя, як у сакала.

548. Хоць мы ночкі не спалі,
Харошай чалядзіны даждалі,
А хоць другой не да:пім,
А гэтай чалядзіны назад не 'ддадзім.
Чалядзін, матка, чалядзін,
Пазавідуе нам не адзін.

549. — Хоць жа мы ночачкі не спалі,
Мы ж сабе служачку даждалі.
А куды ж захочам, дак пашлём,
Ай, калі не пойдзе, дык паб'ём.
— А не біце ж яе дубцамі,
Навучайце ж яе слоўцамі.
Ад дубцоў будзе балеці,
Ад слоўцаў будзе вумнеці.

550. Добрая з мяне сваха:
Паймала ў саду птаха.
Хоць ночкі не даспала,
Работнічка дастала.
У полі работнічка,
У хаце ахвотнічка.

551. Ох, мы ўсю ночку не спалі,
Добрага чалядзіна спаймалі:
Паймалі лося ў гаросе,

А шэрага зайчыка й у ламку,
Маладую Верачку ў вянку.

552. А мы ў ловы ездзілі, 2
Мы мядзведзіцу ўлавілі
З рукамі, з нагамі,
З буйною галавою,
З русаю касою.

553. Я паехала сабе братоўку прывязла.
Мая братоўка прыгожая, як вясна,
Мая братоўка а ціхая, як лета,
Мая братоўка багатая, як восень.

554. Скажу табе, мая мамка, навіну,
Што мы ездзілі ў чужую старану.
Хацелі нас гарэлачкай напаіць,
Хацелі ў нас братовачку падмяніць,
А мы іх гарэлачкі не напіліся,
А мы сваю братовачку пазналі.

555. Ой, на тыне, на тыне,
На новым частаколе,
Там галубка сядзела
Па каленцы ў золаце,
Галоўка ў аксаміце.
Хто гэту галубачку
Пасадзіць пад шубачку?
Ясенька галубачку
Пасадзіў пад шубачку, 2
Спытаў сваю мамачку:
— Мая ты мамулечка,
Ці міла галубачка?
— Міла, дзіцятачка, міла,
А табе яшчэ мілей.
Мне — толькі загадаці,
А табе — спагадаці,
Мне — толькі на час служка,
А табе — навек душка,
Мне — толькі на час слуга,
А табе — навек жана.

556. Ой, па тыну па жалезнаму
Там скакала да галубанька,
Галубанька да сівенькая,
Галованька да рабенькая.
Адкуль узяўся малады жаніхно,
Паймаў-злавіў ту галубаньку
Да засадзіў да за шубаньку,
Прывёз яе да дамованькі,
Пусціў яе да далованькі,
Да пытае да у маманькі:
— Да ці міла да мая галубанька?
— Як табе, мой сынку, міла,
То мне ў хаце гаспадыня,
Табе, сынку, ахвотніца,
А мне ў полі работніца,
Табе, сынку, размаўляці,
А мне ў полі жыта жаці.

557. Паўз сад ды дарожачка,
Тудой ехаў ды Іванечка.
А ў тым садзе ды галубачка,
Злавіў тую ды галубачку, 2
Узяў яе ды пад шубачку.
Прывёз яе ды дадомачку,
Пусціў яе на падвор'ечку.
Сам сеў ды на ганечкі,
Галубкаю ўцяшаецца, 2
Сваёй мамачкі пытаецца:
— Ой, ці міла, мамка, галубка?
— Была б табе, мой сынок, міла, 2
А мне — дзела рабіла.
А мне — дзела рабіла,
На работу хадзіла.

558. Не гніся, матачка, не гніся,
Маладой нявехне раўніся.
Хоць рыскуй, матачка, не рыскуй,
Маладую нявехну да пачастуй.

559. Гуляй, гуляй, нявестанька,
Да й на роўным месце.

Буду я табе гадзіці,
Маладой нявестке.

560. Падбягае свякроў, падбягае,
Што едзе нявестка маладая.
А йшчэ будзе лепей падбягаць,
Як будзе нявестка шанаваць.

561. Даў нам бог, даў
У нашу хату маладзіцу багату,
Даў нам бог, даў 3
У нашыя сені маладзіцу з Расеі.
Даў нам бог, даў 3
У нашу клету маладзіцу, як квету,
Даў нам бог, даў 2
У нашу камору маладзіцу, як зору.

562. Цераз Бычкова, цераз Савушкі
Ляцелі гусі, за імі — вуткі.
Цераз Бычкова, цераз хаткі
Ды прыляцелі да нас сваткі.
Ляцелі, ляцелі і ўсе паселі,
Вот мы і ўзялі, каго хацелі.
Ляцелі гусі праз сад, праз вішні,
Узялі нявесту пад свае мыслі.
Ляцелі гусі праз сад, праз дулі,
Узялі нявесту пад свае думы.
Ляцелі гусі праз сад, праз ігрушы,
Узялі нявесту па сваёй душы.

563. А ў нашым садзе паспелі дулі,
Узялі нявесту пад свае думы. **
А ў нашым садзе паспелі вішні,
Узялі нявесту пад свае мыслі.
А ў нашым садзе бацвінне вянець,
Узялі нявесту, ёсць на што глянуць.
А ў нашым садзе вырасла мята,
Узялі нявесту — дужа багата.
А ў нашым садзе вырасла роза,
Узялі нявесту — дужа прыгожа.

564. А ў нашым садзе паспелі вішні,
Узялі мы зяця пад свае мыслі. **
Мы й не хадзілі, мы й не глядзелі,
Узялі за зяця, каго хацелі.
Як у нашым садзе паспелі дулі,
Узялі мы зяця пад свае думкі.
У нашым садзе вішні лялеюць,
Узялі зяця, людзі шалеюць.
Як у нашым садзе травачка вянець,
Узялі зяця, ёсць на што глянуць.
Не за даляры і не за грошы,
Да душы, татачка, зяць наш харошы,
Зяць наш харошы.

565. Прыляцеў салавей у паветачку, *
Да набыў Віцечка сабе кветачку.
Прыляцеў салавей у каморачку,
Да набыў Віцечка сабе зорачку.
Прыляцеў салавей пад падушачку,
Да набыў Віцечка сабе душачку.

566. Вечар вечарэе,
Свякроўка весялее.
Надзеецца карыстачкі
З сваёй нявестачкі:
Тонкага, беленькага,
Да клёну раўненькага.

567. — Ой, чы рад ты, а мой баценьку, майму прывазові?
Ой, чы рад, ой, а чы рад, то й за стол завядзімо,
Ой, чы не рад, ой, чы не рад, то й назад адвезімо.
— Ой, рад я быў, ты, мой сынаньку, як ты ўрадзіўся,
Цяпер раднейшы, яшчэ й весялейшы, што ўжо ты й ажаніўся.
Ой, рад я быў, ты, мой сынаньку, як цябе ўпавівалі,
Цяпер раднейшы, яшчэ і весялейшы, што цябе й укветавалі.

568. — Да ці рада ты, маці,
Да чужому дзіцяці?
— Ой, рада ж я ў ночку,

Ой, рада, сыночку,
Як свайму жываточку.

569. — Чы рада ты, мая матанька,
Што з вайны з'ездзіў?
Зваяваў за дзевак-паннак,
Выбраў сабе панну, маладую дзеваньку.
— Рада была, сынку, як цябе парадзіла,
А цяпер раднейша, як цябе ажаніла.
Пабіла п'яткі, ходзя каля хаткі,
Пабіла ножкі аб тры парожкі,
Пакуль ажаніла.

570. Рада, зямліца, рада,
Што дожджыкі ідуць,
Што зямліца ядранее,
А травіца зелянее.
Рада, мамачка, рада,
Што сына ажаніла,
А нявехну даждалася.
— А нявехначка ж мая,
Пераменачка мая,
Туды-сюды я цябе пашлю,
Наперади я сама пайду.
Мая лытка таўсцейшая,
Я за цябе жасцейшая.

571. Рада была маці, як сына радзіла,
Як сыночка радзіла.
Цяпер жа размячтала,
Як яго ажаніла,
Як яго ажаніла і нявестку даждала.
Я нявестку сюды-туды пашлю,
А сама я папераду пайду:
Па дровы, па лучыну,
Па ўсякую прычыну.
Свякруха бяжыць бяжком,
А нявестка ідзе пяшком.
Свякруха спатыкаецца,
А нявестка пасміхаецца.
Свякруха паваліласа,
А нявестка пахваліласа.

572. Ты, нявестачка мая,
Уся парадачка мая.
Сама пайду па лучыну,
Цябе пашлю па вадзіцу.
Сама буду бліны пячы,
А ты пойдзеш свінням нясці.
Сама буду бліны есці,
А ты будзеш сені месці.

573. Хвала табе, божа,
Што я сыночка радзіла,
Хвала табе, божа,
Што я сыночка ўзрасціла,
Хвала табе, божа,
Што я сыночка жаніла,
Хвала табе, божа,
І нявестачкі даждала,
Міскі, талеркі
З-пад лавічча сабрала.

574. Дзякуй богу, сына ажаніла
Да нявесткі даждала.
Да не буду работы рабіці,
Да не буду хлеба мясіці,
Да не буду дроў насіці,
Да не буду хаты месці,
Ано буду старэнькая
У хаце лад весці.
Дай, божа, ляльку,
Я буду за няньку.
Дай, божа, другую,
Буду за старую.

575. Узрадналась свякровушка,
Сына ажаніўшы
Да нявестушку ўзяўшы.
— Слава богу, пераменушку даждала:
А цяпер у мяне
Да печа будзець вытаплена,

Да новыя сені будуць вымецены.
Сяду на прыпечачку
Да туды-сюды нявестку пашлю,
А сама ўпярод пайду.

576. А Іванава матушка
Тры раза ўзраднулась:
Первы раз ўзраднулась,
Івана радзіўшы,
Втарой раз ўзраднулась,
Івана ўзрасціўшы,
Трэці раз ўзраднулась,
Івана жаніўшы 2
Да нявесту прывёўшы.

577. Да была маці рада,
Як сына нарадзіла,
А цяпер радавалася,
Як яго ажаніла
Ой, не будзе ні дрова насіці
Ды не будзе і хаткі месці,
Яна сядзе ў запечку
Да парадачак весці.
— Не сядзі, маці,
Ды ўставай, маці,
Ідзі дроў прынясі,
Патом, маці, ваду нясі.

578. — Ой, цяпер я вяліка,
Ой, цяпер я багата,
Ой, цяпер я рада стала,
Што нявестку дастала.
— Ой, матулю, ты, матулю,
Війся на аднэй ножцы,
Каб ты знала дагадзіці
Маладой нявестцы.

579. Рада свякроўка, што зімачку сагнала,
Яна ж рада, што нявестачку даждала,
Яна ж яе па ягадкі паслала.

А яна ж ёй спялюсенькіх набрала,
А мамачцы зялёненькіх паслала.
— А, мамачка, зялёненькімі жывіся,
А, свякроўка, спеленькімі ўдавіся.

580. Лятала свякроўка, лятала,
Рада, што нявестку прыждала.
— Цяпер будзе хатачка мецена,
Цяпер будзе вадзіца прынесена,
Цяпер будзе столічак засланы,
Цяпер будуць лыжачкі памыты.
— А ты, свякровачка, не гадай,
На мяне работкі ўсёй не складай.
Засцеле столічак — свякроўка,
Памые лыжачкі — залвічка,
Падмяце хатачку — цётачка,
Прынясе вадзіцы — Янанчка.

581. Рада свякроўка, пабягае,
Што яе нявестка маладая.
— Яна мне хатачку памяце,
Яна мне й вадзіцы прынясе,
Яна мне лыжачкі памые,
Яна мне столікі пакрые.
— Бадай ты, свякроўка, не даждала,
Ды сколькі ты мною пасылала.
Прынясеш вадзіцы ты збанком,
Памяцеш ты хату памялцом,
Сама ты лыжачкі памыеш,
Сама й столікі пакрыеш.

582. А хвала табе, божа,
Што ў маім доме нявестачка —
Маім ручкам падменачка.
Яна ж мне чыста хатачку падмяце,
Яна ж мне белу кашульку памые,
Яна ж мне белу пасцельку пасцеле,
Яна ж мне з мора вадзіцы прынясе,
Яна ж мяне матулечкай назаве.

583. Пахаджае свякроў, пахаджае, *
Рада, што нявестка маладая.
— Будуць сталы пакрыты,
Будуць лаўкі памыты,
Будзе хата падмяцёна,
Будзе вадзіца прынясёна.
Нявестка горда адказала:
— Пакрые сталы свякроўка, 2
Памые лаўкі ятроўка,
Падмяце хату залвіца,
Прынясе вадзіцы дзевяратка, 2
Я буду сядзець, як матка.

## КАМОРА

584. Па саду хаджу, спатанькі хачу —
Некаму спатанькі пакласці.
Пакладзець мяне родна мамухна
На сваю белу ложу.
Мамухны ложа — бела прыгожа,
А мне спаць нягожа.

*Далей паўтараецца: родныя татухна, сястрыца, брацітка.*

*Нарэшце:*

Па саду хаджу, спатанькі хачу —
Некаму спатанькі пакласці.
Пакладзець мяне мілы Яначка
На сваю чорну ложу.
Яначкі ложа — чорна рагожа,
А мне спаці гожа.

585. Курка-рабушка сакоча
Да на сядала й хоча.
Дзеўка за сталом рагоча
Да на белае ложа хоча.
— Чы ж вы ж мяне тут кладзіце,
Чы вы мяне ў клець вядзіце.
Дзе ж мяне паложыце — на таку?
Што ж вы мне пасцелеце — асаку?
Чым жа ж мяне надзенеце зверху?
Я ж на ваша й ліха змерзну.

586. А ці тут кладзіце, ці дамоў вядзіце.
Тут палажыўшы — нярана будзе,
Дамоў павёўшы — няслава будзе.

587. Пад печчу курка сакоча,
Дзеванька спаткі хоча.
Дзе ж яе палажыці:
Ці ў клець весці ў камораньку —
На траву-саломаньку,
На любоў-размованьку?

588. Ой, знаці, знаці, да хто хоча спаці:
Ножкамі тупча, вочкамі плюшча,
Вочкамі плюшча і ручкамі спусця.
Курка куркоча, на сядала хоча,
Маладая Любачка да да Ванечкі хоча.

589. Ой, знаці, знаці, хто хоча спаці.
Андрэйка хочыць, баценька просіць:
— Дайце, баценьку, новую камору,
Новую камору мне, маладому,
Мне, маладому, заначаваці трэба.

590. Дрэмле нявестка, дрэмле,
Відна, спатанькі хоча.
Завядземо ў камораньку,
На белу пасцелейку.

591. Ці слепы вы, свашкі,
Ці не відзеце, свашкі? 2
Маланачка Івану
Усе бакі 'дтаўхала,
У дворачку звала:
— А паедзем мы ў двору
Ды на белую ложу.

592. Прыляцела сарока з далёка
Дый села на стаўбе, дый сакоча,

Дый у сваю староначку ляцець хоча.
Прыехала Олечка здалёка
Дый села за сталом, дый плача.
Ды ні піць, ні есць не хоча,
Ды на белу пасцельку спаць хоча.

593. Ехала пахмурайка
Да на новае падвор'ейка.
З пыхі не гаворыць,
Як жаль не прамовіць.
Адно толькі прамовіла:
— Залвіца, мая сястрыца,
Сцялі мне пасцельку,
Кашулю да бяленькую
Пад мяне, маладзенькую.
Лягу я да сапачыну
З чужым да мужчынам.

594. Хмель тычаньку ломіць,
Сон галаваньку клоніць
У нову каմораньку,
На ціху размованьку.

595. Цвет каліначьку ломіць,
Сон галаваньку клоніць.
Пайдзіце, пасцяліце,
Спатанькі палажыце.

596. Да вазмеце да мяне ў свахі,
Бо я ўмею да пасцель слаці.
Навакола да падушачкі,
У сярэдзінку да дзве душачкі.
Навакола да пухавыя,
У сярэдзіну да маладыя.

597. Гдзе ж тая вясельная маці?
Няхай дае ключы ад камнаці,
Будзем пасцель слаці,
Слаці-дасцілаці,
Маладых спаць класці.

598. Не самі ж мы прыйшлі —
Прыслала нас маці
Белае ложа слаці,
Белае да бяленькае
Да Марухні маладзенькай.

599. На дварэ пазнеханька,
Соўнышка нізеханька,
Час пасцелю слаць,
Дзе маладым спаць.
Пашлем мы маладзенца
У новае гуменца
Па праму салому
На белае ложа.

600. Выкацілі ў Дзяміды бочку,
Выманілі ў бацькі дочку,
А бочачка та дубовая,
А дзевачка чарнабровая.
— Сястрыцы-падружкі,
Да нясіце падушкі,
Ад сястрыцы Кацярыны
Да нясіце пярыны,
Да кладзеце на краваці.
А хто любіць мякка спаць,
Хай кладзецца на кравáць.
У галоўку — салому,
А мяткі — пад пяткі,
Штоб харашо было спаткі.

601. Ідзе Цімошка да ложы,
Наперад яго — сын божы.
— Ой, сын божы, да памажы
Белую ложу слаці,
Двойчы дзетак класці:
Аднаго — роджанага,
Другога — суджанага.
Цімошка — роджанага,
А Матронкі — суджанай.

602. Да я свайму міленькаму
Да пасцельку сцялю:
У тры рады да ў чатыры
Я каменне кладу.

603. Пасцеленьку слала,
А тры зеллі клала:
Першае зелле — рожа,
Каб была прыгожа,
А другое зелле — квеці,
Каб былі ў яе дзеці,
Трэцяе зелле — мята,
Каб была багата.

604. Мы ж былі пасцельныя,
Умелі пасцель слаці:
Руту-мяту клалі й чырвоныя кветкі,
Каб любіліся дзеткі.

605. — Куды мяне вядзеце ў буду,
З кім жа я начаваці буду, буду?
З кім жа я начаваці буду?
Дзе вы мяне да паложыце, паложыце?
Дзе вы мяне да паложыце?
Што вы мне пасцелеце, пасцелеце?
Што вы мне пасцелеце?
— Пасцелем пасцелю, пасцелю
Да запішам на сцяне, на сцяне,
Да запішам на сцяне,
Каб сыны пісары былі, былі.
Каб сыны пісары былі,
А дочкі пераборніцы, пераборніцы,
А дочкі пераборніцы.
Перабіралі ўсімі зоркамі, зоркамі,
Перабіралі ўсімі зоркамі,
Катора яснейшая, яснейшая,
Катора яснейшая,
Дык тая харашэйшая.

606. А на тое мы мякка слалі,
Каб хораша спалі,

А на тое мы каталі,
Каб яны хахаталі.

607. Ой, вумная-разумная
Ганначчына маці:
Сабрала пасцельку
За адну нядзельку,
Сабрала пярынку
За адну гадзінку.

608. Годзе ж нам сядзець,
На дзверы глядзець.
Бяры, дружка, свечы
Весці дзетак да клеці.

609. Дружка, церабі сцежкі,
Вазьмі сакеру да рубай елку,
Да вязі спаці дзеўку.
Хто павязе маладу спаці,
Трэба яму залаты даці,
А хто пойдзе звадзіці —
Нагавіцы адкраіці.

610. Не дарос малойчык, не дарос,
Што тваю дзевачку воўк панёс.
Ты ж бяжы, бяжы ў лясок,
Пачуеш яе галасок.
Яе галасок, як лясок,
Ды чырвоненькі хвартушок,
Русая косачка на паясок.

611. — Гаварун, гаварун,
Бел малойчык,
А які ты гаварун!
А ўжо тваю маладу дзевачку
Ды ваўчок павалок.
— Вы не тукайце,
Вы не люкайце,
Няхай сабе валачэ.

На цясовую на краватачку
Ён яе не пакладзе,
Пад бярозаю ды пад белаю
Яе костачкі растрасе.

612. А хто, хто ды па морачку свішчыць,
А хто, хто ды па сіняму свішчыць?
Селязень ды па морачку свішчыць,
Селязень ды па сіняму свішчыць,
Ён сваю, сваю вутачку ішчыць,
Ён сваю, сваю шэрую ішчыць.
— Ай, вуць-вуць, мая вутачка, ка мне.
Ай, вуць-вуць, мая шэрая, ка мне:
А ў мяне ды гняздзечка з трысцечка, 2
А ў мяне ды пад крыллейкам цёпла. 2
А хто, хто ды па сеначках ходзіць,
А хто, хто ды па новенькіх ходзіць?
Хведзечка ды па сенечках ходзіць,
Хведзечка ды па новенькіх ходзіць,
Ён сваю, сваю Кацечку ішчыць,
Ён сваю, сваю мілую ішчыць.
— Ай, ходзь, ходзь, мая Кацечка, ка мне,
Ай, ходзь, ходзь, мая мілая, ка мне:
А ў мяне караватачка нова,
А ў мяне ды пасцелька пухова,
А ў мяне абніманнейка цесна,
А ў мяне цалаваннейка ўцешна.

613. Да камар муху й вядзе,
У гіцкую берлу кладзе.
— Ох, ты ж, камару-камарусеньку,
Вядзі ж мяне памалюсеньку,
Бо я муха старая,
У мяне ножка малая.

614. Галубок да на сідала ідзе,
Галубку за сабой вядзе.
Жанішок да да ложыю ідзе,
Дзеваньку за сабой вядзе.
Палажылі двое спаці,
Трэце калыхаці.

— Спіце, дзеці, чутка,
Трэце ўстала хутка.

615. Да клеці, Гапачка, да клеці.
За ею нясуць тры плеці.
— Кажыся, Гапачка, кажыся,
З кім ты варэшкі шчыпала?
— Шчыпала варэшкі з братамі,
Брала ягодкі з сястрамі.
— Нуце вы, дружкі, варашыцеся,
А нашаму князю некалі:
Той калочку дзяржыць,
А тая лаўку грызець,
Да пасцелі завець.

616. Вядуць мяне ў клець спаць,
Трэба праўду сказаць,
З кім волікі пасла,
З кім арэшкі трасла,
Да каторы пастушок
Падарыў фартушок.
Да Іванка-пастушок
Падарыў фартушок.

617. Вядуць, вядуць маладзіцу
Да ў новую святліцу,
Да вядуць, вядуць у клець спаці, 2
Да будуць, будуць праўды пытаці.
Да ўсю праўду сказаўшы, 2
Да будуць біці звязаўшы,
Да ўсю праўду згаварыўшы, 2
Да будуць біць палажыўшы.

618. У садзе моркаўка цвіцела, *
Скажы, Ганулька, ці цэла?
А калі цэла, гусак пячэцца,
Калі няцэла, бізун пляцецца.

619. Зулькі-казулькі з зямлі ідуць,
Дзеўку-нябогу ў клець вядуць.

620. — А ой, мамухна, ў клець вядуць.
— Не бойся, пірог дадуць.
Не той пірог дадуць,
Каторы ядуць,
А той пірог дадуць,
Каторы не усім даюць.

621. Каціласе калясо з клеці,
Любіцеся харашо, дзеці.
Хто палюбіў, і любіць будзе,
Хто жаніўся, абнімаць будзе.
Не па лесе гэта ўсё ідзе,
Андрэй Зосю спаць лажыцца вядзе.

622. Гуска рака носіць,
Цешча зяця просіць:
— Дам табе да сарочачку,
Любі маю дочачку.
Дам табе ўсе убранне
За твае любанне.

623. Ой, чыя-то клетухна, клетухна
Варанымі коньмі вожана, вожана,
А на цалаванне стаўлена, стаўлена,
А на мілаванне зрублена, зрублена?
Іванечкі клетухна, клетухна
Варанымі коньмі вожана, вожана,
А на цалаванне стаўлена, стаўлена,
А на мілаванне зрублена, зрублена.

624. У новай каморы за дзвеванькамі
Стаялі ложкі з падушачкамі,
Й а й у тым ложачку молад Мікітка.
Прыйшла да яго Галенька яго,
Узяла за галоўку — цалуе яго:
— Ой ты, Мікітка, дарагі квету,
Няма такога ў цэлым свету!

625. Не лажыся, Марка, бокам:
Гэта табе не нарокам.

Да лажыся да правусенька:
Будзе табе да мілюсенька.

626. Сівы конік да вады ідзець,
А Матрошанька ды пад печ лезець.
Ванька думаў, што то мыш палява,
Ажно гэта Матронка малада.

627. Маладая дзяўчонанька па гаечку хадзіла,
Маладога парня за ручаньку вадзіла.
— Малады жанішок, не гардуй ты мною,
Не гардуй ты мною, я ж буду з табою. 2
Мы будземо жыці давеку з табою.

628. Узлез мядзведзь на клецъ,
А з клеці да на сцёбачку,
А з сцёбачкі да ў каробачку.
А ў каробачцы насеннейка,
Вясёлае нам вяселлейка.

629. Мядзведзь-муравейнічак
А ўзлез на істопачку,
Скінуў каробачку.
А ў той каробачцы сем кур на вяровачцы,
Восьмая самаволь ходзіць,
Пятуха за хахол водзіць.

630. Калюваты пятушок
Паймаў курку за грабяшок:
— А во табе, курка, за то,
Не хадзіць было ў чужое гумно.

631. А былі ж мы ў клеці, у клеці,
А й елі мы белы сыр, белы сыр,
А зародзіцца первы сын, первы сын.
А былі ж мы ў клеці, у клеці,
А й елі мы маслечка, маслечка,
Каб была дачка Настачка, Настачка.

632. Крышу сыр,
Каб к налеццю сын,
Крышу пячонку,
Каб после дзяўчонку.

633. А ўсе песні перапелі,
Аднаго шарсцня не пелі:
Паляцеў шарсцень на балота,
Загадаў шарсцень тры работы.
Жана мужа прадавала,
Аценіла тры рублі.
— Мне з грошамі не насіцца,
Мне з коньмі не вазіцца,
А мілы ў хаце прыгадзіцца:
Стаўкнець, змяльнець, вады прынясець,
Калі здобрыцца — хату падмяцець,
А калі чорт надмець — бок наб'ець.

634. Як ляцелі шэршні з бору,
Заляцелі ў камору.
Як высадзіў шэршань жала,
Ды ў дзеўкі сэрца звяла.

635. Прыляцеў, мамка, шэрсень
Да й уткнуў жала, 2
Сэрца мае задрыжала.
Дзеўку не за пуп, да за чарэва
Укусіў па сярэду.

636. — А мамачка, балазе,
Паўзе чарвяк па назе.
А мамачка, баюся,
Ён жа мяне ўкусе.
А мамачка, ў клець вядуць.
— Не бойся, дачушка,
Пірага дадуць.

637. Гойна да гойна!
Што ў Кракове война:

Усе дзеўкі ялавіцы,
Толькі адна дойна.

638. Ходзіць дзяўчына па новых сенях, як паўка,
Сядзіць дзяцінка на белай ложы — сумуе,
Узяў дзевачку за праву ручку — жартуе.

639. Стукнулі жалуды ў бочцы,
Да набілі дзеўку хлопцы.
Так білі, што малыя недаростачкі,
Асталіся адны костачкі.

640. Заюшка да бялесенькі,
Заюшка да сярэсенькі.
Гарадзілі зайца галлём-быллём,
Да нікуды зайка да не выскачыць —
Ці на горушку, ці на ёлушку.
Паймай сабе красну дзевушку,
Каторую хоч, каторую хоч,
Туда скоч.

641. І скакала б я,
І плясала бы я,
Да баюся мужыка,
Штоб не адрэзаў языка.
— Ох, заюхно,
Ох, бацюхно,
[Такі] зайка папрыгліў,
Туды зайка папрыгнуў. 2
Да сярэсенькі,
Да бялесенькі,
Тый, зайчык, маладзесенькі.

642. Сват кабылу лупіў,
Да нажы паламаў,
Да зубамі рваў...

643. Ох, ну-ну, мамо,
Да ў крывога танца,

Ці не выведзем панца?
А сталі вясці
Да вяночка плясці.

644. — Ты, зайчыку серы-белы,
Не садзісь у паўдарогі,
Будзе ехаці пан дружанька,
Стопча цябе вараным канём.
— За што мяне таптаць будзе,
Чы я ў яго капусту з'еў?
Ано толькі ў саду сядзеў.
У саду сядзеў, на тыне скакаў,
Дружка злякаў.

645. Да наша лісухна п'яна была,
Да на гародах спаць лягла.
Прыбег заюхна, лёг ля яе,
Прачнулася лісухна — мокра ў яе:
— Ды ці не быў жа ты, касы, каля мяне?

646. Заспявайце, маладзічкі,
Палескага зайца:
Сам серы,
Хвост белы,
Паджарыя [вушы].

647. Пайшоў заяц пад вянец,
Адзеў белыя штаны,
І мы ўсе дамоў пайшлі.

648. Нашы сваткове-лаўцы
Ездзілі на ўлованькі,
Злапалі звярыну,
Схавалі пад пярыну.
Пярына трасецца,
А звярына смяецца.

649. Ох ты, радасць мая,
Радасць дарагая,

Цяпер жа ў мяне
Жона маладая.

650. А наша малада ў клеці сядзіць,
У клеці сядзіць, каўбасы чыне.
Начыніла каўбасу — сам-друг не ўнясу,
Начыніла другую — яшчэ такую,
Начыніла трэцюю — яшчэ лепшую.

651. Упала куранятка,
Схапіла клубянятка.
Як гокаць, ды гокаць,
За тры дні лопаць.
А за тры нядзелі
Губкі пабялелі.

652. Я й лажылася на печы,
Я й праснулася ў клеці,—
Ажну мае ножанькі разуваны
І вусначкі цалаваны.

653. За добрым мужам і жана хараша,
Спіць на пярыначцы да белага дня.
А за благім мужам — у лесе пад галіной,
Босыя ножанькі пад галавой.

654. А ўчора звячора ўкусіла дзеўку пчола,
Не за пуп, не за калена, а за голае цела.
Упусціла жыгала, ажно сердзечка звяла.
Ай, дайце ж вадзіцы душаньку адліці.

655. Ой, у клуні навіна,
За клуняю дзярніна.
Ды валы старыя,
Ратаі малыя —
Дзерніны не ўвадралі.

656. Закладайце бык³-неўк³ ў вярмо
Ды будзем да нав³наньку й араці.
Ды калі ж будзе да навінанька цаленька,
То тады будзе да яечанька смачненька.
А калі ж будзе навінанька арана,
То тады ж будзе да рэдзечка скрыляна.

657. Казалі нам, Сямёнка гультай,—
Залатую сошаньку напраўляў,
Чорную аблогу раздзіраў. 2

658. Былі мы ў Кракове,
Там людзі аднаковы,
Там нас муштравалі,
Араці запрагалі.
Мы гаралі дзярно, дзярно,
Паламалі ярмо, ярмо.
Аралі дзярністае,
Паламалі ярмістае.

659. Божае стварэнне
І прачыстае насенне.
А вы, сакалы, вейце гняздо,
А вы, свашачкі, пейце віно.
Кветачкі не зламіце,
Маладых не звалачыце.

660. Куры, куры, да не пейце рана,
Да не пейце рана, не будзіце пана.
Ой, наш паночак з вайны прыехаў,
З вайны прыехаў, горад зваяваў,
Горад зваяваў, паланяначку ўзяў.
Паланяначка — маладая Кацечка,
Гаспадарочак, як сакалочак,
Гаспадынюшка, як малінушка.

661. Чык, чок, салавей, а вы, пташкі, маўчыце,
А вы, пташкі, маўчыце, не шчабячыце.
Ужо наш жанішка з вайны прыехаў,

Кубачкі яго на стале стаяць,
Платочкі яго ў кармане ляжаць,
Конічак яго ды на стайні стаіць,
Сядзельца яго пад стайняй вісіць,
Шабелька яго пры боку ў яго.
Кубачкі яго — то ўмываннейка,
Платочкі яго — то ўціраннейка,
Конічак яго — красаваннейка,
Шабелька яго — абароначка.

662. Куры, куры, не пейце рана,
Не будзіце пана.
Наш пан малады
Прыехаў з вайны,
Пусціў коніка на раннюю расу.
Хай конік па расе паскача,
А дзевачка па касе паплача.
Не так па касе, як па касьнічках.
Яна іх купляла, дорага аддавала.
Насіла, да падвор'е касіла.
А ў сені ўвайшла, як зарой узышла.
На пасадзе села, як ружа зрэла.
З пасаду ўстала, як ружа звяла.

663. А ў садзе, а ў вінаградзе,
Там стаіць краватка цясовая,
Там ляжыць пярына пуховая.
На тэй пярыне Васілінька,
А душа яго Гапынька ў галоўках сядзіць,
Вінную чарачку ў руках дзяржыць,
Садовый яблычак за пазушкай.
— Ты ўстань, Васілька, прасніся,
На табе вадзіцы, ты умыйся,
Шаўковай хустачкай ватрыся,
Віннай чарачкай пахмяліся,
Сахарным кусочкам пажывіся.
Сахарны кусочак па душы пайшоў,
А салодкі мядочак да па вустынькам,
Маладая Гапынька па абычаю пайшла.
А душа мая Гапынька дагадалася,
Што з маей мамухнай спазналася.

664. — Маладзенька Аксаначка,
Выйдзі із каморкі
Да паглядзі на зоркі.
— Трэба рана ўставаці,
Я звыкла доўга спаці,
У мяне не свая маці.
Я дома доўга спала,
А ў свякрухі трэба рана ўставаць
Да кароўку ўганяць.

665. Ля калодзезя, ля сцюдзёнага, раненька, *
Там Колечка коніка паіў, раненька,
Коніка паіў, ён запазніўся, раненька,
Яго жана вумная была, раненька,
Яна яму кашуленьку змяніла, раненька,
Яна яму пасцеленьку паслала, раненька,
Яна яго і спатанькі паклала, раненька.

666. Як пайду я па сенях,
Ды па новенькіх,
Як найду я трох курачак,
Ды ўсё чорненькіх.
Каб найшоўся купец,
Я б і курак прадала,
Каб харошы маладзец,
Я б і так аддала.
Як якому смаркачу,
Я й за грошы не хачу.
Як якому блазну,
Па зубах я бразну.

667. Панясла нявеста
Пятуха на места.
— Нашто мяне прадаеш?
— Чаму рана не пяеш?
— Буду табе рана пець,
Нясі мяне ў нову клець,
Пасадзі на кравацъ.

668. А ў барку, барку
На жоўтым пяску

Скакалі вераб'і,
Залупіўшы хвасты.
А ў клецi, клецi
На дзіравым масту
Ляжыць халосты,
Як сабака бясхвосты.
У галавах кульбака,
Ля боку сабака.
Кульбаку — вышэй,
Сабаку — бліжэй.
А ў хаце, хаце
На цясовай краваці
Ляжыць жанаты,
Як пан багаты.
Ў галавах падушка,
Каля боку жанушка.
Падушку — вышэй,
Жанушку — бліжэй.

669. Ой, знаці, знаці, хто нежанаты:
Свішча, рагоча, жаніціся хоча.
Ой, знаці, знаці, хто ажаніўся:
Счарнеў, сцямнеў, з ліца змяніўся.

670. Ой, знаці, знаці, хто каго любіць:
Блізенька сядзе, шчэ й прыгалубіць.
Ой, знаці, знаці, хто не любіцца:
Далёка сядае, скрыва дзівіцца.
Ой, знаці, знаці, хто нежанаты:
На ём лічанька, як на панячы.
Ой, знаці, знаці, хто ажаніўся:
Скурчыўся, зморшчыўся, сеў, зажурыўся.

671. — Да ты жа п'еш, Стаська, упіваешся,
На каго ты спадзяваешся?
— Я спадзяваюся на сваю маладу жану,
Яна мяне п'янага пярэйміць,
Разуець, раздзенець, на белу пасцельку паложыць,
Куньяй шубай пакрыець, абнімець, пацалуець.

672. Казалі, нехарош, непрыгож,
Ажнуль ён прыгажуханек і харашуханек.
Толькі б яму пры горадзе жыці,
Толькі б яму суды судзіці,
Жане яго прыслужываці,
Дзеткам яго перапісываці,
Слугам яго перачытываці.

673. Звоні, сваце, звоні,
Пазволь да каморы.
Там двое дзетачкі спалі.
Адно дзіця да раджонае,
А другое да суджонае.
Нікіпарка — раджонае,
Гапка — да суджонае.

674. Прыданачкам адно на ўме,
Ды што не былі ў гумне.
— Каб нам ды пабываці,
Таго дзіва да павідаці,
Маладую нарадзіці
Да з сабою пасадзіці.

675. Схмурнела Валечка, схмурнела, схмурнела,
Тры дні ў цямніцы сядзела, сядзела.
Як наехалі сястрыцы, сястрыцы,
Да вывелі Валечку з цямніцы.

676. А ўся ж наша дый радзіна на волі,
Адна наша Анісцечка ў няволі,
А ў няволі, у Піліпавай каморы.
— Выйдзі, выйдзі, Анісцечка, з церама,
Ты выведзі сваю радзіну з сарама.

677. Уставайце, княжата,
Шчэ пшаніца не жата.
Пшаніцу сажніце
І ў копайкі складзіце.
Устань, чарнышанька,

Абмыйся бялысенька,
Шырынкаю абатрыся
Та богу памаліся.

678. Гусачка ля рэчкі хадзіла,
Яна свайго селезня сачыла:
— Дзе мой селязенька падзяваўся —
Ці на сінім моры закупаўся,
Ці ён з чужой гускай загуляўся?
Манечка па сенях хадзіла,
Яна свайго мілага будзіла:
— Устань, устань, мой міленькі,
Ды пойдзем з табой у сад зеляненькі,
Ды зловім птушку-шчабятушку,
Ды яна нам будзе шчабятаць,
Каб мы, маладыя, не заспалі,
Каб людзі на нас не гукалі.

679. Схіліцеся, жоначкі,
Паглядзіце братовачкі.
Сядзіць наша братовачка
У золаце на ложачку.

680. Ой, знаці, знаці,
Што чужая маці —
Не дае вячэраць
Гэтаму дзіцяці.
— Пачакай, дзіцятка,
Пагляджу па цноці,
Дам табе вячэраць
Хоць пасярод ночы.

681. Ой, у ляску, у ляску, да на вераску,
Раном, раном.*
Там староста да коня пасе,
А свашачка да абед нясе.
— Пастой, свашка, пачасуй трошка,
Скажу табе дзіва дзіўненькае:

* Рэфрэн «Раном, раном» паўтараецца пасля кожнага радка.

Ей, на святое раждво да роза зацвіла,
— Я ж там была і вянок віла.
Ей, на святога Пятра да Дунай замерз.
— Я ж там бываў, тапаром рубаў.

682. Рыкнулі волы, у аборы стоя,
Аж бяда да няволя
Маладога сняданне.
Што малады сажывае,
То старосты пасылае:
Курата, гусята
І сівыя галубята.

683. Не месячка свеце,
Не соўніка грэе,—
А ў нашае дзяўчынанькі
Каліначка зрэе.
Зрэе-вызравае,
К свету паспявае.

684. Рася ўецъ, рася ўецъ,
Нашы маладыя з клеці йдуць,
З клеці йдуць.
Ой, гоцнем, гоцнем да на гарнец мёду,
Бо наша Настулька добрага роду.
Атца-маці ў стыд не ўвяла,
Бо яна цэлачкай яшчэ была.

685. Ужо дзеванька із ложа ідзе,
Сваёму свекарку добры дзень дае.
— Ой, на добры дзень, мой свекарку,
Ой, на добры дзень, мой родненькі.
Рада б я была добры дзень дала,
Маю галованьку туга заняла,
Ой, не магу я гаварыці,
Сваяго сердзенька звесяліці.
Ой, я ў цябе заўсёды буду:
Дзе мяне пашлеш, я туды пайду,
Што мне раскажаш, рабіці буду.

686. Нявехна з ложка ідзе
І дзень добры свёкру дае.
Трэба нам думаці і гадаці,
Як тое скрывала з галавы зняці.
Ужо ж гэтай маладзіцы
Дакучыла ў гэтай цямніцы.

687. Вумная-разумная Мар'юшка
Па двару ішла са свячою,
А ў клетку ішла дзявою,
А з клеткі ішла жаною.
— Не завіце мяне дзявою,
Да завіце мяне жаною.
Хоць вы мяне талоч-малоць застаўце,
Толькі мяне маладзіцаю настаўце.
Хоць вы мяне за вадзіцаю пашліце,
Толькі мяне маладзіцаю завіце.

688. А ў нас на двор патароча стала,
Ой, рана, рана патароча стала.*
А ў нас на сяле славачка стала,
З кім наша дзевачка да сягоння спала
Пад каўром, пад каўром пад зялёненькім.
З малойчыкам, з малойчыкам з малодзенькім.

689. Да ўжо маё вяселле ў нядзелю,
Бог ведае, ці дзеўкаю паеду.
Калі дзеўкаю, то яечаньку спечаце,
А калі не дзеўкаю, нагайкаю паб'еце.

690. Ай, міленькі мой,
Чорнабрывенькі,
Не верыш ты мне,
Ні сэрцу майму.
Не верыш ты мне,
Ні сэрцу майму —
Пастаў, калакол

* Рэфрэн «Ой, рана, рана патароча стала», акрамя апошняга, паўтараецца пасля кожнага радка.

Пад белы падол:
Хто мяне затронець —
Калакол зазвоніць.
Хто мяне парушыць —
Калакол аглушыць.

691. А ў нас сёння шавялі былі,
Чатыры нажачкі ў кучы былі,
Пятая ножачка шавяліла,
Нам гарэлачку саладзіла.

692. У агародзе грушка
Ужо патрушана,
Наша Мар'юхна
Ужо паварушана.

693. Наша Аўдотачка
Пашню пахала,
На рагач папала.
З рагача звалілась,
На кол узбілась.

694. Пад ёлкаю спала
Да не дзеўкаю стала.
Хто бачыў — скажыце,
Хто падняў — вярніце.
Сватко бачыў — не сказаў,
Мілы падняў — не вярнуў,
К шчыраму сэрданьку прыгарнуў.

695. Спасіба маткі за дачку,
Што насіла дачку ў хвартычку.
Яна так хадзіла,
Як маць радзіла.

696. Звонкае дзерава каліна.
Да ў бары стаяла — шумела,
Дарогаю ідучы — звінела,

У вароцечка прыйшло — стукнула,
Пад акно прыйшло — клікнула:
— Ды выйдзі, дзевачка, да мяне,
Да маю размову да цябе.
— Я не маю часу хадзіці,
Буду вінаградзік садзіці.
Каб мой вінаградзік прыняўся,
З чырвонаю розкаю змяшаўся,
Па белай кашулі паслаўся,
Да мае матушкі заслаўся.
Да няхай матушка разгорне,
К шчыраму сэрданьку прыгорне.
— Да няма тут срэбра, ні злота,
Да майго дзіцяці ўся цнота.

697. Зажурылася івалга на зарэ:
— Хто ў маім гняздзечку рана быў,
Хто мае яечкі паразбіў?
Як зачуў-пачуў салавей:
— Я ў тваім гняздзечку рана быў,
Я твае яечкі паразбіў.
Зажурылася Манечка на зарэ:
— Хто ў маёй каморцы рана быў,
Хто маю пасцельку разарыў?
Як зачуў-пачуў Ванечка:
— Я ў тваёй каморцы рана быў,
Я тваю пасцельку разарыў.

698. У панядзелак рана да пароша пала,
Да на той парошы слядочак харошы.
Свякратка кажа, што куна хадзіла,
Міленькі кажа, што гэта не куна,
Што гэта не куна, гэта мая міла
Па садочку хадзіла да красачкі рвала,
Красачкі рвала — кашулю ўбірала,
Кашулю ўбірала — да матачкі слала.
Матачка згорне, к сэрцу прыгорне:
— Да няма тут трэбра, да няма тут злота,
Адно мае дачушкі залатыя стужкі.

699. У панядзелак рана да пароша пала,
Да на той парошы слядок харошы,

Да куна хадзіла, пер'е раніла.
Выйшла дзевунька да й падабрала,
Да й падабраўшы, вяночак савіла,
Вяночак савіўшы, на Дунай пусціла.
Ой, там рыбаловы рыбу лавілі.
— Да мае вы мілы, тры рыбаловы,
Ці не зловіце майго вяночка?
Я ж вам, маладзенька, дарма не схачу,
Я ж вам, малойцам, дарага заплачу:
Першаму рыбалову — да паві вяночак,
Другому рыбалову — залаты пярсцёнак,
Трэцяму рыбалову — сама маладзенька.
Сама маладзенька з русаю касою,
З русаю касою, з сваёю красою.

700. Учора зайка да па гары лятаў,
А сягоння рана да на палуміску.
Добрым людзям закусачка будзе,
Маладому паляўнічаньку шуба будзе.
Добрыя людзі да закрываць будуць,
Малады паляўнічык да насіць будзе.
Учора Ганначка з дзеўкамі гуляла,
А сягоння рана да жаною стала.
Добрым людзям суседачка будзе,
Маладому Мікалайку работніца будзе.
Добрыя людзі сухваляць будуць,
Малады Мікалайка пасылаць будзе.

701. Што з лугу, з лугу да хмарачка ўстала,
Наша Кацярынка з Марцінкам спала.
Яна думала, што сорам будзе,
Аж на ёй сорама да нікольki няма.
Яе бацюхна да на покуць вядуць,
Да на покуць вядуць, чырвонцы кладуць
Да віном частуюць, слоўцам шануюць,
Віном зеляненькім, слоўцам верненькім.
— Дзякуй, бацюхна, за тваё дзіцятка,
Хоць яно маленьке, абы яно дабрэньке,
Хоць яно невялічке, абы румяна лічке.
Ці на нашай уліцы рабят не было?
Да былі рабята, да ўсё хлапята.
Стаялі маскалі, к ёй не прысталі,

Стаялі жаўнеры, к ёй не пасмелі,
Як прыйшла пара, то я й сама дала.

702. Белая бяроза, чырвоная вішня,
Наша дзеванька хароша прыйшла.
Так яна прыйшла, як ад маткі выйшла,
Так яна ўстала, як ад маткі ўпала.
На яе вуліцы да рабяты былі,
Да былі рабяты да ўсё хлапяты.
Стаялі жаўнеры, к ёй не пасмелі,
Кружочкам пасталі, к ёй не прысталі,
Бітыя таляры да па ручкам клалі,
Нізкія паклоны аж да ножак клалі.
— Да мне не трэба ні бітых таляраў,
Ні бітых таляраў, ні нізкіх паклонаў,
Да мне патрэбна вянкі з расою,
Вянкі з расою, кашулю з красою.

703. Да ў пятніцу клён-дзерава спушчона,
А ў суботачку караватачка зраблёна,
А ў нядзельку ў клетачку ўнясёна.
У панядзелак чужаземачка прывязёна,
А ў ваўторак чужаземачка спаць пайшла
Да ўраніла сваю ягадку ў караватку
І развесяліла сваю радзіначку і матку.

704. А хвала табе, божа,
Што наша Ніначка прыгожа.
Як бель бялюсенька,
З пdescribed прыданямі раўнюсенька.
Як маць радзіла,
Так яна ў дзевачках хадзіла.

705. У агародзе ячмень
Весь золатам зацвіў,
А нашае Мар'юхны цнота
Да дарожа таго злота.

706. Гадавала маці бобра,
А ў яе дочка добра,

А ў яе дочка гожа,
Як чырвона рожа.

707. Хоць нашай рожачкі трошачкі,
Калі наша рожа прыгожа
Да ўсяей радзіне пагожа.

708. А добра наша Манечка чыніла, чыніла,
Што не хадзіла ў цёмныя лесы ў арэшкі, у арэшкі,
Не нарабіла сваёй радзіне насмешкі, насмешкі.
А хадзіла ў зялёны лугі ў калінку, у калінку,
А пакрасіла ўсю сваю радзінку, радзінку,
А пакрасіўшы, па застоллю садзіла, садзіла.
Яна садзіла паніжы бога, бога,
Павышы людзей — на куце, на куце,
Паставіла тую калінку на стале, на стале.

709. Швачка была наша Васька,
Вышыла ўкруг падола
Тупой іглой без вушка
І чырвоным шоўкам.

710. Ой, пайду я ў луг па каліну
Да выламлю калінаву ветку,
Да застэркну за белу наметку. 2
Няхай мая каліначка мае, 2
Няхай мая радзіна гуляе, эй.

711. Не копцеся, прыданы,
Па сваей дальняй дарозе —
Зацвіла калінанька на лютом марозе.
Не цвіла калінанька к Пятру,
Да зацвіла калінанька к раздву,
З Мар'юхнаю нашага Іванка ў каморы,
У нашае Мар'юхны ў падоле.

712. Святы панядзелку
Сапсаваў нам дзеўку.

Галоўку пакудлачыў,
Ножанькі раскрачыў.
Маладая рана ўстала,
Маладога папытала:
— Ці не чуў, ці не бачыў,
Хто галоўку пакудлачыў?
Бо я ўночы ўстаю,
Андарак не так,
Хвартух на баку
І траяк у кулаку.

713. У нас сягоння навіна —
Чырвона рожа расцвіла.
У нас сягоння мароз быў —
Чырвону рожу змаразіў.
У нас сягоння панядзелак —
Адлучылі Ганну ад дзевак.
У нас сягоння аўторак —
Прылучылі Ганну да жонак.

714. А ў нас сягодня навіна, навіна:
Да зімой каліна зацвіла, зацвіла
Не такім жа цветам, як летам.
Летам цвіла беленькім,
А цяперыча — красненькім.

715. А ў нас сягодня ноў-навіна:
Зімой каліна расцвіла,
Вясной каліна паблёкла.
Ганначка слязамі аблілась,
Яна свайго бацьку завець.
Выхадзя, сястрыцы яе пыталі:
— Ты не плач, Ганначка, у новай хаце,
Выйдзі, Ганначка, на ганачку,
Пакліч, Ганначка, родна татуньку.
Стаіць бацька за варотам.

716. У каго наша Яленушка ўдалася?
Па калена ў золата ўлілася,
Па пояс у чыстае серабро,

У нашай Яленкі ўсё добра:
Пусціла цвеці па клеці,
Чырвоны расток пад масток.
Чырвоны чырванец — Сцёпанька,
Чырвоная рожа — Яленка.

717. Добры нашы марозы,
Не змарозілі нам рожы:
Пусцілі квеці па клеці,
А зялёны лісток пад масток,
А чырвоную рожаньку ды на падалок.
Не то ж нам чэсна, што на рукаве,
А то нам чэсна, што на падале.

718. Добрыя нашы марозы,
Не змарозілі нам рожы:
Пусцілі веццi па клеці,
Пусцілі хвалу па сялу.
— Паглядзіце, жоначкі,
Чы ўсе нашы дзевачкі?
— Усе нашы дзевачкі,
Адной Матрункі нетуці.
Пагнала яна ў поле,
Пад калінай спаць лягла,
Ножкамі калінку драгнула,
Калінка ў падалок прыгнула,
А ў яе дзецюкі прасілі.
— Не дам каліны нікому,
Панясу каліну дадому,
А ў свякраткіну камору.
А ўчора ў нас мароз быў,
А сягодня іней паў
На свякраткіну камору,
На Матрункіну пасцельку.

719. Хадзіла Галінка па гарэ,
Насіла калінку ў рукаве.
За ёй малойцы хадзілі,
У яе калінкі прасілі.
— Не дам калінкі нікому,
Панясу калінку дадому,

У свёкраву камору.
Пасаджу калінку пад акном,
А сама сяду за сталом.
Тут табе, калінка, прыжываць,
А мне, маладой, прывыкаць.
Тут табе, калінка, развіцца,
А мне, маладой, разжыцца.

720. Хадзіла дзеванька па лужку
Да насіла ў ручках калінку.
Да з ёю малойцы жартуюць,
Да тую калінку таргуюць.
— Не прадам, малойцы, не прадам,
Павязу калінку ў чужы край,
Бо тамака чужая старана,
Каб не было б дзевачкам сарама.
Каб мы дзе сталі — згралі,
Каб мы дзе селі — запелі.

721. Хадзіла Ганначка па рынку,
Насіла ў руках калінку.
А за ей дзеванькі хадзілі,
У яе калінкі прасілі:
— Дай нам, Ганначка, калінкі.
— Сястрыцы мае, падружкі,
Не вялела маці даваці,
Вялела лічыйка ўмываці,
Каб маё лічыйка было бела,
Каб я Якушу міла была.
Бела было лічыйка — пабялела,
Я свайму Якушу памілела.

722. Не калінка наша Манечка,
Пад калінай стаяла,
Ручкамі калінку ламала,
Чаравічкамі ў гразь таптала,
А за ёй малойцы хадзілі,
А ў яе каліны прасілі.
— Я гэтай калінкі вам не дам,
Панясу калінку дадому
Я ў свякраткіну харому,
Пастаўлю каліну ў куточку,

На жалезненькім пруточку.
Тут табе, каліна, развіццё,
А мне, маладзе, на жыццё.
Тут табе, каліна, зіму зімаваць,
А мне, маладзе, век векаваць.
Тут табе, каліна, веткамі,
А мне, маладзе, з дзеткамі.
Тут табе, каліна, усё дабро,
А мне, маладзе, серабро.

723. Села Галечка ў свёкаркі за сталом,
Пасадзіла каліначку пад акном.
— Расці ж, мая каліначка, высока,
Аддала мяне мая мамулька далёка.
Цвіці, цвіці, мая калінка, бяленька,
А каб я была ўсім у хатцы міленька.
А каб жа ж на табе ягадачкі радзілі,
А каб жа ж ка мне часта ў госцейкі хадзілі.

724. Не цвіла каліна аб Пятрэ,
Зацвіла каліна аб раждве.
Пад той калінай Варачка сядзела,
Ножкамі каліну задзела.
Ручкамі ягадкі шчыпала,
У галоўку клала белы цвет,
А ў ножкі клала чырвоны,
А на яе каліна капнула,
На Варачку ўся радзінка глянула.

725. Калінка наша Кацярынка,
Пад калінкаю ляжала,
Ножкаю калінку загібала.
На яе калінка брызнула,
На яе кашулю белую.
Ці не было на яе прыгоды,
Калі яна добрае пароды?
Ці не было на яе прычыны,
Калі яна добрае радзіны?
Ці не было на яе славачкі,
Калі яна добрае мамачкі?

726. Калінка наша Ядзечка,
Пад калінаю спаць лягла,
Ручкамі калінку кранула,
На яе калінка канула.
— Хоць кань, хоць не кань, калінка мая,
Я ж буду такая, як была,
Як мяне маманька радзіла,
Як мяне дзяржалі пад храстом,
Так жа я і стану пад вянцом.

727. Як радзілася, не была,
Дзе мяне цёмная ночка абняла.
Пад калінаю спаць лягла,
Ножкай каліну кранула,
З каліны расіца лінула
На маю галоўку бедную,
На маю ножку белую.

728. Мая мамка вуткай была,
Яна ж мяне ў лузе дабыла.
У папараці радзіла,
У каляіначцы купала
Ды на дарожачцы спавівала,
Пад калінкаю спаць клала.
А я мала была, не знала,
Ножкаю калінку кранула,
А з тае калінкі канула
На мой беленькі падалец,
На мой тоненькі рукавец.

729. А ездзіў Якубка з гары ў мох,
Наламаў калінкі колькі мог.
А за ім молайцы хадзілі,
У Якуба каліны прасілі.
— Я не дам каліны нікому,
Я гэту каліну сам садзіў,
Мне гэту Аўдульку бог судзіў,
Я гэту каліну сам паліваў,
Мне гэту Аўдульку бог дараваў.

730. Шчаслівая суджанка [камора],
Што ў пятніцу да соўнейка зрабёна,
А ў суботу караватунька злашчона,
А ў нядзелю белае ложа паслана,
У панядзелак чужаземачка спаць лягла,
Пад ёю, маладою, чырвоная рожа цвіла,
Сышліся сястрыцы яе глядзеці,
Як чырвоная рожа цвіце.
— Глядзіце, сястрыцы, глядзіце,
Чырвонае рожы не спала,
Каб чырвонае рожы не сцярала.

731. Добрая нам была гасціна,
Што нашая дзеванька пусціла.
Хоць вона па ночы хадзіла,
Пры сабе красу насіла.
Да насіла красу да часу,
Дзяржала праўданьку ў сэрданьку.
Прасілі хлопцы — не дала,
Свайму жанішку шчадзела.
Прасілі хлопцы за шостак,
Свайму жанішку дала й так.

732. Хоць па ночы хадзіла,
А пры сабе цноту насіла.
А цнота, цнота, як злота.
А цноту носюць рукамі,
А злоту топчуць нагамі.
А злота, срэбра труць да мнуць,
А чырвону розу к татку шлюць.
Хараша нова ізба пад крышкаю,
А лучша таго Васечка пад хусткаю.

733. Калі яна добрае мамачкі,—
Не было славачкі...
Споўна па ваду хадзіла,
Пры сабе цноту насіла.
Ой, цнота, цнота, як злота,
І спад чыстага серабра.

734. Пасеялі грэчку да на навіне,
А брахалі брахунні ўсе на мяне.
А пакіньце, брахунні, брахаці,
А хадзіце каліну ламаці.

735. Лепей было жыта жаці,*
Нячым гэту ярыначку.
Жыта жала па каленца,
А ярынку па зямельку.
Лепей было дзеўкай быці,
Нячым цяпер маладзіцай.
Як я была дзеўкаю,
Хадзілі з гарэлкаю,
А звалі паненкаю.
Як стала маладзіцай,
Не ходзюць і з вадзіцай
І завуць маладзіцай.

736. Камора мая рублёная,
Кравацъ мая цісовая, 2
Я ля цябе ноч прастаяла,
А другую перасядзела,
А трэцюю пераплакала,
Кватэрачкі прачыняючы,
Цябе, мой друг, дажыдаючы.
Прашу, мой друг, не прагневайся,
Мне за цябе не хацелася,
Хацелася мне за іншага,
За іншага, за лепшага.
За такога, за бялявага,
За малойчыка ўдалага.

737. Маладая дзевачка, не стыдзіся хлопчыкаў
Да пі гарэлачку, бо ты ўжо не дзевачка.
Прыйшла ў чужую хатачку,
Тут будзеш за бабачку.
А ты ж будзеш тое знаці:
Позна легчы і рана ўстаці
І свякроўцы патураці.
Нізка ножак прынікаці
І работку папытаці.

А як не будзеш пытаціся,
Будуць людзі смяяціся.

738. — Мамухна мая, я ўжо не твая,
Я таго пана, з кім ночку спала,
Я таго міла, з кім гаварыла.
— А, дачушка мая, а, дзіцятка маё,
Узяў бы я цябе ўзнова к сабе,—
Ці будзеш такава, як учора была?
А ўчора была, як роза цвіла,
А сяння стала, як рута звяла,
За сталом села, як гуска бела,
Як гуска бела, як лябёдачка,
На галаве чэпчык і намётачка.
Ой, людзі скажуць, што знаходачка,
А мне, маладзе, абіходачка.

739. Ой, у лузе каліна
Увесь луг закрасіла,
Наша дзеванька дай маладзенька
Увесь род засмуціла.

740. Нядобрая гадзіначка настала,
Наша маладая па бацюхна паслала,
Паслала яна сівага воўка і сабаку,
Штоб прывёз дубінку на спінку.

*Калі не дзеўка:*

741. І хавалася, і тулялася пад плотам,
Ды пацярала сваю красату за злотам.

*Калі дзеўка:*

І хавалася, і тулялася на зямлю,
Да выхавала сваю красату к вяселлю.

742. Пад ёлкай расла,
Не дзеўкай прыйшла.
Пад ёлкаю спала,

Не дзеўкаю стала,
З ёлкі звалілась,
На сук прабілась.

743. Прыйшлі ка мне хлопцы,
Добрыя малодцы:
Адзін Прохар Баранчук,
Другі Сідар Макарчук.
Ішоў сялом-вуліцаю,
Аж на канцы хата,
А ў той хаце сорак дзевак,
Адна — чаравата.
Ні сакеры, ні нажа —
А чэрава, як дзяжа.

744. Не чуйце вы, коні,
Не чуйце і, каровы,
Не чуй, наша пашня,
Што к нам [дзірава] прыйшла.

745. Ой, белая бяроза, бялявая,
Наша маладая дыравая.

746. Наехалі прыданачкі, як адна,
А прывязлі нам бочачку беза дна.
— А ці вы ў яе самі дно ўстанавіце,
А ці вы яе з сабой дамоў вязіце.

747. А браду, браду
Па калені ў ваду,
Каб жа мне перабрацца
На тую старану.
На тэй старане
Спадобілася мне
Маладая нявеста.
А стаіць бел шацёр
Кітайкаю ўкрыт,
Чорным ядвабам
Па краям ушыт.

Вецер павеець,
Кітайка зашуміць,
Сонца прыгрэець,
Макоўка зазвініць.

748. Здавіла маці бусла,
Што яе дачка гнюсна.
— А вы, сваты, не стойце,
Да сіву кабылу падойце.
Сіва кабыла да дойна была
Да ўсім сватам малака дала.

749. Вядуць карову рагатую,
Вязуць Яленку пузатую.
На загароду садзілась,
На кол прабілась.
*Або:*
Карову даіла,
На кол прабіла.

750. — Чыя гэта хата з краю?
— Гэта цёшчы мае,
Калі б ёй скулля села
І з дачкою яе.
Ці пад еллю спала?
Ці шышка ўпала?
Ці кароў даіла?
Ці на рог прабіла?

751. Ах матушка, матушка,
Уся жэнняя радня —
Пара яе, матушка,
Жэрдзю са двара.

752. Шчабятала чачотачка, пад кусцікам седзячы:
— Божа мой міласны,
І дзе ж маё лета дзелася?
І дзе ж маё цёплае?
Ні на кусціку расіцы,

Ні пад кусцікам травіцы.
Божа мой міласны,
І дзе ж маё лета дзелася?
І дзе ж маё цёплае?
Плакала Гарпіначка,
За столікам седзячы:
— Божа мой міласны,
І дзе ж мая краса дзелася?
І дзе ж мая дзявоцкая?
Ні на галаве вяночка,
Ні на ручачцы персцянёчка.
І дзе ж мая краса дзелася?
І дзе ж мая дзявоцкая?

753. — Цёмная ночанька, цемната,*
Дзе твая, Ніначка, красата?
— За табой, Віценька, за табой,
За тваёй разумнай галавой.
Ты ж мяне, маладу, падманіў,
Маю мамачку з толку збіў,
Красату маю падлавіў.

754. Ходзе раю ды па вуліцы, раю мой,*
Яго просе ды татулечка:
— Хадзі, раю, ды ка мне ў хату,
Хадзі ў хату ды сядзь на куце,
У мяне ў хаце ды надоб'ейка,
Надоб'ейка ды вяселлейка.
Дачку аддаю ды бога хвалю,
Я бога хвалю і долю прашу.

755. Ходзе раю да па вуліцы, раю мой,*
Ніхто раю ў двор не пускае.
Выйшаў жа дзяцінкаў татачка,
Прасіў раю да к сабе ў хату.
— Ой, сядзь жа, рай, да на покуце,
Ой, радзь, раю, добрую раду:
Я сына жаню, я бога хвалю.

---

* Рэфрэн «раю мой» паўтараецца пасля кожнага радка.
* Тое ж.

756. Рай да па рацэ плыве,
Рай да па быстрай плыве.
— Геленка, да купі сабе рай,
Маладая, да купі сабе рай.
— Нашто ж мне рай купаваці,
Ёсць у мяне свёкарка:
Гудзе, гудзе, весь лад паверне,
Гдзе стане чы сядзе,
То харашэнька ўкажа.

757. А што гаварыла зара месяцові рано, рано:
— Се вперуд ж зыйдзеш, то й мяне знайдзеш рано, рано.
Асвецімо неба і землю разам, разам.
А што гаварыла Марынка Сцепанові рано, рано:
— Се вперуд ж встанеш, то й мяне збудзіш рано, рано.
Дамы добры дзень абое разам, разам.
Ой, ты баценьку, а я свёкарку разам, разам.
Ой, ты роднаму, а я грознаму разам, разам.

758. Дзе была зязюлечка, дзе быў салавейка,
Зляцеліся яны ў адзін садочак,
У адзін садочак на адзін кусточак.
Шчыплюць ягадкі з адной галінкі,
П'юць вадзіцу з адной крыніцы.
Дзе была Манечка, дзе быў Ванечка,
З'ехаліся яны на адно падвор'е,
На адно падвор'е, за адно застолле.
Ды п'юць мёд-віно адной шкляначкай,
Ядуць патраўку адной лыжачкай,
Лажацца спаць у адной краваці.
Ды прыдзе свякроўка іх падымаці,
У гэтага дзіцяці будзе праўды пытаці.

759. Дзе быў саколец, дзе была зазулька,
Цяпер яны пазляталіся,
Цяпер яны ў адным садочку, ў адным гняздзечку,
Адно другому крыльца цярэбіць,
Адно адным уцяшаецца,
Адно аднаму шчабеча.
Дзе была Ганначка, дзе быў Васілька,
Цяпер яны на адным двары,

У аднаго бацэнька, ў адной святліцы,
За адным сталом,
Адно аднаму ручаньку дае,
Адно аднаму сціха гаворыць,
Адно адно навучае:
— Слухай, Мар'ечка, маго бацэнька,
Я цябе слухаў, да цябе ездзіў,
Заездзіў каня вараненькага,
Патаптаў чаботы турэцкай работы.

760. Дзе ж быў селязень, дзе ж была ўтка?
Селязень — на стаўку, а утанька — на млынку,
А цяпер жа яны ў адным балоце.
Ой, п'юць жа яны халодную воду,
А ядзяць жа яны дробную раску.
Дзе ж быў Іванка, дзе ж была Мар'ечка?
Што Іванка — у бацэнка, ■ Мар'ечка — у свога,
А цяпер жа яны ў адной святліцы.
Ой, п'юць жа яны зялёнае віно,
А ядзяць жа яны добрыя калачы,
У мёд умачаючы, макам пасыпаючы.

761. А й дзе была вутачка, а й дзе быў селязень,
А цяпер жа яны на адным возеры,
На адным возеры ды вадзічку п'юць,
З адной купінкі травіцу скубуць.
А й дзе была Галечка, а й дзе быў Васечка,
А цяпер жа яны за адным столікам,
За цясовенькім ды гарэлачку п'юць,
З адной талеркі ды закуску бяруць.

762. Во й рана, рана да й позыра,
Спынімаў салавей зязюлечку.
Мы на 'днэй каліны з ім сядзелі,
Мы адну ягаду з ім клявалі,
Мы са 'ннэй місінькі расу пілі.
Во й рана, рана да й позыра,
Спынімаў салавей зязюлечку.
Мы на 'дным ігрышчы з ім гулялі,
Мы за 'дным столікам з ім сядзелі,
Са 'ннэй чарачкі віно пілі,
Са 'ннаго кусочка мы закусывалі.

## ПРЫДАНЫЯ

763. А сваточкі-галубочкі, што я скажу вам,*
Што вялікая случылася бяда нам:
Учора звячора была брама замкнёна,
Сягоння рана наша сястрыца ўкрадзёна.
А некалі ж нам садзіцца выпіваці,
А будзем мы свае конікі запрагаці,
А паедзем сваёй сястрыцы даганяць.

764. А божа мой мілюсенькі, ухці мне,
Учора з вячора зрабілася бяда мне:
Учора з вячора новая брама адамкнёна,
Паўночаю мая сястрыца ўкрадзёна.
Каб мы таго вінавайца дагналі б,
Мы ў яго конікаў забралі б,
Мы ў яго і шапачку садралі б,
Мы ў яго сваю сястрыцу адабралі б.

765. А ўчора вячора шкода стала.
Украджона скрыначка малявана,
Звязена Ганнулечка гадавана.
А не жаль жа нам скрыначкі маляванае,
Як нам жаль Ганнулечкі гадаванае.

766. А ўкрадзёначка наша дзевачка,
У нядзельку рана ўкрадзёна,
У чужыначку звязёна,
А ў цямнічаньку ўсаджона.
А няхай жа сядзіць у цямніцы,
А пака прыедуць сястрыцы,
А выведуць яе з цямніцы,
А ўвядуць яе ў святліцу,
А ў вясёлую сям'іцу,
А ў шутлівыя дзевяры,
А ў смяшлівыя залвіцы.
— Не плачце, мае сястрыцы,
Я шутлівых дзевяроў пажаню,
Смяшлівых залвіцаў замуж пааддаю,
А з Віцечкам жыці буду.
Шутлівыя дзевяры — суседзі мае,
А смяшлівыя залвіцы — госці мае.

767. Адпраўляла нас маці
Да дзіцяці шукаці, шукаці,
Да дзіцяці шукаці.
Дзе ж наша да дзіця пайшло, пайшло?
Дзе ж наша да дзіця пайшло:
Ці ў бор да па ягады, па ягады,
Ці ў бор да па ягады,
Ці ў крыніцу да па вадзіцу?

768. Ой, мы сядземо да паабедаймо,
Да паедземо, праведаймо
Да летняе перапёлачкі,
Да блізкае прыяцёлачкі.
Дзе ж мы былі да не бывалі,
Ды такое дзіва не відалі,
Як у нашае да й малодачкі,
Маладое перапёлачкі.

769. Сядзьмо ж мы, паабедаймо
Да паедзьмо, пераведаймо,
Ці яна жыва, ці здарова,
Ці такавая, як учора была.
Учора была у руцяным вяночку,
А сягоння у белым чапочку.
Што ж яна вячэрала,
З кім яна начавала?
Вячэрала рыбку з перцам,
Начавала з шчырым сэрцам.

770. Снедайце-абедайце, з'ездзіце — праведайце,
А ці так, як у нас была вісялюсенька, галоўка гладзюсенька.
А там яна засмачана, галоўка скудлачана.

771. Да памолімся богу,**
Да паедзем у дарогу.
Дарогаю да парошаю
За сваёю да харошаю.
Дарогаю-пацярухаю
За сваёю да чапурухаю.
А дарога каранiстая,
А дзевачка наравiстая.

772. А ўся ж наша радзіначка ў доме,
Адна ж наша дзевачка ў чужыне.
А пойдзем мы ды адведаем яе,
Ці такая дзевачка наша, як была.
Яна ў нас была, як роза цвіла ў садочку,
А ў вас стала, як рута звяла ў гародзе.

773. Адступіцеся, варогі,
Не пераходзьце дарогі,
Бо наша ж дарога шырока,
Дзесь наша маладая далёка.
Ехалі пацярухаю за сваёю чапурухаю,
Паехалі пяшчанкай
За сваёй мяшчанкай.

774. А ўчора звячора перапёлка зляцела,
Не паедзем мы рана, да паедзем мы светам
Перапёлчыным следам.
Гдзе ж наша перапёлачка,
Ці замкнёна, ці зачынёна?
Пакажыце нам яе,
Папытаем мы ў яе,
Што яна вячэрала,
З кім яна начавала.
Вячэрала рыбу з перцам,
Начавала я з шчырым сэрцам,
З маладым панам,
Пад сінім жупанам.

775. А ўчора звячора, а ўчора звячора
Перапёлка ўляцёна, перапёлка ўляцёна.
А раннім светам, а мы раннім светам
Перапёлкіным следам, перапёлкіным следам.
Увялі слядочак, увялі слядочак
У цёмны барочак, у цёмны барочак.
А ўчора звячора, а ўчора звячора
Алёнка ўляцёна, Алёнка ўляцёна.
А мы раннім светам, а мы раннім светам
Алёнкіным следам, Алёнкіным следам.
Увялі слядочак, увялі слядочак
У Ванькін дварочак, у Ванькін дварочак.

776. А ўчора звячора
Перапёлка зляцела.
Дзе ж тая перапёлачка?
У хаце, у каморачцы,
Пазірае праз акенечка:
— Ці не едзе мой братачка?
Ці не вязе мне падарачка?
Ці не скажа ўсяе праўдачкі?
Ці не скажа ўсе славечачкі?

777. А ўчора звячора *
У нас шкоданька стала:
Кацюшка прапала.
У панядзелак светам
Пагналіся следам,
Вывелі слядочак
На Іванькін дварочак.
Па вуліцы вязёна,
А па двору вядзёна,
А ў клеці спаць палажона.

·778. Ні вецер не вее, ды вароты рыпяць,
Да едзе бацюхна да дзіцяці шукаць.
— А дзе ж маё дзіцятка?
Не піло, не ела да й не выспалася.
— Штоб я піла, то б я весела была,
Штоб я паела, то б не змарнела,
Аж бы мо спала, то і не драмала.

779. Снегам, кунанька, снегам,
Мы за табою следам.
Будземо пазнаваці,
У каторай дзеванька хаце.

780. Ехалі п529даныя,*
У іх коні ўбраныя,
Шлеі раменныя,
Прыданкі пісьменныя.
Ехалі, чыталі,
Аленачку пыталі:

— А дзе тая хата,
Дзе Аленачка ўзята?
Мы былі на прыгоню,
Мы гналіся ў пагоню.
З прыгону сыскаліся,
У пагоню пагналіся.
Прывялі яе слядочкі
На сватні дварочак.
Прывяла яе сцежачка
У сватнюю клетачку.
Да клетачкі дагналіся,
У клетачку ўбраліся,
Паглядзім палавіны,
Ці хопіць да навіны.

781. Прыданае-выбіранае,
І вазочкі маляваныя,
І конікі вараненькія,
І самі яны маладзенькія,
І падузы іх раменныя,
І самі яны пісьменныя.

782. Прыданыя-выбіраныя,
Сем год выбіраліся,
А конікі гадаваліся,
Калясачкі маляваныя.
Селі яны ды паехалі
Ды калінавым мостам.
Каліну ламалі
Ды за паясы клалі,
Каб іх людзі зналі
Ды прыданкамі звалі.

783. А ў лозе пры дарозе
Прыданкі стаялі,
Калінку ламалі,
Пад шапачку клалі,
Каб іх людзі зналі.
Самі яны пісьменныя,
У іх коні стаенныя.

784. Да наехалі прыданы,
Да ўсе людзі прыбраны.
Ні за адною шапачкаю
Да каліны нямае.
— А нашто ж нам каліна?
Ёсць у нас жыта, ярына.
Сам бог ходзіць, жыта родзіць
Да за шапанькі тычыць.

785. Паедзем светам, светам,
Сястрыччыным следам,
Дзе мы яе аслядуем,
Там жа мы і заначуем.
Там жа нам добра будзе:
Конікам авёс будзе,
Радзінцы — мядок-вінцо,
Дык будзем купляць сянцо.

786. Ой, едземо, едзем, 2
Ні дарогі і ні следу.
Дарогаю зеляненькаю
За сваёй маладзенькай.
Дарогаю-таптыцаю
За сваёю сястрыцаю.

787. Ой, ехалі мы дарогаю, 2
Дарогаю-пацярухаю.
Пацярухаю.
Дарогаю-пацярухаю
За сваёю харашухаю.
Харашухаю.
Ой, ехалі топтанкаю 2
За сваёю колежанкаю.
Колежанкаю.
Ой, там мы пасталі,
Дзе Верачку й пазналі.

788. Ехалі мы, ехалі**
Па гэтай мяцеліцы,
Па гэтай мяцеліцы

З-за гэтай бяздзеліцы.
А ўзялі слядочак
У гэты дамочак.
Ці тут наша сяструлечка,
Ці тут маладая?
Ці ёна ўкрадзёна,
Ці замуж аддадзёна?
Калі яна ўкрадзёна,
Дык нам яе аддайце,
Калі замуж аддадзёна,
Дык вы яе прывучайце.

789. Да ехалі ж мы тым следам,
Куды наша кунка бегла.
Куды наша кунка бегла, расіцу патрусіла.
Расіцу патрусіла, да й нас запрасіла
Да на адзін вечарок, на адну вячорынку,
На салодкі мядок, на салодку мядынку.

790. Гдзе ж наша галубачка,
Што з намі піла, ела,
Ад нас паляцела?
У Януська сады цвілі,
Там яна села і пала
Да і нам наказала,
Штоб мы прыехалі
Да яе адведалі.

791. І дзе наша лябёдачка,
Дзе наша лябёдачка,
Што з намі піла-ела,
І што з намі піла-ела,
Ад нас паляцела?
А мы за ёй следам,
І а мы за ёй следам
З бялюсенькім цветам,
Дзе мы яе аслядуем,
І дзе мы яе аслядуем,
Там жа мы заначуем.
Аслядавалі ў крыніцы, 2
Заначуем у святліцы.

792. Ой, едзьма, едзем
Чорнай куркі следам.
Чорнай ды чубатай
Танькі багатай.
Ой, там пастанем,
Дзе сваіх пазнаем.
А наша было знакамітае,
Звяршэчку накрытае.
— Да ўнесь каліханьку,
Павідаці радзіманьку,
Роднага тата.

793. Мы ехалі борам,
Сустрэлі мы бобра.
Папыталіся ў бобра,
Ці будзе нам добра.
А казаў нам бобра,
Што будзе нам добра.

794. А чые-то прыданачкі блудзілі,
У чыстым полі дарожаньку згубілі?
Адкуль выбегла ўсё маленькае паняня
Й указала дарожку да сяла:
— Ой, сюды, сюды дарожанька замяцёна,
Ох, сюды, сюды наша дзеванька завязёна.
Замяцёна дарожанька памяльцом,
Завязёна наша Марачка з малайцом.
Замяцёна дарожанька розкамі,
Завязёна наша Марачка з дружкамі.

795. Да чые-то надкосьнічкі блудзілі,
Да ў роўным полі дарожку згубілі?
Да спаткалі маленькае дзіцянё,
Сталі ў яго дарожачкі пытаці,
Да ў таго маленькае дзіцяці.
— Ой, дурныя надкосьнічкі, дурныя,
Не мелі ў каго дарожачкі пытаці,
Да ў мяне, маленькага, дзіцяці.
Гэта дарожка да матульчына двору.

796. Чые ж гэта прыданачкі блудзілі,
А ў шчырым бару дарожачку згубілі?
А рады б былі маленькаму дзіцяці,
Каб было каму дарожачку ўказаці.
Туды ж ішла маладая Зіначка сцягою:
— Едзьце, едзьце, прыданачкі, за мною.
Гэта ж тая дарожачка, што ка мне,
Гэта ж тая сялібачка, дзе жыць мне.

797. А чые-то да прыданачкі зблудзілі,
У гусценькім бару яны дарожку згубілі?
— Сюда, сюда вы, прыданачкі, да двара,
У нашым дварэ ваша Марыська малада.
А кудою ваша Марыська вязёна,
То тудою дробну рутаньку трушона.
Ой, вясёла, тая дарожка, вясёла,
Кудою наша Марыська вязёна.
Ой, вязёна скрыню і пярыну пухову,
Ой, вязёна нам гаспадыньку маладу.
Пагубілі коні падковы па бару,
Везлі, везлі нам гаспадыньку маладу.
Схілялася зялёна хвойка ў бару,
Разгаспадарылася ў нас Марыська ў двару,
Пякла яна пшонны пірагі без яец,
Цешылася мужава матка і ойцец.

798. Да чые-та прыданачкі блудзілі,
У шчырым бару да й дарожачку згубілі?
Выйшла дзеўка красна на ганкі:
— Ой, да мяне, мае прыданкі, да мяне,
Ай, не будзе вам зняважачкі ад мяне,
Ай, раскажу журбу-бяду ўсю вам пра сябе.
Не валялася ў свайго татачкі пад плотам,
Насудзіліся добрыя людзі ў ахвоту.
Не валялася ў свайго татачкі пад праслам,
Насудзіліся добрыя людзі напрасна.

799. Чые ж гэта прыданачкі блудзілі,
У чыстым полі дарожку згубілі?
Дзе бралася маленькае дзіцянё,
Яно іх на дарожачку ўзвяло,

Яно ж у хату к свату завяло.
Яно ж іх там за столік пасадзіла,
Яно ж іх там гарэлкай паіла.

800. Прыданыя ў чыстым полі блудзілі
І путную дарожаньку згубілі.
Напаткалі маленькага дзіцяцю,
Сталі ў яго дарожаньку пытаці.
Дзіцятачка ім усю праўду расказаў
І путную дарожаньку ўказаў:
— Вы не йшчыце дарожанькі на полі,
Паішчыце дарожанькі ў моры,
Засталася ваша сястрыца ў горы.

801. Мурагом дарога трушона,
Сюды наша маладая ўвязёна.
Шчабячы, салавей, шчабячы,
Нам дарожачку ўкажы
А ў тое сяло, дзе мёд п'юць,
На тое падвор'е, дзе нас ждуць.
Там баярачкі танцуюць,
Там нам вячэру гатуюць. 2

802. Да вой, там, вой, там да прыданачкі блудзілі,
Да вой, там, вой, там сваё дзіцятка згубілі.
Вой, там да бацька горкай гарэлкі напіўся,
Вой, там бацька свайго дзіцяці забыўся.

803. А мы свата не зналі, не зналі,
Усю дарожаньку пыталі, пыталі.
А нам людзі сказалі, сказалі:
— Едзьце прама па сялу, па сялу,
Па правую сторану-старану.
А ў варотах яліна,
Пасрадзі двора каліна.

804. А чые гэта прыданыя блудзілі,*
У роўным полі дарожачку згубілі?
Да ў хлеў заехалі,

Падалі быку руку,
С цяліцай віталіся,
У каровы пыталіся:
— Цяліца, цяліца,
Дзе наша маладзіца?

805. Ляціць гусахна чэраз клетухну.
— Нясі весцюхны маей мамухны,
Што я хараша прыйшла,
Хараша-прыгожа,
Краснай дзевіцай.

806. Ляцелі гусі з Белае Русі.
— Накажыце, гусі, маяму бацэнькові,
Што я, маладая, не ў ласцы спала,
Мая пасцелька ў ножках ляжала.
Мая пасцелька як зім-зімненька,
А мая падушка ад слёз макрэнька.

807. Ой, за лесам, лесам сасна гарэла, сасна гарэла,
Маладая дзевачка вадзіцу грэла, вадзіцу грэла,
Кубачкі мыла — на ваду пушчала, на ваду пушчала.
— Плывіце, кубачкі, да маёй мамачкі, да маёй мамачкі,
Скажыце, кубачкі, маёй мамачцы, маёй мамачцы,
Што я гэту ночку не ў любасці спала, не ў любасці спала,—
Мая пасцелька, як лёд, зімненька, як лёд зімненька,
Мая падушка ад слёзак макрэнька, ад слёзак макрэнька,
Да сцяны тулюся, мужыка баюся, мужыка баюся.

808. Да стаяла Ганечка да на ганку,
Да кроіла чырвону кітайку,
Да паслала бацюхну да падарку.
— Едзь, мой бацюхна, да не бойся,
У чырвоныя чаботкі абуйся,
У залатыя падкоўкі падкуйся.
Сядзь, бацюхна, да на куце,
Будзе табе гарэлачка ў сыце.

809. Шаўкова лентачка да сосенкі льнецъ,
Даротка да татанькі паслы шлецъ:

— Едзь, мой татушка, сярод дня,
Ты не бойся майго сарама.
Едзь, мой татушка, расою,
Не спазору цябе красою.
Ужо мой сорам удаўся,
З чырвонай рожай змяшаўся.
Чырвон чырванец — Якубка,
Чырвоная рожанька — Даротка.

810. Едзь, мой татачка, сярод дня,
А не бойся ж майго сарама.
А ўжо мой сорам спазнаўся,
На белую кашулю паказаўся.
А мая кашуля ў сем пол,
Туды-сюды павярну — ёсць распор.

811. Ой, добрая гадзіначка настала,
Наша сястрыца па радзіначку паслала.
Прыслала яна сямёра каней, восьмы воз,
Дзевятую вазнічку, каб прывёз,
А дзесятага музычку, каб пайграў.
Прыслала яна сем коп грошай на піва,
Каб прыехала мая радзіна на дзіва.
Прыслала яна сем коп грошай на страву,
Каб прыехала мая радзіна на славу.
Прыслала яна сем коп грошай на мядок,
Каб прыехала мая радзіна на часок.

812. А ў добры час гадзіначка настала,
Наша Зіначка па радзіначку паслала.
А паслала чатыры кані, пяты воз,
А шостаю вазнічачку, каб прывёз.
І калі ж мая мамулечка прыедзець,
Калі ж маю сялібачку агледзіць?
А ўжо ж мая сялібачка новая,
А ўжо ж мая мамулечка другая.
Прыедзець мая мамулечка з поўначы,
Агледзіць маю сялібачку пры свячы.

813. Да стаяла Адарка на гары,
Пазірала бацюхну з-пад зары:

— Едзь, едзь, мой бацюхна, не бойся,
У чырвоныя боцікі абуйся.
Ужо ж мой чырвонец прыбраўся.
Цясовыя столікі засланы, 2
І любыя госцікі зазваны.

814. Ой, за гарою, за камяной млын меле,
Нагневаўся мой бацюхна на мяне.
А я ўкачу бочку мядочку, віна дзве
Да папрашу свога бацюхна к сабе.
— Ой, чаго ты, бацюхна, позніўся?
Ці ты мога сорама баішся?
Шчэ ж я сорама не дайшла:
Краснаю паннаю к ім прыйшла,
Чырвоны хвартух прынясла,
Салодку гарэлку вам на стол дала.

815. Хадзіла дзевачка каля варот
Да раняла слёзачкі, як гарох.
— Чаго мая радзіна позніцца,
Ці майго сораму баіцца?
Яшчэ я сораму не дашла,
Пачціваю паннаю к вам прыйшла.
Я на ложы пала дзявою,
А з ложы ўстала жаною.

816. Пайду я каля рэчанькі па лазе,
Развязаўся мой чаравічак на назе.
Рассярдзіўся мой войчанька на мяне.
Ой, куплю я бочку мядочку, а віна дзве,
Перапрашу сваго войчанька быле дзе.
Ой, ест у мяне трое брацікаў у возе,
Перапрашу сваго войчанька ў дарозе.
Ой, ест у мяне чырвон таляр на таргу,
Каб прыехаў мой войчанька на справу.
Хоць у Вільні, хоць ва Львове не дбаю,
Я сваго войчанька паверх шапачкі пазнаю.

817. У панядзелачак рана 2
Там сіняе мора йграла, 2

Йграла.
Там сіняе мора йграла,
Там Анечка ваду брала,
Ваду брала.
Там Анечка ваду брала,
А ў свой край пазірала,
Пазірала.
А ў свой край пазірала,
Ці не едзе ж яе мамачка,
Яе мамачка,
Ці не едзе ж яе мамачка,
Ці не вязе ёй снеданнейка,
Снеданнейка.
Ці не вязе ёй снеданнейка,
Снеданнейка-адведаннейка,
Адведаннейка,
Снеданнейка-адведаннейка.
Ці не вязе скрыню грошай,
Скрыню грошай,
Ці не вязе скрыню грошай,
Ці не будзе выкупляць,
Выкупляць,
Ці не будзе выкупляць.
— Калі я тут запрадаждана,
Запрадаждана,
Калі я тут запрадаждана,
Вы ж мяне выкупляйце,
Выкупляйце,
Вы ж мяне выкупляйце.
Калі дарам аддаджона,
Аддаджона,
Калі дарам аддаджона,
Вы ж мяне адведайце.

818. У новенькім да калодзезі,
Там Верачка ваду брала,
Брала.
Там Верачка ваду брала,
У свой край да пазірала,
Пазірала.
У свой край да пазірала,
— Ці не едзе мой бацюхна,
Бацюхна.

Ці не едзе мой бацюхна,
Ці не вязе мне гасцінчыка,
Гасцінчыка.
Ці не вязе мне гасцінчыка,
Гасцінчыка даражэнькага,
Даражэнькага.
Гасцінчыка даражэнькага —
Куфрыка зеляненькага,
Зеляненькага,
Куфрыка зеляненькага.
Ды не так я рада таму куфрыку,
Куфрыку,
Ды не так я рада таму куфрыку,
Як я рада свайму татачку.

819. Пад вінным да калодзезем
Там дзевачка воду брала,
У свой край пазірала.
— Ці не шуміць шум-дуброва,
Ці не звініць бітая дарога,
Ці не бяжыць да калясачка,
Ці не едуць ка мне госцікі,
Ці не прыедзе да бацюшка,
Ці не прывязе мне падарунку?
Не рада я да падарунцы,
Да рада я роднай матусцы.

820. Ля новага,
Ля новага ля калодзезя,
Там Вольгачка да ваду брала, 2
Там Вольгачка,
Там Вольгачка да ваду брала,
У свой край пазірала, 3
Ці не йдзе хто да ці не едзе.
Наляталі два галубчыкі,
Селі-палі на вядзёрушке,
Селі-палі,
Селі-палі на вядзёрушке,
На шаўковы на пачоначкі,
На шаўковы,
На шаўковы на пачоначкі.
Сталі яны ваду піці,

Сталі яны,
Сталі яны ваду піці
І аб лёд крыллямі біці,
І аб лёд,
І аб лёд крыллямі біці.
— Вы, сызыя, вы, галубчыкі,
Вы, сызыя,
Вы, сызыя, вы, галубчыкі,
Не біцеся, не сварыцеся,
Не біцеся.
Не біцеся, не сварыцеся,
Харашэнька разляціцеся,
Харашэнька,
Харашэнька разляціцеся.
Да ляціце ў маю сторану.
Да ляціце,
Да ляціце ў маю сторану,
Накажыце маёй мамачцы,
Накажыце,
Накажыце маёй мамачцы.
Ці я сюды запрададзена?
Ці я сюды,
Ці я сюды запрададзена,
Ці замуж аддадзена?
Ці замуж,
Ці замуж аддадзена?
Калі я сюды запрададзена,
Калі я сюды,
Калі я сюды запрададзена,
Няхай едуць адкупляюць,
Няхай едуць,
Няхай едуць адкупляюць.
А калі замуж аддадзена,
А калі замуж,
А калі замуж аддадзена,
Няхай едуць адведаюць,
Няхай едуць,
Няхай едуць адведаюць.

821. Ля калодзежа студзёнага
Купаліся ды два голубы.
А Зіначка ваду брала,
З галубамі размаўляла:

— А, галубы мае шызыя,
А ці не з мае вы стораны?
А калі з мае вы стораны,
Дык ляціце ў маю сторану
І спытайце ў мае мамачкі,
Ці я сюды запрададзена,
А ці замуж аддадзена.
Калі сюды запрададзена,
Няхай мяне выкупляюць.
Калі ж замуж я аддадзена,
Няхай мяне адведаюць
Са скрынкамі ды з бубнамі,
Ды з вясёлымі цымбаламі,
Ды з харошымі прыданымі.

822. Дарожачка ды не торненькая,
Э-эй, ды мне мамка ды не родненькая.
Выпраўляла мяне рана па ваду,
Э-эй, ні да рэчкі, да й да возера,
Ні да рэчкі, да й да возера,
Э-эх, да глыбокага калодзежа.
Што ля тога, ля калодзежа,
Э-эй, там плавала ды два лебедзя.
— Ох вы, лебедзі, да ўсё белыя,
Э-эй, накажыце маёй мамачцы.
Накажыце маёй мамачцы,
Э-эй, ці я тут жа запрададзена,
Ці я тут жа запрададзена,
Э-эй, ці я тут замуж аддадзена.
Калі я тут запрададзена,
Э-эй, дык ідзіце, адкупляйце мяне.
Калі я замуж аддадзена,
Э-эй, дык ідзіце, адвядайце мяне.

823. У панядзелак рана сіняе мора йграла,*
Сіняе мора йграла, Валечка ваду брала.
Валечка ваду брала, у свой бок паглядала,
У свой бок паглядала, матульку к сабе звала:
— Мамка мая родная, пераедзь сіняе мора,
Пераедзь сіняе мора, выкупі мяне з гора.
— Дзіцятка маё роднае, не магу пераехаць:
На дварэ буйны вецер чаўночкі пазганяла,

Чаўночкі пазганяла, вясёлцы паламала.
— Мамка мая ро́дная, да няпраўдачка твая:
Чаўночкі ў беражочку, вясёлцы ў чаўночку.

824. У панядзелачак рана
Ніначка ваду брала, 3
З сваім брацібкам гукала: 2
— Брацітка мой родненькі,
Пераплыві мора,
Вазьмі мяне з гора. 2
— Сястрыца мая родная,
Не пераплыву мора, 3
Не вазьму цябе з гора. 2
Не на то цябе аддалі,
Каб цябе дамоў бралі. 2
А на то цябе аддалі,
Каб за табой пагулялі. 2

825. У калодзезі да ў новенькім
Маладзічка воду брала
І з сокалам размаўляла:
— Ой, саколе, мой ты брацейка,
Паляці ты к маёй матачцы
І скажы ты ёй,
Каб прыехала і пераведала.
— Мамка мая, родная,
Тут сям'я наравістая,
Тут зямля каранiстая,
Калодзезі глыбокія,
Суседкі сумарокія.
— Маё дзіцятка, маё роднае,
Рада б цябе пераведаці,
Ды няма кудою пераехаці:
Зімою за снягамі,
А вясною за вадою,
А лецечкам за работаю.
— Мая мамка, мая родная,
Каб ты хацела прыехаці,
То б і знайшла на чом:
Зімой ды на саначках,
Вясной ды на чоўніку,
А лецейкам на часіначку
Пераведала б сваю дзяцінацку.

826. — Ох, матухна мая родная,
Як ты мяне не жалуеш,
Не прыедзеш, не адведаеш?
— Ох, дочачка мая родная,
Як мне цябе тут адведаці?
Я не магу дый даехаці.
За марамі глыбокімі,
За гарамі высокімі,
Я не магу дый даехаці,
Цябе, дочачка, дый адведаці.

827. Наказывала лябедка
Сваяму сіванькаму сабалечку:
— Ой, дбай, прылятай, сівы сабалечку,
Сяё ночы цямненькае.
— Як жа мне прылятаці,
Што ў цябе лясы цёмныя,
Што ў цябе рэкі быстрыя?
— Я ж тыя лясы парубаю,
Быстрыя рэкі закідаю.

828. З віднага калодзезя**
Там дзеўка ваду брала
Ды ў свой край пазірала,
З сакаламі размаўляла:
— Саколікі, мае брацікі,
Паляціце на маю старану,
Накажыце татку майму,
Калі ён мяне запрадае,
Хай прыедзе выкупляе,
Калі ён мяне на век аддае,
Хай прыедзе пераведае,
Бо я тут не прывыкну:
Тут горы высокія,
Калодзезі глыбокія,
Зямля крамяністая,
Сям'я ганарыстая,
А суседзі сумарокія.
— Дзіця маё маладое,
Пералятуй хаця лецечка,
Перазімуй хаця зімачку,
Тут горы да паніжаюць,

Калодзезі да пабліжаюць,
Тут зямля й адкрамянее,
Сям'я паспакайнее,
І суседзі павесялеюць.

829. У панядзелак рана*
Сіняе мора йграла,
Мар'ечка воду брала,
У свой бок паглядала:
— А божа мой, божа,
Якія тут горы?
Горы высокія,
Вёдры вялікія.
А ў ваўторак рана
Сіняе мора йграла,
Мар'ечка воду брала,
У свой бок паглядала:
— А хвала ж табе, божа,
Усё ж тут гожа,
Горы паніжалі,
Вёдры паменшалі.

830. А ў новым ды калодзезі
Да Галька ваду брала
І ў свой край ды пазірала:
Ці не шуміць дубpraванька,
Ці не звініць дарожанька,
Ці не едзе мая маменька,
Ці не вязе мне параданьку?
Ой, шуміць да дубрыванька,
Там едзе мая мамачка
Да вязе мне да параданьку.
— Ды, мамачка мая родная,
Ніяк я тут не прывыкну:
Тут горы ды высокія,
А вядзерцы ды вялікія,
Мая сіла ды маленькая,
А мамачка нягодненькая.
— Дзіця маё ды маладое,
Да пабудзь год, пабудзь другі,
Тут горы ды паніжаюць,
Вядзерцы паменшаюць,

Твая сіла пабольшае,
Свякруха палепшае.

831. Круглае балота,
Ды на ім ягад густа.
Там Ніначка ягады брала,
У свой край паглядала,
Ці не едуць госцікі прыданыя,
Іх вазы маляваныя, конікі ўбраныя.

832. У белым бярэзнічку Манечка грыбы брала,
Грыбы брала, у свой бок пазірала:
— Ці не едзе мой брацік,
Ці не вязе снеданнейка?
Тут жа у нас не па-нашаму:
Снеданне каля палудня,
Палудзень каля вячэры,
Вячэра каля паўночы,
Выспішся ходзячы.

833. Мамачка мая родная,
У чужых людзей не па-нашаму:
Снедаюць каля абедзечка,
Абедаюць каля палудня,
А палудня зусім няма.
А вячэраюць каля поўначы,
А ўстаюць зусім не помнячы.

834. Ля новага калодзежа
Галінка ваду брала,
У свой бок паглядала,
А ці не едзець татулечка,
А ці вязець чэпчык,
А ці знімець венчык.
— Мамка мая родная,
Я вас дажыдала,
Коску заплятала,
Чэпчыка не даждала.

835. У панядзелак рана
Плакала маладая, 2
У свой бок паглядала,
Ці не едзе брацейка,
Ці не вязе венчыка,
Ці не скіне чэпчыка.

836. А ў панядзелак рана
Сіняе мора грала, 2
Гануська ваду брала, 2
У свой бок паглядала.
— Не жаласліва мамка,
Не шлець гасцей рана. 2
Галоўка не прыбрана.
Галоўка, як какоўка,
Сама, як жыдоўка.
Между дзевак не дзеўка,
Между жонак не жонка.
Святы панядзелак
Адлучыў ад дзевак,
А святы ўторак
Далучыць да жонак.

837. З віднага калодзежа**
Маруська ваду брал [а].
Маруська ваду брала
Да ў свой край пазірал [а].
— Ці не едуць госці прыданыя,
Любыя-каханыя?
Ці няма паміж імі
Майго роднага брат [а]?
Каб тут [а] мой брацетка —
Ўся б мая парадань [ка].
Ўся б мая параданька,
Ўся б мая размовань [ка].

838. З глыбокага да калодзежа 2
Там Антоська да ваду брала, брала.
Там Антоська да ваду брала,
У свой край паглядала, паглядала,
У свой край паглядала.

— Ці не едзе да мой брацейка, мой брацейка?
Ці не едзе да мой брацейка,
Ці не вязе мне гасцінчыка, гасцінчыка...
Ці не вязе мне гасцінчыка?
Ой, не рада я гасцінчыку, гасцінчыку...
Ой, не рада я гасцінчыку,
Як я рада свайму брацейку, брацейку.
Добра, братка, што прыехалі, 2
Тут мяне адведаці, адведаці,
Тут мяне адведаці.
Бо я тута да не знаюся, не знаюся,
Бо я тута да не знаюся,
Усякаму пакланюся, пакланюся:
І старому, і малому,
Яшчэ й тому, што ў калыбелі,
Што на белай пасцелі, пасцелі...
Яшчэ тому, што на прыпечку, 2
Ён іграе на скрыпачку.

839. Маладая Танечка
За морам радзілася,
За Дунай замуж пайшла,
У Дунаі ваду брала,
У свой бок пазірала.
Там ляцелі двое галубочкі.
— А мае вы галубочкі,
Ці не з маёй старspначкі?
Занясіце маёй мамачцы,
Што я ўсю ночку не спала;
Белая кашулечка да плечкаў прыліпала,
Чорна нагаечка ля плечак лятала.

840. А ў пятніцу рана
Сіняе мора іграла,
Машанька ваду брала,
У свой бок паглядала.
— Ці не едзець мой бацюшка,
Ці не вязець мне весці,
Ці быць мне на старым месці?
Не едзець мой бацюшка,
Не вязець мне весці,
Не быць мне на тым месці.

841. Ой, дзевачка, ой, вумная-разумная,
Не знала, не ведала,
Што ў горнасці сказаць.
Загадала шчырыя бары араці,
Загадала чорным макам сеяці.
— Зарадзі, божа, чорнага маку — гораў цвет.
Ой, едзь жа, едзь, мая радня, за мною ўслед.
Я і раней, як і зараз, не дбаю,
Ды ўсё сваю радзімачку ўспамінаю,
А я свае свякровачкі не знаю.

842. Аддалі мяне, не едуць па мяне,
Як жа ім не жаль мяне?*
Аддалі ягоду за гэту калоду,
Аддалі сыр белы за пень гарэлы,
Аддалі красавіцу за такую п'яніцу.

843. Выйду на гораньку — млын меле,
Прынясі, божа, маю радзінаньку да мяне.
Ой, млын меле ды ўсякімі бакамі,
Ідзі, радзіначка, з вялікімі дарамі.

844. Ой, зацвіла ды каліналька ў лузе,
Прыбудзь, прыбудзь, мая маманька, у пярэзвы.
Хоць прыбудзе, не прыбудзе — не знаю,
Сваю маманьку па голасу пазнаю.

845. Не кукуй, зязюлечка, рана,*
Ой, не кажы, што ночачка мала,
Я сягоння ўсю ночачку не спала,
Мілых-любых гасцей дажыдала:
Наймілейшых — татачку з мамачкай,
Найраднейшых — сястрыцу з братцам.

846. Ай, крахнула вутка,
Ай, крахнула вутка, ў трыснячку седзячы:
— Ай, божа мой, божа,

* Рэфрэн «Як жа ім не жаль мяне?» паўтараецца пасля кожнага радка.

Ай, божа мой, божа, калі ета зімка пройдзіць?
Калі ета зімка пройдзіць,
Калі ета зімка пройдзіць, а лета настаніць?
Ільды разайдуцца,
Ільды разайдуцца, рэкі разліюцца,
А мне, вольнай пціцы,
А мне, вольнай пціцы, плаваць па вадзіцы.
Плакала Кацюшка,
Плакала Кацюшка, ў каморачке седзячы:
— Ай, божа мой, божа,
Ай, божа мой, божа, калі ета ночка пройдзіць?
Калі ета ночка пройдзіць,
А бел дзень настаніць?
А бел дзень настаніць, вяночак мне снімуць,
Вяночак мне снімуць,
Вяночак мне снімуць, галоўку пувяжуць.
Галоўку пувяжуць,
Галоўку пувяжуць, на людзі пукажуць.

847. Кукавала шэра зязюлечка 2
У вішнёвым садочку:
— Божа ж мой мілюсенькі, 2
Чаму таго да лета няма,
І гняздзечка не звіла, 2
І яечка не знясла?
Заплакала млода дзевачка 2
У свякроўкінай каморы:
— Божа ж мой мілюсенькі, 2
Чаму ж маёй да мамкі няма,
І галовачка не ўбрана, 2
І кашулечка не дана?

848. Закракала шэра вутачка на моры,
Заплакала млада Галечка ў каморы:
— Зачым-засім майго татачкі доўга нет?
— Піва варыць, у бочкі зліваe, мусіць быць.
Закракала шэра вутачка на моры,
Заплакала млада Галечка ў каморы:
— Зачым-засім мае матулькі доўга нет?
— Піражкі пячэ, у лукошкі кладзе, мусіць быць.
Закракала шэра вутачка на моры,
Заплакала млада Галечка ў каморы:

— Зачым-засім маіх сёстраў доўга нет?
— Трубкі качаюць, скрыню складаюць, мусіць быць.
Закракала шэра вутачка на моры,
Заплакала млада Галечка у каморы:
— Зачым-засім маіх браточкаў доўга нет?
— Коней сядлаюць, з двара з'язджаюць, мусіць быць.

849. Закракала шэра вутачка на моры.*
Заплакала красна дзевачка ў каморы:
— Зачым-засім мае радзіны доўга нет:
Ці мяцеліца ім дарожачку й замяла?
А садзіся, й молад жанішка, й на каня,
А працірай ім дарожачку й да двара.
А каб мая а радзіначка прыбыла,
Мая радзіна ж ні піць, ні есці — пагуляць.

850. — Чаго, мамачка, барышся,
Чаго хуценька не едзеш?
— Ой, баруся, маё дзіцятка, жа баруся,
Свої качаю, сундук складаю,
Маё роднае, жа баруся.
— Чаго, татачка, жа барышся,
Чаго хуценька не едзеш?
— Ой, баруся, маё дзіцятка, жа баруся,
Прыдан збіраю, за стол саджаю,
Маё роднае, жа баруся.
— Чаго, братачка, й барышся,
Чаго хуценька не едзеш?
— Ой, баруся, маё дзіцятка, жа баруся,
Каней сядлаю, сундук стаўляю,
Маё роднае, жа баруся.

851. Змарнела дзіця, змарнела,*
Да тры дні ў цямніцы сядзела,
Да ўсё праз шчэлінку глядзела.
— Ці не едуць мае браточкі,
Ці не вязуць мае кухрачкі,
Ці не едуць мае сястрыцы,
Ці не пусцяць мяне з цямніцы.
Хай мае браточкі падап'юць,
Яны ету цямніцу разаб'юць.

Хай мае сястрыцы загуляюць,
Яны ету цямніцу паламаюць.

852. Ужо стаіць дзеванька ў даліне,
Выглядае радніны.
Яе радніна п'е-гуляе,
За яе не думае.
— Да чаго, матанька, баішся?
Чы зняважанькі баішся?
Не бойся, матанька, не бойся,
У чырвоны чаравікі абуйся,
Тапчы варогі пад ногі,
А падкоўкамі парогі.

853. Ой, на моры ды на дошчачцы
Там дзеванька ды палошчыцца.
Ды палошчыцца ды ўмываецца,
Яшчэ і на шлях углядаецца:
— Ці не едзе мая маманька,
Ці не едзе мая родненька,
Ці не вязе мне гасцінчыка,
Чырвонага ды Васільчыка?
Ой, не рада я гасцінчыку,
Так як рада я Васільчыку.

854. Да хадзіла дзевачка па гары,
Пазірала радзімку з-пад зары.
— Што ты, мая радзіма, пазнішся?
Ці ты майго сораму баішся?
Не бойся, радзіма, не бойся —
У чырвоны боцікі абуйся,
У залатыя падкоўкі падкуйся,
Каб тыя падкоўкі бразчалі,
Каб нашы ворагі маўчалі.

855. Ды не жаласлівыя браточкі,
Ды не жалеюць свае сястры.
Хапіліся піць і есці,
Ды не адведаюць свае сястры.
Змарнела дзіця, змарнела,

Ды ў чужой клеці седзячы,
Да праз шчэпачку гледзячы:
— Ці не едуць мае браточкі,
Ці не вязуць мае кухрочкі?
Ці не едуць мае сястрычкі,
Ці не пусцяць мяне з цямнічкі?

856. А зажурылася дзевачка,
У цёмнай цямніцы седзячы,
На чужыя госцікі гледзячы:
— А чужыя госці п'юць-ядуць,
А мяне з цямніцы не вядуць.
А прыедуць мае сястрыцы,
Выведцуь мяне з цямніцы,
Кашулечку мне прывязуць
І галовачку прыбяруць.
А вядуць мяне ў святліцу
Да за цісовую скам'іцу,
Да за бярдаістыя скацерці,
Да за залатыя кубачкі,
— Стойма, маладыя прыданачкі.

857. А на вуліцы а мяцеліца развявае,
Наша дзеванька ў аконца пазірае.
— А за чым, за чым майго татачкі доўга нет?
А ці конікі вараненькія прысталі,
Ці служачкі маладзенькія заспалі?
Ускоч, ускоч, мой хлопчык, на каня,
Пратры, пратры мне дарожачку да двара,
Няхай ка мне мой татачка прыедзе,
А няхай мне ўсю радзіначку прывязе,
Няхай жа ён мне скрыначку прывязе.

858. Вумная-разумная Мартусенька
Ставіла старожаньку на броду,
Сама стала пад вішанькай у саду.
— Адкуль, адкуль краснае соўнца ўзыйдзець,
Адкуль, адкуль мая радзінка ўз'едзіць,
Тады мае ўбораньки прывязуць,
Тады маю галаваньку ўбяруць,
Тады мяне маладзенькай назавуць.

859. Ай, умная, і разумная Анечка,*
Пайшла села пад вішанню у садзе.
— Адкуль, адкуль а ясён месяц узойдзіць,
Адкуль, адкуль мая маманька уз'едзіць?
— Ай, дура ж ты, неразумная Ачечка,
З абалок, з абалок ясён месяц узойдзіць,
З-за варот, з-за варот твая маманька ўз'едзіць.
— Я сваю мамку па галасочку пазнаю:
Голас таненькі, конь вараненькі — мамка мая.

860. Пазірала наша Манечка
Праз тынок да на вулачку;
— Ці не звіняць калакала звонкія,
Ці не бягуць коні вараныя,
Ці не едуць мае прыданачкі,
Ці не вязуць убіраннейка,
Мататчынага прыбіраннейка,
Сястрынінага вышываннейка,
Тонкага да беленькага,
З памерам да раўненькага.

861. Ай, выйдзі, малойчык, на ганачак,
Паслухай, малойчык, прыданачак:
Ці стогніць дарога шырокая,
Ці шуміць дуброва зялёная,
Ці едуць сваццэнькі маладыя,
Ці вязуць адзежу дарагую,
Прыбяруць Аленку маладую.

862. І выйду ж я за вароцейка,
Зірну я на балоцейка, 2
Ці не едзе мая мамачка, 2
Ці не вязе мне купёрачка.
І ці не вязе мне купёрачка,
Купёрачак да падарачкаў 2
Перавіць мне галовачку.

863. Ой, едзь ка мне, родзе да багаты,
Да вядзеце карову рагату,
Каб мая карова ў варотах рыкнула,

Да мая свякроўка на мяне зірнула:
— Едзе мая нявехна, як зара,
Да вядзе карову да хлява.

864. Маладая Надзечка
На вуліцу выбягае,
К дарожаньцы прыпадае:
Ці шуміць дуброванька,
Ці звініць дарожанька,
Ці едзе маценька,
Ці вязе гасцінчыка,—
Бяленькага сырчыка?

865. Маладая Галечка, выйдзі за вароты
Ды прыляж к дарозе.
Да ці стогне дарога,
Ці шуміць дуброва,
Ці свішчуць нагайкі,
Ды ці едуць прыданкі,
Ці вязуць маю мамачку?
— Я ж тут не знаюся,
Кожнаму кланяюся,
Старому, малому,
Іваньку маладому.

866. Маладая дзевачка,
Пасунься на лавачцы,
Паглядзі ў аконца,
Да ці высока сонца,
Да ці едзе мамачка,
Ці вязе сняданнечка.
Яна таго ж не ведала,
Што ўчора не абедала,
Сягоння не вячэрала.

867. Паглядзела Касенька
Праз вакно на вулачку,
Ці едзе яе матанька
З тонкімі падаркамі,
З маладымі прыданкамі.

— Ой, дзе ж вы, ды прыданачкі, блудзілі?
— Ой, мы, ды прыданачкі, блудзілі,
Ў чыстым полі ды дарожачку старацілі;
Ой, дзе ўзялося ды маленькае дзіцянё
Ды паказала нам дарожачку ў сяло.
— Ой, сюды, сюды, прыданачкі, да сяла,
Ой, тут жа ваша срэбра-золата ґезена!

868. Выйдзі, дзеванька, на ганак,
Паглядзі сваіх прыданак.
Ці не госці едуць, прыданкі,
Ці не кублы вязуць, катанкі.
Засцелюць сталы і лаўкі,
Ой, там пасядуць прыданкі.

869. Выйдзі, Машанька, на гарод,*
А едзець жа твой увесь род:
Большы брахненька — папярод,
Меньшая сястрыца — пасярод,
А цёткі-дзядзькі — пазаду,
А вязуць жа табе ўсю бяду
На тваю буйную галаву.

870. Вязуць цёткі прыданак,
Выйдзі, Надзечка, на ганак,
Устрачай сваіх прыданак.
— А прыданачкі-любачкі,
Не забывайцесь трубачкі.
Белыя ручнічкі на кручкі,
А набожнічкі на бога.
Каб не была вам трывога,
Сіваму каню ў дарозе,
А вам, маладым, у возе.

871. — А выйдзі, Мар'янка, на ганак,
Паглядзі сваіх прыданак:
Ці зязюлечкі кукуюць,
Ці салавейкі шчабечуць?
— Ні зязюлечкі кукуюць,
Ні салавейкі шчабечуць —

Гэта мае дзядзюшкі гойкаюць,
Гэта мае цётушкі песні пяюць,
На маёй скрынцы седзючы,
На маю старонку гледзючы.

872. Ой, між гор жыта жала
Ды ў свой край пазірала,
Ці едуць прыданачкі,
Ці вязуць падарачкі.
Ой, едуць прыданачкі,
Не вязуць да падарачкі:
Матка старая не наткала,
Сястра мала не напрала,
Я, малада, ды не ведала
І на вулачку хадзіла,
Малойчыка выбірала.

873. З сіняга мора ветры веюць,
З чыстага полечка госці едуць.
Родненькі братулька наперадзе.
— Ты выйдзі, дзевачка, сустрэць гасцей.
Родненькага братулечку наперадзе.
Ты вазьмі коніка за бротаньку,
Роднага братаньку за ручаньку.
Ты вядзі коніка да стаяначкі,
А роднага братульку да свяцёлачкі.
Ты палож конікам аўса-броку,
Пастанаві братульку віна-мёду.
Конь не есь, конь не п'ець па старасці,
Родненькі братулька па шаласці.
Конь вараненькі ў канюшні скачыць,
Родненькі братулька па мне плачыць.

874. Наехалі да нас госці
З чужой стараносці:
Маці — на карове,
Бацька — на валове,
Дзядзька — на цяляці,
Сястра — на ягняці,
Брат — на жарабяці,
Каб было што ў хлеў загнаці.

875. Пайшла Манечка па ваду,*
А зачула гасцей у бару,
Кінула вядзёрцы пад гару.
— Станьце, мае вядзёрцы, дагары дном,
Ой, почапачка лунцою,
А й каромысел дугою,
Ой, сама пайду дадому.
— Гатуйся, свёкарка, гатуйся,
У чырвоны боты абуйся.
Ужо ж мае госцікі недалёка.
А ў шчырым бару конь заржаў,
Музыкі-разыкі зайгралі,
Маладыя прыданкі песні пяюць,
А мне, маладой, весці нясуць.

876. Выйшла дзеванька пад гору
І глянула на зору:
Ідуць любыя госці,
А баценьку не ў любосці.
— Любі, баценьку, не любі,
Мне гарэлачкі прынясі.
Ты пойдзеш на ўпакой спаці,
А мне трэба частаваці.

877. Выбегла дзеванька на гару,
Выбегла малада на гару,
Глянула на неба, на зару,
Глянула млода на зару.
Пазнала яна па зары,
Што едзе маці да яе.
Пабегла свёкарка пытаці:
— Чым будзем мацюньку частаваці?
— Віночкам, нявестка, віночкам,
Яшчэ й салодкім мядочкам.

878. Ой, бразнулі кола
З баценькавага двора.
Чула тое Маруся,
У аконечка седзячы.
— Іванку, душаньку,
Старайся меду й віна:

Ідзе мая радзіна,
Мой баценька родны.

879. На дварэ чырвоная каліна,
Наша Танечка маладзенькая хадзіла,
Свайго свёкарка нізкім уклонам прасіла:
— Не гневайся, мой свёкарка, на мяне,
Што прыбыла мая радзіна да цябе.
Нядоўга яна будзе сядзець,
Ано пасядзіць і дадоманьку пойдзе,
А мяне, маладу, на выслужаньку пакіне.

880. Маладая дзеванька
У новай брамы стаяла,
З свёкрам размаўляла:
— Свёкарку, мой баценьку,
Не лякайсь свога роду:
У мяне род невялікі,—
Семдзесят пappend развянак,
Дванаццаць падгулянак.

881. Чаго, сваткі, спазніліся,
Мусіць дарожку згубілі?
Сюды, сюды, прыданачкі, да сяла,
Тут жа наша Манечка забрыла.

882. Прыданове-недбалове,
Чаму позна прыехалі?
Чы ў сем сяле, чы ў том сяле
Конікаў шукалі (або даставалі).

883. — Белы прыданкі, белы: 2
Да ці лебедзя стрэлі?
Ці на моры бяліліся, 2
Чаму ж вы так спазніліся?
— Мы лебедзя да не бачылі 2
І на моры не бяліліся, 2
Так сабе спазніліся.

884. — Госцікі пазнівыя,*
Дзе ж вы спазніліся?
— Мы ехалі борам,
Калінавым мостам.
На калінавым мосце
Мы часочак стаялі.
Мы часочак стаялі,
Каліну ламалі.
Каліну ламалі,
За шапачку клалі.
Каб нас тут узналі,
Гасцямі назвалі,
У хатку пазвалі,
За стол пасадзілі.
За стол пасадзілі,
Харашэнька ўгасцілі.

885. Ехалі мы іграючы,
Тры сялы мінаючы,
Чацвёртае пытаючы:
— Ці не тут рута-мята трасёна?
Ці не сюды наша сястрыца вязёна?
Ці не сюды маладзенькая ўзята?
Ці не тут з яе краса знята?

*Старшая сваха маладой:*

886. —Ці тут, ці тут нашага свата вяселле,
Ці тут, ці тут нашай сястрыцы жыленне?

*Сваха маладога адказвае:*

— Ай, тут, ай, тут вашага свата вяселле,
Ай, тут, ай, тут вашай сястрыцы жыленне.

887. Ой, чы гэта да тая хата,
Куды наша дзіця ўзята?
Як яна да тут жыве,
Чы харашо сям'ю заве?
Чы заве свёкра бацькам,
Свякроўку — мацерsuccessivelyаю,
А залвіцы — сястрыцы,
Дзевяратка — браткамі.
Мы не хочам піцця ваша,

Пакажыце да дзіця наша,
Што з намі да піла-ела,
Ад нас да й паехала.
Што з намі гадавалася,
Ад нас захавалася.

888. Да мы свата не зналі, 2
Двара яго да не ведалі.
А цяпер мы вазналі,
Куда Мар'ячку ўзялі.

889. Ехалі мы да дарогамі,
Ехалі мы да шырокімі,
Да заехалі к свату,
У багатую хату.

890. А выведзіце нам нашу,
Нашу пакрасу.
А няхай жа нам наша
Да перад намі пляшаг,
А штобы нам знаці,
За кім нам гуляці.

891. Пакажыце нам наша,
Няхай з намі папляша,
Няхай з намі павітаецца,
Пра здароўе ў мяне да папытаецца.
Яна ў мяне да піла-ела,
А ад мяне паляцела.

892. Да казалі, сяло недалёка, 2
Цераз адно полечка.
Ажно сяло за чатыры мілі, 2
Мы ж конікі да патамілі, 3
А самі да папацелі,
Галовачкі закруцілі.
Усім нам да па кубачку 3
За дзевачку, за галубачку.
Усім нам да паўненьку 2
За дзевачку залаценьку.

893. Прыехалі мы на вясёлы двор,
Вынесіце нам бочку мядочку,
Вып'ем мы ды па кубачку 2
За сваю ды галубачку.
Яна ў нас ды піла-ела,
Яна ад нас ды паляцела,
Яна з намі жыць не захацела.

894. А едзем мы, едзем, а куды прыедзем?
Прыехалі і к свату, папрасіліся ў хату:
— А свату наш, свату, пусці нас у хату,
Павідаць свайго дзіва, папіваць твайго піва.
Па полю, полю гарушкі, забірай, Еленка, падушкі.

895. А сватка, наш сватка,
Заві нас у хатку,
Памасці нам кладку,
Заві нас у хатку.
Кладачку не гібкую, 2
У хатачку не пустую.

896. Ой, дзе ты, матулю, доўга ходзіш?
Чаму з хлебам-соллю не выходзіш?
Мы штэры мілі праехалі,
Мы ўжо вячэраць захацелі,
А вы, матулю, тое знайце —
Нам вячэраці хутчэй дайце.
Як паселі прыданкі,
То й пагнуліся лаўкі,
Як наядзяцца й нап'юцца —
Яшчэ лепей пагнуцца.

897. А, сваточак наш дамавы,*
Ці на гэта нас сват запрасіў,
Каб жа мы на дварэ стаялі
Ды на сватнія вуглы глядзелі?
Што ў свата вуглы цёсаныя,
А мы ж у свата госцейкі прошаныя,
Што ў свата вуглы круглыя,
Мы ж у свата госцейкі любыя.

898. Ці не тут тое сяло,
Што нашу сястрыцу ўзяло?
Ці не тут тая хата,
Куды сястра наша ўзята?
Мы так доўга стаялі,
Нашы рукі-ногі ўсталі.
Прыйшлі мы ў хатку
Ды к добраму парадку.
Пасадзіце нас да столу,
Частуйце хлебам-соллю.
Паднясіце талерачку
І белую гарэлачку.

899. Выходзь, сватачка, прОціў нас,
Налівай кубачкі, частуй нас.
Налівай чарачкі медавыя,
Бо едуць баяры маладыя.
Мы ў цябе, сватачка, век не булі,
Мы ж твае гарэлачкі век не пілі.
Пусці, сватачка, у хатачку,
Мы ў твае хатачцы век не былі,
Гарэлкі век не пілі.

900. А сваток наш, галубок,
Адчыні нам дварок.
Мы здалёку пазналі,—
Наша ластаўка пала,
Судзі, божа, злавіці,
На куце пасадзіці,
Півам-віном напаіці,
Белым сырам пакарміці.

901. Адчыніце вароцечка,
Пакажыце нашае золата,
Ці такое, як у нас было?
У нас было, як ружа, цвіло,
А ў вас стала, як рута, звяла.

902. Ці ждалі, ці паглядалі вы на нас?
Ці адчынілі вароцікі вы для нас?

Ці засцілалі цясовыя столікі вы для нас?
Ці налівалі кубачкі віна вы для нас?
А хоць любіце, ці не любіце, як мы вас?

903. А зачым, зачым нам прывету нету:
Ці наша дзевачка не красна,
Ці яе долечка няшчасна?

904. Наехала передзвян поўны двор,
Рубаюць дрэва — і ўсё клён,
Робяць скрыпанькі на выбор.
— Грайце, скрыпанькі, голасна,
Каб было бáценьку жаласна.

905. Мы к свату ехалі,
Ехалі, тарапіліся
Да з дарожкі збіліся.
У чыстым полі блудзілі,
Сватняй хаты шукалі.
Многа разоў станавіліся,
Да прыехалі к свату.
Сталі ў свата да прасіцца:
— Пусці, сватка, ў хату.
Сват у хату да не пускае.
А ў нашага свата нехарошая хата:
Ні клеці, ні павеці,
Недзе кухры дзеці.
Да паставілі пад страхой,
Накрылі бараной,
На яго дождж лье,
На яго ветрык вее.

906. Дайце прыданым волю,
На скрыню — камору,
На коні — стайніцу,
На прыданя — святліцу.

907. І ў нашага свата
Ні клеці, ні павеці,

Недзе скрыні дзеці.
Толькі тыя свірны,
Што заганяюць свінні.
Хата із саломы,
А сені з рагожы.
Ой, недзе, маладой,
Мне ні сесці, ні прытуліцца.

908. Ірзалі коні, ірзалі,
Усё багацце забралі.
Нету хаты, ні павеці —
Недзе багацця падзеці.

909. Сватка-салавейка, 2
Ды частуй харашэнька. 2
А ў нашага свата
Пабялёна хата, 3
Ні клеці, ні павеці, 3
Недзе сундука нам дзеці. 2
Паставілі пад стрэшаю,
Накрылі галавешаю.

910. Наша скрыня новая,
Жалезам акована,
Паўненька накладзена,
Яшчэ не прададзена. 2
Наша скрыня новая,
Жалезам акована,
Поўненька накладзена,
Хлопчышку прададзена.

911. За морамі бывалі,
Едвабаў-шоўкаў накуплялі
Для нашай маладой.
Хочаце — выкупляйце,
А яжэлі не — павязем дадому.

912. Ой, хто, хто то й да нас прыступіць,
Ой, хто, хто мёд, віно выкупіць?

Чашнічак то й да нас прыступіць,
Чашнічак мёд, віно выкупіць.

913. — Лёгка скрыня, 2
Маладая ляніва.
Вечарамі спала,
Палатна не наткала.

*Або:*

— Маладая ў скрыню
Каменне паклала,
Радном прыкрыла,
Саяном заслала.

*«Прыданцы» адказвалі:*

— Няпраўданька ваша,
Добра Марыся наша,
Добра яе скрыня,
Добра з яе гаспадыня.

914. Ой, злезь, злезь, бубле, з кубла,
Да пакажы, што ў вашым кубле:
Ці многа палацён ткацкіх,
Ці многа да кашуль шытых?
Ой, многа палацён ткацкіх,
Ой, многа да кашуль шытых.
Па бакох стаяць свойчыкі,
Пасярэдзіне чырвончыкі.

915. Дурні сваты, дурні,
А што ў гэтым кублі?
Пасканей наклалі,
Хвартухам заслалі.

*Ад маладога співаюць:*

916. — Нам казалі, восем падушак пуховых —
Вы прывязлі толькі адну з кіёвак.

*Ад маладой:*

— Вы нам казалі, восем свірнаў з дабром —
Мы прыехалі, а засталі без вуглоў.

917. Ад'язджаюць — пераймаюць,
На пасцелю садзяць,
А пасцеля мяккая
Нашай Мані пуховая.
А мы баімся, каб яна не была ў нас у злосці.
А яна тады нам сказала:
— Садзіцеся смела на маёй пасцелі.
Я ж на тое яе рабіла,
Каб на ёй людцы сядзелі.

918. Адчыняйце цісовыя дзверы і ганкі,
Прыехалі любыя госці — прыданкі.
А засцеляць цісовы сталы і лаўкі,
А павесяць набожнічак на бога,
І каб не было нашай моладзі трывога.
Каб не была паветачка за хатку,
І каб не была суседачка за мамку.
І каб не была пасцелечка пад стаўком,
І каб не была вячэрачка пад тынком.

919. Выйдзі, выйдзі, Манечка, к нам на двор,
Паглядзі ў куфар свой,
Ці табе ўсё матачка паклала,
Што ты, маладзенька, надбала.

920. За гарою новае сяло,
Мы ў том сяле нігды не былі,
Мы ў тое сяло дзіця аддалі
І сягоння ў госці прыбылі.
Стукнула на падвор'і,
Не чуюць на застоллі:
Тут наша родна дзіцятка,
Чаму да нас не выходзіць,
Чаму з намі не вітаецца
І на здароўе не пытаецца?

921. На дварэ калодзезь і вядро —
Дзесь тае Валечкі не відно.
Як па воду паслалі — вярніце,
Да каморы схавалі — пакажыце,

Бо яе мацёнка на дварэ,
Няхай падзівіцца на яе.
Уся яе радзіна з'ехала,
Дзівіцца на яе — няма ей тут.
— Мамусенька родна, вітаю,
Я цябе, радзіна, пытаю:
Я жыву тут добра, давольна,
Будзь ты, мамусенька, здарова.

922. Ой, на калодзезі круг ляжыць,
Чаму наша Ганечка к нам не бяжыць?
На калодзезі круг-вядро,
Чаму нашай Ганечкі тут не відно?

923. Ой вы, свашачкі мілыя,
Дзе вы наша дзіця дзелі?
Чы па ваду паслалі,
Чы ў камору захавалі?
Як па ваду паслалі,
Пайдзіце, пазавіце,
Як у камору схавалі,
Пайдзіце, прывядзіце.

924. Прыехалі да прыданачкі
Да паставалі да на ганачку,
Запыталі да баярачкі:
— Гдзе наша да баярачка:
Ці замкнёна, ці зачынёна,
Чаму з намі не вітаецца,
Сваей маткі не пытаецца?
— Не замкнёна, не зачынёна,
Не хоча з вамі да вітацца,
Сваей маткі да пытацца.

925. Ой, прыданчэ-каханчэ,
Да пазнай сваю дочку.
Учора была ў вяночку,
А цяпера у серпаночку.
Дзе ж наша гадаванне,
Мілэ-любэ да каханне?

Чом з намі не вітаецца,
За здароўе не пытаецца?
Што з намі піло-ело
Да ад нас паляцело.

926. Дзе ж наша да павінная?
Чаму з намі не вітаецца,
На здароўе не пытаецца?
Ці ў каморцы ды замкнёная,
Ці ў скрыню ды зачынёная?
Як у каморцы, то адамкніце,
Як у скрыні, то адпусціце.
Няхай з намі павітаецца,
Пра здароўе ды папытаецца.

927. Дзе наша вітаўное?
Чаму ж з намі не вітаецца,
На здароўе не пытаецца?
Можа ўжо на работу пайшло:
Вярынечка за плячыма,
А слёзачка пад ачыма.

928. Дзе ж наша да павінная?
Ці замкнёна, ці зачынёна?
Чаму ж яна з намі не вітаецца,
Да здароўя не пытаецца?
Без цябе, Леначка,
Да твая матачка тужыць,
Што вадзіца да вячэрняя
І ложачкі пад лаўкаю
Зараслі траўкаю.
І тарэлачкі ў камешніку
Зараслі арэшнічкам.
А брацейка ные, сам ложачкі мые,
А ў сястрыцы галава баліць,
Што некаму палацён бяліць.

929. Без цябе, Верачка,
Твая маманька плача, плача...
Твая маманька плача

Да без свайго дзіцяці, дзіцяці...
Да без свайго дзіцяці
Да няма ж ладу ў хаце, у хаце...
Да няма ж ладу ў хаце.
Печ мая не бялёная, не бялёная...
Печ мая не бялёная,
Сені мае не мяцёныя, не мяцёныя...
Сені мае не мяцёныя,
А ложачкі пад лаўкаю, пад лаўкаю...
А ложачкі пад лаўкаю.
Да зараслі мураўкаю, мураўкаю...
І вядзеркі без вады,
І вядзеркі без вады, без вады...
І вядзеркі без вады.
А хоць яны із вадою, із вадою...
А хоць яны із вадою,
Із вадою да вячэрняю, із вячэрняю...
Із вадою да вячэрняю,
Нельга ею да напіціся, да напіціся.
Нельга ею да напіціся,
Толькі ею атравіціся.

930. Ой, Дунаю, Дунаю, па табе рыба грае.
Па табе рыба грае.
Аж Дунай разлягае.
Маладая дзяўчына, па табе матка плача.
Па табе матка плача,
Як ластаўка шчабеча.

931. Да ці чуеш, дзеванька,
Як па табе мамка плача?
Як зязюлька кукуе,
Як салавейка шчабеча,
К століку прылягаючы,
Цябе, маладзеньку, успамінаючы,
Па тваіх сцежках ходзячы,
Цяжка дзела робячы.

932. Аленачка маладзенькая,
Ты сядзіш да не ведаеш,
Як там мамачка пажывае,

Па сенечках пахаджае,
К сырой зямлі прыпадае.
Войдзе ў святліцу — ні падушачкі,
Войдзе ў камору — ні дачушачкі.
Прыйдзе ў вішнёвы садочак,
З вішанькамі гаворыць:
— Вішанькі мае мілыя,
Вы ж тут будзеце зімаваці.
Няма каму вас ашчыпаці,
Няма майго роднага дзіцяці.

933. — Ай, дзе ж вы нашу маладую дзелі:
Ці ў клець загналі, ці па ваду паслалі,
Ці па ваду паслалі, да ці баню тапіць?
— Ай, і ў клець загналі, да не баню тапіць.
А ў клеці, у клеці каўбасы чынюць,
Начынілі каўбасу — сам трэць не ўнясу.

934. Злодзей, сватка, злодзей,
Украў нашу дочку,
Захаваў у каморачку,
Замочкам замкнуў,
Калочкам заткнуў,
Мядочкам замазаў
І нам не паказаў.
Замкнёнае адамкніце,
Заткнёнае адаткніце,
Нам наша пакажыце.

935. Дзе ж наша Галечка,
Дзе ж наша нявольніца?
Ці яна ў каморы, ці яна ў няволі?
Як у каморы, то будзем адмыкаці,
А як у няволі, то будзем гавараці:
— Выйдзі з каморанькі, прывітай радзінку, як родную маці.

936. Прыехалі да прыданачкі,
Пытаюцца навіваначкі:
— Да дзе наша навіваначка?
Чаму да нас не выходзіць:

Ці ў каморы прыбіраецца,
Ці на моры вымываецца?
— Ні на моры вымываецца,
Ні ў каморы прыбіраецца.
Зараз прыйдзе, прывітаецца,
Пра здароўе папытаецца.

937. — Дзе ж наша дзеванька,
Дзе ж наша да нявольніца?
Ці па ваду пашлёна,
Ці ў замку замкнёна?
— А мы па ваду не пасылалі,
У замкі не замыкалі,
Сядзіць яна за столікам
Са сваім саколікам.
Сядзіць яна за скам'ёю,
Мёд і віно перад ёю.
Мёд і віно да й гарэлачка,—
Ужо там дзяўчына,
А не дзевачка.

938. Дзевачка Леначка,*
Выйдзі за варота.
Да ламай каліначьку,
Устрачай радзіначьку.
Штоб радзіна знала,
Да двора не мінала,
Да ў двор заязджала.

939. — Ой, ці чуеш, Галечка, 2
Што радзіна на двор.
Выйдзі з калінаю 2
Павітайся із радзінай.
— Ой, сама ж я не выйду, 2
Бацюхна, няхай выйдзе да мой бацюхна 2
З віном зеляным.
З віном зеляненькім,
З мядком саладзенькім.

940. Ды памерзлі прыданачкі на дворы,
Выйдзі, выйдзі, наша сястрыца, з каморы.

Ды перáймі прыданачак на дворы.
Калі любыя — ў хатачку папрасі,
А не любыя — да матулькі адашлі.

941. Выходзь, Волечка, к нам на двор
Да рассцялі платочак на ўсёй двор.
Няхай платочак махае,
Няхай твае баяр'е п'е-гуляе.
Разаслала Волечка платочак
Да і прыгласіла баяр'е.
Баяр'е танцуе-гуляе,
Маладую Волечку вітае.

942. Выйдзі, выйдзі, Аначка, к нам на двор,*
Прыпні хвартушок сямі пол,
Да няхай твой хвартушок павявае,
Да няхай цябе радзіна узнае.
Ой, сваце, сваце, сватачку,
Да пусці, сватачку, у хатачку, 2
Не будзем паліці лучыны, 2
Будзем свяціці вачымы.

943. Ой, выйдзі, Валечка, ты на двор,
Рассцялі хвартух сямі пол.
Да рассцялі хвартух сямі пол,
Наехала радзіны повен двор.
Да няма чужыны-чужніцы,
Толькі брацікі-сястрыцы.

944. Выйдзі, выйдзі, Галечка, да з каморы
Да пакажы белае лічка, чорны бровы,
Ці такое лічанька, як было,
Ці ў чужой матачкі не змарнела?

945. Выйдзі, Ганнанька, з хаты,
Бо прыехала твая маці.
Да вынось каліньку,
Звесялі радзіньку.
Да вынось чырвоную,

Звесялі раджоную.
Выйшла Ганнанька, выйшла,
Як чырвоная вішня.
Вынесла каліначьку,
Звесяліла радзінаньку.
Вынесла чырвоную,
Звесяліла раджоную.

946. Цёмная ночка, развіднейся нам,
Маладая Валечка, адзавіся нам.
Мы твайго голасу прыслухаемся,
Мы твайго слядочку прыглядаемся.
Галасочак нам вядоменькі,
Слядочак твой нам знаёменькі.

947. Да гукалі на дварэ, гукалі
Да галубкі шукалі.
Да галубка ў чэрат пайшла,
Чараціна нахілілася,
Утоўка старанілася.
Гукалі на дварэ, гукалі
Да дзеваньку шукалі.
А дзеванька ў клецъ пайшла,
Ключамі забражджэла,
А сукнямі зашасцела.

948. — Выйдзі, Надзечка, выйдзі,
Ці няма табе крыўды?
Як маеш крыўданьку,
То скардзіся роданьку,
Забярэм дадоманьку.
— Ой, мой бацэньку родны,
Было лепш не даваці,
Чым цяпер забіраці.

949. Мы да вас прыехалі
Не піва папіці,
Не хлеба паесці,
А толькі на тое,
Каб зараз пабачыці

Дзіця дарагое.
— Выйдзі, Марыся, выйдзі,
Не рабі нам крыўды.

950. Едуць браточкі, кухры вязуць,
А сястрычкі едуць, песні пяюць.
— Як жа наша тут сястрыца?
— Учора лягла, не вячэрала,
Сягоння не снедала.
Пасылала мяне свякруха па вадзіцу.
Вадзічку нясу, слёзачкі лію,
Не бывае так, як у мае мамачкі:
Раненька не буджала,
Па вадзіцу не пасылала.

951. Высокі вашы парогі,*
Да сасгупіце з дарогі.
Мы вас нікога не знаем,
Мы за пляменніцай гуляем.

952. Не хочамо, не хочамо
Такой маладзіцы,
Што не мылася, не купалася
У крыніцы.
Выпускайце із цямніцы
Нашу гожу,
Нашу дочаньку,
Нашу кветачку-рожу.

953. Хадзіла Ганначка колькі лет,
Звіла красу з рожы цвет,
Прыйшла да маткі на прывет.
— Вітайся, матка, не бауся,
Да ўжо мой чырвоны цвет прыбраўся,
На цёнкай кашульцы паслаўся,
З маёй красою змяшаўся.

954. — Ды скажы, наша сястрыца, цяпер нам,
Ды хто ж цябе ў дварочку перайма́ў?

— Пераймаў мяне свякорка, як татка,
Пераняла мяне свякроўка, як матка,
Перанялі мяне дзевярочкі, як браты,
Перанялі мяне саловачкі, як сёстры.

955. — Хіліся, бела бяроза, хіліся,*
Хваліся, наша Манечка, хваліся,
А хто ж цябе на гэтым двара пераняў,
А хто ж цябе ў хатаньку ўвадзіў?
— Пераняла мяне на двара свякроўка,
Увадзіў у хатаньку Іванька.

956. — Нех бэндзе пахвалёны,**
Ці жывы, ці здаровы?
Ці вясёлая хатка,
Ці родная матка?
— Хатачка вясёлая,
Мамачка няродная.

957. Нех бэндзе пахвалёны,
Ці жывы, ці здаровы?
Ці відная святліца,
Ці прывыкнець наша сястрыца?
Каціліся белыя грошы па скам'і,
Ці прывыкнець наша сястрыца да сям'і?

958. Ці высока табе, Валечка, раніца,
Да ці свеціць яснае сонца ў ваконца,
Ці загаварыў да цябе міленькі хоць слоўца?

959. — Дзень добры, здароў, сваточкі. 2
Ці ўюцца ў вас раёчкі,
Ці слаяцца ў вас мядочкі,
Ці ўрадліва ваша зямелька,
Ці вясёлая ваша сямейка,
А ці відна ваша святліца,
Ці прывыкнець наша сястрыца?
— А ўюцца ў нас раёчкі,
Слаяцца ў нас мядочкі,

Урадліва наша зямелька,
Вясёла наша сямейка,
Відна наша святліца,
Прывыкнець ваша сястрыца.

960. — Добры дзень табе, свацейка.
Ці вясёла твая хацейка,
Ці раяцца ў цябе пчолачкі,
Ці садзяцца ў цябе госцейкі?
— Раяцца пчолачкі раёчкам,
Садзяцца госцейкі радочкам.

961. Добры дзень свату ў хату.
А ці відна яго свяцёлка,
Ці весела яго сямейка,
Ці цвітуць цвяты ў гародзе,
Ці пяюць салаўі ў саду,
Ці бруяць пчолы ў мяду?

962. Ды пахвалёна сваціца,
Ці цёплая хаціна?
Бо мы з далёкай дарогі,
Былі ў дарозе трывогі.
Мы ў лясу начавалі,
Святнюю хату пыталі.

963. Паглядзім жа мы
А ў нашага свата,
Ці бальшая сямейка,
Ці харошая пасейка
І пчолачкі ці вядуцца.

964. Стаіце, сваты, стаіце,
Траўку-мураўку тапчыце.
Траўка-мураўка зялёна,
Наша Таццянка вясёла.
Траўка-мураўка бухмата,
Наша Таццянка багата.
Ды пахвалёны сватніцы,

Ці відны вашы святліцы,
Да ці прывыкнець сястрыца?
Ціхенька ў хатку ўступіла,
Нізка галоўку скланіла,
Добры падарак дарыла.

965. — Дзень добры, сваточкі, усім вам,
Ці прыбыла наша сястра ўчора к вам?
Учора звячора была брамачка замкнёна,
А пад вечар наша сястрыца ўкрадзёна.
Яе мамачка ўсю ночку не спала,
Нас, маладзенькіх, удагон паслала.
— Едзьце, едзьце, мае сваточкі, праз лясок,
Ці пачуеце майго дзіцяткі галасок.
Да ехалі мы поле, другое,
Не напаткалі, не бачылі нікога.
Найшлі мы ў вёсцы, на куце,
Пастаўлена на куце вялікая старожа,
Трудна ўзяць, як з-пад ножа.
Што ж мы будзем яе мамачцы казаці,
Што не ўмелі яе дачушку ўзяці.
— Трэба было гэтага стража напаіць.
— Гэты страж і гарэлачкі не п'ець,
І золата, і грошы, не бярэць,
Дачушкі роднай не аддаець.

966. — Добры вечар, чужыя людзі, і мы к вам,
Ці не прылятаў наш селязенька ўчора к вам?
— А хоць прылятаў, не прылятаў — не скажам.
— А хоць скажаце, хоць не скажаце — спазнаем.
Наш селязенька, пер'е шызенька — спазнаем.
— Добры вечар, чужыя людзі, і мы к вам,
Ці не прыляцеў наш Жэнечка ўчора к вам?
— А хоць прыляцеў, хоць не прыляцеў — не скажам.
— А хоць скажаце, хоць не скажаце — спазнаем.
Конь вараненькі, сам маладзенькі — спазнаем.
Конь са званочкам, сам з цвяточкам — спазнаем.

967. — А сваточкі-галубочкі, чалом вам, чалом вам, чалом вам,
Ці не прыляцела наша курачка ўчора к вам, учора к вам,
учора к вам?

— Хоць прыляцела, не прыляцела, не скажам вам,
не скажам вам, не скажам вам,
А мы ж яе между курачак пасадзім, пасадзім, пасадзім.
— А мы ж яе между курачак пазнаем, пазнаем, пазнаем.
Наша ж курачка знакаміценька і з чубком, і з чубком,
і з чубком.
— А сваточкі-галубочкі, чалом вам, чалом вам, чалом вам,
А ці не прывезена наша Леначка ўчора к вам, учора к вам,
учора к вам?
— Хоць прывезена, не прывезена, не скажам вам,
не скажам вам, не скажам вам,
А мы ж яе между дзевачак пасадзім, пасадзім, пасадзім.
— А мы ж яе между дзевачак пазнаем, пазнаем, пазнаем.
Наша ж Леначка знакаміценька і з вянком, і з вянком,
і з вянком.

968. — Ой, на дзень добры, добрыя людзі, нам да вас,
Чы не прыплыла наша й утанька тут да вас?
— А якая й ваша утанька, якая?
— Наша й утанька між вашымі значная:
Чорнае крыльца, белае перца — такая.
— Ой, на дзень добры, добрыя людзі, нам да вас,
Дзесь заблудзіла наша й дзіцятка тут да вас.
— Ой, якое й ваша дзіцятка, якое?
— Наша й дзіцятка між вашымі значнае:
Белае лічка, чорнае очка — такое.

969. — Вох, дзень добры, добрыя людзі, і мы к вам,
Уляцела наша зязюлька ўчора к вам.
Яны божацца, яны ручацца: — Няма ў нас.
— Не бажыцеся, не ручыцеся, яна ў вас,
Наша зязюленька знакамітая паміж вас,
Хоць жа вы яе раба пер'ейка скубайце,
Толькі вы яе на мора плаваць пускайце.
— Вох, дзень добры, добрыя людзі, і мы к вам,
Дый, уехала наша Евачка ўчора к вам.
Яны божацца, яны ручацца:— Няма ў нас.
— Не бажыцеся, не ручыцеся, яна ў вас,
Наша дзевачка ды знакамітая паміж вас,
На плячах у яе коскі,
А пад вачыма ў яе слёзкі.
Хоць жа вы яе малоць-таўкці застаўце,

Толькі вы яе часта ў госцікі пускайце.
— Вох, у нас яна малоць-таўкці не будзе,
Толькі яна ў нас частыя госцікі забудзе.

970. — Вы, сваточкі-галубочкі, чолам вам,
Ці не заляцела наша курачка ўчора к вам?
А яна ўчора і звячора з петушком.
А ці заляцела, ці не заляцела, няхай вам.
Круп насыпайце, вады налівайце, прывучайце.
Вашы крупы пшанічныя — будзець есць,
Ваша вада крынічная — будзець піць.
— Вы, сваточкі-галубочкі, чолам вам.
А ці не прывезена наша дзевачка ўчора к вам?
А яна ўчора і звячора з хлопчыкам.
Ці прывязёна, ці не прывязёна, няхай вам,
Бліны пячыце, кашу варыце — прывучайце.

971. Ці не тутака рута-мята трасёна?
Ці не сюды наша сястрыца вязёна?
А тутака рута-мята трасёна,
Сюды наша сястрыца вязёна.

972. — Сванечкі-рыбачкі, божа наш,
Ці не ўехала дзевачка наша тут да вас?
Альбо ж вы нам нашу дзеваньку вярніце,
Альбо яе русу косу пакажыце.
— Вот мы ўж вашай дзеваньκі не вернем,
Ей русай косы не пакажам,
Бы ета ўжо дзеванька не ваша,
Ета ўжо дзеванька наша.

973. І сваточак-галубочак,
І сваточак-галубочак, дай жа нам пасядзець.
І дай жа нам пасядзеці, дай жа нам пагукаць,
І дай жа нам пагукаці, прычыну расказаці.
У нашага Іванькі,
У нашага Іванькі татары начавалі,
Татары начавалі, сем'яніна ўкралі.
Мы за ёй услед,
Мы за ёй уследам, дзе мы яе аслядуем,

Дзе мы яе аслядуем, то там мы заначуем.
Аследавалі ў крыніцы,
Аследавалі ў крыніцы, заначуем у святліцы.

974. — Ой, барбароўскія свахі,
Вы ў нас начавалі,
Вы ў нас дзеўку ўкралі.
Яны карацца, яны рочацца:
— Мы ў вас не бывалі. 2
— Не карыцеся, не рачыцеся,
Вы нашу дзеўку ўкралі. 2
На ёй хустка шарсцяначка,
Сама яна мяшчаначка. 2
На ёй світа шоўкам шыта,
Сабалямі падбіта. 2
На ёй хустка падвядзёнка,
Сама яна маладзёнка.

975. А ці знаеце вы, чаму к вам?
Аддайце Томачку назад нам.
А ці знаеце вы, нашто нам?
На вясну-красну кросны ткаць,
А на цёпла лета жыта жаць.

976. Добры вечар, добрыя людзі, чужыя,
Вы не бойцеся, што вялікая дружына.
Мы наехалі не піць, не есці, не гуляці —
Мы прывязлі сваё дзіця гараваці.
Гаруй, гаруй, маладзенькая, не кайся,
Прыедзеш дамоў, сваёй мамачцы не жалься,
Што аддала горы-даліны раўнаваць,
Што аддала мяне, маладу, цэлы век гараваць.

977. Мы не ехалі горы-даліны раўнаваць —
Мы прыехалі за столікам пасядзець,
Мы прыехалі на швагерку паглядзець.
Калі будзеш, наша сястрыца, багата,
Будзе ведаць радня, дзе твая хата.
Калі будзеш, наша сястрыца, гараваць,
Будзе цябе наша радня абмінаць.

Гаруй, гаруй, наша сястрыца, не кайся,
Як прыдзеш да мамкі ў госці, не жалься.
Наша мамка старэнька не любіць,
Яна сваю галовачку затрудзіць.

978. Добры вечар, чужыя людзі, чужына,
Не дзівіцеся, што нас большая дружына.
Мы прыехалі не піць, не есці, не сядзеці —
Мы прыехалі вашай хатачкі паглядзеці.
Мы прыехалі не піць, не есці, не гуляці —
Мы прыехалі сваю сястрыцу праважаці.
Мы ехалі, каб вам хатачку згубіці,
Мы прыехалі сваю сястрыцу навучыці:
— Як свякроўка пойдзе ў поле жыта жаць,
Табе трэба, маладзенькай, паляжаць.
Прыйдзе дамоў, будзе работку рабіці,
Табе трэба, маладзенькай, змяніці.

979. Добры вечар, добры людзі, чужыя,*
Не абіжайцеся, што вялікая дружына.
Мы прыехалі не піць, не есці — пасядзець,
Мы прыехалі сваю сястрыцу паглядзець.
Мы прыехалі не піць, не есці, а пагуляць,
Мы прыехалі сваю сястрыцу прывучаць.
Мы ехалі лугам, каля каляінкі кругам,
Мы ехалі светам, сваёй сястрыцы следам.
Дзе ж мы яе слядуем,
Там жа мы і заначуем.
Слядуем мы ў садочку,
Заначуем у дамочку.
А слядуем у святліцы,
Заначуем у сястрыцы.

980. Да паедзем горы-даліны раўнаваць,
Да пакінем сваю сястрыцу гараваць.
— Гаруй, гаруй, наша сястрыца, не кайся,
Як прыедзем к нам у госцікі, не жалься.
Наша мамачка ўсю ночачку не спала,
Нас, маладзенькіх, за табой у пагон паслала,
Дома мамачка ручачкі ломіць, бядуець:
— А дзе маё мілае дзіця начуець?

Ці дзе ў дарозе на перавозе — бог знаець?
А калі ў сваццi на белай ложы, дай божа.

981. Не гневайцеся, нашы сваточкі, вы на нас,
Што мы селі за столік тут у вас.
Наша мамулька ўчора ўвечары
Усю ночку не спала:
Учора з вечара ў яе дачушкі не стала.
А мы яе па суседачках іскалі,
А мы яе па вяночку ўзналі.
А мы яе па галасочку слухалі,
Затое мы ў вашу хатачку папалі.

982. Не гневайся, свату,
Што пярэзву багата.
Мы ж дзеўку гадавалі,
Штоб усе ў вас прабывалі.
Сцягнуліся сені,
Як пераразвяння селі.

983. Не ўлякайся, матка,
Што вялікая грамадка.
Не ўлякайся, ніва,
Што вялікая дружына.

984. Вот пайду я па-за рэчаньку па лазе,
Развязаўся мой чаравічак на назе, 2
Загневаўся мой свякратка на мяне.
Завяжыся, мой чаравічак, на назе,
Адпусціся, мой свякратка, на мяне.

985. Ой, чарнюсенькі бобра,
Скажы, ці тут добра?
Калі добра, то прымайце,
А нядобра, адпраўляйце,
Нам ганьбы не давайце.
Мы сюды самі не паехалі,
Наша сюды да доля плыла.
Не расою расіла,
Да просьбаю прасіла.

986. Памерзлі-пачэзлі на вялікай дарозе,
На вялікай дарозе да на лютым марозе.
Ой, хто тут раздабрэе да й нас разагрэе,
Да й нас разагрэе, караваем пачастуе?
Ой, да раздабрэе хазяін багаты,
Да й павядзе нас да сваей хаты.
Да не самі мы прыйшлі, 2
Нас коні прывязлі
Дарогаю таптанкаю
За сваею каханкаю.
Дарогаю кастрыцаю
За сваею да сястрыцаю.
Дарогаю пацярухаю
За сваею ганарухаю.

987. Ехалі мы тры мілі,
Конікаў патамілі.
Ай, там жа мы сталі,
Дзе сваіх спазналі,
Далі нам піць-есці,
На лавачку сесці.

988. Ох, мы не піць прыйшлі,
Не гуляць —
Прыйшлі мы каліну ламаць.
Ох, наша каліна,
Ох, наша маліна
Без ветру буйна.
Ох, наша каліна,
Ох, наша маліна
Без канца красна.
Ох, мы не пець прыйшлі, не гуляць,
А дзіва глядзець.
Ох, наша Клаўдзенька,
Ох, наша душанька
Ад бацькі чэсна,
Ад родненькага.

989. Да мы не самі прыйшлі,
Да прыслала нас матухна на дачку адведаці,
Калі жыве, то пазавідаваці,

А гаруе, то пажалаваці.
А нас тут не знаюць,
Нас не прымаюць,
Тут намі ганьбуюць,
Тут жа нас жа не частуюць,
Тут жа нас не просяць,
Гарэлачкі нам не носяць.
Прыйшоў малады Іванька —
Аж нас тут пазналі,
Нас тут частавалі.

990. — Прыданыя ўдалыя,
Ад каго вы прысланыя?
— А прыслала нас маці
Паглядзеці дзіцяці,
Як яно прыбяронае,
Гдзе яно пасаджонае.
Прыбярона, як паняначка,
Пасаджона, як сіротачка.

991. Прыслала нас маці
Да дзіцяці пашукаці.
Не кужалю прасці,
Не пачынкаў віці,
Да гарэлачку піці.
Гарэлачку салодзеньку
За Танечку малодзеньку.
Знаці Танечку, знаці
Да ў каторай хаце.
На дварэ агні гараць,
На варотах стражы стаяць.

992. Прыехала маці ў перавед к дзіцяці
Да прывезла голку і маточак шоўку.
— Гэта ж табе, дзіцятка, шыць і вышываці,
Шыці-вышываці, ўзоры накладаці.
— Да не даюць, матка, шыці-вышываці,
Шыці-вышываці, ўзоры накладаці.
Толькі даюць, матка, таўчы-малоці
Да печы паліці, да свінне карміці.

993. Да прыехаў братка і сястрыцы ў госці,
Да прывёз жа голку і клубочак шоўку.
— Вышывай, сястрыца, да кашулю тонку,
Вышывай, сястрыца, як і вышывала,
Да гафтуй, сястрыца, як і гафтавала.
— Я не буду, братка, так вышываці,
Я не буду, братка, так гафтаваці:
Трэба рана ўстаці да валоў пагнаці,
Да, валы прыгнаўшы, абед гатаваці,
На сталы насіці, дзевяроў карміці.

994. Прыехала маці ў госці к дзіцяці,
Да прывезла йголку і маточак шоўку.
— Й вышывай, дзіцятка, як у мяне вышывала,
Да гуляй, маё дзіцятка, як у мяне гуляла.
— Да некалі, маці, тут вышываць:
Трэба рана ўстаць да дзела зрабіці.
Першае дзела — хлеб замясіць,
А другое дзела — да вады прынесці,
Трэцяе дзела — да хату замесць.

995. Ой, прыслала нас маці
Сталы, лаўкі заслаці.
Дала нам тры кітайкі
Заслаці тое месца,
Дзе пераванам сесці.
Шчэ й дала клубок шоўку,
Шчэ й тоненькую голку,
Штоб шыла-вышывала
І да нас прысылала.
— Мая мацёнка родна,
Не ў такую хату папала,
Штоб шыла-вышывала,
А ў такую хату папала,
Што таўчы ды малоці —
Толькі ўсёй работы.

996. Маладая дзевачка, выйдзі з хаты,
Прыехала твая маці.
Прывезла гасцінчыка —
Беленькага сырчыка.
Прывезла клубок шоўку,
Стальную іголку,

Каб шыла-вышывала
І гора не знала. 2
— Мая маценька родная,
Не ў таку хату папала,
Каб шыла і вышывала.
Не бралі вышываці,
А бралі гараваці.

997. Пасылала маценька пасланцоў. 2
Без цябе сонейка хмурненька,
Сяло не весяло, варонка крача,
Па табе матанька плача.
Дала шоўку клубок, голку.
— Табе вышываці, па мне не скучаці.
— Ох, маці-маценька, няма калі вышываці.
Трэба свінням мяшаці.
Цялята напаіла,
Ложкі памыла і слязамі абліла.
Я гэтага ў матачкі не рабіла.

998. Паслала маці падарак дзіцяці —
Залату іголку, шаўкову нітачку.
— Шый, маё дзіця, як даўна шыла.
— Ой, маці, маці, мне не вышываці.
Свякроўка кажа, у печы паліці,
Свёкарка кажа, вады йсці.
Дзевяратка кажа, коні весці,
Ятроўка кажа, хатку месці,
А залвіца кажа, косачку плесці.

999. Прыехала сястра да сястрыцы ў госці
Да прывезла голку і маточак шоўку.
— Тут табе, сястрыца, шыць і вышываці,
Тут табе, маладой, век каратаці,
У полі валы гнаці, пташкі абуджаці:
— Пташкі уставайце, да расу сапівайце,
Каб я, маладзенька, не абрасілася,
Каб на мяне чужа матка не сварылася.
Яна будзе бурчаці, а я буду маўчаці.
Яна будзе журыці, а я буду наравіці.
Яна будзе гаварыці гордымі славамі,
А я залыюся дробнымі слязамі.

1000. Да не самі ж мы прыйшлі,
Прыслала ж нас маці
Да дзіцяці адведаці.
Можа ж яно тут не ела,
Так жа ж яно змарнела?
Можа ж яно тут не спала,
Што ж з лічанька спала?
Да калі б яно ела,
То яно б не змарнела.
А калі б яно спала,
То бы з лічка не спала.

1001. Прыехала маці
Глядзеці дзіцяці,
Ды ці харашо спала,
Ды ці весела ўстала.
Спала яна харашусенька,
Устала яна весялюсенька.

1002. — А свацейка-галубіца, дзе была?
Ці ты да нас быстрай ракою прыплыла?
— Ды я да вас быстрай ракою не плыла,
Я за сваім родным дзіцяткам прыбыла.

1003. Знаця вы, прыданкі, няродныя сястрыцы,
Самі сядзіцё за столікам, мядок п'яцё,
А ваша сястрыца ў цёмнай цямніцы слёзкі ліець.

1004. Ой, паслала нас маці
Святліцы аглядаці,
Шчэ столы засцілаці.
Заслалі столы, лаўкі,
Шчэ асталі астанкі.

1005. Запалі, дружка, свечы —
Мы пойдзем да клеці. 2
Да клеці да новае,
Краваці цясовае.
Кухарыкаў адмыкаці
Да скацерці вынімаці,
Да столікі засцілаці.
Вы прымайце льняныя,
Мы засцелем шаўковыя.

1006. Не прыданкі едуць — мяшчанкі,
Не абрусы сцелюць — кітайкі.
Знімайце патрэпнічкі,
Сцяліце кужэльнічкі.
А гуляка наша сваціца, гуляка,
Заехала яна ў чужое сяло гуляці
Дый некага за ей, маладой, пасдаці.

*З боку маладой спяваюць:*

1007. — А здымайце пяньковікі,
Мы павесім шаўковікі.

*З боку маладога:*

— А нашыя пяньковікі
Лучша вашых шаўковікаў.

*З боку маладой:*

— А брашыце, свашкі, брашыце,
Аб пол языкі чашыце
Шчоткам і грабёнкам,
Наверх ладонькам.

1008. Прынімайце патрэпнае —
Пасцелем патрэбнае.
Ваша бердам біта,
Наша шоўкам шыта.
Ваша пяньковае,
Наша шаўковае.
Праз ваша вецер вее,
Праз наша сонца грэе.

1009. Прымайце мяховыя —
Засцелім шаўковыя.
Прымайце вы зрэбныя —
Засцелім сялетнія.

1010. А знімайце свае караўкі,
А павесім свае кітайкі.
А знімайце свае рагожы,
А павесім свае прыгожы.

1011. Негадзяй Вовачка, негадзяй,
Не ўбіў гвоздзічка, ні кручка.

Недзе павесіць ручнічка,
А набожнічка на бога.
Біце, дружачкі, кручкі,
Вешайце ручнічкі.

1012. Не гневайся, мая свякровачка, на мяне,
Што не белыя настольнічкі на стале.
Усю нядзелечку вольнага часу не мела:
Панядзелачак з мамулькай трубкі дзяліла,
А ў аўторак у новую скрынку злажыла,
А ў сераду падаркі адразала,
А ў чацвер на вяселлейка сазвала,
А ў пятніцу ў хатачцы абмывала,
У суботу баярачак збірала,
А ў нядзельку русую косу часала.

1013. Не гневайся, мая свякроўка, на мяне,
Што не белыя настольнічкі у мяне.
Мне, маладзе, некалі было бяліці,
А мне ж была нядзелечка каротка:
А ў нядзельку прусатыя запілі,
У панядзелак галовачку завілі,
У аўторак падарачкі краіла.
А ў сераду да споведзі хадзіла,
А ў чацвер жа паясочкі круціла,
А ў пятніцу татаву хатку абмывала,
А ў суботку трубкі з мамкай дзяліла,
А ў нядзельку к свякровачцы ад'язджала.

1014. Не гневайся, мая свякроўка, на мяне,
Што не белыя мае настольнікі ў мяне.
А мне ўсю нядзелю некалі было:
У панядзелак тонкія ручнікі снавала,
У аўторак тонкія ручнікі даткала,
У сераду у трубачку скаціла,
У чацвер па радзіначцы хадзіла,
У пятніцу у хатачцы памыла,
У суботу з мамачкай адзежку дзяліла.
— Табе, мамулька, сенькі, хата, каморка,
А мне, мамулька, скрыня, дзежка, кароўка.

1015. Сталы мае цісовыя,
Абручы мае кружовыя,
Не за рок я вас наткала,
А ў хвіліну разаслала.

1016. — Ад прыпечка да парога
Чаравічкі папарола.
— Трэба, маці, шаўца браці,
Чаравічкі зашываці.
— Ой, цяпер я вясёла,
Ой, цяпер я багата.
Ой, цяпер рада стала,
Што нявесткі даждала.

1017. Ужо нашае маладзіцы *
Надаела ў цямніцы.
Трэба пакрывала зняці
Да прасвет ёй даці.

1018. Хадзіла па двару да заглядала пад зару.
— Знаю, маценька, дождж будзе,
На маю коску мгла ўпадзе.
— Вазьмі, дзіцятка, хустачку,
Накрый сваю косачку.
Вазьмі, дзіцятка, другую,
Накрый сваю косаньку русую.

1019. А ў луг, зязюля, а ў луг, сівая,
Там знімуць з цябе ды цяцер'е пер'е,
Надзенуць на цябе савінае крылле.
За стол, дзяўчына, за стол, маладая,
Там знімуць з цябе рутвяны вяночак,
Адзенуць на цябе шаўковы чапочак.

1020. — Свякроўка мая матачка,
Пусці мяне ў каморачку
Вабраці дай галовачку.
— Нявехна, маё дзіцятка,
Ідзі сабе ў каморачку,
Да й убяры галовачку.

1021. З-пад каменя вада цячэ, вада цячэ,
А нам дружка агонь сячэ, агонь сячэ
Свечы зажыгаць, Параску завівэць.

1022. Дай, маці, стальца,
Да стальца — грабянца,
Да грабянца — кажуха,
Хай сядзе маладуха.

1023. Аддайце нам шчотку і грабёнку, 2
Расчэшам мы дзевачкі галоўку, дзевачкі галоўку.
Злепім з цеста паляніцу, паляніцу,
Здзелаем з дзеўкі маладзіцу, маладзіцу.

1024. Ох, дай, мамка, масла,—
Я ж твае да кароўкі пасла
Ад росы да росы,
Да памазаці косы.
Ой, як няма масла, дык сала:
Я ж твае кабаны гадавала.

1025. Дзе твая, дзеўка, маці?
Час-пара завіваці.
Ой, калі б яна ласкавая была
Ды завівайла дала.

1026. Гдзе ж пайшла, гдзе падзелася
Аксеньчына маці?
Да няхай ідзе, да няхай нясе
Спавівала дзіцяці.
Ужо ж бо мне каснік ташніць,
Ужо ж бо мне чапца хочацца
На маю галаваньку,
На любую размаваньку.

1027. Ой, каму ісці па павівала?
Каліна чырвоная.
А каму ісці па беленькае?

Ягада чырвоненькая.
Баценька пайшоў,
Каліны не сплёў
І павівал не ўзяў.
Матухна пайшла,
Каліну спляла
І павівала ўзяла.

1028. Каго пасласць па завівалы?
Старэйшага брата паслаць па завівалы.
Пайшоў брацец па завівалы,
Каменні не зняў, завівалы не ўзяў.
Меншага брата паслаць па завівалы.
Меншы брат каменні зняў,
Завівалы ўзяў.

1029. Дагадайся, Ганначка, куды твая матка пайшла;
Ці ў кублішча на днішча,
Па шоўкавае чапчышча
Да па белу наметачку
Ганначцы на галовачку?
У клець ішла, паваліласа
Да намётачкі забылася.

1030. Дагадайся, Ганулька,
Чаго маці пайшла ў клець.
Чы па гарэлку, чы па мед,
Чы па наметку, чы па чапец?
Ні па мед, ні па гарэлку,
Да па чапец і па наметку.

1031. Дагадайся, Галечка, 2
Ды чаго мамка ды ў клець пайшла.
Ды пайшла ў кублішча
Ды па новае чапчышча.
Ды кідай, кідай, Галечка,
Ды чапец у парог, у парог,
Ды хадзі з намі гуляці ды па двор.

1032. З-пад белага каменя,
З-пад сырога кораня
Выбегла мурашачка
Да вынесла завівала,
І тоненькія, і беленькія,
Са слёзак макрэнькія.
Шыта, біта, увітавана,
На галоўку прыгатавана.
Шыта, біта, абложана,
На галоўку ўзложана.

1033. Вылецела ды мурашачка
З цёмнага ды куточка,
Ды вынесла спавіваннечка,
Вечнае дзіваваннечка.
Ды завілі хахлушачку
Ванечку на ігрушачку.
— Ой, каб мы ўжо яе схвацілі,
Мы б яе развілі.

1034. З-пад гары, з-пад гаранькі
Кацілася тры зараньки.
Адна чапец нясе,
А другая — павіванне,
А трэцяя — кветку.
Пад белу наметачку.

1035. Беражыся, маладая дзевачка, беражысь, беражысь,
Бо ўжо твая пані-матка з векам ідзе, з векам ідзе
Да белае завіванне на веку нясе, на веку нясе.

1036. Пасцерагайся, Танечка,
Пасцерагайся, дзевачка,
Падстрыжанка ідзе,
Залатыя ножнічкі нясе.
За час, за часочак
Пацяраеш вяночак,
За час, за часіну
Пацяраеш чупрыну.
Да кідай кібалку пад лаўку,
Чэпчык-галубчык на галоўку.

1037. Асцерагайся, Манечка,
Падстрыганачка едзе,
Пад плашчом ножны вязе,
Пад шатром да наметачку
На тваю да галовачку.
Падстрыжэ тваю косуньку,
Разліе тваю слёзаньку.
Коска мая да русенькая,
Слёзка мая да дробненькая.
Коска ж мая да русенькая,
Я ў табе красавалася
Да штодзень да часалася,
Штосуботы і вянок віла,
Штонядзелі да ў танок ішла.

1038. Беражысь, Вольгачка,
З правага боку йдзе к табе купец,
Нясе табе чапец,
Шчотку і грабёнку
На тваю галоўку.

1039. Ой, уцякай, дзеванька, не сядзі тут, не сядзі тут,
Бо ўжо сватка нясе місу і хамут, місу і хамут.

1040. — Ой, дагадайся, Марысю, на што то, пра што каравай есць.
На караваю упавіваннечка,
Тваей косаньцы прыкрыванечка.
— Шчэ ся я ўчора дагадала, што маей косаньцы церен будзе,
А мне, маладзенькай, ад баценька.

1041. Пайду я, малада, на рыначак,
Куплю сабе чэпчык і намётачку,
Людзі скажуць, што знаходачка,
А мне, маладзе, адыходачка.

1042. Мне маці вялела *
Намётку паказаць,

А ці тонка, ці бела,
Ці сем метраў мера.
Ай, тонка і бела,
І сем метраў мера.

1043. Выплывала шэра вутачка з мора,
Вынасіла грабенчыка для ўбора.
Убіралася наша Волечка ў каморы,
Стала яна ўсіх дзевачак прасіць:
— О дзевачкі-падружачкі, ідзіце,
А вы гэту шэру вутачку ўлавіце,
А вы ў яе грабенячкі адбярыце,
Мне, маладзенькай, русу косачку чашыце,
У косу шоўку майго брацетку пашліце.
Як паслалі яе брацетку за шоўкам,
Як братачка ўсе крамы абышоў,
Нідзе ў коску шоўку не знайшоў.
Як паслалі яе мілага за шоўкам,
За сто рублей у коску шоўку ён знайшоў.
А чорны шоўк каля Волечкі залушчыць,
А золата на галовачцы заблішчыць.

1044. — Маладая Мар'ечка,
Паглядзі ў аконца: 2
Што ляціць каршун з саду,
Будзе драць коскі ззаду.
— Вы дзевачкі-сястрычкі,
Пабярыце розгачкі, 2
Бараніце косачкі.

1045. Прыляцела сарочка з Кіева
Да дзявоцку красу скінула.
— Прыляцела сарочка — залаты хвост,
Дзяржы, дзеванька, сваіх кос
Для таго меду п'янага,
Для сваго жаніха ўпрамага.
Ён тваю косаньку распляце,
Ён тваю слёзаньку разальє.

1046. Кавала зязюля на сасе,
Плакала дзеванька па касе.

— Ляцела сарока-задзярыхвост,
Малада дзеванька, сцеражы кос,
Бо то пташка такая,
Што за коскі хватае.
— Я тае сарокі не баюся,
Сваіх косанькаў усцерагуся.

1047. Скажы, скажы, Людачка,
Дзе тваё браты:
Ці на вайне, ці на чужыне?
Чаму яны не падайдуць
К цясовай скам'е,
Чаму яны не бароняць
Тваіх русых кос,
Чаму яны не шкадуюць
Тваіх дробных слёз?

1048. На дварэ дожджык росіць,
Ганнулька дзевачак просіць:
— Дзевачкі, мае сястрыцы,
Пайдзіце ў вішнёў садок,
Бярыце розачкі,
Бараніце косачкі.
— Розачкі да рукі збілі,
Косачкі не ўбаранілі.
Баранілі ад ветрыку,
Баранілі і ад дожджыку,
А цяпер не ўбаранілі
Ад гэтага чужанца,
Ад гэтага чужаземца.

1049. А дзевачкі-сястрыцы,
Пайдзіце вы ў брушніцы,
Наламіце розачак,
Сцішайце косачак.
Падстрыгальнічкі едуць,
Пад крысой свечы вязуць,
Падстрыгаць коскі будуць.

1050. Ехалі кавалі
З чужой стараны,

Ой, раскавалі косачкі
Маладой Любе.
У маёй дачушкі
Залатыя стужкі.
Яна іх купляла,
Тры рублі давала.
Яна іх насіла,
Увесь свет красіла.

1051. Ой, века клакоча,
Да чаго яно хоча?
Паўтара залатога
Ад Колі маладога.

1052. Кукавала кукушачка ў саду,
Кукавала шэрая ў зяляным.
Гаварыла кукушачка: — Божа мой.
Гаварыла шэрая: — Ой, божа моі,
Што мне ў етым садзіку не бываць,
Што мне ў зялёненькім не кукаваць.
Сядзела Аксінечка на дзяжы,
Прысланіўшы галовачку к свячы.
Гаварыла Аксінечка: — Ах, божа мой,
Што мне цяпер у дзевачках не бываць,
Што мне цяпер у красненькіх, ой, не гуляць.

1053. Малада дзеванька, 2
Не давай коскі рваці, 2
Плоха згадаваці, 2
Штосуботу ўмываці,
Штонядзелю зачасаці,
У коску заплятаці.

1054. Маладая Волечка,
Да шатайся-мятайся,
Завівацца да не давайся.
Штыр тую завівальніцу,
Хай яна не квапіцца
Да на русыя косы,
На дзявоцкія слёзы.

1055. Шамятайся, коска, шамятайся,
Чапца класці не давайся.
Да ты, сарочка, задзяры хвост,
Да ты, сванечка, не давай кос.

1056. Не дайся, Марынка, не дайся
Чэпчыка накладаці.
Чэпчык — пад печку,
Тканку — пад лаваньку,
Вяночак — на галаваньку,
Сама выйдзі на ўланьку,
Гукні на радочак:
— Сабірайся, радочку,
Усенек у купочку:
Старое і малое
Да маго каравая.

1057. Нашто мне чапец?
Я кіну на печ.
Нашто мне шапка?
Кіну пад лаўку.

1058. Кідай, кідай, да дзевачка,
Ох, чапец у парог,
Чапец у парог.
Хадзем з намі, дзевачка,
Ох, гуляці на двор.

1059. Не скідай вянца,
Не кладзі чапца,
Скінь чапец на градзіцы,
Бо зробяць маладзіцай.

1060. А хто ж у нас павівацися хоча?
Маладая Грыпінка павівальца хоча.
Маладая тонкага кужалю,
Белага паперу.
— Скінь тканку пад лаўку,
Чэпчыка меж калочкі,

Сама скоч меж дзявочкі,
Меж зялёны вяночкі.

1061. Увіваначка плача,
Увіваначка плача, а увіцціся хоча.
— А уві яе, божа,
А уві яе, божа,— дзеўкаю непрыгожа.
Дзеўкаю непрыгожа,
Дзеўкаю непрыгожа, маладзіцаю гожа.

1062. Да дзевачкі мае, сястрыцы,
Да завіце ў наметачку,
Буду шанавацъ, як кветачку.
Штосуботу вымывацъ буду,
Штонядзелькі завівацъ буду.

1063. Завіваначка плача,
Завівацца не хоча.
Ой, ці хоча, не хоча,
Завівацца патрэбна.
Маладая хмельна —
Сваю касаньку сцерла.
Ой, ці сцерла, ці змяла,
Ды пад чэпчык схавала.
Ой, дзявоцкая доля —
Пад чапцом няволя.
Маладыя леці
Завіліся ў плеці.
Ой, шаўковыя плеці
Мужу на павагу,
А вялікаму роду
На радасць, на славу.

1064. Павівальнае дзіця плача:
Упавівацціся хоча.
Ні яго ўпавіваюць,
Ні яго заручаюць,
Ано жалю задаваюць.

1065. А хто ў нас павівальца хоча,
Тонкага, белага?
Матронка павівальца хоча,
Матронка тонкага і белага.
Сястронка пад аконцам стаіць,
Сто локцяў палаценца дзяржыць.
— Сястронка, чы будзе гэтага?
— Сястронка, хоць трое таго.

1066. Да не гэтай свасі дзеўкі павіваць —
Трэба гэтай свасі да свінням мяшаць.
Цяпер жа ж мне хустка — пустка,
Да цяпер мне каснік — гнуснік,
Да цяпер мне тканка — каханка,
Да цяпер мне чапец — маладзец,
Да завіце і ў падвічкаю,
Назавіце маладзенькаю.

1067. Скіньце кітайкі,
Скіньце паганкі
Да кідайце пад лаўкі.
А шэпчык-чэпчык —
На галоўку.

1068. А казала ж да мая маці,
Гадаваці, не аддаваці.
А цяпера ж аддае, свет мне завязвае
То каснікам, то кітайкаю,
То тоненькім рубонкам.
Тонкім, белым да бяленькім,
З паперу раўненькім.

1069. Да цётухна — татарка,**
Да не сунься блізенька,
Не церай да мае косы,
Да дзявоцкае красы.
Хто косу сцярае,
Таго господзь пакарае.

1070. Пасадзілі Арынку на дзяжы,
Як ударылі ў адзін звон —
Скінулі Арынцы платок,
Як ударылі ў ва ўсе —
Рассыпаліся валасы.

1071. Ой, вайдзі, паглядзі, ці твая, ці не твая.
Будзем дзеўку спавіваці,
Будзем праўду пытаці...

1072. Скідала з сябе да цяцер'е пер'е,
Да клала на сябе залатое крылле.
Убіралася дзявочка, убіралася маладая,
Скідала сян руцян вяночак,
Клала на сябе белы рубочак.

1073. Мы ж цябе, дзевачка, завіваем,
Шчасцем-доляю надзяляем.
Ой, будзь багата, як зямля,
Будзь здарова, як вада,
Будзь прыгожа, як ружа.

1074. Заўзяліся свахі
Свае дзела зрабіці,
Княгіню ўпавіці.
— Прыйдзі, бацяньку, паглядзі,
Як тваё дзіця павілі.
Павілі, расквеТавалі,
Што ўсе людзі дзівавалі.

1075. Аглядзелася свашка,
Свае дзеліцы зрабіўшы,
Хахлушкі ўпавіўшы.
— Ой, хахлушка-хахлушачка,
Жанішкова душачка.

1076. Ой, ўпавілі-ўкветавалі,
Штоб людзі не пазналі.

Хахлушачка — жанішкова душачка.
Кіньце дзевачцы цыбулі ў вочы,
Штоб заплакала ад батанькі йдучы.

1077. Ой, цяпер жа я караліцаю:
Упавілі дзеўку маладзіцаю,
На дзевяць сыноў та й пісарыкаў,
А на дзесяту дочку швачачку.

1078. Гыля-гыля, шэры гусі,
Гыля-гыля на пясок.
Завязала галовачку,
Я ж думала на часок.
Гыля-гыля, шэры гусі,
Гыля-гыля ва ўвесь свет.
Завязала галовачку
Сама сабе на ўвесь век.
Гыля-гыля, шэры гусі,
Гыля-гыля на Дунай.
Завязала галовачку —
Цяпер сядзі да й думай.

1079. А беленька, румяненька дзяўчонка,
Не зжурына, не збіта,
Шаўковенькім платочкам галоўка абвіта.

1080. Ой, Іванька-купец,
Купіў Пёкле чапец,
Надзеў на галоўку,
Прыбраў, як лябёдку.

1081. Пад акошачкам сядзела малэда,
Пад грабёначку завіта каса.
Сэрца ноіць і палаіць у мяне,
Садзісь, міленькі, пабліжы да мяне.

1082. — Да чаго ты, дзеванька, закрываешся?
Чы ты свайго бацюхна да саромнеешся?

— Я сваго бацюхна не саромнеюся,
Да таго жаўнера да пабойваюся,
Што сядзіць край мяне да глядзіць на мяне.

1083. Хараша ветачка над клетачкай,
Лушчы таго Зеха пад завязачкай.
Свая воля Азара ў сваей ж маткі,
Ён не даў Зехе ў дзеўках гуляць,
Ён не даў косанькі патаўсціць.
— Ты гуляй, Зеха, за маей галавой,
Таўсці косаньку пад чэпчыкам,
Румяні лічайка пад завязачкай.

1084. Хараша нова клець пад крышкаю,
Луччы таго Дунечка пад намёткаю.
Захадзя, матушка паглядаіць:
— Быдта маё дзіцятка да палуччала,
Буйная галоўка пакруглела,
Белае лічанька пабялела.

1085. Чы харош новы дом пад кроўлею?
Чы хароша Матрунка пад намёткай?
Ай, харош новы дом пад кроўлей,
Ай, хароша Матрунка пад намёткаю.
На яё брацілкі заглядаюцца,
Што яё лічайка папрыгожала,
Што яё галоўка пакруглела.

1086. Маладосць мая, красатосць мая
Да пападлавіччу ходзіць,
А старасць мая, нярадасць мая
На галовачку злезла.

1087. Калі я была ў дзявоцкім стане,
Я ж гэтым чапчышчам верх затыкала,
Я ж гэтым намётам лаўкі сцірала.
А калі я стала ў жаноцкім стане,
Я гэты чапчышча на галоўка клала.

1088. Да божа ж мой, божа, да міленькі,
Як я была маладая
Да і ў паненскім стане,
Да я гэтым чапцом да лавы сцірала,
Цяпер трэба, маці,
На галоўку класці.

1089. Любіць дзевачка чапец,
А не кідае на печ,
Тканку-паганку пад лаўку.
Няхай чапец на печы,
А русая каса на плечы.

1090. Ой, піла, піла, чапец прапіла,
Прыйшла дадому мужа набіла.
Ідзе міленькі, плача-рыдае,
Каго ні стрэне — чапец пытае:
— Хто чапец найдзе, дам рубель грошай,
Дам мерку проса:
Ляжыць мілая праставалоса.

1091. — Лябёдачка, дзе твая намётачка?
— Дзе мылася — забылася,
Дзе мылася, ўціралася,
Дзе ўціралася, прарасталася.

1092. Ты, сястрыца мая родная, 2
Не чапай мае касы, 3
Не цярай мае красы.
Бо ты ж яе не звівала, 2
Ты ж яе не часала, 3
Толькі сцерла і зняла 2
Да пад чэпчык паклала.

1093. Не жаль жа мне на госпада бога,
Да жаль жа мне на сяструшаньку,
Што распляла маю косаньку,
Разліла маю слёзаньку.
Распляла, зам'яла,
Пад чэпчык падклала.

1094. Ні на кога так не жалка,
Як на свой род —
Не далі мне пагуляць
Хоць адзін год.
Ні на кога мне не жалка,
Як на матку —
Не давала мне гуляці
Яшчэ змалку.
Ні на кога мне не жалка,
Як на цётку —
Скубе-ірве маю коску,
Дайце шчотку мне.
Мая цётка — сцерва,
Маю коску сцерла-змяла
І пад чапец падклала.

1095. І да ўжо той да дзянёк прыйшоў,
З Манечкі да вянок сышоў.
— Ды пamaленьку знімайце,
Косачак да не цярайце.
Што за косачка ж была,
Што за русая была:
Як часалі — парвалі,
Завівалі — да падпалілі.
Завіла ж да мяне ж цётка,
Ды белая, як лябёдка.
Завіла ж мяне дзядзіна,
Ды рабая, як гадзіна.

1096. Да ўжо вечарок находзіць,
З галоўкі вяночак сыходзіць.
Памаленечку яго знімайце,
Толька мае косачкі не бгайця.
Ізнялі вяночак, ізнялі,
Сабгалі косачку, сабгалі
І пад чэпчык схавалі.

1097. Завівальніца — сцерва,**
Маю косачку сцерла.
Ой, і сцерла-сам'яла
-Да пад чэпчык падслала.

Завівала да мяне дзядзіна,
Чорная, як гадзіна,
А слёзкі не ўраніла,
Штоб яе рассадзіла.
Сястрыца прынялася —
Слёзкамі аблілася.

1098. Да бадай, сванька, марне прапала,
Як ты мае коскі сцерла і змяла,
Да і свечаю спаліла,
А тыя недагаркі ў чэпчык улажыла.

1099. Няўдаха сваха, няўдаха,
Не ўмее касы расплятаць:
Як расплятала — парвала,
Пад чэпчык клала — сам'яла.

1100. Да бадай, сватко, твая галоўка балела,
Няхай бы б наша малада дзевачка сядзела;
Да бадай, сватко, воўк авечачкі пахватаў,
Як ты нашы да ўсе дзяўчатка паўбіраў;
Да бадай, сватко, да галоўкаю налажыў,
Як ты нам жа да ўсю дарожку ўлажыў.

1101. У нядзелю мароз быў,*
У панядзелак іней паў
На Алеськаву каморку,
На Хрузіну галоўку.

1102. Да сівая зязюленька
Па вяршэчку скача,
Маладая дзяўчыначка
Па вяночку плача:
— Быў у мяне вяночак,
Сем сот кветачак,
Я ў бацюшка звіла,
Валы пасучы,
Я ў свякратка згубіла,
Па ваду йдучы.

1103. Ой, у бары, бары,
Красуня хадзіла
Ды вяночак звіла,
Дый палажыла.
— Прывыкай, вяночку,
К вішнёваму садочку,
А мне трэба прывыкаці
Ды к свякроўчынай хаце.

1104. Шлі дзеўкі вянкі віць,
А маладуха чапцы шыць.
Шлі дзеўкі давіваць,
А маладуха дашываць.
Ідуць дзеўкі з вяночкам,
А маладуха з чапечкам.
Ідуць дзеўкі хваляся,
А маладуха таяся.

1105. Стаяла Алёнушка пад вянцом *
Да часала касаньку грабянцом.
Падкінула грабянец пад вянец,
А русаю касаньку пад чапец.
Шаўковы чапец косы мнецъ,
А наша Алёнушка слёзы льецъ.
— Вот табе, Алёнушка, за тое,
Было не плесь касаньку ўтрое,
Было плесь касаньку ў чатыры рады,
Было жыць у бацюшкі чатыры гады.
— Жыла я ў бацюшкі ні год і ні два,
Жыла я ў бацюшкі дваццаць два,
Не адну ў касы лентачку знасіла,
Не аднаго я малойца ссушыла.

1106. Вот табе, мая Кацечка, за тое,
Ды злажылі табе хустачку ўдвое,
Ды заплялі табе косачкі ў тры рады,
Не любіць табе Мішачку тры гады.

1107. А ці ты, дзевачка, не знаеш,
Што па русай касе не плачаш?

Да русая каса — красата,
Белая намітка — сухата.
Русая каса красіла,
А белая намітка ссушыла.

1108. Кацілася калясо па расе,
Плакала Манечка па касе:
— Косачка ж мая русая,
Я ж цябе, косачка, кахала,
Штосуботачкі змывала,
Штонядзелечкі часала,
Галубую лентачку ўплятала.
Што не будзе косачка да на плечках ляжаць,
Што не будзе русая на плечках ляжаць.
Хоць будзе ляжаць, да не будзе маяці,
Хоць будзе пад чапцом,
Нечасаная грабянцом.

1109. Чула мая косачка,
Што быць пад чапцом.
Чула маё сэрданька,
Што быць пад вянцом.

1110. Каса ж мая, косачка, каса русая,
Не год і не два, косачка, цябе часала,
За адзін вечарочак касу ўцярала.
Прыехалі купчыкі касу таргаваць,
А я сваю косачку, касы не даваць.
Старгавалі косачку дый за сто рублей.
Была ў мяне косачка на тры прадзі,
Раздзялілі косачку на дзве прадзі,
Абкруцілі косачку вакруг галавы,
Надзелі на галовачку чэпчык з абручком,
Пасадзілі Дунечку з міленькім дружком.
Ой, сядзі ж ты, дзевачка, сядзі і пасядзі,
На свайго ды на хлопчыка-ды ты паглядзі.

1111. Ой вы, раннія куры,
Да запойце вы рана,
Да пабудзіце маладу дзевачку.

Хай яна рана ўстане,
Па вуліцы паходзіць,
Сабе дружак папросіць:
— Дзевачкі, да вы мае сястрыцы,
Да ўставайце вы рана, 2
Да чашыце свае косачкі,
Бо ўжо ж я да і ўчасала
Із беленькага цвету
Да да самага веку.

1112. Кукавала зязюля ў гаечку,
Прылажыўшы галоўку к лісточку,
А к ней птушачкі прыляталі,
У яе, зязюлькі, пыталі:
— Чаго ты, зязюля, кукуеш,
Чаго ты, шэрая, гаруеш?
— Звіла я гняздзечка ў ляску,
Знясла я яечкі ў кустку.
А хто ж мае гняздзечка разарваў,
А хто ж мае яечкі папабраў?
— Разарвалі гняздзечка пастушкі,
Пабралі яечкі канюшкі.
Ой, плакала Ганулька ў каморке,
Прылажыўшы галоўку к балонке:
— Купіў мне станочак татанька,
Сплялі мне вяночак дзеванькі.
А хто ж мой станочак паламаў,
А хто ж мой вяночак разарваў?
— Разламалі станочак брацюткі,
Разарваў вяночак Іванька.

1113. Ай, вумная-разумная Ганутка,
Не ведала я, што з вумнасцю зробіць.
Застаўляла шары-бары іграці,
Застаўляла чорны мачык араці.
— Нарадзі, божа, чорнага маку давеку,
Штоб не было майму татку папрэку,
Ай, папрэку да самага давеку.

1114. Святы панядзелку
Збавіў нам дзеўку.

А святы аўторку
Нарадзіў нам жонку.
Пасадзіў пад паліцу,
Нарадзіў маладзіцу.

1115. Добры чалавек панядзелак
Ухапіў Ганначку між дзевак.
А нядобры чалавек аўторак,
Пасадзіў Ганначку між жонак.

1116. Да хвала ж да табе, божа,
Што я сваё дзела зрабіла:
Да з цеста да перапёлачку,
А з дзеўкі малодачку.
З цеста да беленькую,
З дзеўкі маладзенькую.

*Жанчыны:*

1117. — Ой, што мы хацелі,
Тое мы звярцелі:
З цеста паляніцу,
З дзеўкі маладзіцу.

*Дзяўчаты:*

— Калі б мы схацелі,
То б мы развярцелі:
Чапец сарвалі
І яго парвалі.
Павялі б у садочак
Да звілі б вяночак,
Надзелі на галоўку,
Прыбралі, як лялётку.

1118. — Упавілі-увіктавалі,
Каб людзі не пазналі.
— А каб мы схацелі,
То б яе развярцелі,
Скінулі б бялёнага,
Налажылі б зялёнага.

1119. А хвала ж табе, божа,
Што нам удалося,— 2
Піва мёдам узнялося,
А гарэлачка — сыціцаю,
А Мар'янка — маладзіцаю.

1120. А так нарадзілі,
Як самі схацелі.
Схахалілі хахлушачку,
А Іванку, як душачку.
Пасадзілі пад паліцаю,
Нарадзілі маладзіцаю.

1121. Ой, зрабілі, зрабілі
Да з аўса таўчаніцу, 2
А з дзевачкі маладзіцу.
Дзевачкі на вулачку,
А яна ў завулачку.
Дзевачкі гуляць-гуляць,
А яна люляць-люляць.

1122. Выцесалі-выцесалі дубовую дошку,
Выманілі-выманілі свайго свата дочку.
Не круцілі, не манілі, а сама схацела,
Завязала яна хустку, паміж намі села.
Выкачалі-выкачалі з хлеба паляніцу,
Як схацелі, так зрабілі з дзеўкі маладзіцу.

1123. Маладзенькі Міколка,
Паглядзі пад завіва[ла]:
Ці твая, ці не твая,
Можа, зрада яка[я]?
Можа, зрада якая,
Можа, баба старая?
Мо, цябе абманілі,
Стару бабу пасадзілі?

1124. Хадзі, хадзі, Іванка,
Пазнавай сваю Параску.

Ой, ці тая, ці не тая?
Мо, падмена е якая,
Можа, бабанька старая?
Калі бабка, то адсунься,
Калі міла, то прысунься.

1125. Да выйдзі, паглядзі,
У каго твая рася ўдалася:
Ці ў цябе, ці ў мяне,
Ці ў бабульку старую.
Ні ў цябе, ні ў мяне,
Ні ў бабульку старую,
Да ў маладога Сямёна.

1126. Увайдзі, суджанка, паглядзі,
Ці не бабаньку спавілі?
Калі бабаньку, кінь пад печ,
Калі дзеваньку, вядзі ў клець.
Калі бабанька, падсунь нам,
Калі дзеваньку, пацалуй сам.

1127. Выйдзі, паглядзі, ці не бабульку завілі.
Калі бабулька, плюнь да пакінь,
Калі дзевачка, пацалуй.
Наш Марцінка пацалуйка;
Ён не ўмее ні касіць, ні араць,
Толькі дзеўку цалаваць.

1128. А павяжым малодку,
Як белу лябёдку.
А хто ж каго любіць,
Той таго пацалуіць.
Кузёмка Ганначку пацалуіць.

1129. А хто ў нас пацалуй маладэй?
Азар у нас пацалуй маладэй,
Свякрова ў нас дый пакрый маладэй.

1130. Скочыў суджанька з каравацi,
Забыўся дзеванькi цалавацi.
— Пастой, дзеванька, пацалую,
Залаты персцень падарую.

1131. Слава богу, абманiлi,
Старой бабай надзялiлi.
Паглядзiце за любоў,
Наша нявеста без зубоў.

1132. Падзякуй, Валечка, да свайму Марцiнку,
Што пасадзiў над градзiцаю
Да зрабiў маладзiцаю.

1133. Завiваўначка скача,
Завiваўнага хоча.
Хоча яна поўзалатога
Ад князя маладога.
— А вы, сваты, знайце
Да завiваўнага дайце.

1134. Каму за грош, каму за два пакланiлася,
А Яначку за сто рублей не схiлiлася.
Яначка золата харашэйшае,
А Ганнушкi галоўка даражэйшая.

1135. Перазвянка-матка, пазнай сваю дочку:
Учора была ў вяночку, а цяпер у серпаночку,
Учора была ў чырвонаму, а цяпер у зялёнаму.
— Да куды ты, дзеванька, хадзiла,
Што сваю галоўку збялiла?
— Хадзiла, матанька, у вiшнёў сад,
А на маю галоўку цвяток упаў
Да маю галоўку ўбраў.

1136. Прыступi, мамачка, на лавачку *
Да здымi намётачку,
Да падлегчы галовачку.

А ў мяне галовачка баліць,
Што на ёй намётачка ляжыць.

1137. У нашай Валечкі ўсю нядзелечку разрухі,
А не было ёй за работачкай аддухі:
У панядзелачак чырвону розу капала,
У аўторачак чырвону розу садзіла,
У сераду чырвону розу паліла,
У чацвярочак на вяселлейка пазвала,
А ў пятніцу чырвону розу шчыпала,
У суботачку ў вяночак звівала,
У нядзелечку на галовачку надзела.
У панядзелачак із галовачкі здзявала,
У ваўторачак чырвону розу пракляла.
А каб я цябе, чырвона роза, не знала,
Я ж ба яшчэ цяпер з дзеўкамі гуляла.

## ПАСЛЯ ЗАВІВАННЯ

1138. Хвала табе, божа, што ўдалося
І ў вяночак завілося.
Даў мне бог нявестку
Дужую, дасужую,
Вумную-разумную,
Гожу-прыгожу.

1139. Павядзём маладых танцаваці,
Будзем аглядаці,
Ці не крывы, ці не гарбаты,
Ці ўмеюць танцаваці.

1140. Добрага роду Васечка:
Не зневажыла нікога,
Ні свайго татанькі роднага.
Пасадзіла татаньку на куце,
Як золат персцень на руцэ.
Шаруйце пярсцёнак пясочкам,
Шануйце татачку мядочкам.
Нет таму пярсцёнку пакрату,
Нет майму татаньку знявагі

Да й ніякога сораму.
А ўжо мой сорам удаўся,
На белу кашулю ўказаўся,
З чырвонаю ружаю змяшаўся.
Чырвоная ружа — Васечка,
А зелен расток — Ванечка.
Зелен расток пад масток.

1141. Ай, наша Матрунка вялікага роду,
Не здзелала нам трывогу.
Як золат персцень на руцэ,
Так яе радзінка на куце.
Як золат персцень шаруюць,
Так і радзіну шануюць.
Як золат персцень палужаюць,
Так яё радзіну паважаюць.

1142. Ой, на гары два явары,
Адзін другога пашатоўвае.
А ў Сцяпана да два баценькі,
Адзін другога пачастоўвае:
— Ой, пі, сваце, да гарэлачку
За маю да за нявестачку.
Ой, у полі да дзве тапслі,
Адна другую пашатоўвае.
Ой, у Сцяпана да дзве мамачкі,
Адна другую пачастоўвае:
— Ой, пі, свашка, да гарэлачку
За маладую да нявестачку.

1143. Ой, добра было*
Салодку водку піць,
Каб добра было
Нашай Ніначцы жыць.
Калі якое жыццё добрае,
То будзець успамінаць,
Калі якое жыццё ліхое,
То будзець праклінаць.

1144. Да за нашу ягодку
Даюць нам выгодку.

Даюць піці-есці,
Даюць месца сесці,
Даюць месца гуляці.
На то яе ж мы расцілі,
Каб за яе пагасцілі.

1145. Піце, піце чырвоную гарэлку*
Да й за нашу харошую паненку,
Што не хадзіла па цёмных ночках у арэшкі
Дый не зрабіла сваёй радзінцы насмешкі.

1146. Шалвею пад вішанькаю,
Шалвею пад чорнаю.
Вішанька ад сонца красна,
Дзеванька ад бацька слаўна.
Слаўна была, як у бацька была,
Слаўнейша ў свёкарка будзе:
Бацькавай раскошы забудзе,
Свякровай бяды зажые.

1147. Як гоцнем, гоцнем мы на гарнец,
Калі наша Маланька добрага роду.
Так яна хадзіла, як маць радзіла,
Як была пад крастом,
Так стала пад вянцом.
Як была ў пялюшках,
Так стала ў жонушках.

1148. Да вяселле маё весяло,
Развесяліла ўсё сяло.
Да не так усё сяло,
Як свой род,
Роднага татачку напярод.
Першы дварочак, дзе расла,
Другі дварочак, куды зайшла.

1149. Да вялічка наша Дунечка,
Развялічала два двары:
Первы жа двор свёкаркін,

Другі жа двор бацюшкін.
Но не тым вяліка, што на галаве,
Яна тым вяліка, што на падале.

1150. Пакраса наша дзеванька,
Пакрасіла тры двары:
Первый жа двор — бацінькаў,
Другі жа двор — свякратк'н,
А трэці двор — дружыну,
Усю суджанага радзіну.

1151. Красачка наша Ларыска,*
Ў гародзе краскамі зацвіла.
Шукала мамулька, не найшла,
Су гародзіка так пайшла,
Белыя ручанькі ломючы,
Дробныя слёзанькі ронючы:
Не дзіця была — пакраса,
Яна красіла два двара.
Первы дварочак, дзе расла,
Другі дварочак, куды йшла.

1152. Харошае дзерава каліна,
Пакрасіла яна два луга.
Ой, першы луг украсіла — зацвіла,
А другі луг украсіла — сазрэла.
Харошая дзевачка Ганнэчка,
Пакрасіла яна два двары.
Ой, першы двор, дзе расла,
А другі двор, куды зайшла.

1153. Масціла лукошка, масціла,
А наша Настулька пасціла.
І спасціла яна два двары,
Адзін — матушкін, а другі — дзяцінаў.

1154. Ой, у полі да авёс расен,
А наш род да ва ўсім красен,
Штоб нашаму роду
Да не было пераводу.

1155. Ой, гуляй, гуляй, бела рыба, па мору,
Ой, гуляй, гуляй, мая радзіна, за мною,
Ой, не так за мною, як за русаю касою.
Да не валялася я ў свайго таткі пад плотам,
Да й вынасіла русую косу пад злотам.
Ох, насіла я, ох, лялела
Да й вынасіла свайму татку на дзіва.

1156. Каціўся пярсцён па расе,
Пацяшаўся брат на куце.
Не за сваёй сумаю,
За сястрыной касою.

1157. Гуляй, гуляй, радзіна, не бойся,
У чырвоныя чаботкі абуйся,
У залатыя падкоўкі падкуйся.
Штоб вашыя падкоўкі брасчалі,
Штоб нашыя ворагі маўчалі.

1158. Ой, наша Мар'юхна
Абрус раскаціла,
Увесь род звесяліла.
— Да гуляйце, братцы, гуляйце,
Маго сорама не знайце,
Шчэ ж я сорама не дайшла,
Краснаю дзеўкаю к вам прыйшла.

1159. Сядзіць дзевачка за сталом,
Пакаціўся персцень па стале.
Сядзіць братачка,
Уцяшаецца за сталом
Да за сваёю выхою,
Да за роднаю сястрою.

1160. Ой, у полі, у полі
Да дзве бярозкі зрасліся, 2
У нашай Зіначкі, у нашай маладой
Да дзве сястрыцы знайшліся. 2
Пілі-гулялі — не дбалі, 2

Зіначку замуж аддалі.
Ой, у полі, у полі
Да два дубочкі зрасліся, 2
У нашай Зіначкі, у нашай маладой
Да два браточкі знайшліся. 2
Пілі-гулялі — не дбалі, 2
Зіначку замуж аддалі. 2

1161. Райскае дзерава
Над раём стаяла,
Сільна зацвітала,
Нямнога ўрадзіла,
Дзвема макоўкамі.
Адна макованька —
Малады жаніхна,
Друга й макованька —
Красная дзеванька.
Аднае — раджонае,
Друге — суджонае.
Ой, уцятая верба
І з вялікага куста,
Шырокага ліста.
Ой, узяў дзеваньку
Вялікага роду
Да й багатага бацька.

1162. Шуміць, шуміць яварок,
Да не сам ён шуміць — лісце яго,
Да не сам ён звініць — галлё яго.
Пусціў голлейка да долу,
Шырока лісцейка — угору.
Славен, славен Міхайлачка,
Да не сам ён славен — бацька яго.
Ажаніў маладога на весь век
Да пусціў славушку на ўвесь свет.

1163. Ой, звонка, звонка сасёнка*
Паваліласе на ўвесь бор,
Пусціла галасы на ўсе лясы.
— А не я ж то звонка — стрыжань мой,
Паваліў мяне на ўвесь бор,

Пусціў галасы на ўсе лясы.
Ой, хвалён, хвалён Пецечка
Ажаніўся на ўвесь век,
Пусціў славу на ўвесь свет.
— А не я ж то хвалён — татка мой,
Ажаніў мяне на ўвесь век,
Пусціў славачку на ўвесь свет.

1164. Звонка дзерава да ўсё клён,
Прыйшло пад сені — мовіла:
— Слаўнае дзіцятка Матронка.
— Да не я то слаўна — бацька мой.
Гадаваў мяне з малых лет,
Аддаў да свёкра на ўвесь век,
Пусціў славаньку на ўвесь свет.

1165. Стаяла бяроза край бору,
Пусціла веццe да самага долу.
Няхай салавей гнёзды ўець,
Перапёлачка пераўець.
Разумен маладзец, разумен,
А не сам ён разумен, а татка яго:
Ажаніў яго на ўвесь век.
Салавеечка — Ігнатка,
Перапёлачка — Надзейка.
Яна гуляла і славу пускала,
За бацькавага сына замуж папала.

1166. На стаўбе сарока ў барабаны б'ець,
Цешчунька зяцюньку з перапоем жджэць.
— А й дзе ж і дзе, зяцюнька, прызабавіўся?
— Мамунька-цешчунька, пакуль спразіўся:
Я й цалаваў, я й мілаваў —
Спаць не кладзецца, спіхнула малойца з караватунькі,
Ударыла-пабіла [жыватунькі].
Мамунька-цешчунька, вытапі лазенку,
Ай, памыць, папарыць [жыватунькі],
Каб былі ў малайца рабятунькі.

1167. Цёшчухна зяцюхну з перапоем жджэць.
— Чаго ты, зяцёчак, прызабавіўся?

— Цешчухна-матухна, за тваёй дачкой:
Я й цалаваў, я й мілаваў — спаць не лажыцца,
Як пацалаваў, як памілаваў, дык не дабудзіцца.
З кошкай лёг, з кошкай лёг — кошка дзярэцца,
З дзеўкай лёг, з дзеўкай лёг — дзеўка смяецца.

1168. Зраблю чаўночка
З жалудочка,
Сяду, паплыву,
Як галубочка,
Да свае матанькі.
У мае матанькі
Піражкі ў масле,
А мне ў няволі
Хлеба не даволі.

1169. Ой, уцешыліся варогі,
Што прынясе зяць цёшчы пірогі.
У сыры-масле печаны,
Чырвонаю кітайкай звенчаны.

1170. Не ўцяшайцеся, ўрагі,
Вязець татухна пірагі.
Чырвоным сукном накрыты,
Зялёным шоўкам абшыты.

1171. Прасіў князь і княгіня
На пірог і пячэню.
Што то за пячэня,
Што князева вячэра.

1172. Адступіцеся, варогі,
Да з прыданскае дарогі,
А вязём мамачцы пірагі, пірагі.
А не сырам-маслам мазаны,
Чырвонай стужкай звязаны.

1173. Не бойся, Манечка, не бойся,* 2
У чырвоны чаравічкі абуйся,

Падтапчы варогі пад ногі.
Прыслала мацёнка пірагі,
На яйцах, на масле пячоны,
У белыя абрусы ўвярчоны.

1174. За нашу Машу
Дайце салодку кашу.
За нашу дзеўку
Дайце салодку гарэлку.

1175. Аддайце нам нашу
Да салодкую кашу.
Мы кашачку падзелім,
Дамоўкі паедзем.

1176. Калі каша з медам,
То аддадзім мядзведзям,
А калі з макам —
Аддадзім сабакам;
А калі з сытою,
Дык возьмем з сабою.

1177. Дзе наша Мелаша,
Шчо не мазана каша?
Гукайце Мелашу,
Штоб намазала кашу.
Місачку паказала
Да ў печ схавала.

1178. — Ой, свацечка наша,
Не засмачна каша.
— Адну кароўку мела
Да і та ялавела.
Камара зачавіла
Дый кашу засмачыла.

1179. Я кашу варыла,
Фартух папаліла.

Трэба зяцю заплаціці,
Фартух падтачыці.

1180. Не плач, мамка, па мне,
Я і з дабра ў дабро ўпала,
Як і пчолка, на ляду спала.
На ляду, на салодзенькім,
На віне, на вішнёвенькім.
Я і з сяла, як у мясцечка,
Я і дабра да ў дабручка.

1181. Мая маманька, мая родная, добра мне.
Я выверыла сваю свякроўку ў хмелі.
Ой, як нап'ецца, то да каморы спаці йдзе,
А як праспіцца, між сям'іцаю лад вядзе.

1182. Вумная-разумная Разалька
Апусцілася цёмнай хмарачкай над сялом,
Сама села ў свякрухі за сталом
Да будзе глядзець свякроўчыных наравоў.
— Мая мамачка, ходзя па хатцы, смяецца,
А свякруха, ходзя па хаце, надзьмецца,
Мая мамачка, ходзячы па хатцы, рагоча,
А свякроўка, ходзячы па хаце, мармоча.

1183. Цёмнай хмаркай пад наша сяло падышла,
Крыніцаю у падвор'ейка ўцякла.
Шэрай зязюляй у новыя сені ўляцела,
Белай лябёдкай за столікам села.
Села яна за столікам на рагу,
Выбіраючы свякроўчыны норавы.
— У маёй мамачкі смяшлівыя норавы:
Як раззлуецца, дык засмяецца да мяне.
А у свякроўкі гняўлівыя норавы:
Як зазлуецца, загневаецца, надзьмецца на мяне!

1184. Ой, умная-разумная дзевачка
Пакаціла персцень па скам'і,
Вывучаючы сваёй свякроўкі нараvы.

— Дзівенькія маёй свякроўкі наравы:
Паціху пайду, дык яна кажа, драмліва,
Рэзвенька пайду, дак яна кажа, шумліва.

1185. Ува гародзе да й маркоўка зялёна.
Я не буду рваць, буду хаваці ля бабра,
Буду хаваці ля бабра
Да выведаю сваю нявехначку, ці дабра.
Калі дабра, то й падушачка пухова,
Калі якава, то й нагаечка гатова.

1186. Чаго сядзіш, што думаеш, дзеванька,
Ды што нету роднай мамкі, як будзіць?
Толькі ж тая матулечка, што гудзіць,
Ды выйшаўшы на вулачку, абсудзіць:
— Ды вось мая нявестачка драмліва,
Яна ў мяне на работку ляніва...

1187. А ў лесе, а ў лесе
А лісіца брэша,
А ў нашай Ніначкі
Свякруха ліхая.
— Яна будзе пасылаць,
А я буду пабягаць.

1188. Ой, мамачка, што мне рабіць,
Што не ўмею свякрусе гадзіць?
Што не зраблю, яна пераробіць,
Што не скажу, то і перагаворыць.
Есці хачу, аж сярдэчка вяне,
Хлеба адрэжу, яна скоса гляне.

1189. Да мы зналі, што Марыська ўгодзіць:
Каля свякрухі з качаргой паходзіць,
А свёкарку пад прыпечак падгоніць.

1190. Ой, на гарэ цэркаўка стаяла,
Кала цэркаўкі сцежачка ляжала,

Тэй сцежачкай Полечка хадзіла,
Верна яна бога прасіла-маліла:
— Ой, дай, божа, добры час, гадзіну,
Каб я свайму свёкру ўгадзіла.
— Ой, угодзіш, Полечка, угодзіш,
Калі раненька па двару паходзіш,
А дзевяцера ключыкаў паносіш,
А дзесятую думу ўздумаеш,
А адзінаццатае дзелечка здзелаеш.

1191. А пятніца суботаньку радзіла,
Наша Ніначка свякрованьцы гадзіла —
Каля печы з палонічкам хадзіла.
А пятніца суботаньку радзіла,
Наша Ніначка свякратачку гадзіла —
Каля току з мяцёлачкай хадзіла.
А пятніца суботаньку радзіла,
Наша Ніначка дзевяратухнам гадзіла —
Каля конікаў з абротачкай хадзіла.
А пятніца суботаньку радзіла,
Наша Ніначка залованькам гадзіла —
Каля косачкаў з расчосачкай хадзіла.
Ці ж мяне талоць-малоць застаўце,
Толькі часта к мамцы ў госці пускайце.
А не на такую свякровачку напала,
А каб часта к мамачцы ў госці пускала.
А на такую свякровачку напала,
Каб кожны дзень цераз кіёк скакала.

1192. — Сучыся, пер'е, сучыся,
Вучыся, дзевачка, вучыся,
Як па новых сенях хадзіць,
Як сваёй свякроўцы гадзіць.
— Гаджу я, гаджу — не ўгаджу:
Сцялю пасцельку — не ляжа,
Пытаю работкі — не кажа,
Бяру хатку месці — не дае,
Падаю вадзіцы — не бярэ.
Яна ж мяне дзіцяткам не заве.
Божа мой мілы, цяжка мне,
Ніхто мяне дзіцяткам не заве.

1193. Пераходная зара
Перахожая была.
Перайшла ад месяца
Ды стала ля соўнейка.
— А соўнейка яснае,
Ці буду ўмець свяціць,
Як свяціла месяцу?
Пераходная дзевачка
Перахожая была.
Перайшла ад мамачкі,
А села ў свякровачкі.
— А свякровачка-мамачка,
Ці буду ўмець гадзіці,
Як гадзіла мамачцы?

1194. Абыходная зорачка
Абышла ўсё неба,
Каля месяца стала:
— Ой, месяц яснюсенькі,
Пасвецім мы з табою,
Ты гарою, я даліною,
Параўнуймася з табою.
Маладзенькая дзевачка
Абышла ўсю радзімачку,
Каля свякроўкі стала:
— Свякроўка, мая мамачка,
Ці буду я табе міла,
Як сваёй мамцы была?
— Нявехна, дзіця маё,
Каб ты срэбра нашыла,
Сваё дзела пазалаціла,—
Не будзеш гэдак міла,
Як сваёй мамцы была.

1195. — Ах ты, белая бяроза, ці баішся марозу?*
— Я й марозу не баюся,
Скора ў лісце абаўюся.
— Маладая Валечка,
Ці баішся свайго мужа?
— Я і мужа не баюся,
А й пад яго падкачуся.
Я й пад яго падкачуся
І крэпенька абнімуся.

1196. — Зялёная рута-мята,
Ці баішся ты марозу?
— Я марозу не баюся,
На вуліцы рассцялюся.
— Маладая ты Магдыська,
Ці баішся ты маладога Яначку?
— Я Яначку не баюся,
На кравацi спаць з ім кладуся,
Ранюсенька прабуджуся
І Яначку прыгаджуся.

1197. — Белая ты бяляначка,
Красная суравежачка,
Ці баішся ты марозу?
— Я марозу не баюся,
Ад марозу схаранюся,
Голлейкам абагараджуся,
Лісцейкам напрануся.
— Красная да ты дзевачка,
Ці баішся ты свёкра?
— А я свёкра не баюся,
Я яму пакаруся.

1198. — Ты, шаўковая травушка,
Ці баішся ты марозу?
— Я марозу не баюсь,
Окала зямлі рассцялюсь,
Кругом хмеля абаўюсь.
— Ты, малада Мар'юшка,
Ці баішся ты свёкарка?
— А я свёкарка не баюсь,
Падайду я блізенька,
Пакланюсь я нізенька.

*Тое ж паўтараецца да свекрыві. Нарэшце:*

— Ты, шаўковая травушка,
Ці баішся ты марозу?
— Я марозу не баюсь,
Окала зямлі рассцялюсь,
Вакруг хмеля абаўюсь.
— Ты, малодка Мар'юшка,
Ці баішся ты Цімоха?

— Я Цімоха не баюсь,
Падайду я блізенька,
За ручаньку вазьму,
Пакланюсь я нізенька.

1199. Ой, Надзя, Надзя,
Чаго ты журышся?
Сама маладая,
Свякрухі баішся.
Не бойся свякрухі,
Бо то твая маці,
Сама рана ўстане,
Табе скажа спаці.
Як добрая будзеш,
То й 'шчэ прыадзягне,
Як будзеш ліхая,
То кіем пацягне.

1200. Як у нас да цяперачка 2
Прыляцела да цяцерачка, цяцерачка.
Прыляцела да цяцерачка,
Села-ўпала за столікам, за столікам.
Села-ўпала за столікам
З малодзенькім да саколікам,

1201. Прасі, Валечка, бога
За Ванечку маладога,
Што выцягнуў з-пад печкі,
Пасадзіў за столікам, як свяча.
А як ўдома сядзела,
А як ўдома сядзела,
А як за сталом села,
Як зорка заблішчэла.

1202. Сцерагайся, сястрыца,
Села ля цябе ваўчыца.
Яна блізенька прыхінецць,
Да сцерагайся — праглынецць.

1203. Да ўчора зайка рэчку пераплыў,
А сягоння зайка да на палміску,
Да добрым людзям да снеданне будзе,
Маладому дзяцюку да шубачка будзе.
Да ўчора дзеванька ў маткі гуляла,
А сягоння маладзенька ў свёкра за сталом,
Да добрым людзям суседачка будзе,
Маладому дзяцюку да мілая будзе.

1204. Што за зязюля, за баравая —
Учора была ў зялёным лузе,
Сягоння рана ў сад прыляцела.
У сад прыляцела, на кусток села,
На кусток села, закукавала.
А што за Валечка, за маладзенька —
Учора была у свайго татулечкі,
Сягоння рана ужо ў Пецечкі.
Ужо ў Пецечкі за сталом села,
За сталом села, загаварыла:
— Што за сталочкі — усе цясовыя,
Што за сваточкі — усе вясёлыя.

1205. Манечка ад мамкі прыехала,
На вуліцу выхадзіць стала,
А ў сваю старонку паглядала.
— А й тут мае родныя недалёка,
А й к ім я хадзіць буду,
З сваёй мамачкай гаварыць буду.
Яна ж мяне навучаць будзіць,
Як жа мне свякроўцы ўладзіць,
Як жа мне дзевяратку ўгадзіць.
Я ж сваёй свякроўцы ўладжу —
Свякроўку абкрыю наміткаю.
Я ж і дзевяратку ўгаджу —
Дзевяратку куплю ліссю шапку.

1206. А ў раю, ў раю
Сонца зыходзіць,**
Молад Піліпка
Стол абыходзіць,
Маладу Югаську

За ручку водзіць.
— Слухай, Югаська,
Маго баценька.
Слухай, малада,
Маго роднага.
Я тваго слухаў,
Да цябе ехаў.
З'ездзіў коніка
Што найлепшага,
Стаптаў чаботы
Турэцкай работы,
Зламаў шапаньку,
Кланяючыся,
Ісцёр хустаньку,
Выціраючыся.

1207. Ой, Сцёпачка-брацейка,**
Што ў цябе за паненачка?
Яна на нас не дзівіцца,
Яна да нас не хіліцца.
Трэба на нас да дзівіціся,
Трэба да нас да хіліціся.
Думае, чужынанька,
Сцёпчына ўся радзінанька.
Думае, чужаніцы,
Сцёпчыны ўсё сястрыцы.

1208. За сцяною за крамяною
Шэпчуць, гавораць, паціхеньку мовяць,
Суджана дзевачку к сабе намаўляе ды навучае:
— Слухай, дзевачка, мае матачкі.
Я твае слухаў, як да цябе ехаў.
З'ездзіў коніка да няезджанага,
Стаптаў боцікі да няношаныя,
Зламаў, шапачку, у ручках носячы,
Цябе, маладой, у маткі просячы.
— [Суджанька мой], няпраўды твая,
З'ездзіў коніка да на паляванні,
А стаптаў боцікі да на пагулянні.
Зламаў шапачку, у ручках носячы,
Чужых (маладых) дзевачак да ў танец просячы.

1209. А хто ў каморы гамоніць?
Іванька Зосю навучаець:
— Паважай, Зосечка, мамку маю.
— Буду, буду, Ванечка, паважаць,
Роднай мамуленькай называць.
А мамулька мая родная,
Пажалей ты мяне, як дзіця,
Загадай на работку, як хаця.

1210. Не голуб гудзець на вадзе,
Не галубка — у гняздзе,
Жаніх нявесту навучаець:
— Шануй ты, нявеста, бацьку майго,
Як і я твайго шанаваў:
Здалёку прыехаў — шапку зняў,
Зблізку прыехаў — ручку даў,
Злезшы з коніка,— ў ножкі ўпаў,
Чырвоныя боцікі пацалаваў,
Саболлю шапачку сцёр да змяў.

1211. Ехаў малады цераз лог,
Наламаў калінкі, колькі змог,
Кінуў Валі ў прыпол.
— На табе, Валька, калінку,
Шануй жа маю радзінку.
А калі не будзеш шанаваць,
Будуць цябе зневажаць.
А калі будзеш шанаваць,
Будуць цябе паважаць.

1212. А на гарэ карчомачка стаяла,
А ў гэтай карчомцы младая Анечка гуляла.
Прапіў Іванька свайго коніка на мяду,
А ён, поячы, сваю Анечку маладу.
— Умела, умела мая Анечка мядок піць,
Ці будзеш умець з маёй матулькай добра жыць?
Умела, умела поўныя чарачкі наліваць,
Ці будзеш умець маю мамульку шанаваць?

1213. Сядзіць дзевачка пад кудзелькаю,
Сон яе размагае. 2

Сядзіць ля яе хлопчычак яе,
Ён яе разважае: 2
— Твая ручка бела, 2
А мая бялейшая,
Твая мамка родна, 2
А мая раднейшая.

1214. А звысоку, звысоку
Гусачка прыляцела.
Пытайцеся ў яе,
Ці была яна на моры,
Ці халодныя воды.
А з далёку, з далёку
Там Зіначка прыехала.
Папытайцеся ў яе,
Ці забыла яна мамачку.
— А мае ж вы дзеванькі,
Як ехала, забывала,
Як села, ўспамянула,
Цяжэнька ўздыхнула:
А божа ж, божа,
А дзе ж мая мамачка,
Наверна запілася,
На мяне забылася.

1215. А здалёку, здалёку
Гусачка прыляцела,
На вароцiках села.
Папытайце ў яе,
Ці пазяблі лапкі яе.
— Штоб я за гусь была,
Каб лапкі не пазяблі?
Як лячу, дык пазябнуць,
А як сяду, пагрэюцца.
А здалёку, здалёку
Зіначка прывязёна
І на куце пасаджона.
Папытайце яе,
Ці жалее мамка яе.
— Што ж бы я за дзіця было,
Каб мамка не жалела?
А як засну, забудуся,

Ачнуся, наплачуся,
Што з мамкай не бачуся.

1216. Дымна ў полі, дымна,
Калыбелькі не відна.
А ў тэй калыбельцы
Залова з нявестаю.
Нявеста плача,
Залова ўнімае:
— Не плач, нявестухна,
Не плач, маладая,
Як у майго ойчанькі пабудзеш,
То ўсяго пазабудзеш.
— Ой, нет, сёстранька,
Нет, маладая,
Як сонца зямлі не забудзе,
Так я свайго ойчанькі.
Я гуляю і думаю,
А плачачы, прыпяваю,
Што ойчанькі роднага не маю.

1217. Плавала чарачка ў салодкім мядку.
А хто гэту чарачку мёдам наліецъ?
А наліецъ чарачку молад Іванька.
А носіцъ-падносіцъ чарачку
Манечцы выпіцъ.
— А выпі, Манечка, поўну чарачку,
А забудзь, Манечка, сваю старану.
— А я мядок вып'ю, чару абярну,
А сваю старонку век не забуду.
А ў маёй старонцы лясы зеляны:
Белая бярозачка — матулька мая,
Яваравы тростачкі — браточкі мае,
Зялёны дубочак — татулька мой.

1218. Ступнула нявеста на парог,
Махнула платочкам напярод:
— Не гнісь, свякорка, не гніся,
Ды ўкінь чырванец ты ў карэц,
А белага рубля — нарукі,
Штоб нам не было разлукі.

1219. Свёкар нявестку склікаіць.
Па чым ён яе пазнаіць?
Ці па таткавым вяліцтву,
Ці па мамчыным абліччу?

1220. Свёкарка нявехну ўстрачаў,
Ён ёй пчолачкі даравaў.
Даравaў пчолачкі на ўзвішчы, 2
Яна яму кашульку на слішчы.

1221. Яснае сонейка
Да па небу йграе,
Свёкар нявехну
Да перапівае
І сто злотых дае.
Яна ему за тое
Да куколем ўтрое.
— Не дзіві, свекратка,
Не дзіві, бацюхна,
Да нашае падаркі:
Не сама я прала,
Не сама я ткала,—
Мяшчанкі пралі,
Падалянкі ткалі,
А белыя лябёдкі
На моры бялілі.
Тым жа ж маладая
Да свае сваты дарыла.

1222. Да не човен рэчку да параплывае,
Свёкар нявехну перапівае.
Да перапівае, сто злотых давае,
Яна яму кубачак стаўляе,
Кубачак стаўляе да падзывае:
— Не дзівуй, свякратка, не дзівуй, войчанька,
Не сама я прала, не сама я ткала —
Пралі мае сястрыцы, ткала мая матачка.
У ціхім Дунаю да вадзіцу брала,
На крутым беражку ручнікі слала.

21. Зак. 1480

1223. Вось свёкар нявехну да перапівае,
А на грошы — сто злотых дае.
А Таццянкі-каханкі падаркі —
Тонкія кітайкі.
А падаруначкі ткала
Да кітаёначкі прала.
Сяму-таму па падарачку
Ад Таццянкі-каханачкі.

1224. У Вільні, Вільні, багатым месце
Свёкар нявестку сабе запівае,
Свёкар нявестцы сто злотых дае.
Вона яму аддаруецца:
Пашые кашулі з белага лянку,
З чырвонага шоўку.

1225. Да човен рэчку да пераплывае,
Да свёкар нявехну да перапівае,
Да перапівае, да перабаўляе:
— Да не будзь хваслівa, да будзь шчаслівa,
Распусці долю да па сусім двору,
А красу сваю на сямейку маю.

1226. Свякроў нявестку перапівае,
Перапівае, паздраўляе:
— Будзь ты, нявестка, умна-разумна,
Умна-разумна і шчаслівая.
Ды папусці долю па майму полю,
А прыдоллечка — па застоллю,
А здароўечка — на маю сям'іцу.
Каб мая ніва жыта радзіла,
Каб мая сям'іна здарова хадзіла.

1227. Да пакінь, Ганначка, з дзеўкамі грацi,
Бо прыехала свякроўка да перапіваці,
Да перапіваці, да перазіраці:
Ці харошы ўборы ў нявесткі мае,
Ці нізкі ўклоны яе маладое?
— Да не будзь, нявестка, барздо хваслівa,
Да будзь, нявестка, барздо шчаслівa,

Распусці долю па маему полю,
А прыдоллечка да па застоллечку.
Каб па майму полю да стагі стаялі,
А па майму падвор'ю да валы буялі.

1228. Да па моры, моры, шчука-рыба йграе,
Да свякроў нявехну да перапівае.
— Да, нявехна ж мая,
Да дзіцятка маё,
Да не будзь хварліва, 2
Будзь ты шчаслівa, 2
Распусці шчасце да па маёй хаце,
Распусці долю да па майму двору.

1229. Асіна балота красіла,*
Андрэйку Ганнулька прасіла:
— Вязі мяне, Андрэечка, дзе ты браў
Каб мой вяночак тут не звяў:
— Не туж, не бядуй, Ганнулечка, не звянець,
Ёсць у мяне матулька — схаваець:
У новай клеці у куточку,
На залаценькім пруточку.

1230. Край бору дарожанька, край бору,
Плакала Машачка дадому.
— Адвядзі, Ванечка, дзе ты ўзяў,
Каб Манькі вяночак там не звяў.
— Не звяне, не звяне,
Бо ў яе ёсць матуля,
Якая за вяночкам паглядае,
Прынясе вадзіцы з крыніцы,
Пакрэпіць вяночак з руціцы.
Намакай, вяночак, у той вадзе,
Прывыкай, Манечка, к сваёй бядзе.

1231. Я, малада, іду з поля,
А селязень ляціць з бору.
— Бадай цябе, селязеню,
Як я цябе сумелася,
На паўдарожкі сунялася.

Забылася ў таткі негі,
А ў мамачкі каханнейка,
Дзявочага гуляннейка.
Я ў мамачкі кахалася,
Як вутачка купалася.

1232. А сваціца мая,
Дачушка не твая.
Хаця ў тваёй хаце —
А ў нашым загадзе.
Хоць за тваім столам —
Да за нашым словам.

1233. Чаго сядзіш, наша Танечка, хмурненька?
Ці за тое, што хата курненька?
Нямнога ў гэтай хатцы сядзела,
А ўжо твая галоўка скапцела.
Сярод хатачкі чатыры калкі ўбіты,
Гнілой саломай хатачка пакрыта.

1234. Ой, косю, косю, косю вараны,*
Вывезі, косю, з чужой стараны.
Дам табе, косю, сена, аброку,
Вывезі, косю, з чужога боку.
Накармлю, косю, травой-муравой,
Напаю, косю, крынічнай вадой.
Пастаўлю, косю, пад новым акном,
Накрыю, косю, чырвоным сукном.

1235. Зажурыўся бел малойчык, зажурыўся,
Што са мною, маладою, ажаніўся.
— Не журыся, бел малойчык, бог з табою,
Я пажыву, маладая, за табою,
Ды ў шаўковыя платочкі прыбяруся,
Ды з чужымі дзяўчатамі параўнюся.

1236. Маладая дзевушка
За Дунай замуж пайшла,
Багатага свёкра найшла.

Лекайі ў печы топюць,
Кухары есці варуць,
Вутачка на стол нясе,
Селязень гасцей заве.

1237. Нямножка ж у сваго свата сядзела,
Праз аконачка на падвор'е глядзела,
Каб ведала, гдзе дзіцятка падзела.
Будуць мяне сынкі пытаці,
Каб ведала, гдзе дарожку ўказаці,
Каб ведалі, гдзе сястронку шукаці.

1238. — Закоснічкі-панічы, панічы,
Чаго ездзіце па начы, па начы?
Ці за русаю касою, касою,
Ці за роднаю сястрою, сястрою?
— Не за русаю касіцу, касіцу,
А за родную сястрыцу, сястрыцу.
Ёсць каму паязджаці, паязджаці
І дзяўчаткаў выбіраці, выбіраці.
Сам высокі, як былінка, як былінка,
А харошы, як малінка, як малінка.
І ёсць каму паязджаці, паязджаці
І дзяўчаткаў выбіраці, выбіраці.
А закоснік свінаваты, свінаваты
І трохі гарбаваты, гарбаваты.

1239. — Вечарнічак невялічак,
Пацалуй сястры ў чаравічак.
— Як я маю цалаваць,
Не ўмела сястра шанаваць:
Белу кашульку не мыла,
Мякку пасцельку не слала.
А вечарнічак чарнаброў
Паціраў сястру между дроў.
Ён іскаў — не знайшоў,
Заплакаўшы, да пайшоў.

1240. — Вы, закоснікі ж-панічы,
Чаго ж вы сядзіце, як сычы,

Чаму ж вы гарэлкі не п'еце,
Чаму ж вы песенек не пяеце,
Чаго ж вы ездзіце па начэ?
— Мы не па начэ — парою
Да й за русаю касою.
— Да русая й каса ўся краса,
Белая намётка й сухотка,
На маю галоўку клапотка.

1241. — Надкоснічак-петушок,
Чаго рана прыляцеў,
Ці піць, ці есць захацеў?
— Ні піць, ні есць не хачу,
Са сястрою паскачу.
Дайце ж яму пшонны сноп,
Няхай клюець, як верабей,
Няхай пяець, як салавей.

1242. Вячэрнічкі-петушкі,
Чаго раненька прыляталі,
Ці вы есценькі захацелі?
Брат едзіць за сястрой,
А сусед едзіць за касой.
Усе вячэрнічкі харашы,
Толькі лучшэ нет.

*Называецца адзін з прысутных за сталом гасцей.*

У яго боцікі казловы,
Панчошачкі вязаны.
Бот аб бот шчалкаець,
Памалешаньку ступаець,
Штоб і боціка не скрывіць,
Штоб і ножанькі не звіхнуць.

1243. Чаго, сваты, прыляцелі?
Знаць, вы снедаць захацелі.
Заляцелі ў аммарынку,
Сашчыкнулі журавінку.
Свіння з таго надзівілась
І са смеху павалілась.

1244. Ой, выйду я да пад вішаньку, пастаю.
Адкуль будуць да ціхія ветры веяці,
Адкуль будуць да любыя госці ехаці?
Прыехалі дзве сястрыцы з Пазнаня,
Запыталіся ў мяне, маладой, снядання.
Я снедаці да гатовіці не ўмею,
У чужой матушкі запытаціся не смею.
Ёсць у мяне дзве ягадкі суніцы,
Пачастую дзве родныя сястрыцы.
Ой, выйду я пад вішаньку, пастаю.
Адкуль будуць да ціхія ветры веяці,
Адкуль будуць да мілыя госці ехаці?
Прыехалі два брацейкі з Пазнаня,
Запыталіся ў мяне, маладой, снядання.
Я снядання да гатовіці не ўмею,
У чужой матушкі запытаці не смею.
Ёсць у мяне два яблычкі вінныя,
Пачастую два браточкі родныя.

1245. Ой, вумная-разумная дзеванька
Паставіла старожачку ў браду,
Сама села пад вішанькай у саду.
— Адкуль-адсюль буйныя ветры павеюць,
Адкуль-адсюль мае братулькі прыедуць.
Павеялі буйныя ветры з-пад зары,
Прыехалі мае братулькі з-пад гары,
Папрасілі ў мяне, маладой, снедаці.
— Ой, паволі, мае братулькі, паволі,
А шчэ ж я, маладзюсенька, у няволі,
Ой, шчэ ж я снеданнейка не маю,
У чужых людзях чужыначкі не знаю.
Толькі маю два яблычкі ў кішэні,
І то блюду маім братулькам з пахмелля,
Штоб іх пахмеллейка не брала,
У чужых людзях спатулечкі не клала.

1246. Прыехалі вячэрнічкі зарання,
Папрасілі ў сваёй сястрыцы снядання.
— Ой, паволі, мае братулькі, паволі,
Я ж яшчэ ў сваёй свякроўкі ў няволі.
А я ж яшчэ первую ночку начую,
А я ж яшчэ ад свякроўкі слоўца не чую.

Пажыву нядзельку, пажыву другую —
І для вас, братулькі, сняданнейка згатую.

1247. А наехала сватоў-баяроў повен двор,
А папрасілі ў маладой дзяўчыны вячэры.
— Прыданачкі, мае цётачкі, не маю.
А калі ж я сваю свякровачку спазнаю,
Тады [redacted] вам вячэрачку згадаю.
А ёсць у мяне качан капусты на лясе,
А ёсць у мяне верабеечка ў страсе.
Качан капусты — добрая патрава,
А верабеечка — тлусная заправа.

1248. Вой, прыехалі, ой, два брацікі ў прыдання
Дай папрасілі ў сястрыцы снядання.
— Вой, пастойце, мае брацікі, пастойце,
Я і сама яшчэ тут нядаўна,
То і не знаю, дзе пастаўлена сняданне.
Вой, пастойце, мае брацікі, пастойце,
Вой, пайду я па падворачку пахаджу,
Вой, пайду свёкравага дабра пагляджу
Да й тады вас снедаць пасаджу.
Вой, выкачу бочку мядочку, а віна — дзве,
Пейце-гуляйце, мае брацікі, у мяне.

1249. Ой, прыехалі ды два брацікі з Пазнаня 2
Да й запыталі ў мяне, маладое, снядання.
— Ой вы, брацікі з Пазнаня, 2
Да не пытайце ў мяне, маладое, снядання,
Бо яшчэ й свякроўкі не знаю, 2
Да й сабе, малада, снядання пытаю.
Як я сваю свякроўку пазнаю,
Тады я для вас сняданне згадаю.

1250. А прыехалі вячэрнічкі зарання,
Папрасілі ў сваёй сястрыцы снядання.
— Ай, памалу, мае брахняткі, памалу,
Я ж яшчэ тут нічагусенькі не знаю.
А ідзіце, мае брахняткі, у зелен сад,
У зялёным садзе шэрыя куры сядзяць у рад,

Ай, вазьміце па курчонку вы сабе,
Ай, пастаўце новую кухню на дварэ,
Ай, найміце кухарачку вы сабе,
А згатоўце сняданнейка для сябе.

1251. А прыехалі вечарнічкі зарання,
Папрасілі ў сваей сястрыцы снядання.
— Ай, памалу, мае брахняткі, памалу,
А я ж яшчэ свякраваньку не знаю,
А я ж яшчэ правачкаў тут не маю.
Ай, забіце ж вы шэру вутачку на ляту,
А згатуйце сняданнейка для сябе.
А мне ж будзець кожнае ранне ўпяканне,
Што мае братцы, як палкавыя салдаты,
Прыехалі ж яны к нам з вайною,
Разбілі свякраваньку з раднёю.

1252. Прыйшоў брацік сястрыцу адведаць.
— Дай, сястрычка, паснедаць.
— Брацейка, няволя,
Замыкана камора.
Я яшчэ ў полі не была,
Жыта не жала
І камор не адкрывала.
Буду жыта жаці,
Тады буду волю маці
І каморы адкрываці,
І брацейка частаваці.
Нараблю піўца-вінца бочак дзве
І пазаву матухну к сабе.
Буду я тады частаваць,
Як начну гараваць.
Не рада вінцу-піўцу,
Толькі, мамка, рада
Твайму слаўцу.

1253. На дварэ дождж ідзець, перапрыгаваіць,
Брат у сястры перапытаваіць:
— Сястрыца родная, што не абедала?
— Брацітка родны, я не ведала.
Я тагда, брацітка, сені мяла,

Падмёўшы сені, за вадой пайшла.
Свякроўка — не мамка — не паклікала,
Залоўкі — не сястрыцы — не сказалі мне,
Дзевяры — не братцы — не пазвалі мяне,
Майго мілага дома нет.

1254. Віўся віхор
Кала новых харом. 2
Віўся віхор.
Спрасіўся брат
І за роднай сястрой. 2
Спрасіўся брат.
— Сястрыца родная,
Ты ці абедала?
Сястрыца абедала.
— Брацелка родненькі,
Я не ведала.
— Сястрыца родная,
Дзе ты была?
— Брацелка родненькі,
Новы сені мяла.
Свякроўка — не мамка,
Па сянёх шла,
Не прысловіла.
— Сваточкі родныя,
Так не дзелайце,
Без маёй сястрыцы
Вы не абедайце.

1255. Прыехаў братка да сястрыцы ў госці,
Да задаў ёй жалі й вялікай жалосці.
— Дзе ж ты, сястрыца, ноч начавала,
Што ніякіх вясцёў нам не прыслала?
— Начавала, братка, у новай камяніцы,
Пацярала весці ў залатой святліцы.

1256.— Разрастайся, явар, на чатыры карані,
Размышляйся, дзяўчына, на чатыры думы.
Мне і так харашо, на чатыры думы.
Першая дума, што чужая старана,
А другая дума — таткі з мамкай няма,

А трэцяя дума, што мой конь лянівы,
А чацвёртая дума, што мой друг нямілы.
— У чужой старане прывыкаць буду,
Мне і так харашо, прывыкаць буду.
Таткі з мамкай няма — забываць буду,
Мне і так харашо, забываць буду.
А лянівага каня я мяняць буду,
Мне і так харашо, я мяняць буду.
А нямілага дружка не змяняць,
Не прадаць, буду век каратаць.
Мне і так харашо, буду век каратаць.

1257. Да стаіць вярба разавёна,
Да сядзіць дзеўка размышлёна, 2
Ад атца й мамкі адвядзёна, 2
Да к ліхой свякроўцы прывядзёна.
— Да паедзьма, мілы, к мамцы ў госці.
Да едзем поле і другое, 2
На трэцяе ўз'язджаем,
Вараныя коні сунімаем.
Устаньма, мілы, паслухайма,
Да што ў лесе азавецца. 2
Да чы зязюлька закукуе,
Да чы салавейка зашчабеча?
А не зязюлька закукуе,
А не салавейка зашчабеча —
Да плача маці па дзіцяці:
— Дзіця ж маё маладое,
Жыццё тваё праклятае:
Як цябе насіла — галасіла,
Як цябе раджала — абмірала, 2
Смярценьку кашулю адзявала.
А цяпер да ты ад'язджаеш,
Мяне, старэньку, пакідаеш.
— Не пакіну, мамка, не пакіну,
Пакуль сама са свету не згіну.

1258. А ўпала, упала шэра зязюля ў дзядзеўе,
А як сталі па ёй усе пташачкі шчабятаць:
— А калі ж ты к нам, наша зязюлька, прыляціш,
А калі ж ты нам усю праўдачку расчычыш?
— Калі ж гэта дзядзеўейка пасохніць,

Калі ж гэту асочынку пакосяць,
А тады ж я к вам, мае пташачкі, прылячу,
А тады ж я вам усю праўдачку расчычу.
А ўпала, упала наша Анютка ў дзевяроў,
А стала па ёй уся радзінка бедаваць:
— А калі ж ты к нам на госцейкі прыедзеш,
Да калі ж ты нам усю праўдачку раскажаш?
— Калі я сваіх усіх дзевяроў пажаню,
Калі ўсіх заловак замуж пааддаю,
Тады ж я к вам на госцейкі прыеду,
Тады ж я вам усю праўдачку раскажу.

1259. Пала, пала цяцера,
А божа, божа, цяцера,*
У вялікае цяціўе.
Па ёй пташачкі тужылі,
Спусціўшы крылы, хадзілі.
Пала, пала Ганначка
У вялікія дзевяры.
Там, дзе многа залувіцаў.
Па ёй дзевачкі тужылі,
Расплёўшы коскі хадзілі.
— Ох вы, дзевачкі, дзевачкі, вы мае, 2
Да не тужыце вы па мне,
Тужыць самі па сабе.
Я дзевяроткаў пажаню,
Залувіцаў замуж пааддаю.
Дзевяры будуць — суседзі, 2
Залувіцы будуць — госціцы.

1260. А ўпала зязюля, ўпала,
А ў тую траву густую,
А ў тое дзядоўе колкае.
А на ёй пташачкі цвілілі.
— Цвіліце вы, пташачкі, не цвіліце,
Густую траву пакашу,
Колкае дзядоўе паламаю,
Я з вамі, пташачкі, пагуляю,
Я з вамі гняздзечак павіваю.
Папала малада, папала

* Рэфрэн «Божа, божа» паўтараецца з апошнім словам кожнага радка.

А ў тую сям'ю бальшую,
А ў тое дзевяр'е гордае,
А ў тых заловак пышных.
А па ёй дзеванькі плакалі.
— Не плачце, дзевачкі, вы па мне,
Гордых дзевяроў я пажаню,
Пышных заловак замуж пааддаю,
Я з вамі, дзевачкі, пагуляю,
Вяночкаў павіваю і песень папяваю.

1261. А ўпала, а ўпала вутачка, а ўпала *
А ў тую траву ў густую,
А ў тэй дзядоўнік й калючы,
А жалелі яе і пташачкі.
— Не жалейце мяне й, пташачкі,
Я ж гэту траву і патапчу,
Калючы дзядоўнік й паламаю,
Я з вамі, пташачкі, й палятаю.
А ўпала Томачка, а ўпала
А ў тую сям'ю ў бальшую,
А ў тых дзевярэй-лебядзей,
А ў тоя залоўе-бунтоўе,
А жалелі яе дзевачкі, жалелі.
— Не жалейце мяне, дзевачкі,
Я ж гэту сям'ю разганю,
Дзевярэй-лебядзей пажаню,
Заловак-бунтовак замуж аддам,
Лютую свякроўку заканаю,
Я з вамі, дзевачкі, й пагуляю.

1262. — Да ў цябе, дзеванька, добрая доля,
У цябе, маладое, дзевяраткаў многа —
Дзевяць дзевяраткаў, дзесятая залвіца:
Па ваду не пойдзеш, малаціці не будзеш.
— Няпраўда, дзевачкі, няпраўда, сястрыцы,
Да па ваду пайду, малаціці буду,
Да ў гуменца выйду — цапы і мяцёлкі,
А ў хатачку ўвайду — куркі і вядзёркі.

1263. Закукавала раба зязюля й у бару,
Ой, закукавала раба зязюля й у бару,

Ой, пала, й пала й мая сястрычка ў сям'ю.
У бары будзе раба зязюля кукаваць,
А ў бары будзе раба зязюля кукаваць,
А ў сям'і будзе мая сястрычка гараваць.
— Гаруй, гаруй, мая сястрычка, не кайся,
Ой, гаруй, гаруй, мая сястрычка, не кайся,
Прыйдзеш дамоў, роднай мамачцы не жалься.
Будзе ў цябе родна мамачка пытацца,
А будзе ў цябе родна мамачка пытацца,
Сумей, сумей, мая сястрычка, адказацца.

1264. А ў гародзе ялушачка, *
На ялушцы кукушачка,
Не кукуець — праўду кажаць:
— Добра жыці той нявесце,
У каторай дзевяраткі:
Дзеверы ідуць, іграючы,
Нявеста ідзець, гуляючы.
А ў горадзе ялушачка,
На ялушцы кукушачка,
Не кукуець — праўду кажаць:
— Худа жыці той нявесце,
У каторай заловачкі:
Залоўкі ідуць — песні пяюць,
Нявеста ідзець — горка плачаць.

1265. Да аддалі да Параню да ў чужую зямлю,
Ах, ах, ахці мне. *
Да ў вялікую сям'ю, да ў не ў злагодную:
Толькі свекар да свякруха, да чатыры дзевяр'я,
Да тры ятровачкі, да тры заловачкі.
Свекар кажа:— Мядзведзіцу вязуць.
Свякруха кажа:— Людаедзіцу вязуць.
Дзевяр'я гаворацъ:—Нам нядбаліцу вязуць.
А ятроўкі кажуць:— Нам няткаху вязуць.
А залоўкі кажуць:— Разнясі-дабро вязуць.
— Мядзведзіцы, мой бацюшка, ва цемных лясах,
Людаедзіцы, мая мамка, ва шчырых барах,
Дзевярочкі-галубочкі — вашы жоначкі такі,
Залвіцы-галубіцы — вам у людзі іцці.

* Прыпеў «Ах, ах, ахці мне» паўтараецца пасля кожнага радка.

1266. Мяне, маладу, вязуць,
Усёй пагібеллю бяруць.
Ха-ха-ха-ха-ха,
Усёй пагібеллю бяруць.
А свякроўка гаворыць:
— Змяю лютаю вязуць.
А свёкар гаворыць:
— К нам мядзведзіцу вязуць.
Дзевяры гавораць:
— К нам праллю вязуць.
А залоўкі гавораць:
— К нам ткаллю вязуць.
Ляжыць свёкар на палаці,
Як сабака на канаці.
А свякроўка на пячэ,
Слоўна сучка на цапе.
Дзевяры-сакалы,
Як чорныя сабалі.
А залоўкі-калатоўкі
Усё калоцяць і муцяць, 2
Хочаць з мілым разлучыць.
— Вы, залоўкі-калатоўкі,
Самі ў людзі пойдзеце, 2
Сабе гэта нойдзеце.
Муж на лавачцы сядзіць,
На мяне коса глядзіць.
Муж па горанке прайшоў,
Жане поўху аплёў.
Жана руку адвяла,
Па ўсёй хары задала.

1267. Не думала дзевачка, не гадала,
Што ў ліхую сямейку папала,—
Стаяць дзевяры, як ваўкі,
Стаяць ятроўкі, як змяі,
Стаяць залувіцы, як змяіцы,
Стаіць свякратка, не гаворыць,
Да ім маладая дзевачка не ўнаровіць.
Да стаіць свякроўка — цёмна ноч.
— Ідзі, мая нявехна, ад мяне ўпроч.

1268. Заехала наша Насцюхна
У вяліку радзінаньку.

Радзінка, як калінка,
А свякруха — гаваруха,
А залвіца, як зарніца,
А дзебяры, як месяцы,
А Іванька, як ясна соўнейка.

1269. Ды ў свякраткі на дварэ
Ды святліца новая ды з трыма аконцамі.
Ды на першым аконцы — гусачка крыклівая,
А на другім аконцы — два лебедзі белыя,
А на трэцім аконцы — два галубы сівыя.
Ды гусачка крыклівая — свякроўка журлівая,
Два лебедзі белыя — то нявесткі бедныя,
Два галубы сівыя — то дзевяры мілыя.

1270. Уляцела зязюлька ў вішневы садочак.
І сюды гляне, і туды гляне —
Некуды выленуці:
Па адзін бок — вішневы сад,
А па другі — вінаград.
Ужо ўехала дзеванька ў свекрава падвор'е.
І сюды гляне, і туды гляне —
Некуды выехаці:
Па адзін бок — піўніца,
Па другі бок — святліца.
— Я ў піўніцы нап'юся,
У святліцы прасплюся.

1271. — Якаво табе, мая калінка,
У лужочку стаяці?
— Секаво было б, такаво было б,
Каб не дробныя пташкі.
Як наляцелі, як нахлынулі,
Все ягодкі паелі.
— Якаво табе, мая сястрыца,
У чужой старонцы жыці?
— Секаво было б, такаво было б,
Каб мой муж не п'яніца,
Чабярусенька, не даўнюсенька
Ён з карчомкі прыйшоў,
На падушачку, на пуховую

Ён галоўку палажыў.
— Дай бадай жа ты дай з падушачкі
Дай галоўкі не падняў!
— Ах вы, сястрыцы, ах вы, родныя,
Не кляніце вы яго.
Да кляніце-праклінайце
Ваўграйчыка майго.
Да хто ўраіў, да хто ўсватаў
Мяне, млоду, за яго?

1272. Тры рэчачкі сцякаліся,
Тры сястрыцы збягаліся,
Адна ў аднэй пыталася:
— Якаво табе, сястрыца,
За малога ідучы?
— У клець ідзём — нясу яго,
З клеці іду — вяду яго.
Тры рэчачкі сцякаліся,
Тры сястрыцы збягаліся,
Адна ў аднэй пыталася:
— Якаво табе, сястрыца,
За старога ідучы?
— У клець іду — папіхаю,
З клеці іду — паштургаю.
Тры рэчачкі сцякаліся,
Тры сястрыцы збягаліся.
Адна ў аднэй пыталася:
— Якаво табе, сястрыца,
За малойца ідучы?
— У клець ідзём — цалуемся,
З клеці ідзём — мілуемся.

1273. — А, сваточкі-галубочкі, просім вас, *
Каб не было нашай Ганначцы дрэнна ў вас.
Каб не стала паветачка хаткаю,
Каб не стала суседачка маткаю.
Каб не стаяла цёмнай ночанькай пад акном,
Каб не ўцірала дробныя слёзкі рукавом.
Каб не было ў качарэжніку вячэры,
Каб не было на сметнішчы пасцелі.
— А калі ж будзе ваша Ганначка добрая ў нас,
Тады ж будзе вашай Ганначцы добра ў нас.

А будзе ж ёй святлічанька хаткаю,
А будзе ж ёй свякровачка маткаю,
А будзе ж ёй за столікам вячэра,
А будзе ж ёй на краватачцы пасцеля.

1274. — Да сваціцы-галубіцы, просім вас,
Каб не было нашай дзевачцы блага ў вас.
Каб не стаяла цёмнай ночкай пад акном,
Каб не ўкрывала белых ножак падалком,
Каб не ўцірала дробных слёзак рукаўцом.
Каб не была нізка паветка за хатку,
Каб не была блізка суседка за матку.
Паветачка — не цёплая хатачка,
Суседачка — няродная матачка.
У паветачцы пагрэешся — няцёпла,
Суседачцы пажалішся — нядобра.
— Перастаньце, мае сваціцы, тужыці,
Мы яе бярэм не за служаньку служыці.
Мы ж яе бярэм парадачак навадзіці,
Мы яе пусцім па сваіх сцежках хадзіці,
Будзем яе памалюсеньку правяраці,
Ці будзе яна нашай хатачцы спрыяці.

1275. А сваточкі-галубочкі, просім не тужыць.
Мы яе бяром не за наймітку, не служыць,
Мы яе бяром за хаяечку, добра жыць.
Яна ж у вас толькі свінням мяшала,
А ў нас будзіць хадзіць у клець па сала.
Прыйдуць каляды — мы яе эмаўляць не будзем,
Прыйдуць другія — мы яе адпраўляць не будзем.

1276. Сватка, мой братка, просім вас,
Каб не было нашаму дзіцяці ганьбы ў вас.
Каб не стаяла позна ўвечара пад акном, 2
Каб не ўцірала дробных слёзачак рукавом.
Каб не была паветачка хатачкай,
Каб не была суседачка мамачкай.
Паветачка, пойдзе дожджычак—намочыць,
Суседачка на вуліцу выйдзе—абгаворыць: 2
— Негадзяй нявехна, негадзяй: 2
Ці сесці прасці — драмаці, 2

Ці кросна ткаці-—плакаці,
Па ваду ісці:—Не хачу,
Як к мамцы ў госці:—Палячу.

1277. — А, сваціца-галубіца, просім вас,
Каб не было нашай сястрыцы дрэнна ў вас.
Каб не была пасцелечка пад вуглом,
Каб не была вячэрачка пад акном.
Каб не была паветачка за хатку,
Каб не была суседачка за мамку.
Пасцелечка не мягкая пад вуглом,
Вячэрачка не смачная пад акном.
Паветачка — не цёплая хатка,
Суседачка — няродная мамка.
— А, сваціца-галубіца, маўчыце,
Вы сваю сястрыцу навучыце,
Каб яна ў нас ранюсенька ўставала,
Сені-хату чысцюсенька вымятала.
Не сыпала смецейка на вуліцу,
А сыпала смецейка на шуметнічку
Ды каб ножачкамі прытаптала,
Ды каб слёзачкамі прыкапала.
Нашы куры дзярлівыя — раздзяруць,
Нашы суседкі сварлівыя — разнясуць.
— А, маўчона, наша сваціца, маўчона,
Наша малада не ў балоцейку рашчона.
Наша малада ў роднага таткі рашчона,
Яна ж у яго на ўсё харошае навучона.

1278. — Вы, сваточкі, вы, браточкі, просім вас,
Каб не было нашай моладзе гора ў вас,
Каб не была пасцелечка ў парозе.
Каб не была цёмна ночка ў дарозе.
Вы, сваточкі, вы, браточкі, просім вас,
Каб не было нашай моладзе гора ў вас.
— Хоць вы мяне таўчы-малоць застаўляйце,
Толькі часта ў госці пускайце.
А хоць часта ці не часта, штонядзелі,
Каб на мяне ўсе людзечкі глядзелі:
І бліжнія, і дальнія суседзі.
— Не к такой ты свякровачцы папала,
Каб яна цябе часта ў госці пускала.

А к такой ты свякровачцы папала,
Штодзянёк чэраз кіёк скакала.

1279. — Сваціоткі-галубачкі, просім вас,
Пераехала й наша сястрыца дый да вас,
Каб не была паветачка дый за хатку,
Каб не была суседачка дый за матку.
Каб не стаяла зімнюю ночку пад акном,
Не ўцірала б дробненькіх слёзкаў рукавом,
Не ўкрывала б белыя ножанькі падалком.
Сваціоткі-галубачкі, просім вас,
Пераехала й наша сястрыца дый да вас,
Хоць вы яе таўчы-малоць застаўце,
Толькі да нас часта ў госцейкі пускайце,
Хоць вы яе ў гаршчочку згатуйце,
Толькі да нас яе костачкі прышліце.
— Калі будзе свёкру, свякроўцы гадзіці,
Будзе да вас часта ў госцікі хадзіці.

1280. Ой, свацця сваццi пакарылася,
Каб маім дзіцем не глумілася.
Каб не стаяла позна з вечара пад акном,
Каб не ўцірала дробных слёзачак рукавом.
Ой, каб не была да паветачка за хатку,
Ой, каб не была да суседачка за матку.
— Ой, хоць вы яе да таўкці-малоць застаўце,
Хоць жа вы яе часта ў госцікі пускайце.
— Ой, яна ў нас ды таўкці-малоць не будзе,
Ой, яна да вас часта ў госцейкі не пойдзе.
Ой, пусцім, пусцім да на сёмуху адзін раз,
То мы ёй скажам, каб вярнулася зноў да нас.
Было не хадзіць да таго броду па воду,
Было не слухаць тых салавейкаў, што пяюць,
Было не браць тых абаранaчкаў, што даюць.
Абаранaчкі — усе падманачкі — падмануць,
Младу дзяўчыну ў чужыя людзі павязуць.

1281. — Ой вы, сваточкі, вы, галубочкі, просім вас,
Пераляцела наша ластаўка тут да вас.
Хоць вы яе крыўца-брыўца ўстрыжыце,
Хаця вы яе да пташачак да пусціце.

— Сваціца-галубіца, просім вас,
Пераехала наша Зіначка тут да вас.
Хоць вы яе па вадзіцу пашліце,
Хаця вы ёй дарожку-скажыце.
Хоць вы яе да прыпечку пастаўце,
Хаця ж вы яе па вуланцы не слаўце.
Хоць вы яе таўчы-малоць застаўце,
Хаця ж вы яе часта ў госцікі пушчайце.
— Яна ў нас таўчы-малоць не будзе,
Штонядзельку да вас у госцікі прыбудзе.

1282. Да сваціюхна-галубіца, прашу ця,
Застаецца мая душа тут у ця.
Хоць вы яе таўчы-малоць застаўце,
Хоць вы яе часта ў госці пушчайце.
Яна ж у нас усю работку ўмела,
Толькі ў госці прасіцца не смела.
Яна ж добра работніца міжы нас,
А цяперака нягодніца міжы вас.
Каб не стаяла цёмну ночку пад вакном,
Не ўвівала дробных ножачак падалцом,
Не ўціраўа дробных слёзак рукаўцом.
Не біце яе лазовымі дубцамі,
Учыце яе разумнымі слаўцамі.
Ад лазовых дубцоў яна дурнее,
Ад разумных славечкаў разумнее.
Каб не была паветачка за хатку,
Каб не была суседачка за матку.

1283. — Просім цябе, наш швагрочак, з павагі,
Каб не было нашай сястрыцы знявагі.
Ні ад старога, ні ад малога, ні ад кога,
Ні ад цябе, наш швагрочак, самога.
Яна старому, яна малому прабачыць,
А ад цябе, наш швагрочак, заплачыць.
Каб не стаяла цёмнай ночачкай пад хляўцом,
Каб не ўцірала дробныя слёзкі рукаўцом.
Каб не была паветачка за хатку
Да й каб не была суседачка за матку.

*Сваццi маладога адпяваюць:*

— Мы ж яе бяром не за наймітку, не служыць,

Будзець сама харошая — будзець жыць.
А каб яна ранюсенька ўставала,
І няхай яна сені-хатачку памяцець,
А няхай яна смецця на вулку не нясець,
Нашы курачкі трапятлівыя — раскошуць,
Нашы суседкі брахлівыя — разбрэшуць.

*Баяркі ў адказ:*

— А няхай вашых курачак каршук падзярэць,
А няхай вашых суседачак смерць пабярэць.

1284. — Просім мы вас, нашы сваточкі, не плакаць, *
Вы хацелі, каб яе да нас усватаць.
Паабівалі паслы ходзячы парогі,
Не давалі нашаму Ваньку дарогі.
Да шапчыце, нашы сваціцы, шапчыце,
Хаця ж вы яе на харошае навучыце.
Няхай яна сені-хату падмяце,
Няхай яна на вулку смецце не нясе,
Няхай яна на сметнічку пасыпець,
Няхай яна і ножачкай прытопча,
Няхай яна і слёзачкамі прымоча.
Нашы курачкі кашлівыя—раскошаць,
Нашы суседкі брахлівыя—разносяць.
— Няхай вашых каршун курэй падзярэць,
Няхай вашых суседак чорт пабярэць.
Няхай вашы ўсе курачкі падохнуць,
Няхай вашы суседачкі папохнуць.
— Мы на курачак дзесяць старажоў паставім,
На суседачак з Масквы дактароў даставім.
Няхай нашы шэрыя куркі пасуцца,
Няхай нашы суседачкі смяюцца.
— Да бяры, сваток, пруток,
Да гані сваццяў у куток,
Навяжы на раменне,
Няхай гавораць на каменне.

1285. Ой, шапчыце, сваціцы, шапчыце,
Да вы ж яе паціхусеньку наўчыце:
Няхай яна да позна не спіць,
А няхай ранюсенька ўстанець,
Бо яе свякроў не пабудзіць,

А выйшаўшы на вуліцу, абсудзіць:
— Ой, ляніва нявестка, ляніва,
Спіць да позна, санліва.
Спіць да сонейка, не дбаець,
У хаце работачкі не знаець.

1286. Сваціца-галубіца, скажыце,
А вы сваю родну дачушку наўчыце,
Каб не хадзіла ранюсенька па сялу,
Каб не судзіла аб хатачцы, аб сям'ю.
Да тады ж будзіць у хатачцы нялоўка,
Да будзець балець свякровачцы галоўка.

1287. — Мае сваточкі, мае паночкі,
Просім вас, пейце-ешце,
Вясёлы будзьце вы ў нас.
Ой, папрашу я ўсіх сваточкаў:
Шкадуеце вы нашу сястрыцу, начамі п'ючы,
Дай пашкадуйце нашу сястрычку жывучы,
Каб не прыйшлося ёй цёмнымі ночкамі хадзіці,
Каб не прыйшлося сваю мамачку будзіці.
Каб не была паветачка за хатку,
Каб не была суседачка за матку.
Каб не прыйшлося б ёй праз поле ўцякаці,
Каб не прыйшлося свайго татачку прасіці:
— Ой, мой татачка, мой родненькі, спіць і не чуе,
Хто пад акенцамі цёмную ночку начуе.
Адчыні, родны татачка, акенца,
Упусці мяне ў сваю хатку сагрэцца.
— Маё дзіцятка, маё родненькае, чом змарнела?
— А мой татачка, а мой родненькі, сёмы дзянёчак не ела.
У тую мінуту родна матуля самлела.

1288. Ой, сватачкі-галубачкі, просім вас:
Каб не была наша дачушка ў абідзе,
Каб не была ёй паветачка за хатку,
Каб не была ёй суседачка за матку.
Каб яна бяды-гора не знала,
Каб яна доўгіх летаў даждала,
Каб яна дзецям торбы не шыла,
Каб свякроў бы яе не сушыла.

Ой, сваточкі-галубочкі, просім вас,
Да адведайце хлеба-солі ў нас.

1289. Пакінь, пакінь, Леначка, тужыці, *
Мы цябе бяром не за наймітку служыці,
Бяром цябе за хатніцу, каб жыці.
А будзем мы на Леначку глядзеці,
Ці будзе яна ў нашай хатцы радзеці,
Будзем мы Леначку выглядаці,
Ці будзе яна нашу сямейку ўважаці.

1290. Ёлка на ёлку да пахілілася, *
Ой, сваха свахе да скланілася:
— На табе, сваха, да чатыры бочкі,
Толькі не глуміся да з мае дочкі.
— Ой, я тыя бочкі да мядочку налью,
Я ж твайму дзіцяці, што захачу, зраблю.

1291. Елка к елцы нахілілася,
Сваха свасе пакланілася,
Каб з дзіцяткі не глумілася:
Каб позна спаці не клала,
На заўтра й рана пабужала.
Каб спаці клала на змярканнейку,
Пабуджала на сняданнейку.
Каб не будзіла, як певень пяе,
Каб пабудзіла, як пастух жане.

1292. Сосна сосне нахілілася,
Сванька сваньцы пакланілася:
— Сванечка, мая зорачка,
Даю табе сваё дзіцятка,
Даю табе не шкадуючы,
Пасылай яе не сярдуючы.
Не будзі яе, як пяён пяе,
Да будзі яе, як пастух жане.
Пяён пяе да а паўночы,
А пастух жане да світаючы.

---

* Кожны радок, акрамя першага і апошняга, паўтараецца.

Пяён пяе да на сметніку,
Плача маё дзіця да ў бярэзніку.

1293. Зорка з неба скацілася,
Сваха свасе пакарылася
Да ў ногі пакланілася:
— Сваха, сваха, мая матачка,
Не глумісь з майго дзіцятачка:
Не будзі ты яго раненька,
Пабудзі ты яго позненька.
Не будзі ты, як певень пяе,
Пабудзі ты, як пастух жане.
Певень пяе да супаўночы,
Пастух жане, як сонейка ўзыходзіць.

1294. Свацюлька мая, да мамулька мая, *
Аддала дачку, як лябёдачку.
Прашу ж я цябе, не судзі ж яе.
Не будзі ты яе, як певень пяе,
А збудзі тады, як пастух трубя,
Як пастух трубя, йна ж гэта любя.

1295. Ой, сваха свасе ўкланілася:
— Штоб з майго дзіцяці не глумілася.
Маё дзіцятка ў раскошы было,
У раскошы было, а ў няволю прыйшло.
То не будзіце яе, як певень пяе,
Да будзіце яе, як пастух гоне.
Бо певень пяе да пасярод ночы,
А пастушок гоне паснедаючы.

1296. Свахна свасе ўкланілася:
— Штоб на маю Мараньку не сварылася,
Бо мая Маранька вельмі маленька,
Вельмі маленька да на сон радзенька.
Да не будзіце яе, як певень пяе,
Да будзіце яе, як таварац ідзе.
Як певень пяе, раненька будзе,
Як таварац, само добра будзе.

1297. — Ой, свашачка-матачка,
Навучай дзіцятачка,
Бо мая дачка да гультайнічка:
Як сцямнее, так гуляць ідзе,
Як пеўні пяюць, так дамоў ідзе.
— Ой, свашачка, мая матачка,
Блага ў нас не будзе:
Як сцямнее, то к жорнам ідзе,
Як заднее, то каня вядзе,
Як пад палудзень, не абедае,
Аб сваім роду да не ведае.
Абедае, азіраецца
Да і слёзкамі абліваецца.

1298. — Свахна мая, да галубачка,
Будзі маю дачку рана.
Свахна мая, да галубачка,
Яно ў мяне да палежнае:
Сонца ўзыйдзе — валы вядзе,
А на абеду — з сярпом ідзе.
— Свахна мая, да галубачка,
Па цямочку валы вядзе,
А паснедаўшы, з сярпом ідзе.

1299. Сваха мая, свахначка,
Прывучай маё дзіцятка,
Яно ў мяне раздурана:
Як прыдзе вечар, вычасаецца,
На вуліцу сабіраецца.
А ў вас не па-нашаму:
Певень пяе, то валы гоняць,
А снеданне каля абеду,
А рассвітае, то з сярпамі ідуць,
А снеданне каля абеду,
А абед каля палудню,
А вячэра каля поўначы.
Дай некалі паспаці,
Трэба рана ўставаці.

1300. А сванька сваньцы пакланілася:
— Жэб над нашым дзяцём не знудкавалася:
Ой, жэб рана не будзіла,

Ой, жэб па ваду не хадзіла.
— Мы красёл не рабілі,
Жэб у крэсле сядавілі.
Будзем рана будзіці
І па воду хадзіці.

1301. Ой, сваха свасе да пакарылася: 2
— Штоб з майго дзіцяці не глумілася.
— А я цябе, свахна, да й не пабаюся,
Як я захочу, то й не наглумлюся.
Устану раненька, не буду будзіці,
Пайду да суседа да буду судзіці,
Што ўжо кароўкі на лугу,
А нявехна яшчэ ў берлагу.

1302. Сваха свасе пакарылась,
Штоб з дачкі не глумілась.
— Дзе далёка, то сама пайдзі,
Дзе блізенька, то яе пашлі.
Па вадзіцу, то сама пайдзі,
А ў камору, то яе пашлі.

1303. Госцікі мае жадаваненькія, *
Узялі дачку гадаваненькую,
Умейце ж вы ёй загадаці,
Умейце ж вы яе пасылаці.
Па вадзічку пойдзе — не судзіце ж яе,
Спацічкі ляжа — не будзіце ж яе.

1304. — Свашанька, мая пташанька,
Даю дочку малалетнюю,
Не бей яе, не карай яе,
Харашэнька пасылай яе.
Па вадзіцу,— то сама пайдзі,
Па капусту,— то яе пашлі.
— Свашанька, свашанька,
Не на тое мы яе бралі,
Каб дзе блізка пасылаці.
Па вадзіцу яе пашлю,
Па капусту сама пайду.

1305. Сасна к сасне нахілілася,
Сваццця сваццці пакарылася:
— Каб нашым дзіцём не глумілася,
Каб не была паветачка за хатку,
Каб не была саседушка за матку.
— Будзе па кірмашыках учашчаць,
Будзе, будзе ды суседачка за матку,
Будзе, будзе і паветачка за хатку.

1306. Сваццейка мая, дарагая мая, *
Глядзі ж ты яе харашэнька:
Штоб яна ў цябе пабіта не была,
Штоб у яе суседка маткай не была,
Штоб у яе паветка хаткай не была.
А суседка-матка жалець не будзе,
А паветка-хатка халадная будзе.

1307. А сваціца-галубіца, будзь мамка,
Глядзі-шануй, як роднае дзіцятка.
Калі заспіць, ці задрэмлець — пабудзі,
Калі чаго не даўмеець, дык навучы,
А выйшаўшы на вуліцу, не судзі.

1308. — Сваццюлька мая, а мамулька мая, *
Аддала дачку, як лябёдачку,
Прашу я цябе, не судзіце яе:
Спацечкі ляжа — пабудзіце яе,
К суседзям пойдзе — пагукайце яе,
За вадой пойдзе — падажджыце яе,
Снедаць сядзеце — прыгласіце яе.
— Негадзяй нявехна, негадзяй,
Спацечкі лягла — не дабудзіцца,
За вадой пайшла — не даждацца,
К суседзям пайшла — не дазвацца.

1309. А сват свата просіць,
У руках шапку носіць:
— Бяры, князь, княгіню
Ды ўмей шанаваць,
Умей зберагаць:

2

Не давай дзяжу мясіць,
Не давай ваду насіць.
Дзяжу меся, абарвецца,
Ваду нося, аблiецца.

1310. Наляцела да два лебедзі
На балота да жыравацi,
Не так яны да жыравацi,
Як лябёдкі пераведацi.
Прыехалі да два брацейкі
Пад сяло да палявацi,
Не так яны палявацi,
Сястрыцы пераведацi,
Свахначкі папрасіцi:
— Свахначка, мая матачка,
Глядзі нашае сястрыцы:
Калі заспіць — пабудзі яе,
Чаго не ўмее — навучы яе.
— Не на тое мы яе бралі,
Каб мы яе да пабуджалі.

1311. Дзявочке нашы, сястрыцы нашы, просім вас,
Прызастаецца наша дзеванька тут у нас.
Да калі заспіць, да пабудзеце, просім вас,
Чаго не даўмее, то навучыце, просім вас.
Хоць вы, дзевачкі, на гуляннейка ідзеце,
Хаця нашу маладую дзеваньку завеце.
Яна, малада, з вамі гуляцi не будзе,
Яе сэрданьку хаця не такі жаль будзе.

1312. Просім цябе, наш шваграчак, на водку,
Не абіжай нашу сястрыцу-ягодку.
Просім цябе, наш шваграчак, на вішні,
Развадзі нашай сястрыцы ўсе мыслі.

1313. Да брацейкі да дамоў едуць, 2
Сястру сваю тут кідаюць,
Швагрухну ды прыказваюць:
— Швагрухна, мой бацюхна,

Глядзі тут нашае сястрыцы,
Бо яна дзела да не рабіла,
У раскошы гадавалася,
То за дзела не бралася.

1314. Прыданачкі да дамоў едуць,
А Галечку тут кідаюць.
— Ці кідаці, ці не кідаці,
Ці з сабою браці,
Ці Ванечку да прыказаці:
— Не бій жа яе, не лай,
Харашэнька загадай.
Да не бій жа да яе дубцом,
Пакарай да яе слаўцом.
Бі ж яе да бярозаю,
Не п'яную, да цвярозую.
Бі ж яе сукаватаю,
Каб была да багатаю.
Бі ж яе да былінкаю,
Каб была гаспадынькаю.

1315. Сваціюткі-лябёдкі,
Берагіце Мар'ютку.
Не бейце дубцамі,
Навучыце слаўцамі,
Не бейце гужам,
Гразіце мужам.
Хоць гасцінцаў не давайце,
Часта ў госці пускайце.
Мы сваю чаду сярод поля ўзнаем,
Без гасцінцаў прымем.

1316. Прыданачкі ад'язджаюць,
Маладога Сцяпана навучаюць:
— Не карай яе ў хаце,
Пакарай яе ў краваці.
Не бі яе перад сям'ёю,
Да бій яе сам сабою.
Навучы ж яе есці варыць,
І навучы карову даіць,
І навучы табе наравіць.

Каб табе есці насіла,
У бога здароўя прасіла.

1317. Ой, бярэш, бярэш, малады Ясенька,
Умей жа шанаваці.
Яна ў нас была, як ягада,
У цябе будзе, як калода;
Яна ў нас была, як сыр белы,
У цябе будзе, як пень гарэлы;
Яна ў нас была, як ластаўка,
А ў цябе будзе, як засланка;
Яна ў нас была, як бела павечка,
А ў цябе будзе, як галавешка.

1318. У стаенцы сівы конь рагоча,
Маці з дачкою расставаціся не хоча.
У стаенцы сівы конік тупу-туп,
Заставайся, мая дочанька, адна тут.
Ужо мы, прыданы, паедземо,
Адну цябе тут пакінемо.
А ты, Васільку, глядзі, глядзі,
Ты ёй чаравікі купі, купі,
Каб яна боса не хадзіла,
Каб гаршком ваду не насіла,
Каб саломаю печы не паліла.
Збудуй хатыну з лебяды,
А да чужой не вядзі.

1319. На воз садзіць, пад бародку гладзіць,
На двор прывёз, бізуном патрос.
— Не бі мяне, мілы, як ты п'яны,
Бо як працверазішся, будзе табе жаль.
Да я буду на белай магіле ляжаць,
А ты будзеш да белыя ручкі ламаць.

1320. Наша яблынька садовая,
Адсадзім цябе глыбока,
У тыя горы, у пячуры,
У тую зямлю-чарназём.
Наша Ганначка маладая,

Аддадзём цябе далёка,
А ў тую дзярэўню чужую,
А ў тыя мужыкі-дуракі,
Дзе мяняюць конікаў без цаны,
Б'юць сваіх жоначак без віны.
А ты, Іванка, не будзь такі,
Паменяй коніка за цаной,
Памуштруй сваю Ганначку з віной.
Не муштруй яе дубцамі,
Навучы яе слаўцамі,
Не муштруй яе вяроўкай,
Не дурні яе галоўкі.
Не муштруй ў дзень,
Не страмі людзей,
Намуштруй яе ў начы,
Каб было куды ўцячы.

1321. Бяры, блазну, бяры,
Калі ўмееш браці,
То ўмей і шанаваці.
Калі стануць сварыцца,
Знай, як заступіцца.
Не бі яе пужкай,
Заві яе душкай.
Не бі яе дубцом,
Навучы яе слаўцом.
Ад дубца — дурнее,
Ад слаўца — разумнее.

1322. — Ой ты, сыру наш белы,
Ох ты, зяцю наш мілы,
Да й узяў ты нашу дочку,
Да й умей замышляці.
Не бій яе на вулачцы,
Карай яе ў каморачцы.
Не бій яе дубцом,
Карай яе слаўцом.
— А я біціму нагайкаю,
Штоб была ў мяне хазяйкаю.

1323. Бяры, зяцю, дочку, да ўмей шанаваці,
Не давай збыткаваці

Ні старому, да ні малому,
Да ні самому маладому.
Да пляці ёй пасталы,
Каб боса да не хадзіла
Да людзей не смяшыла.
Не карай да ў хаце,
Каб чулі бацька і маці,
Пакарай у каморы,
Да на ціхі размові.
Не бі ты яе дубцом,
Пакарай яе слаўцом.
Дубцом — то баліціме,
Слаўцом — разуміціме.

1324. Маладзенькі Ванечка,
Бяры жонку харошую, 2
Умей яе шанаваці, 2
Не смей яе пасылаці.
Дзе позна, то сам пайдзі,
На кірмаш жонку вазьмі,
Дзе мокранька, сястру пашлі.

1325. Наш маладзенькі, гойны пан,
Не бі нашу сястрыцу, як будзеш п'ян.
Як праспішся, працверазішся, будзе жаль.
Калі будзеш нашу сястрыцу шанаваць,
Мы будзем цябе часта ў госцікі зазываць
І будзем цябе сваім шваграчкам называць.

1326. Маладзенькі Толічак,
Умееш яе браці,
То ўмей шанаваці.
Як будзеш шанаваці,
Будзем у госці зваці,
Як будзеш абіжаці,
Будзем хатку абмінаці.

1327. — Жэ ж ты, Ясеньку, бярэш яе,
Жэ ж ты, Ясеньку, глядзі яе:
Каб яна боса не хадзіла,

Каб яна цяжка не рабіла, 2
Каб яна вады не насіла, 2
Каб яна хлеба не мясіла.
— Ой, у нас не па-вашаму:
Край вокен рэчка цячэ, 2
Сама печ хлябы пячэ, 2
Сам таўкач куццю таўчэ, 2
Сам дзяркач хату мяце.

1328. Просім цябе, Іванка, як бога,
А не бі Ніначку памнога.
Не бі ж ты яе кулаком,
Навучай ты яе языком.
А не бі ж ты яе вяроўкай,
Навучай ты яе гаворкай.

1329. Берыць Аліfive Люкадку ў добрай славе,
Пуховы падушкі бразь за дзверы.
Каб жыла, не прасіла ў суседа абеда,
Каб не стаяла цёмную ночку пад вакном,
Каб не ўбівала скоры ножкі па хатам,
Каб не ўцірала гарачыя слёзы рукавом.

1330. Ой, хмарна, хмарна на дварэ,
Стаіць лядочак у дварэ.
— Не запівайся, Мішачка,
Не забывайся Ніначкі.
— Як жа мне пра Ніначку забывацца:
Ходзе па хаце — мне на ўме,
Кладзецца спаткі — ўсё пры мне.
Ходзе па хаце — на воку,
А ляжа спаці — пры боку.

1331. Жалілася Томачка прыданкам, *
Біў яе Колечка ні за што.
Не ўмела малада пасцель слаць,
З правае ручачкі абнімаць,
Сладкія губачкі цалаваць.
А на помач яе братцы яе.
— Ты не журыся, Колечка,

А не бей ты яе дубцамі,
Навучай ты яе слаўцамі.
А дубцы будуць балеці,
Ад слаўцоў будзе разумнеці.
А не бей ты яе аборкай,
Навучай ты яе гаворкай.
Аборка будзе балеці,
А з гаворкі будзе разумнеці.

1332. — А ўелі дзіця, ўелі.
Куды нашы вочкі глядзелі?
А ў тое дзевяр'ё-звяр'ё,
А ў тыя залоўкі-калатоўкі,
А ў тыя цыгане чорныя,
Што мяняюць коні без цаны,
Што б'юць жоначак без віны.
— А мяняюць коней — ёсць цана,
А б'юць жоначак — ёсць віна.

1333. Я й радзілася — не была, *
Куды мяне маманька аддала:
За тыя шчырыя барочкі,
За тыя цёмныя лясочкі,
За тыя сінія азёры.
Калі я к маманьке захачу,
Шчырыя барочкі пасяку,
Частыя масточкі насцялю.
Масціла масточкі сем нядзель,
Гасціла ў маманькі адзін дзень.

1334. І радзілася — не была,
Куды мяне матухна аддала:
Па самыя баконне — сасонне,
Па самы жа двор — шчыры бор.
Па самыя вароты — балоты,
Па самыя парогі — дарогі,
Пасярод двара — куст лазы,
Ета нашай дзеванькі для гразы.

1335. Каб я ведала, да не йшла,
Куды мяне цёмная ноч завяла:

Да ў гэтае сяло крывое,
Да ў гэтае мужыччо дурное.
Каб ваша сяло затало,
Каб у вас дзевачак не было,—
Толькі б хлопчыкі радзілі,
Ды да нашых дзевачак хадзілі.

1336. Я й радзілася — тут не была,
Куды цёмная ноч мяне завяла.
А не цёмная ноч — конь вараны,
Не конь вараны — князь малады Іванька.
Цёмная ночачка настала,
А я ж, маладзенька, у гора ўпала.

1337. Бярозка мая белая, *
Галоўка мая бедная,
Дзе радзілася — не была,
А туды ж мамачка аддала
Чужому дзіцятку на здзеку,
А чужой мамульцы на ўцеху.

1338. Дзе нашы вочкі глядзелі,
Што свае дзіця ўтапілі
Да ў гэта сяло дурное,
За гэты мужыкі-дуракі,
Што мяняюць коней без цаны,
Да б'юць жонак без віны.
Па самыя вароты — балоты,
А па качарэжнік — бярэзнік.
— Браткі мае родныя,
Бярыце тапорыкі вострыя,
Прарубіце, браткі, шчыры бор,
Штоб бачыла бацькоў двор.

1339. А ўелі дзіця, а ўелі, *
Куда нашы вочачкі глядзелі:
Ці на тыя коні вараныя,
Ці на тыя сукны дарагія?
А тыя конікі наймёны,
А тыя сукны пазычоны,
А прыехаў дамоў — шусь далоў.

1340. Й а ў свата на дварэ
Стаіць два таполі,
А з той і таполі
Упаў лісток да долу.
— Маладзенька Манюхна,
Куды ж цябе татка й аддаў:
Ці ў туркі, ці ў татары,
Ці ў чужую зямлю
Да ў вясёлую сям'ю?
— Я ж, молада, тут не знаюся
Да кожнаму кланяюся:
І старому, і малому,
Шчэ свому й мілому,
І таму, што й на лаве,
І шчэ таму, што й на прыпечку
Да й іграе ў скрыпачку.
І шчэ ж таму, што ў калыбелі
Да на белай пасцелі.

1341. — Брацітка мой родненькі, куды мы заехалі
За горы высокія, за рэкі глыбокія,
Ночанькай цёмнаю, дарожанькай няроўнаю?
— Не плач, мая сястрычка, не плач,
Ночанькі павіднеюць, дарожанькі параўнеюць,
Рэчкі разліюцца, горачкі разлятуцца.

1342. Прыехала Волечка ў чужыя людзі.
— Як табе, маладзенькай, прывыкаці будзе?
Сцежкі-дарожкі ды невядомыя,
Блізкія суседзі ды незнаёмыя.
— Сцежак-дарожак пытаці буду,
А блізкіх суседак пазнаваці буду.

1343. — Маладая дзеванька,
Як ты тут прывыкаці будзеш?
Тут горы ды высокія,
Калодзежы глыбокія,
Тут сцежкі невядомыя,
Суседкі незнаёмыя.
— А я сцежкі павытапчу
І не буду блудзіці,

Я з суседкамі пазнаёмлюся,
Буду гаварыці.

1344. — А сястрыца наша родная,
Куды ж ты папалася, 2
Што ў нас не спыталася?
А тут поле няроўнае,
А тут мамка няродная.
— А я горы раскапаю,
Палі параўнеюць,
Мамкі параднеюць.

1345. Ой, цяпер, Лідачка, дагадаешся,
Што з чужым села, не пытаешся.
У чужой старане не па-нашаму жыць:
Чужая старана без дажджу мочыць,
Чужая старана без ветру сушыць,
Чужая мамулька не будзя ўзбудзіць.

1346. — Чорная жуковіна,
Дзе ж цябе ўкована?
— Укована мяне ў Вільні,
Прывезена мяне ў скрыні.
— Ой, маладая дзеванька,
Дзе ж цябе гадавана?
— Гадавана ў баценька,
Прывезена да свекарка,
Гадавана ў раджонага,
Прывезена да суджонага.

1347. — Дзе ты, каліна, расла,
Што ты такая вырасла?
Такая высокая,
Лісточкам шырокая?
— Ой, я ж расла, расла
У лузе пры крыніцы, 2
Пры халоднай вадзіцы.
Там дзеўкі ваду бралі
Ды мяне палівалі.
— Дзе ты, Наталка, расла,

Што ты такая вырасла?
Такая прыгожая,
На ліцо румяная?
— Ой, я ж расла, расла
У бацэнькі ў святліцы.
Зімою — у святліцы,
А летам — на нівачцы.
Зімою ў святліцы
Кужаль прала з маладзіцамі,
А летам на нівачцы
Жыта жала са жніцамі.

1348. Яблынька саджоная,
Бярозка сама ўзыйшла.
— Маладая Ніначка,
Чаго ж ты да нас прыйшла?
Ці ты да нас вады прыйшла,
Ці ты да нас агню прыйшла?
Калі б ты да нас вады прыйшла,
Прыйшла б з вядзёркамі, 2
З залатымі карамысёлкамі.
Каб ты да нас агню прыйшла,
Прыйшла б з судзінкаю, 2
З сярэбранаю хусцінкаю.
— Я прыйшла жыці-быці,
Галоўку палажыці.

1349. А ў гародзе на градзе макаўка,
А ў той макаўцы пчолачка
Вывела дзетачак двоечка.
Першы дзяцёнак — Колечка,
Другі дзяцёнак — Людачка.
Пад адным храстом хрысціліся,
У адну парачку схадзіліся,
Адной мамачцы згадзіліся.

1350. У нашага Іванькі за сталом
Чырвона рожа зацвіла,
Зацвіла цветам чырвоным,
Пахне яблычкам садовым.

1351. — А скуль дзеўка?
— З Арэхава.
— Чаго да нас прыехала?
А ты маткі адраклася,
За жаніхом прывалаклася.

1352. А скрыпачка кажа: — Гой, гой, гой,
А дзевачка кажа:— Божа ж мой,
А завезлі ж мяне ў чужы двор,
Пасадзілі ж мяне за сталом,
А далі ложачку гібкую,
Сярбаць поліўку жыдкую.
Кладу ложачку гібкую,
Вазьму сама таўстую,
Буду есці кашу густую.

1353. Ой, пайду я, пайду на сіне мора,
Да стану я, стану на гібкай кладцы,
Да буду плакаць па роднай мамцы.
А ў мае мамкі ды высокі горы,
Да высокі горы, мне гуляць даволі.
А ў майго свёкаркі роўнае поле,
Роўнае поле, мне гуляць няволя.

1354. Скакаў зайчык праз папарчык у жыта,
Не раз будзеш, млода Мар'я, пабіта.
Скакаў зайчык праз папарчык у ячмень,
Не раз дастанеш, млода Мар'я, у каршэнь.
Скакаў зайчык праз папарчык у авёс,
Не раз дастанеш, млода Мар'я, хвігу ў нос.
Скакаў зайчык праз папарчык ды і ў лён,
Не раз будзеш, млода Мар'я, гнана вон.

1355. Як скочыў зайка ды цераз Дунайка ды ў авёс,
А куды цябе, наша сястрыца, бог унёс?
Як скочыў зайка цераз Дунайка ды ў лазу,
Ды папалася наша сястрыца ў гразу.
Як скочыў зайка цераз Дунайка ды ў жыта,
Ды будзеш, будзеш, наша сястрыца, тут біта.
Ды зробяць тваю русую касу на мятлу,
Ды счэрняць цябе, маладзенькую, як зямлю.

1356. У гумне, у гумне
Ды папала раса,
А на той жа росі
Ды слядкі харошы.
А людзі кажуць,
Што куна пахадзіла.
Свякратка кажа:
— Не есць то куна,
А нявехна мая.
Па двару ды хадзіла,
Дабра глядзела:
— Ці такое дабро,
Як у майго да бацюхна?
У бацюхна добра,
А ў свякратка лепша.

1357. Па загуменнейку пала пароша,
А па той парошы сляды прыгожы.
Да суседзі кажуць, што куна хадзіла,
А свякроўка кажа:— То нявехна мая.
Яна хадзіла, шнуроў глядзела.
— У майго свякраткі шнуры вялікі,
Шнуры вялікі, а загоны шырокі.
Стаўляе дочкі па дзве на загончык,
А мяне, маладую,— на загон самую.
— Да жні, нявехна, не разгінайся,
Да на маіх дочак не спадзявайся,
Бо мае дочкі — да чужая сям'я,
А ты давеку жнеечка мая.

1358. Выйшла Надзечка на загуменне,
На шырока поле.
— Ой, поле, поле, ды не бацькі майго,
Ды не бацькі майго — свякорка майго.
У майго баценькі загоны вузенькі,
Загоны вузенькі, межы блізенькі.
А ў майго свякорка загоны шырокі,
Загоны шырокі, межы далёкі.
А мая свякроўка умна-разумна,
Умна-разумна і шчаслівая.
Стаўляе дачок па дзве на загон,
Мяне, маладую, на загон самую.

— Жні, нявестка, не адгінайся,
На маіх дзетак не спадзявайся.
Мае дачкі пажнуць, павяжуць,
Табе, маладзенькай, праўду не скажуць.
Да мяжы дажнуцца, вадзіцы нап'юцца,
З цябе, маладой, дый пасмяюцца.

1359. Прыехала Верачка ў ноў-навіну,
Зірнула, маладзенька, ў вішнёў сад,
Ці вісяць яблычкі ўгары,
Да ці добра будзе ў свекрыві.
Угары яблычкаў не відна,
У свекрыві дабра не чутна.
— Чырвоныя вішанькі ў прыполі,
Не вернешся, Верачка, ніколі.

1360. — Ці спадабала, ластачка,
Паплавы да шырокія,
Крынічанькі да глыбокія?
— Ёсць на чым ды палятаць,
Ды крыльцамі ды памахаць. 2
— Ці спадабала, дзевачка,
Свёкрава падвор'ечка?
— Ёсць па чым ды пахадзіць,
Ды ключыкі ды панасіць
Па свірнах і па свірніцах
Да й па ясных святліцах.

1361. Цераз бор дарожка таптаная,
Туды йшла Настулька каханая.
На ўстрэчу ей Ляксейка малодзенькі:
— Душа мая, Настулька, а і дзе была?
— Паня мой, Ляксейка, у тваім садзе.
— Душа мая, Настулька, што рабіла?
— Паня мой, Ляксейка, вішні шчыпала.
— Душа мая, Настулька, у вашто вішню клала?
— Пане мой, Ляксейка, у тваю шапку.
— Душа мая, Настулька, у каторую?
— Паня мой, Ляксейка, у пуховую.
— Душа мая, Настулька, каму давала?
— Паня мой, Ляксейка, тваей мамцы.

— Душа мая, Настулька, даждалася,
Што з маей маманькай спазналася.

1362. Кацілася яблычка з загор'я,
Прасілася Кацечка з застолля,
Паглядзець сваяго падвор'я:
Ці многа кароў на хляве,
Ці многа коней на стайні,
Ці многа хлеба ў клеці,
Ці многа дзяцей на печы?
Ай, многа кароў на хляве,
Ай, многа коней на стайні,
Ай, многа хлеба ў клеці,
Ай, многа дзяцей на печы.

1363. А ўсё зводкі-пераводкі
Да і ў большага свата:
Как сватаўся, дак хваліўся,
Што каней у мяне многа.
Як вышла што,
Да на праўду што,
Дак і нет нічога.
Как пайду я ў хлявочак —
Адзін жарабочак.

*Далей зноў: «А ўсё зводкі...»*
*Пасля:*

Адзін бычаночак.

*Далей зноў: «А ўсё зводкі...»*
*Пасля:*

Што ў мяне ізоб многа.
Як вышла ж што,
Да на праўду што,
Дак і нету нічога.
У панядзелак ранешанька
Как гукі, дак гукі:
Я ж думала, што мяне,
Што мяне, маладзешаньку,
На параду гукаюць,
Ажну ж яны ўсёй дзярэўняй
Хату падымаюць.

*Далей зноў: «А ўсё зводкі...»*
*Пасля:*

Што ў мяне хлеба многа.

*Далей зноў: «Як вышла...»*
*Пасля:*

Закрыма вымятаюць.

*Далей зноў: «А ўсё зводкі...»*
*Пасля:*

Што ў мяне дзенег многа.

*Далей зноў: «Як вышла...»*
*Пасля:*

Дзенег занімаюць.

*Далей зноў: «А ўсё зводкі...»*
*Пасля:*

Што ў мяне авец многа.
Як вышла ж што,
Да на праўду што,
Дак і нету нічога.
Як пайду я ў хлявочак —
Адзін бараночак.

*Далей зноў: «А ўсё зводкі...»*
*Пасля:*

Што ў мяне свінак многа.

*Далей зноў: «Як вышла...»*
*Пасля:*

Адзін баравочак.

*Далей зноў: «А ўсё зводкі...»*

1364. Дзеўку ў нас браў — тады Колечка хваліўся:
— Ёсць у мяне да дзевяць братоў, як дубоў.
А як мы прыйшлі, аднаго найшлі без зубоў.
Дзеўку ў нас браў — тады Колечка хваліўся:
— Ёсць у мяне да дзевяць коней на стайні,
А як мы прыйшлі, аднаго найшлі — варанца,
Адзін варанец і той не ўстаець, божа ж мой.
Дзеўку ў нас браў — тады Колечка хваліўся:

— Ёсць у мяне дзевяць парсюкоў, як дзікоў,
А як мы прыйшлі, аднаго найшлі — між жукоў.

1365. Вох ты, дружчатка, ты, баламуціц, завядзі-свет,
Ты ўчора ў нас быў, перапой папіў, гаварыў,
Казаў дзевачцы, казаў маладой — шэсць курэй,
Як яна прыйшла, усяго адну знайшла — без хваста.
Вох ты, дружчатка, ты баламуціц, завядзі-свет,
Ты ўчора ў нас быў, перапой папіў, гаварыў,
Казаў дзевачцы, казаў маладой — шэсць свірноў,
Як яна прыйшла, усяго адзін знайшла, без вуглоў.
Вох ты, дружчатка, ты баламуціц, завядзі-свет,
Ты ўчора ў нас быў, перапой піў, гаварыў,
Казаў дзевачцы, казаў маладой — шэсць кароў,
Як яна прыйшла, усяго адну знайшла, без рагоў.

1366. Ой, маршалку, баламуце, чаму лгаў?
Ой, чаму ты праўданькі не сказаў?
Казаў, што дзесяць кароў і бычок,
А як прыйшла, адну застала і без цыцок.
Казаў, е клуня і шпіхлер, як з дубоў.
Як прыйшла, застала кучку без вуглоў.

1367. Як дзеваньку сваталі,
Сто свірнаў казалі.
Ой, хадзімо, аглядзімо,
Чы есць тому праўда.
Над акола абайшлі,
Нідзе нішто не нашлі:
Адну казу на аднэй назе,
Да па аборы скача,
А ў дзеванькі дзве сястрынькі,
Да й абедзве плачуць.
Адна карова, да й та без рога.
Авечка без хвоста,
А клецъ без памоста.

1368. Ляціць зайчык цераз гайчык ды ў авёс.
А пашто ты дзяўчат баламуціш, пашто лжэш?
А ты казаў — дзевяць валоў-бугаёў,

А як я прыйшла, аднаго знайшла без рагоў.
Ляцеў зайчык цераз гайчык ды ў авёс.
А ты, дружчатка-баламутачка, пашто лжэш?
Ты казала — дзевяць дзевяроў, як дубоў,
А як я прыйшла, аднаго знайшла без зубоў.
Ляцеў зайчык цераз гайчык ды ў авёс.
А ты, дружчатка-баламутачка, пашто лжэш?
Ты казала — дзевяць залвіц, як царыц,
А як я прыйшла, дык адну знайшла, як мядзведзь.

1369. Да ты, сваце, ты, баламуце, ты наш вор,
Ты ж хваліўся, што дзевяць свірноў із дабром, 2
А мы прыйшлі й аднаго знайшлі без вуглоў. 2
Да ты, сваце, ты, баламуце, ты наш вор.
Ты ж хваліўся, што дзевяць валоў палавых, 2
А мы ж прыйшлі й аднаго знайшлі, і той без рагоў. 2
А ты, сваце, ты, баламуце, ты наш вор.
Ты ж хваліўся, што дзевяць сыноў, як дубоў, 2
А мы ж прыйшлі, аднаго знайшлі без зубоў. 2

1370. У нашага свата барада рудая,
Барада рудая, а праўда худая.
Як заручаў, тады казаў,
Што ў іх усяго многа,
А як прышлося, у кругу сышлося,
Ажно ў яго нічагусенька.

1371. Ой ты, дружаньку-баламутчыку,
Ты муціво і казаў, што свёкарка не маю,
Ходзіць свёкарка па новых сенях, па нізу:
— Табе, нявестка, трое дзела ўкажу:
Перша дзела — уставай раненька,
Другое дзела — бяжы па ваду развенька,
Трэця дзела — вадзі сямеечу бяленька.

1372. Як мяне ды як запівалі,
Дык казалі мне людзі,
Дык казалі,
Дык казалі мне людзі,
Што ў майго свёкаркі,

Што ў майго,
Што ў майго свёкаркі
Ва гародзе вінаград да расце.
Ва гародзе,
Ва гародзе вінаград да расце,
На разорах да віно цячэ,
На разорах,
На разорах да віно цячэ.
А я пайшла, паглядзела,
А я пайшла,
А я пайшла, паглядзела,
А ў майго свёкаркі,
А ў майго,
А ў майго свёкаркі
У агародзе лебяда расце,
У агародзе,
У агародзе лебяда расце,
На разорах ды вада цячэ.

1373. Гаварылі мне людзі,
Што мой свёкар багаты:
У лугах мяды цякуць,
Па гарах пірагі растуць.
Як пайшла я глядзець,
Усё ж гэта няпраўданька:
Па лугах вада бяжыць,
Па гарах каменнейка.

1374. Зязюлька наша Анечка
Адляцела ад нас далёка:
Ё за тыя лясы цёмныя,
Ё за тыя горы высокі,
Ё за тыя рэкі глыбокі,
Ё за тыя стаўбы залатыя.
Як зажурацца два братцы:
— Я й пойдзем, брацец, к кавалям,
А скуём-сплешчам войстру меч,
Высячэм-вырубім цёмны лес,
Высокі горы скапаем,
Залатыя стаўбы паламаем,
На рацэ кладачку намосцім,
Мы сваю сястрыцу разышчым.

Як зачуў жа тое Пецечка:
— Не журыцеся, швагрочкі,
А не йдзіце вы к кавалём,
А й не куйце ж вы войстру меч,
А й не сячыце цёмны лес,
Высокі горы не капайце,
Залатыя стаўбы не ламайце,
На рацэ кладачку не масціце,
Прыедзьце к сястрэ — пагасціце.

1375. Адлётка, адлётка наша дзевачка,*
Адляцела ад нас далёка:
А за тыя бары шчырыя,
За тыя балоты топкія.
— А, братулькі мае родныя,
Бярыце сякеры войстрыя,
Рассячыце мне шчыры бор,
А каб відны быў таткаў двор.
Сячыце-рубайце алешнік,
Каб відзен быў качарэжнік.
Рассячыце мне елачкі,
Каб відна былі дзевачкі.
Рассячыце мне дубчакі,
Каб відна былі хлопчакі.
Рассячыце мне ўсёй дуб'ё,
Каб відна было ўсё баб'ё.

1376. Ці не зязюлечка Таіска,*
Ой, заляцела далёка:
А ні галовачкі не відаць,
А ні галасочка не чуваць.
Чуць-чуць галасок, як яе,
Да ў свайго свёкаркі на двару,
А шэрых гусачак манячы,
А сваіх дзевяроў просячы:
— Дзевярочкі, мае браточкі,
Расцерабіце шчыры бор,
Каб я бачыла таткаў двор.
Расцерабіце сасонне,
Каб я бачыла ваконне.

1377. — А зязюлька наша Насцечка, *
Заляцела яна далёка:
За тыя бары шчырыя,
За тую рэчаньку быструю,
І некуды моладзе ў госці схадзіць.
— Калі я захачу, пагашчу:
Шчырыя бары высеку,
Быструю рэчаньку замашчу,
І ў сваёй маманькі пагашчу.

1378. Як я захачу, дрэва пасячу,
Да свайго роду крыламі далячу.
Буду ляцеці, буду куваці,
Ці не пачуе родная маці.
— Ой, стары, стары, выйдзі з хаты,
Што гэта за пташачка ў садзе кукуе?
Калі пташачка, то ў бор хай ляціць кукаваці,
А як дзяціна, то прашу дахаты.

1379. Не зязюлька наша Ганулька,
Ай, заляцела за мора
А ў вялікае гора.
— Брацілкі мае родныя,
Ой, памасціце вы мора,
Ой, вазьміце мяне з гора.

1380. Яблычка наша садовае
Адкацілася далёка,
Маладая наша Маруся
Ад'ехалася далёка.
А да яе ні дайсці, ні даехаць,
Ні саколікам даляцець, 2
На яе, маладу, паглядзець.
На яе ціхія паходы,
На яе нізкія ўклоны.
Ціхія паходы ў таночку,
А нізкія паклоны ў вяночку.

1381. А залётка наша Манечка,
А заляцела ад нас далёка,

Што да яе ні дайсці, ні даехаць,
А не мусім яе адведаць.
Толькі сокалам даляцець,
На яе падвор'е паглядзець.
А ў іх столікі цёсаныя,
Мы ў вас госцікі не прошаныя.

1382. Ох ты, руса каса, у тры радочкі пляцёна,
А я, бедная-маладзенькая, так далёка звязёна. 2
Ой, у высокія горы да й у цёмныя лозы,
Ой, паліюцца, ой, паліюцца мае горкія слёзы. 2
Адкуль ветрык павее, да й лісточкі скалыша,
Мая матуля, мая родная што дзянёк лісткі піша,
Адзін лісток піша, другі пасылае.
— А чаму ж маё дзіця роднае нігды ў госцях не бывае,
Здайся, і коніка мае, і дарожку знае,
За ліхім мужам, за нідбалішчам маё дзіця прападае.
— Ой, сядай, маці, даганяй, маці, мае ляты маладыя.
Коні вараныя ў крыніцу пагразлі,
Мае лятунькі маладзенькія, як дзве свечкі, загаслі.

1383. Да ці маеш, мая матулька, сумненне,
Нашто аддала мяне, маладу, дарэмна?
Ці я па тваіх па гародах хадзіла?
Ці я тваю капустачку зламіла?
Ці я тваё бацьвіннейка стаптала?
Былі ў мяне прыгонныя гароды,
Былі ў мяне дзявоцкія паходы.

1384. Высока, высока клён-дзерава ад вады,
Хоць ён высока, лісток адпадзе.
Ой, далёка, далёка мой ойчанька ад мяне.
Хоць ён далёка, такі мяне спамяне:
— Чы здарова маё дзіця не пры мне?
Чы яно гаруе, із панамі пануе,
Чы дзеткі гадуе?
Не гаруе, із панамі пануе
Да дзеткі малыя гадуе.
А як дзеткі падгадуе,
Мо й часць гора пазабудзе.

1385. — Ці я ў цябе, мамачка, лянівa была,
Што ты мяне, маладую, замуж аддала?
Да аддала за рэчаньку, за быстры Дунай.
Дала ты мне чоўнік, штобы пераплыці,
Дала ты мне чоўнік да яшчэ й вясельца:
— Плыві, плыві донька, плыві, маё сэрца.

1386. Аддаў да мяне бацька **
Да за той за Дунай быстры.
Даў жа ж мне чаўнок гібкі,
Даў жа мне і весялечка,—
Надорвана мае сярдзечка.
Паднялась да ліхая няхвіля,
Чаўнок да затапіла,
Весялечка да паламіла.
— Да ні чоўна, ні прута,—
Быць табе, маладой, тута.

1387. Пушчу я паву па Дунаёчку,*
А сам пайду па беражочку,
Ці не ўвіжу я таткавых двароў.
Да хоць увіжу, мне там не жыці,
Таткавых двароў не падмятаці,
Цясовых сталоў не засцілаці.

1388. Маладая Ганначка,
Да чаму ж ты не плачаш,— *
Думаеш, добра будзе?
Радзіна раз'едзецца,
Свякруха рассердзіцца.
Радзіна за бярэзнічак,
Свякруха ў качарэжнічак.
Радзіначка за лясок,
А Ганначка ў галасок.

1389. — Закукуй, зязюля, да Пятра,
Па Пятры не будзеш кукаваць.
Як выплыве ячны каласок,
Займе зязюлі галасок.

---

* Кожны радок, акрамя першага і апошняга, паўтараецца.

Да, баравая зязюля,
Чаму ў бары не кукуеш,
Чаго ў наш сад прылятаеш?
— Як мне ў бары кукаваці:
За салаўямі не чуваці,
За бярозкамі не відаці.
— Маладая дзевачка,
Чаму ў маткі не плакала,
Чаго да нас прыехала?
— Як мне ў мамачкі плакаці:
За брацейкамі не чуваці,
За сястрыцай не відаці.

1390. Плача наша прывязёначка, 2
Не ведае, дзе дарожачка.
Няхай зіму перазімуе,
А лецечка队 пералетуе, 3
Дарожачку разведае, 3
Сваю мамку адведае.

1391. А што за думкі ў шэрай зязюлькі, раненька?
У садочку была — не кукавала, раненька,
У шчырыя бары паляцела, раненька,
Там кукаваць стала, раненька.
А што за думкі ў нашай Томачкі, раненька?
У матулькі была — не плакала, раненька,
К свякроўцы прыйшла — плакаць стала, раненька.
— Радзімка мая незнакомая, раненька,
А цяжка мне раззнакоміцца, раненька.

1392. Ляцела куна з бору ў дуброву
Сакалу на размову.
— Мне ў бару добра, 2
У дуброўцы лепей будзе.
У бары шышкі паколюць ножкі,
У дуброўцы мякчэй будзе.
Ішла дзевачка з сеней у камору
Да мамачкі на размову.
— Мне ў мамачкі добра, 2
У свякроўкі лепей будзе.
У мамачкі хлеб палыном пахне,

А ў свякроўкі чарнушкаю.
Я ў мамкі буду выдавана,
А ў мілага сама ваэьму.
У мамкі ключы пад паясочкам,
А ў міленькага на прабоі.

1393. Бегла куначка з бору ў дуброву,
Да, бегучы, шчабятала:
— Добра мне ў бары, добра,
У дуброваньцы яшчэ лепей:
Я па дуброўцы пахаджу,
Я на бобрыка пагляджу.
Бегла Ганначка з дому дадому,
Да, бегучы, гаварыла:
— Добра мне ў мамкі, добра,
У свякровушкі яшчэ лепей:
Па новых сенях пахаджу,
Да на міленькага пагляджу.

1394. Пералятала сіва зязюлька
З бору ды ў дуброву,
Села яна на сенажаці
Ды стала шчабятаці:
— І ў бару добра, і ў бару добра,
А ў дуброве яшчэ лепей!
Куды палячу ды ўсюды пажыўлюся,
У крыніцы пры беражку
Вадзіцы нап'юся!
Пераехала красна дзеванька
Ад бацькі да свёкратка,
Села яна на покуці
Ды стала размаўляці:
— У бацькі добра, у бацькі добра,
А ў свёкратка яшчэ лепей!
У майго свёкратка камораў многа —
Люблю пахаджаці,
А дзевяраткі ўсе маладыя —
Люблю жартаваці.

1395. — Лугавая перапёлка,
Дзе табе лепей было:

Ці зімой у крыніцы,
Ці летам у пшаніцы?
— Добра было ў крыніцы,
Яшчэ лепей у пшаніцы.
У крыніцы камушочкі,
А ў пшаніцы каласочкі.
— Маладая Настачка,
Дзе табе лепей было:
Ці дома ў мамачкі,
Ці цяпер у свякроўкі?
— Добра было ў мамачкі,
А яшчэ лепей у свякроўкі.

1396. Ляцелі саколікі,
Селі-палі пад акенцам, 2
У Манечкі за плячыма.
Закрычалі саколікі,
Аж Манечка ўздрыганула.
— Маладая Манечка,
Табе тут лепей не будзе, 2
Як было ў мамачкі.
— А мае ж вы саколікі,
Чаму ж тады не сказалі, 2
Як я ў мамачкі была,
Як вішанька ў садочку,
Як пчолачка ў мядочку.

1397. Ой, пайду я да Дунаю,
Стану да падумаю.
Што ж там людзі гавораць,
Маю свёкарку судзяць.
— Ох вы, дзіўныя людзі,
Чаму раней не казалі,
А цяпер маўчыце,
Сэрца майго да не сушыце.

1398. Маладая дзевачка,
Як ты у нас прывыкаць будзеш, 2
Як ты дом забываць будзеш?
Дома была парадніца,
А тут будзеш чалядніца.

Дома была гулі гуляць,
А тут будзеш свінням мяшаць.
Дома была гаспадыня,
А тут будзеш пасціць свіння.
Дома была на музыках,
А тут будзеш на языках.

1399. Ой, гора, гора-гараваннейка ў цябе, мой татачка,
Я ў цябе жыву, дзела не раблю, нікога не баюся.
Ой, негі мае, пацехі мае, у цябе, мой свёкарка,
У цябе жыву, дзелачка раблю, усякага баюся.
Гуляць я іду, гуляць я іду, ва ўсіх папрашаюся,
З гульні прыду, з гульні прыду, усім кланяюся.

1400. Прывязлі к нам каханку,
Прывязлі [redacted] нам нежанку. —
Ў нас не будзець нежыцца, 2
У нас будзець малоць-талоч,
А ў нас будзець малоць-талоч,
А ў нас будзець кароў даіць,
А ў нас будзець свіней карміць,
А ў нас будзець ваду насіць.
У нас калодзезі далёкія,
У нас парогі высокія,
А ў ей ногі кароткія.
Мы падложым падкладачкі —
Селязнёвы лапачкі,
Мы падмосцім падмостачкі —
Камаровы костачкі.

1401. Маладая Нінaчка,
Ці ўзяла ты з дому пужку? 2
Будзеш у нас за пастушку.
Дома ўмела гуляці,
У нас будзеш у поле гнаці.
Дома была работніца,
У нас будзеш нявольніца.

1402. Я ў мамы была, як рожа цвіла,
А ў мілога стала, як рута звяла.

Я ў мамы была, як паненачка,
А ў мілога стала, як былiначка.
Я ў мамы была, як мак расцвіла,
А ў мілога стала, што і род не пазнаў.

1403. Плыла вутачка, плыла шэрая
З возера ды ў мора.
Ішла дзяўчына, ішла малада
Ды з раскошы ў гора.
У матулькі жыла — як вішня цвіла
У зялёным садочку.
У мілага стала — як рута звяла
У руцяным вяночку.

1404. Мы сягоння рана ўсталі, 2
Кругом усё абышлі, 2
Паглядзелі, ці вялікая хата ў свата,
Ці вялікая святліца,
Ці з прыветам яго сястрыца.

1405. Дагадалася маці,
Куды дачку аддаці:
Дзе хлябец родзіцца
Да таварац плодзіцца.
Дзе клеці новыя,
Там бочкі поўныя.
Дзе пчолкі садзяцца,
Там людзі да весяляцца.

1406. Дагадалася маці,
Куды дачку аддаці:
Дзе сады вішнёвыя,
Там людзі вясёлыя.
Дзе пчолачкі раяцца,
Там людзі весяляцца.
Дзе пералазы нізкі,
Там суседачкі блізкі.
Пералазы да ніжэйшыя,
Суседачкі да бліжэйшыя.

1407. Па дварэ свёкар ходзе,
Подле баку сітца носе,
Пад паясом калатовачкі,
Подле боку да начовачкі.
— А, божа мой, божа,
Хата ж мая да не топлена,
Бліны ж мае да не печаны,
А нявестка есць хоча.

1408. Маладая дзеванька па падвор'ечку ходзіць,
Сваго свёкарка просіць:
— Свёкарку, мой баценьку,
Дзе гарох пасадзіць?
Я садзіла ў баценька,
Ён жа там не прыняўся.
— Маё дзіцятка роднае,
Пасадзі ў садочку,
Ён ужо тут прыймецца
І хараша разрасцецца.

1409. — Маладая Танечка,
Ды знімі пакрывала,
Ды паглядзі на хатачку:
Наша хатка не мяцёна
І сямейка невясёла.
— А я хату мясці буду,
А сямейку весяліць буду.

1410. — Хадзі-пахадзі, Галечка, паглядзі,
А ты на сваю радзіну паглядзі.
А ці будзеш гэту хатачку падмятаць,
А ці будзеш сваю свякроўку ўважаць?
— Ай, буду, буду гэту хатачку вымятаць,
Ай, буду, буду сваю свякроўку ўважаць,
Ай, буду, буду мамкай называць,
Ай, буду, буду ранюсенька ўставаць,
Ай, буду, буду пасцелечку засцілаць.

1411. Плакала маладая,
Што мамка не тая —

Свякроўка ліхая.
Пайду я на рынак,
Куплю стакан мёду
Ды конаўку піва,
Свякроўку прывітаю,
Работкі папытаю.
— Свякроўка, мая мамка,
Пакажы мне работку — 2
Усю сваю заботку.
— Нявехна-дачушка,
Уставай раненька,
Умывайся бяленька,
Уцірайся сушэнька,
Маліся богу шчырэнька,
Тады бярысь за работку
І узнаеш заботку.

1412. Танечка маладая,*
Галоўка клапатная.
Пайшла на рыначак,
Купіла кубак мёду
Свякрованькі на ўгоду.
— Ты ж, мая свякровачка,
Ты ж, мая лябёдачка,
Дам табе кубак мёду —
Скажы мне работу.
— Ты ж, мая нявестачка,
Ты ж, мая лябёдачка,
Сёння хату падмесці,
Вадзіцы прынесці.
А ў сенях даёначка,
А ў хляве каровачка.
Нявестачка-лябёдачка,
Вот твая работачка.

1413. У панядзелак рана
Плакала маладая, 2
Што работкі не знае.
Пайду я ў камору,
Наллю кубак мёду, 2
Прывітаю свякроўку.
Свякроўку прывітаю

Й работы папытаю.
— Свякроўка й мамулька,
Што ў нас за дзень будзець, 2
Што ж мы дзелаць будзем?
— Евачка-дачушка,
Сянні панядзелак,
Гуляй паміж дзевак,
А заўтра аўторак,
Гуляй паміж жонак,
А тады серада,
Раз'едзецца радня.
Уся радзіна раз'едзецца,
Ты, малада, агледзішся
І на работу асмелішся.

1414. Плакала нявестачка,
Каля печы стоячы,
Свякроўцы наровячы:
— Свякроўка, мая мамачка,
Загадай мне загадачку,
Як у вас мятуць хатачку?
— Нявестачка, маё дзіцятка,
Коскамі падмятаючы,
Слёзкамі паліваючы.

1415. Не думала Маруська сына жаніць,*
Падумала-падумала — не з кім жыць.
Халодна зіманька бяллё мыць,
А вясна-красна кросны ткаць,
А цёплае лецечка жыта жаць.

1416. Устала рана з панядзелачка,
Калі ўбачу — ёсць нявестачка.
А скуль яна к нам з'явілася,
Не з гары яна прыкацілася?
Майму сыну прыгадзілася.

1417. Старая хатачка, нова печ,*
Не ўмее Валечка хлеба печ:
Усадзіла булку ў пячурку.

На яе свякруха налягае,
За яе Ванечка заступае.
— Годзе, мамачка, сварыцца,
Калі ёй было вучыцца:
А ўчора была дзявою,
Сягоння стала жаною.

1418. А новая хатачка, старая печ.
Не ўмела маладая хлеба спеч.
— Пастаў, суджанька, ты на куце печ,
Научуся, маладая, хлеба печ.
Первую буханку — пад лаўку,
Другую — пад загнет,
А трэцюю буханку — прама ў печ.
Заснула маладая да пары,
Папёкся яе хлеб на сухары.
— Еж, мая свякроўка, сухары,
Толькі мяне, маладую, не журы.

1419. Якую вы нам, якую вы нам ды дуду далі,
Што не ўмее бліноў печ?
Не папала ў печ, ды пад печ.
А ў бару, бару лён бяру,
Каля Дунаю стаўляю.
Наехала казакоў сто сем палкоў,
Сталі работу хваліць:
— Хараша работа, хараша,
Злюбіла маладца-галыша:
А ні шубкі ў яго шытае,
А ні хаткі ў яго крытае.

1420. Вот табе, Марцінка, уся надзея,
Што твая Кацярынка да робіць не ўмее:
Ні шыць, ні прасці, ні красянкоў ткаці,
Да толькі па вуліцы з маладцамі гуляці.

1421. Кудзеліца заваляшчая,
Я, молада, загуляшчая.
— Няхай цябе мядзведзь прадзець,
А я пайду на людзей глядзець...

1422. Не хазяй, Евачка, не хазяй, 2
А ў чыстым полі не жняя,
А ў новым доме не кухарка.
Ні спеч, ні зварыць,
Толькі печ заваліць. 2

1423. Туптала маці каля кравацi,
Пакуль сына зрадзіла,
Пабіла ногі каля парогу,
Пакуль сына ажаніла.
Закалоў сын свінку
Ды замкнуў у скрынку,—
Ты ж, матка, нявольніца!

1424. Часалась свякроўка, часалась,
Пакуль нявесткі дачдалась.
— А ты, нявестка, не будзь дураком,
Бі свякроўку кулаком.

1425. — Ой, сырая лучына,
Чаму не гарыш?
Ой, мусіць ты, лучына,
У печы не была?
— Была я ў печы
Учарайшай ночы,—
Ліхая свякроў была,
Вады падліла.

1426. Вот бліны, бліны гладкія,
Вот бліны, бліны сладкія. 2
Пякла бліны няўмечка, 2
Наша Валечка-нявестка. 2
Уліла вадзіцы нямножка, 2
Усыпала мучыцы горстачку,
Напякла бліночкаў надзіва,
Напякла бліночкаў, ой, многа. 2
Масліла бліночкі масельцам, 2
Сыпала на блінкі сахарку, 2
Давала кушаць дзевярку 2
І заловачкам па блінку,

Свёкру са свякроўкай блін на тарэлке. 2
Назвалі яе і паненкай, 2
Пасадзілі за стол, дарылі: 2
Свёкар са свякровушкай па чырвонцу, 2
Дзевяры, залоўкі па сто рублей, 2
І ўсе госцікі, глядзя так,
Здарылі Ванечку на табак.

1427. Вячэрай, мамачка, вячэрай,
Гэта ж тваё дзіцятка наварыла,
Хаця яна скрыняю тапіла,
Абы смачна наварыла.

1428. Ля новага ды калодзезя
Прывядзённіца плача.
— Не плач, не плач, прывядзённіца,
Само дзела яно робіцца:
Ветрык хатку ж мяце,
А сонейка пірагі пячэ,
А дожджык лаўкі мые.

1429. Ля новага калодзезя
Прывядзёначка плача.
Ой, чаго ж яна плача?
Не ўмее дома дамаваці
Да худобу даглядаці.
Адазваўся Васілька:
— Не журыся, Кацечка,
Ёсць у мяне родна матачка:
Будзе дома дамаваці
І худобу даглядаці.
Яе рукі дужэйшыя —
Зробяць дзела да цяжэйшае.

1430. Святая нядзелечка
Пачала вяселлечка.
Святы панядзелачак
Адлучыў ад дзевачак.
А святы аўторачак
Прылучыў да жоначак.

У святую серадзіцу
Выправілі па вадзіцу.
У святы чацвярочак
Сказалі месці дварочак.
У святую пятніцу
Паставілі за чалядніцу.
А ў святую суботу
Загадалі ўсю работу.

1431. Пойдзем мы на ток, на ток,
Возьмем мы цапок, цапок,
А будзем мы малаціці,
А дзевачку вучыці.
Дома яе гадавалі —
Цэпа ў рукі не давалі.

1432. А здзелі вяночак з Машачкі,*
Назвалі Машачку маладзіцаю,
Паслалі ўжо яе за вадзіцаю.
Вадзіца ў крыніцы халодная,
А ёй да ўсе людзі незнакомыя.
— Як жа ты вадзіцу насіць будзеш,
Як жа ты свякроўцы гадзіць будзеш?
— Суседачкі мілыя, а [redacted] й угаджу:
Устану, устану ранюсенька,
Умыюся, умыюся бялюсенька,
Учашуся, учашуся раўнюсенька,
Назаву мамачкай раднюсенькай.
Я ж гэта, малада, ліха не буду,
А можа добрасці сабе дабуду.

1433. Маладая маладзіца
Не ведала, дзе вадзіца.
Шэры гусі ў поле гнала,
А гонячы, прымаўляла:
— Гыля, гыля, шэры гусі,
Прывыкайце, шэры гусі,
К чысту полю, к сіню мору,
Як я, млода, прывыкала
Да свёкра, да свякроўкі,
Да дзевера, да залоўкі,

Да мілага пастылага.
Я свёкару ўгадзіла —
Бела кашульку памыла.
Я свякроўцы ўгадзіла —
Мякку пасцельку паслала.
Я дзеверу ўгадзіла —
Белы ножанькі разула.
А залоўцы дагадзіла —
Русу касу расчасала,
А міламу не ўгадзіла:
Чыста хаджу — фарслівая,
Грязна хаджу — лянівая.

1434. Увядземо маладзіцу
У новую святліцу.
Да не знае тае дарожанькі,
Кудою ёй іці да па вадзіцу.
— Ай, свёкарка-бацюхна,
Падарачак табе дам,
Толькі ўкажы да тую дарожаньку,
Кудою іці да па вадзіцу.
— І падарачак твой вазьму,
І дарожанькі не ўкажу,
Кудою іці па вадзіцу.

1435. — Ох, свякроўка, да маманька, 2
Ой, укажы мне ту дарожаньку,
Куды па воду ходзяць.
— Ты і сама знаеш, і людзі гавораць,
Куды па воду ходзяць.
— Ой, свёкарка, да бацюхна,
Укажы мне ту дарожаньку,
Куды па воду ходзяць.
— Ты і сама знаеш, і людзі гавораць,
Куды па воду ходзяць.

*Далей тое ж самае да дзевера, потым да залвіц.*

1436. Пойдзеш, дзеванька, па воду
К дзіўнаму калодзезю,
Да нідзе не станавіся,

Да хуценька вярніся,
Старому пакланіся.

1437. Наша Марынка нічагусенькі не знае,
Пайшла па ваду да й суседачак пытае:
— Ой, суседачкі, да й галубачкі, скажыце,
Дзе ж вы вадзіцу, дзе ж вы сцюдзёну бярэце?
— На новым дварэ, там калодзезек рублёны,
Няхай завядзе да твой Гаўрылка ўлюблёны.
Наша Марынка нічагусенькі не знае,
Пайшла плацце праць да й суседачак пытае:
— Ой, суседачкі, да й галубачкі, скажыце,
Дзе ж вы плаццейка, дзе ж вы белае пярэце?
— Мы пярэм плацце да на ціхенькім Дунаі,
Няхай завядзе да твой Гаўрылка каханы.

1438. Чалядзін, мамачка, чалядзін,*
Пазавідуе нам ня 'дзін.
А пашлём маладу па ваду,
А спазнаем яе па хаду.
Можа, ў яе ножачкі крывыя,
Можа, ў яе вочачкі касыя.
А ў яе ножачкі, як у бацяна,
А ў яе вочачкі, як у салаўя.

1439. У нядзелю рана
Плакала маладая:
— А, татачкародненькі,
Я тут не прывыкну:
Тут горы высокія,
Калодзезі далёкія,
Зямелька гарыстая,
Сямейка ганарыстая.
— Маё дзіцятка, маё роднае,
Пераначуй хаця ночку,
Ператыднюй хаця тыднічак.
Тут горы да паніжаюць,
Калодзезі да пабліжаюць,
Зямля параўнее,
Сям'я пасмірнее.
А ў панядзелак рана

Смяялася маладая:
— А, татачка мой міленькі,
Да тут горы паніжалі,
Калодзезі пабліжалі,
Зямля параўнела,
Сям'я пасмірнела.

1440. — Едзь, братка, дадому, дадому,
Едзь, братка, дадому,
Бяры мяне з сабою.
Да тут горы высокія,
Калодзезі да глыбокія.
Калодзезі да глыбокія,
Суседачкі ўсё далёкія.
— Сястрыца мая родная, мая родная,
Сястрыца мая родная,
Peралятуеш лецейка, лецейка.
Пeралятуеш лецейка,
Перазімуеш зімачку, зімачку.
Табе горы да паніжэюць,
Калодзезі да памялеюць, памялеюць.
Калодзезі да памялеюць,
Суседачкі да пабліжэюць.

1441. У цёмным лесе да трава зеляна,
Гдзе я выйду, усё чужая старана,
А ў садочку салавейкі пяюць,
У цёмным лесе зязюлькі куюць.
— Салавейка, родны брацік мой,
А зязюлька, родна сяструнька мне,
Чы не былі вы ў маей старане,
Чы не чулі навінушкі аба мне,
Чы не тужыла мая матка па мне?

1442. Ой, выйду я на гулочку,
Ды стану я на грудочку
І падзіўлюся па беламу свету:
Ой, да ці ўвіджу я саколіка лятучы.
— Саколіку, родны брацейка мой,
Ці не быў ты на маёй старане,
Ці не чуў ты навіначку аба мне?

— Ой, быў, быў я на тваё старане,
Ой, чуў, чуў да навінаньку аб табе,
Плача тата, плача маці па табе.
Яны плачуць, надрываюцца,
Большага жалю набіраюцца.

1443. Ох, да сплю я ўдзень — не ўначы
Да не чую ластавак пяючы,
Адно бачу салавейка лятучы.
— Салавейка, ці не брацейка мой,
Ці не быў ты ў маёй старане,
Да ці не тужыць ацец-маці па мне?
— Тужыць, тужыць, на ложачку лежучы,
Праву ручку пры сэрданьку дзержучы.
— Тошна-тошна майму сэрцу ва мне,
Як дзіцяці на чужоі старане.
Ой, на дварэ ўсё Раманушка арэць,
Красна дзевушка ўсё па ваду ідзець,
Раманушку ўсё па правую ручку бярэць.
— Прашу цябе, не забывай ты мяне:
У мяне матка не свая — чужая,
Будзе біці ўсё наракаючы,
Па словечку прыгаварваючы.

1444. Пайшла, пайшла Рыпіначка па ваду,
На белы камушок ступіла,
Чаравік-падкоўкі зламіла,
За то яе матушка журыла:
— Куды ты, дачушка, глядзела?
Ці на таго коніка варанога,
Ці на таго малайца маладога?
— Не на таго коніка варанога,
На таго малайца маладога.

1445. Пагналі маладу,
Пагналі па ваду,
Пабіла малада
Вёдра на ляду.
Яе матушка браніла,
Што вядзерцы пабіла.
— На каго, дачушка,

Ты так загледзелась?
Ці на каня варанога,
Ці на Ванюшку маладога?
— Мой Іванушка бондар,
Ён абручыкі цясовыя наб'ець,
Ён пачопачкі шаўковыя саўець.

1446. У нас сягоння серада,
Не ведала малада, дзе вада.
Пайшла малада па ваду
І на белы камень ступіла,
Цясновыя вядзерцы пабіла.
Адкуль узяліся бандарэ,
Цясновыя вядзерцы парабілі,
Шаўковыя почапкі пачапілі.

1447. — Што я табе, свёкарку, зрабіла?
А камень вядро разбіла
І залату дошчачку зламіла.
— Залатнічка найму,
Дошчачку зраблю.
Хоць ты па вадзіцу хадзіла,
Да пры сабе цноту насіла.
Да насіла праўданьку ў сэрданьку,
А цноту ў вяночку.

1448. Ой, божа ж, божа, што ж я зрабіла,
Да пайшла замуж за двараніна.
Пайшла ж па воду, вядро пабіла,
Прыйшла ж дадому, свякроў набіла.
— Гэта ж табе, дзіцятка, гэта ж табе за тое,
Што ты маё вядзёрка нова пабіла.

1449. На гуліцы мяцеліца мяце,
Красна дзевіца па воду ідзе,
За сабою бычаночка вядзе.
Бычаночак выпінаецца,
Красна дзевіца заляцаецца.

1450. Пойдзе дзеванька па воду,
Яна бярэ за ключку,
Ён яе за ручку,
Яна бярэ наліты,
Ён да яе гаварыці.

1451. Да за сялом, да за новенькім,
Цвіце рамон да зялёненькі.
Там Колечка ж да каня пасе,
А Танечка да ваду нясе.
Ён яе ж да даганяе,
Тую ваду разлівае.
— І Колечка, князь маладзенькі,
Не даганяй мяне, маладой, 2
Не разлівай вады дарагой,
Бо й у мяне не свая маці,
Будзе біці і караці.
Будзе й біці, караці
Да па ваду выпраўляці.
І да па халодну вадзіцу,
Да й і ў далёку крыніцу.

1452. Ой, у лесе да на верасе
Там сільна да рамон цвіце,
А там Макар каня пасе,
А Волечка ваду нясе.
Макар Вольку зачапае,
Ваду ёй разлівае.
— Макарушка-сэрдушка,
Не чапай мяне, малады,
Да не разлівай маёй вады.
Мая матка журлівая,
Будзе на мяне журыціся.
— Волечка-галубачка,
Не ведаеш, як адказаці:
Ляцелі гусі-лебедзі
Да тую ваду скаламуцілі,
А я, малада, стаяла,
Пакуль вада чыста стала.

1453. Пайшла маладая па ваду,
Завідзела чорнага рака на ляду.

— Рачухна мой, бацюхна, піць хачу,
Маё горла перасохла без пойла,
Мае жываты перапалі без вады.

1454. Па ваду хадзілі,
Маладу вадзілі.
Маладая маладзічанька
Да й не знае, дзе крынічанька.

1455. Пайшла Матронка пад гай па ваду,
Пад гай зялёны, пад сад вішнёвы.
Кліча-пакліча яе баценька:
— Нясі, дзіцятка, зімнай вадзіцы
Мае белыя ручанькі памыці.
— Не падам, баценьку, не падам:
Мая вадзіца дарагая,
Дарожай мёду і віна,
Ужо я служачка не твая.

1456. Дружкі коніка лупілі
Да і рук не памылі.
— Дайце нам вадзіцы
Памыці ручыцы
Й ручніка выцерці рукі.
А тую вадзіцу на вішаньку злейце,
Штоб вішанька развівалася,
Маладыя красаваліся.

1457. Чорна свякроў, чорна:
Тры нядзелі не ўмывалася,
На нявестку спадзявалася.
Бела свякроў, бела,
Бо нявестка ўмыла.

## АД'ЕЗД РАДНІ МАЛАДОЙ ДАДОМУ

1458. Нагатавала малада дзеванька
Два палумiскi меду
Да зазвала свайго баценька

На чэсць, на бяседу.
— Ты ж, бацeньку, піўшы-еўшы,
Да паедзеш дадому,
А мяне, маладзенькіі,
Не возьмеш з сабою.

1459. Пры дарозе сад калінавы,
А ў тым садзе куст малінавы,
А ў тым кусце шэрая зязюля,
Сама шэра — пер'е рабое,
У нашай Верачкі племя малое.
Учора звячора прыехалі —
А сёння рана ад'язджаюць,
Яе, маладую, тут пакідаюць.
— Каб я знала, што мяне пакінуць —
Узяла б ключы ад яснай зарыцы,
Замкнула брата ў новай святліцы,
Сама села б піці-гуляці,
З братам гаварыці.

1460. Кукавала зязюля ад свету да свету.
— Чаму табе, зязюля, унімання нету?
— А як жа мне, зязюлі, да унімаціся?
Учора звячора салавей прыляцеў,
Сягоння рана ўжо й адлятае,
А мяне, зязюлю, тут пакідае.
Плакала дзевачка ад свету да свету.
— А чаго табе, дзевачка, унімання нету?
— А як жа мне, маладзе, унімаціся?
Учора звячора брат прыехаў,
А сягоння рана ўжо й ад'язджае,
Мяне, маладу, тут пакідае.

1461. — Чаго, зязюля, чаго, шэрая, рана кукуіш?
Знаць, зязюля, знаць, шэрая, дзетак не маіш.
— Дзетак не маю, дзетак не маю, так прабываю.
— Чаго, дзевачка, чаго, маладая, так сільна плачыш?
Знаць, дзевачка, знаць, маладая, мамкі не маіш.
Мамкі не маіш, мамкі не маіш, так прабываіш.
— Учора звячора братка прыехаў,
Сягоння зрана ўжо і ад'язджае,

Мяне, маладзеньку, тут пакідае.
Каб я гэта знала, што ён паедзе,
Замкнула бы братку ў новай святліце,
Сама ж бы села з нім гаварыці:
— Парай мне, братка, як мне тут жыці.
— Жыві, мая сястрыца, як сама знаіш,
Рабі работу, як умеіш.
Заві свякроўку, як сваю матку,
Будзе табе, сястрыца, ад бога слава,
Ад бога слава, ад людзей павага.

1462. Ой, дай, божа мой, міласэрдненькі,
Браточак ад'язджае, **
Мяне, маладу, як ту ягаду,
У чужыне пакідае.
Як я ўздумаю сваго братайка,
То на сэрданьку трудна.
Ой, дай, божа мой, міласэрдненькі,
Ой, сястрынка ад'язджае,
Мяне, маладу, як ту ягадку,
У чужыне пакідае.
Як я ўздумаю сваю сястрынку,
То на сэрданьку трудна.

1463. Прыданкі, ад'язджайце,
Маладую навучайце,
Каб з гаршкоў не хватала
І на ката не складала,
Каб па сялу не хадзіла
І пра сям'ю не судзіла.

1464. Мы ж ужо, сястрыца, ад'язджаць будзем,
А мы цябе, сястрыца, павучаць будзем:
Ты ўставай раненька-ранюсенька,
Вымятай хату чысцюсенька,
Не нясі шуму за вароцікі:
На тую шуманьку вятры будуць,
Размятуць-разнясуць па ўсёй вуліцы.
А цябе, маладую, судзіць будуць,
Што нявестанька драмлівая,
Што нявестанька санлівая.

За вадой ідзе — вёдры коцяцца,
Ваду нясе — вёдры цягнуцца.

1465. Прыданачкі ад'язджаюць,
Сястрыцу да навучаюць:
— Сястрыца наша родная,
Будзь ты да ўсіх добрая.
Май свякратку да за бацюшка,
Свякроўку да за матачку,
Дзевяраткі да за брацейкі,
Залувіцы да за сястрыцы.

1466. Узышоў месячык ды звысок-звысоку,
Наехала сватоў ды здалёк-здалёку,
Здалёк-здалёку ды з чужога боку.
Знаць іх па мове, што яны панове,
Паціхоньку гаворадь, хораша ходзяць,
Яны сваю Манечку ды на вум наводзяць:
— Будзь у нас, Манечка, вумна-разумна,
Каб цябе залвіцы ды не ашукалі,
Каб тваіх ключыкаў ды не падглядалі,
Каб тваіх куфэркаў ды не адпіралі.
Ужо не раненька і не позненька,

1467. Ужо сонейка на заходзе,
Мой татачка да на ад'ездзе.
Ох, ён едзе, едзе і прыказуе:
— Нясі, доня, злота, не скідаючы,
Цярпі, доня, гора, людзям не кажучы.
— Цярпеўшы гора — людзям сказаць трэба,
Учора звечара свёкар пабіць хацеў,
І сягоння рана насміхаецца:
— Добра біць-караць да чужое дзіця,
Што не сварыцца да не адбіваецца,
Толькі слёзкамі абліваецца
І тонкім рукаўком абціраецца.

1468. Ай, было сонца дый за лес зайшло,
Быў татка ў гасцях ды дамоў пайшоў.
Ён, адходзячы, і прыказываў:
— Жыві, дачушка, ды не старыся,
Ды пі мёд-віно, ды не п'яніся.

Ды насі сукно, не кладзі далоў,
Ды гаруй гора, не кажы людзём.
— А мой татачка, ды няпраўдачка,
П'ючы мёд-віно, так жа сп'янішся,
Носячы сукно, паложыш далоў,
Як будзе гора, дык скажаш людзём.

1469.— Пусці, свякратка, ў садок пагуляць,
Не буду тваіх вішанек шчыпаць,
А толькі адшчыпну вінаградзінку,
Пайду к татульку на параданьку:
— А парадуй, татулька, як з нялюбым жыць.
А татулька кажа: — Жыві, нараві,
Жыві, нараві, пасцельку сцялі,
Спацькі кладзіся, блізка каціся.
— Лепей, татулька, сінь камень падняць,
Як нялюбаму пасцельку паслаць.
Лепей, татулька, ў рэчку ўтапіцца,
Як к нялюбаму блізка каціцца.

1470. — Пусці, маці, ў сад пагуляці,
Бо я не буду вішні шчыпаці.
Нарву я вішні вінаградачку,
Пашлю да мамы на парадачку.
— Парадзь мне, мама, што мне рабіці,
Мне з нялюбым мужам цяжанька жыці.
— Навары, Дунька, рыбанькі з перцам,
Пасадзі за стол, назаві сэрцам.
— Лепей я буду камень рубаці,
Чым мне нялюбага сэрцам назваці.
Камень рубаўшы, сяду адпачыну,
Сэрцам назваўшы, навек загіну.

1471. Ужо на двары нязраненька,*
Скора ж мы раз'едземся.
Стань, Манечка, у канцы столу,
На цябе мы наглядзімся.
Надкосічкі маладыя,
У золата ўвіўшыся,
Стаіць Манечка ў канцы столу,
Слёзанькамі абліўшыся.
Просяць брацечкі яе

Ды ў госцікі к сабе.
— Калі ж будзеш багата жыць,
Просім у госцікі прыбыць.
А калі бяднюсенька,
Хоць зязюлькай прыляці.
А мы ж будзем цябе ждаці,
Па голасе ўзнаваці,
Як ты будзеш кукаваці.

1472. А ўжо ж позненька, ды не раненька,
Скора ж мы раз'едземся.
Стань, Настачка, у канцы століка,
Хоць жа мы наглядзімся.
Настачка стала, горда сказала,
Сільненька заплакала:
— Хоць жа я стану, хоць не стану,
З вамі я не паеду.
Хоць паеду, хоць не паеду,
Не будзе, як у мамулькі,
Не будзе, як у роднай.
У мамулькі пайду — нагуляюся,
Дамоў прыйду — высплюся.
Мамулька скажа: — Мая дачушка,
Ты ж дужа ўмарылася.
А ў свякровачкі ў полі нараблюся,
Прыйду дамоў — папраўлюся,
А свякроўка скажа: — Эй ты, негадзяй,
Ты ж дужа лянівая.

1473. Стань, Манечка, у канцы стала,
Мы на цябе нагледзімся,
Мы ад цябе ад'едзімся,
А ты тут астанешся,
К каму ты прыхінешся?
Прыхінешся ты к свякроўцы,
Ды к няроднай мамцы.
А свякроўка — не мамка,
Гаварыці не будзе. 2
Прыхінешся к свякратку,
Ды к няроднаму татку.
А свякратка — не татка,
Гаварыці не будзе. 2

1474. А стань, Нінaчка, ў канцы стола,
Мы на цябе наглядзімся,**
А тады раз'едземся.
Закрывайце ваконачкі,
Зачыняйце вароцейкі,
Каб наша сястрыца не глядзела,
З намі ехаць не хацела.

1475. Паедзем дамоў, паедзем,*
Каму мы дзевачку адкажам?
Ці к белай бярозе прывяжам,
Ці к зялёнаму дубочку,
Ці к бацькаваму сыночку?
Адкажам таму, хто ў даму,
Самаму большаму гаспадару,
Маладзенькаму Колечку.

1476. Пpыданыя ад'язджаюць,
А дзевачку пакідаюць,
Каму яны адказуюць?
Цясцятку на рукі,
А суджаньку навекі.

1477. Ужо ж мы паедзем,*
Каго мы тут пакінем?
Пакінем мы тут Манечку,
Няхай яна тут пажывець,
Парадак тут навядзець.

1478. Паедзем у двор, паедзем,
А каго ж мы тута пакінем?
Пакінем Аліну Піліпу,
Горкую асіну — Максіму,
Белую бярозу — марозу,
Маладу Любачку — Вовачку.

1479. Сядзіць Манечка са сваёй матуляй блізенька,
Яна гаворыць з роднай матуляй міленька:
— Калі паедзеш, родна матуля, дадому,

Ой, ці возьмеш мяне, маладзеньку, з сабою?
— Ой, не вазьму, маё дзіцятка, не вазьму,
Толькі твае дробныя слёзкі разлію.
— Дай ты паедзеш, мая матуля, без мяне,
Пакланіся маім суседзям ад мяне.

1480. У вароцях вярба калыхалася,
Дачка к татачку набівалася.
— А татулька ж ты мой, родненькі ж ты мой,
Вазьмі ж ты мяне зноў да сябе.
— А дзіцятка ж маё, роднае маё,
А ўзяў бы цябе зноў да сябе,
Каб ты такая, як учора, была.
А ўчора была, як роза, цвіла,
А сягоння стала, як рута, звяла,
За сталом села, як гуска, бела.

1481. Пахілілася да бярозанька да долу, да долу,
Да прасілася красна Волечка дадому, дадому.
— Да вазьмі ж мяне, мая матачка, дадому, дадому.
Я ж буду табе найвярнейшай слугою, слугою.
Я й буду табе тонка прасці, гладка шыць, гладка шыць,
Я ж буду ўсёй тваёй сямейцы наравіць, наравіць.
Да пашлеш мяне, мая матанька, па дрова, па дрова,
Я й, маладая, у аднэй кашулі гатова, гатова.
Да пашлеш мяне, мая матанька, па ваду, па ваду,
Я ж, маладая, за вядзёрачка да пайду, да пайду.
Да пашлеш мяне, мая матанька, за агнём, за агнём,
Я ж, маладая, да сюда-туда ўсё й бягом, усё й бягом.

1482. Кацілася звёздачка з неба далоўкі,
Прасілася Надзечка ў таткі дамоўкі.
— Ой, дачушка мая, да не выпіць мне вады з мора,
Ды не ўзяць мне цябе з гора.

1483. Брацітқі-саколікі па двару ўвіваюцца 2
Сястрыца за столікам слёзкамі абліваецца. 2
— Браткі мае родныя, як паедзеце дамоў,
Як паедзеце дамоў, вазьміце мяне з сабой. 2
— Сястрыца наша родная, не на то цябе аддалі, 2

Не на то цябе аддалі, каб дамоў з сабой бралі,
А на то цябе аддалі, каб за табой пагуляці. 2
Сястрыца наша родная, калі табе добра будзець,
Калі табе добра будзець, мы цябе адведаем,
Калі табе дрэнна будзець, мы зязюлечку прышлем. 2
Зязюля шэра пціца, да няродна сястрыца,
На вароцішках пала, ні шчырай праўды не сказала. 2

1484. А брацетка на коніку
У золата ўвіваецца,
А сястрыца за столікам
Слёзкамі ўмываецца, 2
У брацеткі ўпрошваецца:
— А брацетка мой родненькі,
Ды вазьмі мяне з сабой.
— А сястрыца мая родная,
Не на тое цябе аддалі,
Каб назад з сабой забралі,
А на тое цябе аддалі,
Каб за табой пагулялі.
— А брацетка мой родненькі,
Прышлі за мной перапёлачку.
— Нашто ж табе перапёлачка —
Ёсць у цябе свякровачка.
Яна раненька будзіць будзець
І часценька муштраваць будзець,
Па сялу хадзіць будзець,
Пра цябе судзіць будзець.
Калі добра табе будзець —
Я і сам праведаю.
А нядобра табе будзець —
Я зязюльку прышлю.
— Ты, зязюленька шэра,
Пакукуй сястрэ верна.
— Як я маю кукаваць —
Сястрэ жалю задаваць?

1485. Прыданыя дамоў ладзяцца,
А Манечка тут астанецца.
— А брацетка ты мой родненькі,
Як паедзеш ты дамованькі,
Ды заедзь ты ў малінн\u0456чак,

А ўлаві мне перапёлачку,
Усадзі яе ў каморачку.
Яна рана пець будзіць,
Мяне, маладу, пабуджаць будзіць.
— А сястрыца мая родная,
Нашто табе перапёлачка,
Будзіць у цябе свякровачка.
Яна рана ўставаць будзіць,
Цябе, маладу, пабуджаць будзіць.

1486. На стаенцы сівы кося гагоча,
А брат сястру пакідаць не хоча.
На стаенцы сівы кося ножкай туп.
— Аставайся, сястрыца, адна тут.
— Не кідай, братачка, не кідай,
За серабра, ці золата выкупляй.
— Як жа мне, сястрыца, цябе выкупляць,
Прыказалі ж мне бацька з маткай пакідаць.
Не жаль жа мне каня з падковай,
А жаль мне сястрыцы размовы.

1487. А прыданачкі-сястрыцы,
А вазьміце мяне з сабой,
А завіце мяне слугой.
А гдзе вы будзеце начаваць,
Там я вам буду слугаваць,
Поўныя кубачкі наліваць.

1488. — Паедзь, паедзь, мой брацетка, дамою.
— Ці я паеду, ці я не паеду — не васёл.
Прыеду на двор, гляну на кароў — адной нет.
Прыду ў сені, гляну за дзверы — куфра нет.
Прыду ў хату, гляну на сям'ю — сястрыцы нет.
Прыду ў камору, гляну на сцяну — шубы нет.

1489. Стаіць конік на стаенцы, ножкай туп,
Астаецца наша сястрыца адна тут.
Стаіць конік на стаенцы, гагочыць,
Наша сястрыца астацісяне хочыць.
Ды ўжо сонейка неранюсенька,

Ды ўжо ж мы раз'едземся.
— Ой, сядзь, сястрыца, на канцы столу,
Ой, ды хоць жа мы нагледзімся.
Прапілі скрыню маляваную,
Прапілі сястрыцу каханую.
Калі жывы будзем, скрыню набудзем,
Сястрыцы ж век не забудзем.

1490. Стаіць конік на стаенцы, рагоча,
Брат з сястрыцаю расстацца не хоча.
Стаіць конік на стаенцы, ножкай туп,
Астаецца наша сястрыца адна тут.
Прыедзем дамоў, будзе матулька пытаці:
— Сыны-саколікі, дзе вы падзелі сястрыцу?
— Ой, пала, пала наша сястрыца ў бяду,
Будзе хадзіць у ціхі Дунай па ваду.
Ой, пала, пала наша сястрыца ў гора,
Будзе хадзіць па вадзіцу ў мора.

1491. Сівы конік перад ганачкам гагочыць,
А брат сястру пакідаць не хочыць.
— Прыступ, прыступ, сівы косю, да тыну,
Ўжо ж цябе, мая сястрыца, пакіну.
Прыступ, прыступ, сівы косю, да плоту,
Наплачашся, мая сястрыца, ў ахвоту!

1492. Лятала пава па крутой гарэ,
Раняла пер'е па шаўковай траве.
Не жаль мне павы ды не пер'я яе,
А жаль мне сястрыцы на чужой старане.
Чужая старана без ветру шуміць,
Чужая мамачка не б'е, ды баліць.
Чужое дзіця не адбіваецца,
Горкімі слёзкамі абліваецца.

1493. Да не жаль нам каліны,
Што голубы аб'елі,
Да жаль нам дзеванькі,
Што сама астаецца
Без роду, без племені,

Без роднай маткі
У чужой свякраткі.

1494. Ай, лятала сіза павушка ў зялёным саду *
І раняла сізы пёрушкі ў шаўкову траву.
— Мне не жалка сіза пёрушак, шаўковай травы,
А мне жалка сястрычушкі на чужой старане.
Сядзіць яна пад акошачкам, як розавы цвет,
Плачаць яна слязёшанька, што радзінкі нет:
— Падуй-павей, буен вецер, з маей стараны,
Прыдуй-прывей, буен вецер, радзінку ка мне.

1495. — Паразганяў ветрык пер'ейка па дварэ,
Плача, дзевачка, родны брацейка па табе.
— О жаль, сястрыца, мне і табе.
Табе жаль, што цябе аддаю,
Мне жаль, што пакідаю цябе адну.
Павек цябе, сястрыца, не забыць.
А хто ж будзе рубашачку белу мыць?
Хто будзе зялён садочак весяліць?
— Брацейка іграе, а я яму прыпяю,
Зялён садочак весялю.
Кляновы лісток падае, вешаецца,
З нас мамачка стаіць ды ўсё цешаецца.

1496. Ці табе, браточак, сястрыцы не шкода?
Была сястрыца — была выгода:
Кашулька пашыта, гладка пакачана.
Гладка пакачана, у рукі падана.

1497. Разгуляўся сівы конік па полю,
Згубіў жа ён з правай ножкі падкову.
Не жаль жа нам сівога каня падкоўкі,
А жаль жа нам сваёй сястрыцы-размоўкі.
Не жаль жа нам сівога каня, што скачыць,
А жаль жа нам сваёй сястрыцы, што плачыць.
— Прыступ, прыступ, сівы косю, да ганку,
Папрашчаемся, мая сястрыца, на застанку.
Прыступ, прыступ, сівы косю, да вады,
Папрашчаемся, мая сястрыца, наўсягды.

Стаіць конік ля ганачку, гагочаць,
А брат сястры пакінуці не хочаць.

1498. А ездзілі два брацейнічкі па полю,
А згубілі сівага каня падкову.
— Не жаль жа нам сівага каня падковы,
Ой, жаль жа нам сваей сястрыцы радной.
Яна ж у нас ранюсенька ўставала,
Яна ў нас вясёлыя песні папявала.
Пойдзе па двару, як павачка, паплыве,
А выйдзе ў сенечкі, як галубка, загудзе,
А ўвойдзе ў хатачку, увесь парадак павядзе.

1499. Ой, ходзяць-блудзяць брацікі па полю,
Яны шукаюць сівога каня падкову.
— Ды не жаль жа нам сівога каня падковы,
Але жаль жа нам нашай сястрычкі-размовы.
Ды яна ж у нас паціхоньку хадзіла,
Ды яна ж у нас ўсё гатовіла.
— Ой, уставайце ды, два брацікі, раненька,
Вы палівайце ж маю рутачку часценька.
— Ой, прыехаў жа ён з вазочкам
І забраў нашу міртачку з вяночкам.
У панядзелак рана хатачка павольна,
У аўторак рана лыжачка павольна.
Маці па хаце ходзіць, слядочкі ліча,
Слядочкі ліча, слоўцы гаворыць,
Свайго дзіцяці ў акенца паглядае,
У акенца паглядае, у госцікі чакае.

1500. Ай, хадзілі ды два брацейкі па полі,
Яны шукалі сівога каня падковы,
Яны пыталі сівога каня слядочкі,
Яны шукалі сваёй сястрыцы дварочкі.
— Ай, мы коніку падкованьку падкуём,
З сваёй сястрыцай размованькі не найдзём.

1501. Гара з гарой савіваецца, божа мой, *
Сястрыца з братцам разлучаецца.

* Рэфрэн «божа мой» паўтараецца ў канцы кожнага радка.

— Лепей было не радзіціся,
Як з табой, братка, разлучыціся.
— На стаенцы сівы конічак ножкай туп,
Ты аставайся адна, сястрыца мая, тут.
Гарцаваліся яе коні па полі,
Пагубляліся залатыя падковы.
Ходзе братка, падковы жалее,
Родны братка па сястрыцы аж млее.
—Як жыў буду, падковачкі набуду,
Сваю сястрыцу ніколі не забуду.

1502. Да пабег зайка на ячнішча, на авёс,
Паехаў братка па сястрыцу — не прывёз.
Да бяжыць зайка з ячнішча скачучы,
Да едзе братка ад сястрыцы плачучы.
Да стаіць конік на стаенцы, ножкай туп,
Астаешся, мая сястрыца, адна тут.
Да стаіць конік на стаенцы, хвосцікам віль,
Астаешся, мая сястрыца, за сем міль.

1503. Да бег зайка цераз папарык да ў авёс.
Паехаў братка да па сястрыцу — не прывёз.
— Бадай ты, братка, да віном-мядом заліўся,
Як ты сястрыцы да ў чужых людзях забыўся.
— Да зачынілі маю сястрыцу ў святліцу,
А мне сказалі, што пайшла мыці дайніцу.
А зачынілі маю сястрыцу ў камору,
А мне сказалі, што пайшла даіць карову.

1504. Да пабег зайчык з вулкі на вулку ды на воз,
Паехаў братка ды па родну сястрыцу ды не прывёз.
Ды яны ж яго ды віном-мёдам спаілі,
Ды яны ж яго ды родну сястрыцу стаілі.
— Ды вы ж мяне віном-мёдам не пойце,
Вы ж мае роднае сястрыцы не тойце.
Вы ж яе таўчы-малоць застаўце,
Вы ж яе ў частыя госці пускайце.
— Яна ў нас таўчы-малоць не будзе,
Ды яна ў нас частыя госці забудзе.

1505. Ой, выйду я на вулачку,
Стану на прыгорачку
Да й гляну я і туды, й сюды.
Да што ў лузе парабляецца,
Трава з траўкай развіваецца,
Брат з сястрою раз'язджаецца.
— Да, брацейка мой родненькі,
Нас з табою адно двоечка,
Разлучаемся абоечка.
Наша поле не засеяна,
Нашы сады не засаджаны
І к нам пцічкі не прынаджаны.

1506. Старана ты мая, старонушка,
Не магу цябе пазабыцціся.
Ні ў дзень хадзя, а ні ў ночы спя.
У дзень хадзя па работачцы,
А ў ночы спя ў пасцелечцы.
Да выйду я за вароцеткі, за цісовыя,
Там трава з травой савіваецца,
Родны брат з сястрой разлучаецца.
— Ты, мой брацетка, салавеюшка,
Пажывем з табой харашэнечка.
Ні на нас палі пасяёны,
А ні на нас сады пасаджоны,
Толькі мы два ў мамкі спараджоныя.

1507. Ой, цяжка, цяжка: не поўна пляшка —
Некаму даліваці.
Аддалі сястру ў чужую сям'ю —
Некаму шкадаваці.
— Не плач, сястрыца, не плач, родная,
Мы цябе не забудзем:
Ці ў нядзелечку, ці ў другую
Піць гарэлачку будзем.

1508. У бару селязенька ды галоўку клоне,
А братка сястрыцу ды дадому просе:
— Паедзем, сястрыца, с табой дадому,
Я не загадаю дзела табою.
У мяне дзела многа, ты рабіць не будзеш.

— Не паеду, братка, не паеду, родны,
Было табе не слухаць ды жаны міленькай,
Не аддаваць мяне замуж гэткай маладзенькай.

1509. Салавей зязюльку да да бору кліча:
— Ляцім, мая зязюлька, да ляцім да бору,
Добра ж нам было кукаваць з табою.
Братка сястрыцу да дадому кліча:
— Едзьмо, мая сястрыца, едзьмо са мною,
Добра ж нам было да жыці з табою.
Была мая кашулька штонядзелю бяленька,
Была мая пасцелька штоночы мякkенька,
Цяпер мая кашулька ад слёз макрэнька.
— Едзь, братка, да адзін дадому,
Вечна разлука нам жа з табою,
Там табе кашульку жонка вымые,
Там табе пасцельку матка пасцеле.
— Жонка вымые — да бела не будзе,
Матка пасцеле — мяккая не будзе.

1510. — Сястрыца родная, паедзем дамоў,
Там твая хатачка немяцёная,
Там твая мамачка засмучоная,
Там твае лыжачкі непамытыя,
Ты ж у яе дачушка незабытая.
Сястрыца родная, не забудзь ты нас,
Як прыйдзець суботка, прыязджай да нас.
Мы будзем праз аконца часценька паглядаць,
Мы будзем, сястрыца, цябе крэпка ждаць.

1511. За лесам, лесам сыча кугыча,
Братка сястрыцу дадому кліча:
— Едзьмо, сястрыца, едзьмо дадому,
Там нас мамачка даўно чакае,
Да тваё месцечка за сталом гуляе,
Да твая лыжачка ляжыць сухая,
Да твая хатачка немяцёная,
Да твая мамачка невясёлая.
— Ёсць у мяне дома меншая сястрыца,
Яна маё месцечка засядаць будзе,

Яна маю лыжачку памываць будзе,
Яна маю мамачку развражаць будзе.

1512. Едзьма, сястрыца, да разам дадому,
Не аставайся чужой матачцы слугою.
Тваё месцейка па застоллейку гуляе,
Да твая лыжачка ляжыць сухая,
Твая матачка да па табе плача:
— Ой, да няма да майго дзіцяці, 2
Да каму ж мне да вадзіцы прымчаці?
Да толькі дарожка да туда палажона,
Да куды маё дзіця павязёна.

1513. Братка сястрыцы дабранач дае,
Дабранач дае да з сабою заве:
— А едзьма, мая сястрыца, да разам дадому,
Будзе нас маці абаіх чакаці.
Маці смачную вячэру будзе гатаваці,
Маці мяккую пасцелю будзе высцілаці.
— А едзь, мой брацетка, адзін дадому,
Да ўжо ж мне вячэру свякроўка зварыла,
Да ўжо ж мне пасцелю залоўка паслала.

1514. Братка сястрыцу да дадому кліча:
— Едзьма, мая сястрыца, да разам дадому,
Будзе наша мама да абоіх чакаці,
Смачну вячэру будзе гатаваці,
Выйдзе на вуліцу, будзе пазіраці.
— Уся мая радзіна да дадому едзе,
А майго дзіцяці з імі не відаці.
Уся мая радзіна, дзе дзіця падзелі:
Ці вы яго прапілі, ці вы яго прадалі,
Да ці вы маё дзіцятка дарам аддалі?
— Мы не прапілі, мы не прадалі,
Мы ваша дзіцятка дарам аддалі.

1515. Братка ў сястрыцы хорашанька просіць:
— Едзьма, мая сястрыца, назад дадому,
Там жа наша маці будзе нас ждаці
Да будзе вячэру нам астаўляці.

— Едзь, мой братка, да адзін дадому,
Астануся, братка, да навек я чужому.
Да навек чужому, да навек слугою,
— Да стаіць конік на стаянцы, ножкаю туп,
Заставайся, мая сястрыца, навек тут.

1516. За лесам, лесам сава кігіча,
Бацька дачушку дадому кліча:
— Едзь, мая дачушка, са мною дадому,
Я пашыю табе шубу да долу,
Буду замышляць ізноў табою.
— Едзь, мой бацюхна, адзін дадому,
Мне ў цябе, татка, не векаваці
І тваёй шубы не прычакаці.
Замышляй, бацюхна, меньшаю дачкою,
Будзе каму замышляць і тутака мною.

1517. О, у лесе, у лесе да кугай кугіча,
Братка сястрыцы да дадому кліча:
— Едзь, мая сястрыца, са мною дадому,
Добра было пасылаці да мне табою.
— Едзь, мой брацейка, да адзін дадому,
Пасылай, мой братка, з сваёю жаною,
З сваёю жаною, меншаю сястрою,
Да не будзеш пасылаці мною, маладою.

1518. Братка сястрыцу дадому кліча:
— Едзьмо, сястрыца, са мною дадому,
Будзеш, сястрыца, ты ў мяне слугою.
— Ой, не паеду ды, мой братка, з табою,
Добра будзе ўстрэцца на таргу з табою.
Добра будзе ўстрэцца да і павітацца,
Аб сваю радзіму да і папытацца: 2
— Ці здарова, братка, наша ўся сямейка,
Ці здарова мамка, татка і брацейка?

1519. А на дварэ пятух пяець, пятух пяець,
А брат сястру дамоў завець, дамоў завець:
— Брацеткародны, мне тут плаціцца,
Хату мяла — рубель знайшла, рубель знайшла,

Сені мяла — другі знайшла, другі знайшла.
— Сястрыца родная, усё адплачыцца, усё адплачыцца.

1520. Ванечка-швагрочак, ды бывай здароў,
Марыська-сястрыца, паедзем дамоў.
Там твая хатачка немяцёная,
Там твая мамачка засмучоная.
Там тває дарожкі ўсе роўныя,
Тут тває дарожкі каляністыя,
Тут тває суседкі ганарыстыя.

1521. — Ганначка, наша сястрыца,
Як ты тут астанешся?
Тут горы высокія,
Калодзезі глыбокія,
Вядзёрцы вялікія,
Твая сіла маленькая.
— Дзевачкі мае, сястрыцы,
Як я тут ды астануся?
Горы тут да паніжаюць,
Калодзезі ды памяльчаюць,
Вядзёрцы ды паменшаюць,
Мая сілка да пабольшае,
А мне жыць ды палепшае.
Я гэту зямлю прамятаць буду,
Я гэтай сям'і наравіць буду.

1522. Швагерчык-маладзец, бывай здаровы!
Дзяўчына-сястрыца, з намі дадому!
Тут табе сцежачкі невядомыя. 2
Па гэтых сцежачках блудзіць будзеш,
А цябе суседушкі судзіць будуць:
Не папытаешся — скажуць, нямая,
А папытаешся — скажуць, дурная.

1523. Брацейкі дамоў едуць,
Сястрыцу з сабой завуць.
— Брацейкі мае родныя,
Я ж тут астануся.
Я ж тут астануся —

Горачка набяруся.
Свякроўцы нагаджуся —
Ложачкі намыюся.
Залоўцы нагаджуся —
Хатачку намятуся.

*Перазвяне спяваюць, як едзе бацька дадому:*

1524. — Едзь, бацюхна, дадому,
Бяры сваю дочачку з сабою.

*Маладая:*

— Ой, не мушу, бацюхна, не мушу,
Палюбіла Раманачка, як душу.
Зраўняй, госпадзі, гору і даліну роўненька,
Прынясі майго бацюхну дадому ладненька.

1525. Ехалі прыданы дадому,
Клікалі Матрону з сабою:
— Ой, едзь, Матронка, едзь з намі,
Пашыем шубаньку з бабрамі,
Саўём вяночак з пярламі.
— Не мушу, прыдане, не мушу,
Засаладзіў мне Цімошка душу.
Ні мёдам, ні віном, да вадою,
Сваёю харошаю ўродаю.

1526. А ў полі бярозанька — залаты лісток.
А пад той бярозкай Галечка стаіць
І шчыпіць лісточак на вяночак,
А яе мамка дый дамоў завець:
— Галечка, дачушка, хадзі дамоўкі.
— Мамулечка родная, не пайду з табой:
Цёмныя лясочкі не сячоныя,
Быстрыя кладачкі не машчоныя.
Як пайду дамоўкі — утаплюся.
Я к табе, мамулечка, не вярнуся.

1527. — Паедзем, млода Марылька, ужо дамоў.
— Я ж не магу, мае дзевачкі, не магу,
Павярнулася бела бярозка з каранём—

Мне заваліла тую дарожку, што дамоў.
— Папрасі ты свайго татачку шчыранька,
Няхай найме што найлепшых кавалёў,
Няхай наробяць што найвастрэйшых тапароў,
Няхай рассякуць тую бярозку з каранём,
Няхай расчысцяць тую дарожку, што дамоў.

1528. — Не абіжайцеся, брацейкі,
Што я вас сягоння пакіну
І з вамі дамоў не паеду.
Не будзе хатачка мяцёна,
Не будзе пасцелька сцялёна,
Не будзе вячэрка зварона.
— Шчаслівай пуці, сястрыца,
Хатачку падмяцём мы самі,
Пасцельку прыбяром мы самі,
Вячэрку згатовім мы самі.

1529. Зіму-лета сасоначка зялёна.
Аставайся, наша сястрыца, здарова.
Зіму-лета сасонка лахмата.
Аставайся, наша сястрыца, багата.
Зіму-лета сасоначка зелянеіць,
Асталася сястрыца плачучы, аж млеіць.
Не плач, не плач, наша сястрыца, ні па чом,
Сядзіць у цябе твой жалоснічак за плячом:
Ён за цябе дроў-вадзіцы прынясець,
Ён за цябе хату-сені падмяцець,
Мажа, не раз і ў галоўку натаўчэць.

1530. Ой, ёлачка зіму і лета куната,
Калі будзеш, малада Ніначка, багата,
Адведае твая радзінка, дзе хата,
Калі будзеш, малада Ніначка, бедна жыць,
Наўкола цябе твая радзінка абяжыць.
Будзеш бегчы к роднай мамачцы вечарком,
Будуць ліцца дробныя слёзкі ручайком,
Будзе мамачка на ганачку пытацца:
— А што, дзіцятка, ці будзеш замуж хватацца?
Ты ў мяне была, як макаўка, цвіцела,
Замужам стала, як моркаўка, завяла.

Ты ў мяне была — куды хацела ляцела,
У Васількі станеш — нідзе не пойдзеш без дзела.

1531. Зіму-лета ёлка-сасонка зялёна,
Аставайся, наша сястрыца, здарова.
Зіму-лета ёлка-сасонка шуміць,
Аставайся, наша сястрыца, тут жыць.
Зіму-лета ёлка-сасонка бухмата,
Аставайся, наша сястрыца, багата.
Калі будзеш наша сястрыца багата,
Будзе ведаць уся радзінка, дзе хата.
Калі будзеш, наша сястрыца, гараваць,
Будзець цябе ўся радзінка забываць.

1532. Бяроза з лістом развіваецца,
Надзька з родам распрашчаецца.
— Ой, родзе, родзе, родзе мой багаты,
Родзе мой вялікі, не забывай ты мяне.
— Калі добра будзе, то мы тут пабудзем,
А калі якаво — праз людзі чуваці.
— Ой, не дай жа, божа, праз людзі чуваці,
Дай жа, божа, вам самім тут бываці.

1533. У лузе калінка развіваецца,
Радзімка ў дарожку сабіраецца,
Ганначка і радзімкі просе:
— Прашу цябе, радзіма, не забывайся,
Не забывайся, часта даведайся.
— Калі будзеш багата, будзем заязджаці,
Калі будзеш бедна, будзем выракацца.
— Госцейкі мае, міленькіе мае,
Буду чакаці, буду дажыдаці,
У новым ганачку буду стаяці.
Мёд-віно піце, пад сталом не ліце,
Мяне, маладзенькую, часта любіце.
Няма ў мяне мамкі, я кругом сіротка,
Ні ў мяне мамачкі, ні ў мяне татачкі,
Няма каму парадзіць мне парадачкі.

1534. Прасі, Люсечка, свайго татачку шчырэнька,
А каб адведваў цябе, маладу, часценька.

— А калі будзеш, маё дзіцятка, добра жыць,
Тады буду да цябе ў госці прыходзіць.
А калі будзеш, мая дачушка, гараваць,
Тады буду твае варотцы абмінаць.
Гаруй, гаруй, мая дачушка, не кайся,
Прыйдзеш да мяне ў госці, не жалься.

1535. А рэчачка, із рэчачкай сучыся,
А Валечка, часта ў госці прасіся.
Як не будзеш часта ў госці хадзіці —
Тады будзеш па дарожках блудзіці.
Твае дарожкі ўсе травою зарастуць,
А сцежачкі усе пылам западуць.
Ды зарастуць зялёненькай ялінкаю,
Ды завіснуць чырвоненькай калінкаю.
Ты, не топчучы зялёненькай ялінкі
Ды не ломячы чырвоненькай калінкі,—
Лужком, беражком, ды ўсё к нам.

1536. А шэры конь на стаенцы гагочыць,
Татка з дачушкай расставаціся не хочыць.
— Прыхадзі, дачушка, у госці часцей.
— Не ў тыя [redacted] ручанькі папала,
Штоб часценька ў госці прыязджала.

1537. Не плач, дзевачка, да не тужы,
Перабудзь дзянёчак, к нам прыбяжы,
Хацця наша падвор'е да патапчы,
Хацця нашу сям'ейку да развесялі,
Бо наша падвор'е скрамянела,
Наша сямейка смурнела.

1538. Ужо паедзем горы-даліны раўнаваць,
Пакінем цябе, Зоечка, гараваць.
Гаруй, гаруй, наша Зоечка, не кайся,
Як прыйдзеш к нам у госцікі, не жалься.
Гаруй, гаруй, наша Зоечка, не тужы,
Як прыйдзеш к нам у госцікі, не кажы,
Сваёй мамачцы лісточак напішы.
Будзе тваё гора ўсё знаці.

Мамачка будзе лісток чытаці,
Калі будзеш, Зоечка, багата,
Будзе радзінка ведаць, дзе хата,
А як будзеш, Зоечка, гараваць,
Будзе радзінка твае вароты абмінаць.

1539. Паедзем горы-даліны раўнаваці,
Кінем сваю дачушку гараваці.
— Гаруй, гаруй, дачушка, не кайся,
А прыедзеш к татулечку, не ганься.
А пусцяць цябе па новых сенях хадзіць,
Якому татулечку шчырэй:
Ці таму татулечку, у каго жыла,
Ці таму татулечку, к якому прыйшла?
У гэтага татулечкі трэба пажываць,
І татулечку, і мамулечку трэба паважаць.
Трэба раненька ўставаць,
Каморачкі-хаткі вымятаць,
Трэба шумку к парогу падмятаць
І ножкамі прытаптаць, і слёзкамі прыліваць.

1540. Прыданачкі, мае галачкі, едзьце дамоў,
Пакланіцеся маёй мамачцы нізка да ног,
Што яна мяне, маленькую, гадавала,
Сорак ночак цямнюсенькіх не спала,
Сорак свечак яснюсенькіх спаліла,
Пакуль мяне, маладзенькую, зрасціла,
А зрасціўшы, да работачкі прыўчыла,
Прывучыўшы, у чужыя людзі пусціла.
У чужыя людзі, у чужую старану
Гараваць мяне, бедную, адну.

1541. Як паедзеце, мае сястрыцы, дадому,
Завязіце маёй мамачцы ўклону.
Няхай яна мяне на акенечку запіша,
Як будзе ў акенечка паглядаць,
Тады будзе мяне, маладую, ўспамінаць.
Як паедзеце, мае сястрыцы, дадому,
Завязіце майму папачку ўклону.
Няхай мяне на вароцейках запіша,
Як будзе праз вароцейкі выглядаць,
Тады будзе мяне, маладую, успамінаць.

Як паедзеце, мае сястрыцы, дадому,
Завязіце майму братачку ўклону.
Няхай мяне на вядзерачку запіша,
Як будзе ў вядзерачка ваду браць,
Тады будзе мяне, маладую, успамінаць.

1542. Затужылі-забедавалі прыданкі: *
— З чым прыедзім, што прывязём да мамкі?
Яна ж будзіць у нас скоранька пытаці:
— А дзе дзелі, дзе падзелі дзіцяцю?
Ці вы яе у шчырых барах згубілі,
Ці вы яе ў салодкім мяду прапілі.

1543. Прыданачкі, а што ж мы будзем казаці,
А як пярэйміць сярод поля мамулька?
А яна ж будзець мілюсенька пытацца:
— А дзе кінулі маю Галечку?
А ці вы яе за гарэлачку прапілі,
А ці вы яе на мядочку праелі?
— А мы яе за гарэлачку не прапілі,
А мы яе за мядочак не праелі,
Мы яе Сашачку аставілі.

1544. А мы паедзем лугам-берагам-трапою, *
А мы павязём бутылачку з красою.
А будзіць жа нас наша мамачка пераймаць,
А будзе ж яна ў нас пытаць:
— А дзе ж вы маю дачушачку падзелі?
Да ці вы яе ў карты на мільёны прайгралі,
Да ці вы яе маладому Іванечку аддалі?

1545. А паедзем дамовачкі, паедзем *.
Чым жа мы сваю мамачку пацешым?
А паедзем дамовачкі зарою,
А пацешым сваю мамачку слязою.
Нам здаецца, нямножачка тут былі,
А мы сваю сяструлечку прапілі.
Нам здаецца, нямножачка гулялі,
А мы сваю сястрыцу аддалі.

1546. — Маладая дзевачка,
Мы дамоў ад'язджаем,
Цябе тут пакідаем.
Што ж ты нам за дар дасі,
Роднай мамцы за падарак:
Ці піражок бялюсенькі,
Ці сагнэцік яснюсенькі?
— Сваціцы, мае сястрыцы,
Мой піражок неўпячоны,
А сагнэцік зашлюбёны.

1547. Валечка-сястрыца, 2
Пашлі мамцы гасцінца:
Ці з галоўкі вяночак, 2
Ці жалосны паклончык.

1548. Ой, мой бацёнька родны,
Выбірайся дадому,
Не рабі мне дагону.
Будуць мяне даганяці
І ўвесь век наракаці,
Што згубіла нам хату
Вялікаю дружынаю,
Усёй сваёй радзінаю.

1549. Да хадзіла паванька па полю,
Да ганіла пташачкі ў дуброву.
— У дуброву, пташачкі, у дуброву,
Да не рабіце шкоданькі нікому.
Нямнога, паванька, пабылі,
Дай буйную пшанічку пабілі.
Да хадзіла Алёнка па двару,
Адпраўляла госцікі дадому.
— Дадому, госцікі, дадому,
Да не заязджайце, госцікі, ні к кому,
Толькі заедзьце к аднаму,
К майму бацьку роднаму.
У маго бацька двор вялікі, агарод шырокі.
У агародзе — атаванька, на дварэ — канаванька.
На дварэ будзем конікі пасціці,
У канаве будзем конікі паіці,
На шырокім дварэ будзем гуляці.

1550. Парадзьцеся, парадзьцеся, брацеткі,
Што будзем з сваёй сястрыцай рабіць:
Ці тут пакінем, ці з сабой возьмем, брацеткі?
Тут пакінуўшы, нашаму сэрцу жаль будзець,
З сабой узяўшы, няславачка нам будзець.
Тут пакінуўшы, будзець матулька бедаваць,
А з сабой узяўшы, будзець Колечка бедаваць.

1551. Сабірайцеся, дробныя пташкі, да бору,
Сабірайцеся, наша радзінка, да столу,
Будзем радзіцца, што нам з сястрыцай рабіць:
Ці мы яе да хатачкі павязём,
Ці мы яе швагру на рукі аддадзём?
Павязём дадому — будзець людская гаворка,
Пакінем тутака — будзець бедная яе галоўка.

1552. Да, божа мой міласэрненькі,
Браточак ад'язджае, 2
Мяне, маладу, як ту ягаду,
Ў чужыне пакідае. 2
Як я ўздумаю сваго брацейку,
То на сэрданьку трудна.
Да, божа мой міласэрненькі...

*Далей таксама да сястрыцы.*

1553. А ўжо ж мы паедземо,
Цябе, Ганулька, пакінемо
На чужой староначцы,
На людской абмованцы.
Твае слядочкі драбненькія
Пераступлены будуць,
Твая работка харошая
Перароблена будзе,
Твая мованька ціхенькая
Перамоўлена будзе.

1554. У садочку два дубочкі зрасліся,
Маладой Волькі два брацеткі нашліся.
Як пілі-елі-гулялі,

Тады на Вольку не дбалі,
А як сталі ад'язджаці,
Сталі па Вольцы бедаваць.
— Бядуй, бядуй, малада Волечка, як там жыць,
Цяжка будзе тваёй мамачцы ўгадзіць.
А як выйдзе на вуліцу, абсудзіць,
Што нічога з маёй нявесткі не будзе.
Сонца не зойдзе — нявестка спаць ляжа,
Сонца ўзойдзе — нявестачка яшчэ спіць,
Няма каму нявестачку пабудзіць.
Пабудзіла б свякровачка, не смее,
Пабудзіў бы яе Іванечка, жалее.

1555. Мы паедзем, мая Ганначка, дамоўкі,
Цябе пакінем не ў роднай мамкі, свякроўкі.
Ты станеш, наша Ганначка, тут жыці,
Ты ж навучайся сваёй свякроўцы гадзіці.
Ты свякроўцы мякка пасцельку пасцялі,
Свякроўку матулькай назаві.
Свякроўка матулькай не будзець,
Яна цябе ранюсенька пабудзіць.
Яна табе работачкі не ўкажыць,
Выйшаўшы на вулачку, абславіць.

1556. Ой, ужо мы паедземо,
Цябе, маладу, пакінемо:
Трэба табе рана ўстаці
І свякрухі запытаці,
Што на ранячка згатаваці:
Чы курацiну, чы гусяціну,
Чы беленькую лебядзіну.

1557. Маладая Марысенька
Сваіх бацькоў жагнала,
Дробнымі слёзанькамі
Ручанькі аблівала.
Абліваючы слёзанькамі,
За то дзенькавала,
Што яе гадавалі,
Усеньку бяду пазналі.
Яшчэ тое ўчынілі,

Што з Ясенькам зашлюбілі.
— Цяпер жа я, мой ойчанька,
Нічога не баюся,
Бо я за сваім Ясюленькам,
Як за мурам, харанюся.
Пакланіся, мой ойчанька,
Маім сёстрам і брацця м,
Раскажы ім, раскажы ім
Аб Ясенькавай хаце.
Не кажы ім, мой ойчаньку,
Што буду гараваці,
Да паведзь ім, мой родненькі,
Што буду панаваці.
Няхай мая сястра і браток
Сваіх слёзак не трацяць.
Скажыце ім, мой ойчаньку,
Жэ ў нядзелю забачаць.
— Аставайся, маё дзіця,
З панам богам найвышшым,
З сваім свёкрам, свякрухнаю
І з Ясенькам наймільшым.
Не старайся, маё дзіця,
Каб ты нас засмуціла,
Не едзь, не едзь ты да нас
З смутненькімі ачкамі,
Да прыязджай, маё дзіця,
З добрымі навінамі.

1558. Дадому, пяразванне, дадому,
Да з вамі Гэлечка не паедзець,
Да з вамі дзевачка не паедзець:
Хлопчычак вулачку перагарадзіў — 2
Пакапаў канавы глыбока, 2
Паклаў жэрдачкі й высока, 2
Да дзевачцы дадому далёка.

1559. Зашумела зялёная дуброва,
Заставайся ты, мая маценька, здарова.
Зашумела зялёная ляшчына,
Раз'язджаецца ўся Манечкіна радзіна.
Зашумелі зялёныя дубочкі,
Раз'язджаюцца ўсе Манечкіны сваточкі.

1560. Пасеялі пшанічаньку па цаліне,
Пакінулі дзевачку на чужыне.
Няхай наша пшанічанька выходзіць,
Няхай наша дзіцятка тут ходзіць.
Няхай наша пшанічанька буяе,
Няхай наша Ніначка тут гуляе.

1561. Пад сталом калюжка,
Й то стала падружка.
Пад сталом другая,
Асталася да маладая.

1562. Закукавала зязюленька ў дубіне,
Пакінулі дзеваньку ў чужыне.
Закукавала зязюленька ў жыце,
Пакінулі дзеваньку тут жыці.
Закукавала зязюленька на кручку,
Да падзякуй, зяць, цешчы за дачку.
Закукавала зязюленька на карыце,
Перастаньце, суседачкі, гаварыці.
Закукавала зязюленька на хаці,
Перастáньце, варожкі, брахаці.

1563. Бывайце здаровы, жывіце багата,
А мы ад'язджаем дадому-дахаты.
Хай вам, маладым, аспадарка вядзецца,
Хай на патэльні штодзень скварка скварэцца.
Жывіце багата, бывайце здаровы,
Няхай вам радзяцца дзеткі на годзі па двое.
У цёмнай дуброве мы начаваць будзем,
І вашай ласкі навек не забудзем.

1564. Крыкнулі гусачкі,
З мора злятаючы:
— Ці ўсе ж мы сабраліся,
Што ў моры купаліся?

Гусачка аказалася:
— Я адна тут асталася.
Запелі прыданачкі,
З двара з'язджаючы:
— Ці ўсе ж мы сабраліся,
Што за стол саджаліся?
Валечка аказалася:
— Я адна тут асталася.

1565. Ой, паляцелі ўсе гусанькі
На жыр жыраваці.
Ой, пакінулі адну гусаньку
Удома зімаваці.
Ой, паехалі ўсе сватове
Дадому дамаваці.
Ой, пакінулі адну Ганульку
У свёкра гараваці.

1566. Шумела ялінка на захад сонца,
Плакала маладая, глядзя ў ваконца.
— Дзе мае прыданкі, дзе падзеліся?
Каб пер'е цяцер'е, ■ б паляцела.
Каб мне рыб'е вочкі, я б утанула,
Я б сваю радзінку ўсю назад вярнула.

1567. Марусіна маці
Прылягла к дарозе:
— Ці стогнець дарога,
Ці шуміць дуброва,
Ці едуць госцейкі,
Ці ўсе весяленькі?
Усе госці весяленькі,
Толькі дзіця не абазвалося,
Ды пець засталося
Ці за лесам высокім,
Ці за гаем шырокім.

л. 38, 1977, в. Барбарова Глускага р.; воп. 78, спр. 145, сш. 5, л. 52, № 114, 1978, в. Морына Іўеўскага р.; воп. 83, спр. 216, сш. 1, л. 50, 1983, в. Малышы Лідскага р.; ф. 13, воп. 10, спр. 50, сш. 12, л. 4, № 7, в. Дудчына Расонскага р. Н. р.:

На аднэй талерцы белы сыр елі...
Адзін кусочак яны кусалі,
У адзін слядочак яны ступалі,
Адну мамачку яны назвалі;

спр. 40, сш. 55, л. 4, № 8, 1952, в. Пугачы Радашковіцкага р.; спр. 40в, сш. 82, л. 1, № 2, в. Крыўкі Пліскага р.; спр. 46, сш. 16, л. 7, № 13, в. Валодзькі Докшыцкага р.; спр. 34, сш. 9, л. 1—2, № 2, 1951, в. Малявічы Ільянскага р. Н. р.:

Аднэй крошкай падзяліліся,
Адно аднаму спадабаліся;

спр. 64, сш. 33, л. 3, в. Таль Любанскага р. Н. р.:

Былі яны маладзенькія да таму радзенькія;

спр. 75, сш. 14, л. 1, 1973, в. Гірбінята Валожынскага р. Н. р.:

Елі кашку з аднэй місачкі;

спр. 23, сш. 7, л. 8, 1967, в. Калюжыца Бярэзінскага р. Н. р.:

На адну падушку, пад адну дзяружку;

спр. 67, сш. 21, л. 1, 1963, в. Лужаны Дзяржынскага р.; спр. 82, сш. 52, л. 3, 1974, в. Лахаўка Лунінецкага р. Як пасадзяць каля жаніха нявесту. Н. р.:

Елі яны пірагі з аднае сквародкі;

спр. 65, сш. 25, л. 2, № 4, в. Восава Мядзельскага р. Н. р.:

Ядуць пірагі з адной пшаніцы;

спр. 29, сш. 14, л. 20, № 17, 1967, в. Вялікія Арлы Столінскага р.; спр. 73, сш. 3, л. 10, 1973, в. Дойнічава Бабруйскага р.; спр. 80, сш. 20, № 14, 1974, в. Залессе Гродзенскага р.; Прозвицкая, с. 158, Сібір; Павлова, с. 78—80, № 62, Смаленская вобл.; Шырма, с. 282, № 270, в. Сальнікі Горацкага р.; с. 306, № 295, в. Замошша Слуцкага р.; с. 312, № 301, в. Заборцы Глыбоцкага р.; Federowski, с. 401, № 831, каля Ляхавіч і Клецка ў Слуцкім п.; с. 408, № 856, в. Гацішчы каля Сталовіч у Навагрудскім п.; с. 489, № 1179, каля Моўчадзі ў Навагрудскім п.; Карский, с. 129—130, № 8, в. Беразавец Навагрудскага п.; Людоговский, с. 3, Дарагабужскі п.; Розенфельд, с. 56, № 86, в. Слабада Мінскага п.; Гильтебрандт, с. 272—273, в. Мастаўляны Гродзенскага п.; Добровольский, с. 74, № 147, в. Данькава Смаленскага п.; И. К., № 31, л. 3, № 2, Слабадская вол. Нова-Аляксандраўскага п.; Гілевіч, 1974, с. 391, в. Ходараў Слаўгарадскага р.; Митропольская, с. 68, № 51, в. Букінінкяй Свянцянскага р.

**759. Дзе быў саколец, дзе была зязулька**

Материалы, 1, с. 178, в. Свішчы Пружанскага п. Уваходзяць у хату і пяюць «нявінным».

**760. Дзе ж быў селязень, дзе ж была ўтка?**

Чубинский, с. 176—177, № 342, в. Мокішын Чарнігаўскага п.

**761. А й дзе была вутачка, а й дзе быў селязень**

БДУ, папка 10, сш. 3, л. 17—28. Зап. Т. С. Сербантовіч у в. Ордаць Шклоўскага р. ад Н. С. Сікорынай, 1912 г. н.

**762. Во й рана, рана да й позыра**

Шлюбскі, с. 174, № 398, 1918, в. Крутое Веліжскага п.

## ПРЫДАНЫЯ

**763. А сваточкі-галубочкі, што я скажу вам**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, спр. 101, сш. 1, л. 10. Зап. Л. А. Малаш у 1975 г. у в. Фір'янова Докшыцкага р. ад Ю. І. Русаковіч, 63 г.

**764. А божа мой мілюсенькі, ухці мне**

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 86, сш. 40а, л. 18. Зап. В. В. Карабіновіч у 1972 г. у в. Полава Пастаўскага р. ад Г. В. Мядзюх, 64 г.

Вар.: ЦНБ АН ЛітССР, ф. 124, 1930, л. 24, в. Вялец Дзісенскага п.

**765. А ўчора вячора шкода стала**

Романов, 1—2, с. 464, № 130, Сенненскі п.

**766. А ўкрадзёначка наша дзевачка**

АІМЭФ, ф. 13, воп. 6, спр. 7, сш. 2, л. 5, № 15. Зап. А. А. Крывіцкая ў в. Міхалоў Бялыніцкага р. ад І. В. Ганаковэй.

**767. Адпраўляла нас маці**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 80, спр. 179, сш. 4, л. 36. Зап. К. П. Кабашнікаў у 1980 г. у в. Пятровічы Светлагорскага р. ад Г. Ф. Русіновіч.

**768. Ой, мы сядземо да паабедаймо**

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 92. Зап. у 1981 г. у в. Нарэшавічы Клецкага р. ад Г. Ф. Шастак, 74 г.

Вар.: Federowski, с. 470, № 1100, каля Моўчадзі ў Навагрудскім п. Як сядзяць у маці прыданкі за сталом. У аўторак ранкам. Пасля другога радка:

Тае пташкі да лятучае,
Што ўчора паляцела,
З намі жыці да не захацела.

**769. Сядзьмо ж мы, паабедаймо**

БДУ, папка 5, сш. 5, л. 6. Зап. Л. А. Круглая, З. У. Кулеш у в. Семежава Капыльскага р. ад А. С. Манак, 78 г.

### 770. Снедайце-абедайце, з'ездзіце — праведайце

Шлюбскі, с. 194, № 473, 1923, в. Чанавічы Віцебскага п.

### 771. Да памолімся богу

ГДУ. Зап. Г. А. Трусава ў 1983 г. у в. Партызанская Хойніцкага р. ад М. К. Самара, 48 г.

### 772. А ўся ж наша радзіначка ў доме

АІМЭФ, ф. 8, воп. 86, спр. 230. Зап. А. В. Цітавец у 1986 г. у в. Селішча Крупскага р. ад Г. С. Цітавец, 70 г.

### 773. Адступіцеся, варогі

ГДУ. Зап. у в. Піркі Брагінскага р. ад М. Д. Пугач, 63 г., А. Е. Пугач, 61 г.

### 774. А ўчора звячора перапёлка зляцела

РГТ, ф. 53, воп. 1, № 110, л. 59—60.

Вар.: АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 83, сш. 5, л. 29, 1963, в. Амаліня Смаргонскага р. Н. р.:

Да прыслала нас мацi
Паглядзець, дзе начавала дзіцяці...
Пад зялёным дыванцом
Ды з харошым малайцом;

АФК, ф. 10, воп. 15, спр. 77, 1877, в. Веляўшчына Лепельскага р. Н. р.:

Прыданачкі не ведалі, ў хлеў заехалі,
Быку руку далі, у цяляці папыталі;

Гілевіч, 1979, с. 505, в. Кублічы Ушацкага р.; с. 543, Пухавіцкі р. Мел. на вар. Т. Б. Варфаламеевай.

### 775. А ўчора звячора, а ўчора звячора

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 91, сш. 1, л. 25. Зап. К. П. Кабашнікаў у 1964 г. у в. Гаршчэўшчына Талачынскага р. ад А. А. Грунтовай, 51 г.

Вар.: воп. 74, спр. 88, сш. 1, л. 14, № 10, 1974, в. Абчуга Крупскага р. Як маладую адвязуць, то за ей едуць і спяваюць; воп. 77, спр. 143, сш. 1, № 12, 1977, в. Сіманавічы Глускага р.; АФК, ф. 10, воп. 15, спр. 77, л. 187, 1977, в. Вымна Віцебскага р.; Иванов, с. 288, Віцебскі п. Паязджане ў двара маладога; Гілевіч, 1979, с. 513—514, г. п. Бор.

### 776. А ўчора звячора

Гілевіч, 1979, с. 543, Пухавіцкі р.

### 777. А ўчора звячора

АІМЭФ, ф. 2, воп. 7, спр. 10, л. 19. Зап. Г. К. Антонаў у 1964 г. у в. Козіна Гарадоцкага р. ад М. З. Грыгор'евай, 67 г.

### 778. Ні вецер не вее, ды вароты рыпяць

ГДУ. Зап. С. І. Каспяровіч у 1979 г. у в. Дудзічы Калінкавіцкага р. ад Г. В. Чопік, 1904 г. н.

Вар.: в. Красная Горка Брагінскага р.; в. Барбароў Мазырскага р.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 80, спр. 178, сш. 4, л. 91, 1980 г., в. Яланы Светлагорскага р. Н. р.:

Да марозу няма і вароты скрыпяць...
Да вазьмі ж, мой татка, да к сабе назад,
Да я табе буду вернаю слугою.

### 779. Снегам, кунанька, снегам

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 88, сш. 60. Зап. Н. В. Ярашэвіч у 1970 г. у в. Церабяжоў Брэсцкай вобл.

Вар.: K o l b e r g, с. 226, № 76, в. Баравая, Пагост каля Любяшова ў Пінскім п. Свахі ў маладога. Н. р.:

З усею радзінаю за сваею дзяцінаю.

### 780. Ехалі прыданыя

АІМЭФ, ф. 2, воп. 7, спр. 9, сш. 3, л. 15. Зап. Г. К. Антонаў у 1963 г. у Пружанскім р.

Вар.: ГДУ, 1982, г. Гомель; Г і л е в і ч, 1979, с. 512, в. Кублічы Ушацкага р.; Ш е й н, 1, с. 32, № 39, в. Воранава Віцебскага п.; с. 25, № 20, там жа. Пасля чацвёртага радка:

Хоць сінія плацця, а ўсе наша брацця.

### 781. Прыданае-выбіранае

Д е м б о в е ц к и й, с. 575, № 266, Магілёўскі п.

Вар.: M o s z y ń s k i, с. 296, № 830, в. Галубіца Мазырскага п.; ГДУ, в. Казлы Ельскага р. Н. р.:

А калёсы купаваныя;

Ш е й н, 1, с. 315, № 47, в. Дварэц Рагачоўскага п.

### 782. Прыданыя-выбіраныя

БДУ. Зап. Ж. Пузікава ў в. Клётчына Шумілінскага р. ад Я. К. Пузікавай, 85 г.

Вар.: РГТ, ф. 53, воп. 1, спр. 110, л. 61а, № 1; Ш е й н, с. 353, № 660, м. Чашнікі Лепельскага п. На пераэоўках, калі госці ўязджаюць у двор; АІМЭФ, ф. 8, воп. 76, спр. 120, сш. 2, л. 4, 1976, в. Камень Лепельскага р.; воп. 77, спр. 136, сш. 1, л. 11, 1977, в. Дзербін Акцябрскага р. Н. р.:

У пучочкі вязалі, на дарогу кідалі;

Г і л е в і ч, 1979, с. 511, в. Ладасна Лепельскага р.; Киев. телеграф, с. 84, Бабруйскі п.

### 783. А ў лозе пры дарозе

АІМЭФ, ф. 13, воп. 8, спр. 5, сш. 4, л. 2. Зап. В. Ф. Дунец у 1961 г. у в. Рубеж Бешанковіцкага р. ад У. Баталка.

### 784. Да наехалі прыданы

Материалы, 2, с. 52—53, Кобрынскі п.
Вар.: Захарава, 1984, с. 275, в. Дружылавічы Іванаўскага р.

### 785. Паедзем светам, светам

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 51, сш. 4, л. 10. Зап. Г. Шустоўскі ў 1972 г. у в. Беразіно Докшыцкага р. ад А. Р. Шустоўскай.
Вар.: БДУ, папка 1, сш. 36, л. 2, в. Жардэяжжа Лагойскага р.

### 786. Ой, едземо, едзем

АІМЭФ, ф. 8, воп. 83, спр. 212, сш. 2, л. 11. Зап. Т. К. Цяпкова ў 1983 г. у г. п. Тураў Жыткавіцкага р. ад М. В. Дрынеўскай, Е. С. Чорнай.
Вар.: спр. 209, л. 77, 1983, в. Лучыцы Петрыкаўскага р.

### 787. Ой, ехалі мы дарогаю

АІМЭФ, ф. 8, воп. 83, спр. 213, сш. 2, л. 20. Зап. Л. М. Салавей у 1983 г. у в. Залюцічы Жыткавіцкага р. Ад групы жанчын.

### 788. Ехалі мы, ехалі

АІМЭФ, ф. 8, воп. 76, спр. 123, сш. 2, № 16. Зап. Л. М. Салавей у 1976 г. у в. Варонічы Полацкага р. ад В. П. Бялевіч, 61 г.

### 789. Да ехалі ж мы тым следам

Довнар-Запольский, с. 29, № 227, м. Краі Пінскага п.
Вар.: Захарава, с. 130, на Палессі.

### 790. Гдзе ж наша галубачка

Zienkiewicz, с. 131—132, № 56, Пінскі п. Бацькі маладой і госці на пярэзвах у маладога. Спяваюць за сталом.
Вар.: Захарава, 1984, с. 278, в. Дружылавічы Іванаўскага р.

### 791. І дзе наша лябёдачка

АІМЭФ, ф. 8, воп. 76, спр. 117, сш. 3, л. 84—85. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1976 г. у в. Стаі Лепельскага р. ад Т. С. Быкавай, 65 г.
Вар.: ф. 13, воп. 10, спр. 23, сш. 7, л. 4, 1967, в. Колюж Бярэзінскага р. Н. р.:

Ці ў карчомачку схавалі,
Ці ў галовачку надалі?

ЦНБ АН ЛітССР, ф. 124, № 53, 1930, в. Вялец Дзісенскага п. Н. р.:

Чаго ж за намі нашы мужчыначкі паедуць?
Нашу сястрыцу на маладзіцу павернуць;

БДУ, папка 9, сш. 34, л. 6, в. Андрэйчыкі Ушацкага р.

### 792. Ой, едзьма, едзем

ГДУ. Зап. Л. М. Пазнякова ў 1977 г. у в. Чырвонабярэжжа Лельчыцкага р. ад Н. С. Малец, 65 г.

Вар.: 1981, пас. Чырвоная Ніва Брагінскага р.; в. Засінцы Ельскага р.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 73, спр. 69, сш. 2, л. 67, 1973, в. Іскань Быхаўскага р. Н. р.:

Спазналі мы сваю Тонечку на даліне, 2
А ў пана, у свата на двара; 2

Киев. телеграф, с. 84, Бабруйскі п. Прыданкі вязуць кубел маладой да маладога. Н. р.:

Цэлаю ступою за русаю касою.

### 793. Мы ехалі борам

БДУ, папка 9, сш. 41, л. 10. Зап. А. Панкратава ў в. Пушкары Сенненскага р. ад М. П. Пушкаровай, 1902 г. н.

### 794. А чые-то прыданачкі блудзілі

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 82, сш. 58, л. 1. Зап. Л. В. Клеўжыц у 1974 г. у в. Лахаўка Лунінецкага р. ад І. С. Барышынай, 60 г. У нядзелю рана, калі жаніхоў бацька заве ўсю радню маладой у госці. Усе ідуць з падарункамі і нясуць маладой снеданне.

Вар.: спр. 56, сш. 5, л. 1а, № 4, 1966, в. Малыя Чучавічы Лунінецкага р.; спр. 77, сш. 37, л. 3а, № 5, в. Малыя Кашэўнікі Маладзечанскага р. Н. р.:

Ой, сюды-туды прыданачкі блудзілі,
Дзе дарог многа, яны ў кожную хадзілі;

спр. 82, сш. 56а, № 12—13, 1974, в. Новы Гарадзец Талачынскага р.; спр. 60, сш. 1, л. 65, № 154, 1956, в. Барысаўка Гайнаўскага п.; спр. 35а, сш. 10, л. 23, № 28, 1965, в. Уланава Слуцкага р.; ф. 8, воп. 73, спр. 67, сш. 1, л. 39, 1973, в. Цялуша Бабруйскага р.; спр. 69, сш. 3, л. 23, № 16, 1973, Кіраўскі р.; воп. 7, спр. 116, сш. 4, л. 25, 1976, в. Арэшніцы і Морач Клецкага р.; спр. 117, сш. 3, л. 84, 1976, в. Стаі Лепельскага р.; воп. 74, спр. 88, сш. 1, л. 13, № 9, 1974, в. Абчуга Крупскага р. Едуць вячэрнікі і вязуць скрыню з пасагам да маладога; воп. 77, спр. 130, сш. 3, л. 47, 1977, в. Вялікі Рожан Салігорскага р.; воп. 75, спр. 96, сш. 1, л. 61, № 44, 1975, в. Волма Мінскага р.; спр. 96, сш. 2, л. 15, № 10, 1975, в. Клінок Чэрвеньскага р.; спр. 97, сш. 2, л. 52, 1975, в. Крычын Старадарожскага р. Н. р.:

Пакажы нам хатачку, дзе мёд п'юць,
Пакажы нам свацечку, дзе нас ждуць;

спр. 100, сш. 2, л. 93, 1975, в. Нівы Бярозаўскага р.; воп. 2, спр. 52а, л. 27, № 31, 1972, в. Таўкачэвічы Уздзенскага р. Н. р.:

Да сюды ваша пакрэўная везена,
За правую ручку ў святлічаньку ведзена;

Шейн, 1, с. 204, № 8, Слуцкі п.; Шейн, 3, с. 466, в. Дубеі Слуцкага п. Прыданыя вязуць кубел; Шырма, с. 320, № 309, 1932, в. Шакуны Пружанскага п. Прыданыя; Дмитриев, с. 308, в. Лаўрышава Навагрудскага п. Вязуць кубел маладой, і прыданкі спяваюць; Federowski, с. 395, № 806, каля Дзяховіч і Клецка ў Слуцкім п. Як едуць прыданыя ў дарозе; Саламевіч, с. 315, № 465, усходняя частка Пружанскага п. Як бацькі маладой набліжаюцца на прыданскую вячэру; Мін. губ. вед., 1861, № 16, с. 309,

Навагрудскі п.; Матэрыялы, 1, с. 201, в. Жытлін Слонімскага п.; РГТ, ф. 53, воп. 1, спр. 110, л. 62, № 10. Пры пярэзвах; БДУ, папка 8, сш. 5, л. 1, Мінскі р. Н. р.:

Яно іх на дарожку ўзвяло.
— Ідзіце, ідзіце, прыданачкі, у сяло,
Там вам будзе напітку, наедку — усяго;

папка 5, сш. 7, л. 5, в. Падмажжа Капыльскага р.; папка 3, сш. 49, л. 6, в. Слабодка Лепельскага р.; папка 6, сш. 30, л. 5, в. Каладзіно Уздзенскага р.; Р о м а н о в, 8, с. 522, Дзісенскі п. Н. р.:

А Васілька ім праўдачкі не сказаў,
Да ён жа ім дарожачкі не ўказаў;

с. 385, Сушкоўская вол. Дрысенскага п. Н. р.:

А тут жа ж ваша галубачка ляцела,
За нашага галубчыка хацела;

З а х а р а в а, 1984, с. 234, № 754, в. Верхні Церабяжоў Столінскага р.; Я н ч у к, с. 88, № 28, в. Языль Бабруйскага п.; Г і л е в і ч, 1974, с. 400, в. Карсаковічы Барысаўскага р.; М а ж э й к а, с. 346, № 181, 1971, в. Шабаны Дубровенскага р.

**795. Да чые-то надкоснічкі блудзілі**

РГТ, ф. 4, воп. 1, спр. 11, л. 60. Зап. у 1840—1850 гг. у маёнтку Мацковічы Свянцянскага п.

Вар.: АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 77, сш. 37, л. 3а, № 5, 1974, в. Малыя Кашэўнікі Маладзечанскага р. Н. р.:

Дзе дарог многа, яны ў кожную хадзілі...
Ой, сюдой-сюдой сенам патрэсена,
Ой, сюдой-сюдой ваша дзевачка везена.

**796. Чые ж гэта прыданачкі блудзілі**

Г і л е в і ч, 1979, с. 511, Талачынскі р.

**797. А чые-то да прыданачкі зблудзілі**

F e d e r o w s k i, с. 362—363, № 703, каля Свіслачы ў Ваўкавыскім п.
Вар.: Г і л е в і ч, 1979, с. 511, в. Пышна Лепельскага р.

**798. Да чые-та прыданачкі блудзілі**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 73, спр. 74, сш. 3, л. 6, № 5. Зап. В. Р. Кушнарэнка ў 1973 г. у в. Грыбава Слабада Кіраўскага р.

**799. Чые ж гэта прыданачкі блудзілі**

ЦДАЛМ, ф. 1429, воп. 1, адз. зах. 9, л. 44, № 266. Зап. А. Валевіч у 1936 г. у в. Вуша Бярэзінскага р. ад К. Шупа, 28 г.

**800. Прыданыя ў чыстым полі блудзілі**

БДУ, папка 6, сш. 31, л. 11—12. Зап. Т. Маскалевіч у Шаркоўшчынскім р. ад С. А. Гарэцкай, 67 г.

**801. Мурагом дарога трушона**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 86, спр. 236. Зап. А. В. Цітавец у 1986 г. у в. Селішча Крупскага р.

**802. Да вой, там, вой, там да прыданачкі блудзілі**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 78, спр. 156, сш. 1, л. 28. Зап. А. С. Ліс у 1978 г. у в. Забяразь Іўеўскага р. ад З. Цаюн.

**803. А мы свата не знялі, не знялі**

З а х а р ч е н к о, с. 203, № 181. Зап. у Обска-Іртышскім міжрэччы.

**804. А чые гэта прыданыя блудзілі**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 65, сш. 6, л. 15. Зап. І. І. Лушчыцкая ў 1961 г. у в. Сосенка Вілейскага р. ад Я. А. Шалухі, 59 г.

Вар.: АН СССР, ф. 134, воп. 2, адз. зах. 14, л. 26, № 105, 1914, в. Моладава Навагрудскага п. Прыезд прыданых. Н. р.:

З казламі віталіся,
З казліхамі цалаваліся.

**805. Ляціць гусахна чэраз клетухну**

А н и м е л л е, с. 207, поўнач Беларусі.

**806. Ляцелі гусі з Белае Русі**

АІМЭФ, ф. 9, воп. 3, спр. 7, л. 104. Зап. І. Харсевіч у 1888 г. у в. Харава Пружанскага п.

Вар.: М а л е в и ч, с. 104, № 62, в. Малева Слуцкага п. Н. р.:

Што я з сваім дзяцінкам размовы не маю.

**807. Ой, за лесам, лесам сасна гарэла, сасна гарэла**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 74, спр. 80, сш. 1, л. 81. Зап. К. А. Цвірка ў 1974 г. у в. Дзямідавічы Валожынскага р. ад П. Зайкоўскай.

**808. Да стаяла Ганечка да на ганку**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, спр. 67, сш. 2, л. 20. Зап. А. В. Ільюшонак у 1975 г. у в. Языль Старадарожскага р. ад А. Т. Лазуха, 74 г.

Вар.: спр. 107, л. 11, 1975, в. Клінок Чэрвеньскага р.; ф. 9, воп. 3, спр. 7, л. 188, 1888, в. Харава Пружанскага п.; Я н ч у к, с. 87, № 25, в. Языль Бабруйскага п.; Р а д ч е н к о, с. 92, № 97, Дзятлаўская вол. Гомельскага п.; K o l b e r g, с. 226, № 77, каля Любяшова (Баравая, Пагост) у Пінскім п. Н. р.:

У чырвоны чаботкі, жоўты пас,
Прыбудзь хоць на час тут да нас.

**809. Шаўкова лентачка да сосенкі льнець**

Ш л ю б с к і, с. 110, № 204, 1919, в. Крутое Веліжскага п.

### 810. Едзь, мой татачка, сярод дня

Гарэцкі, с. 43, № 106, в. Малая Багацькаўка Мсціслаўскага п.
Вар.: Дембовецкий. Доп., с. 22, № 104, Магілёўская губ. Н. р.:

Мой сорам удаўся,
На падоле астаўся.

### 811. Ой, добрая гадзіначка настала

РГТ, ф. 53, воп. 1, № 110, л. 61, № 7.
Вар.: АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 88, сш. 58, л. 5, 1969, в. Гарадная Столінскага р. Н. р.:

Кукавала дай зазулечка на дубіне,
Пакінулі Ганначку на чужыне;

спр. 44, сш. 3, л. 4, 1965, в. Дубай Столінскага р., ф. 8, воп. 80, спр. 178, сш. 2, л. 66, 1980, в. Хутар Светлагорскага р.; воп. 2, спр. 56, сш. 1, л. 22, 1972, в. Мільча Вілейскага р.; ГДУ, в. Холмерч Лоеўскага р.; Киев. телеграф., с. 80, Бабруйскі п.; Материалы, 2, с. 53, Кобрынскі п. Н. р.:

Дала капу грошай на часнок,
Штоб прывезлі яе бацэньку на часок;

Шейн, 3, с. 440, № 97, в. Верасніца Мазырскага п.; с. 464, № 142, в. Дубеі Слуцкага п.; Чубинский, с. 448, № 1340, в. Плотніца Пінскага п.; Захарава, с. 168, в. Прыбарава Брэсцкага р.; Славянина, с. 111, № 235, Сеўскі р. Бранскай вобл.; АН СССР, ф. 104, воп. 1, спр. 251, л. 11, м. Семежава Слуцкага п.; спр. 267, Пінскі п.

### 812. А ў добры час гадзіначка настала

АІМЭФ, ф. 8, воп. 73, спр. 64, сш. 4, л. 19. Зап. А. С. Ліс у 1973 г. у в. Несіна Лепельскага р. ад М. Ц. Баранавай, 62 г.
Вар.: воп. 83, спр. 210, сш. 1, л. 18, 1983, в. Азяраны Жыткавіцкага р.; Шейн, с. 468, № 52, Гарадоцкі п.; Шейн, 3, с. 423, в. Дзякавічы Мазырскага п.; Киселев, с. 1, Віцебская губ.; Гілевіч, 1979, с. 545, в. Залучыны Лепельскага р.; Гильтербандт, с. 88—89, в. Азяты Кобрынскага п. Н. р.:

Ой, прыедзь, прыедзь, а мой бацэньку, не баўся,
А ўжо бо мой чэпчычак удаўся,
Па беленькай пасцеленцы паслаўся,
З чырвонаю рожаю змяшаўся;

Захарава, 1984, с. 234, № 739, в. Прыбарава Брэсцкага р.; БДУ, папка 2, сш. 32, в. Старына Ушацкага р.

### 813. Да стаяла Адарка на гары

Шейн, 3, с. 466, № 47, в. Дубеі Слуцкага п.

### 814. Ой, за гарою, за камяной млын меле

Moszyński, с. 286, № 769, в. Дарашэвічы Мазырскага п.
Вар.: Дембовецкий, с. 579, № 304, Рагачоўскі п.; Дембовецкий. Доп., с. 31, № 145, Магілёўская губ. Н. р.:

Для рэчанькі, для быстрыя пруд меліць,
За што ж на мяне мая свякроўка гнеў маіць;

Киев. телеграф, с. 105, Бабруйскі п.; Kolberg, с. 226, № 75, каля Любяшова (Баравая, Пагост) у Пінскім п. У маладога. Н. р.:

Да прыедзь у госці да мяне,
Хоць на адзін вечарок і на мядок;

БДУ, 1975, г. Давыд-Гарадок Столінскага р.; папка 7, сш. 17, л. 3, № 16, 1966, в. Дастоева Іванаўскага р. Н. р.:

Перапрашу свайго баценьку ў пірэзвы;

АІМЭФ, ф. 8, воп. 77, спр. 140, сш. 1, л. 32, № 27, в. Добрая Лука Салігорскага р. Як забіраюць маладую. Н. р.:

Да ой, не ўпрашу ні віном, ні мёдам,
Толькі я ўпрашу сваім нізкім паклонам;

воп. 85, спр. 210, сш. 1, л. 18, 1983, в. Азяраны Жыткавіцкага р. Н. р.:

Ой, выкачу бочку мядочку на лаву,
Да й перапрашу сваго бацюхна на славу.

### 815. Хадзіла дзевачка каля варот

РГТ, ф. 53, воп. 1, № 110, л. 60, № 5.

### 816. Пайду я каля рэчанькі па лазе

БВУ, 441, 4, л. 246. Зап. М. Федароўскі ў 1880 г. у Лідскім п. Нядзеля.

### 817. У панядзелачак рана

АІМЭФ, ф. 8, воп. 78, спр. 144, сш. 1, л. 78—80, № 53. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1978 г. у в. Барсукі Кармянскага р. ад Ю. С. Анішчанка, 61 г.

Вар.: спр. 154, сш. 2, л. 62, 1978, в. Фошнае Краснагорскага р. Бранскай вобл.; воп. 77, спр. 128, сш. 3, № 54, 1977, в. Курганок Рагачоўскага р.; воп. 73, спр. 73, сш. 2, л. 16, № 14, 1979, в. Баркалабава Быхаўскага р.; ф. 13, воп. 10, спр. 406, сш. 59, л. 5, в. Баяры Вілейскага р.; ГДУ, 1986, в. Жаркі Касцюковіцкага р.; БДУ, папка 3, сш. 28, л. 2—3, № 3, Чачэрскі р.; ІРЛІ, р. 5, к. 19, папка 1, № 1, л. 47—48, 1931, в. Бярозаўка Прапойскага р.; Шейн, 1, с. 460, № 48, Смаленская губ. Калі маладая ідзе ў свякроўкі першы раз па ваду з дружкамі і музыкай. Н. р.:

Ці не выкупіць ён
Мяне, маладу,
З чужой стараны,
Са свякровінай каморкі?

Захарава, 1984, с. 230, № 722, в. Салава Драгічынскага р.; Свитова, 168, № 121, в. Астраглядава Старадубскага р.; Павлова, с. 88, № 706, Смаленская вобл.

### 818. У новенькім да калодзезі

АІМЭФ, ф. 8, воп. 77, спр. 143, сш. 1, л. 6, № 4. Зап. А. І. Гурскі ў 1977 г. у в. Сіманавічы Глускага р. ад П. Я. Белавуша, 52 г., П. Ф. Ліс, 59 г.

Вар.: спр. 136, сш. 1, л. 9, 1977, в. Дзербін Акцябрскага р.; спр. 142, сш. 1, № 31, в. Чаланец Салігорскага р.; воп. 75, спр. 94, сш. 2, л. 45, № 116, 1975, в. Прусы Старадарожскага р. Н. р.:

Гасцінчыка не наесціся, не наесціся,
Гасцінчыка не наесціся,
На бацюшку наглядзеціся;

воп. 83, спр. 211, сш. 3, л. 5, № 4, в. Сякерычы Петрыкаўскага р.; воп. 1, спр. 17, сш. 1, л. 7, 1946, в. Кірава Слуцкага р.; спр. 97, сш. 4, л. 93, 1975, в. Рачэнь Любанскага р. П. р.:

Ні з мора, ні з возера,
А з глыбокага да калодзезя;

ф. 13, воп. 10, спр. 76, сш. 8, л. 7, 1973, в. Сітніца Лунінецкага р. Н. р.:

Чырвонага да Васільчыка.
Не так рада я гасцінчыку,
Чырвонаму Васільчыку...
Ох, я рада, йшчэ й радзесенька,
Паляцелі гатавесенька;

спр. 80, сш. 21, л. 8, № 12, 1974, в. Аляксееўка Кіраўскага р.; спр. 77, сш. 32, л. 2, в. Орсічы Бабруйскага р.; спр. 70, сш. 2, л. 3, в. Асавец Мазырскага р.; АКЛМПІ, ф. 1, воп. 79, спр. 1, сш. 11, л. 5, 1979, в. Камаровічы Петрыкаўскага р.; БДУ, папка 8, сш. 1, л. 3—4, в. Міхаліно Свіслацкага р.; Moszyński, с. 285, № 795, в. Дарашэвічы Мазырскага п.; ГДУ, 1980, г. п. Тураў Жыткавіцкага р.

### 819. Пад вінным да калодзезем

Малевіч, с. 104, № 63, в. Альхоўка Слуцкага п.

Вар.: АІМЭФ, ф. 8, воп. 76, спр. 124, сш. 3, л. 42, в. Панюцічы Нясвіжскага р.

### 820. Ля новага

АІМЭФ, ф. 8, воп. 73, спр. 67, сш. 1, л. 40—42. Зап. Л. А. Малаш у 1973 г. у в. Цялуша Бабруйскага р. ад Н. С. Дудаль, 62 г. Як сядуць прыданыя.

Вар.: спр. 72, сш. 3, л. 4, 1973, в. Стаўпішчы Кіраўскага р.; ІРЛІ, ф. 1429, воп. 1, адз. зах. 9, л. 137, № 350, 1936, в. Жорнаўка Бярэзінскага р. Н. р.:

Ці не ляціць два лебедзі?
Два лебедзі бяленькія.
Ці не былі ў маёй сястрыцы...
Хаця раз паабедаць;

воп. 81, спр. 187, сш. 1, л. 69, 1981, в. Ухвала Крупскага р. Н. р.:

Прыляцелі па мяне
Два галубочкі мае,
Галубочкі-браточкі;

спр. 184, сш. 3, л. 35, № 36, 1981, в. Слабажанка Хойніцкага р.; воп. 1, спр. 11, сш. 2, л. 9, 1967, в. Плешчыцы Шклоўскага р.; спр. 93, сш. 2, л. 21, 1964, в. Мазалава Віцебскага р.; воп. 76, спр. 118, сш. 2, л. 30, 1976, в. Стаі Лепельскага р.; ф. 13, воп. 6, спр. 14, сш. 11, л. 5, № 33, 1976, в. Калюжыцы Бярэзінскага р.; воп. 10, спр. 79, сш. 14, в. Рудкі Клецкага р.; спр. 73, сш. 6, л. 21, № 32, 1974, в. Замосце Калінкавіцкага р. Н. р.:

Ды няхай сама прыйдзе,
Ці радзіначку прышле.
Сама прыйдзе на гадзіначку
І праведаці дзяціначку;

АКЛМПІ, ф. 1, воп. 79. спр. 1, сш. 18, л. 12, 1979, в. Здудзічы Светлагорскага р.; ГДУ, 1981, в. Покаць Чачэрскага р.; 1982, в. Грабаўка Гомельскага р. Н. р.:

Да няхай не барыцца,
Да скарэй паспяшыцца;

сш. 68, л. 10—11, 1981, в. Дуброўнае Брагінскага р. Н. р.:

То я буду адкупляціся.
Ой, як замуж я аддадзена,
То я буду прывыкаціся
І свякроўку мамкай зваці;

Гарэцкі, с. 33—34, № 73, в. Малая Багацькаўка Мсціслаўскага р.; ДГМ, ф. 56, воп. 1, л. 458, № 14, 1839, Барысаўскі п.; БДУ, папка 7, сш. 7, л. 22, № 3, в. Кімія Барысаўскага р. Н. р.:

Ці не едзіць хто ка мне,
Ці не возьмуць мяне з сабой;

1977, в. Новая Рудня Ельскага р.; папка 8, сш. 51, л. 3—4, № 8, 1969, в. Рэкта Горацкага р.; папка 12, сш. 38, л. 7, в. Вялікае Сяло Сеннейскага р.; Мажэйка, с. 309, 1973, в. Шалашына Дубровенскага р. Н. р.:

Як ляцела кала яе
Сюх-сюх да два лебядзі.

Мел. на вар. З. Я. Мажэйка.

### 821. Ля калодзежа студзёнага

АІМЭФ, ф. 13, воп. 6, спр. 16, сш. 1, л. 72. Зап. І. М. Маркевіч у 1982 г. у в. Еськаўка Горацкага р.

Вар.: ф. 8, воп. 76, спр. 115, сш. 1, 1976, в. Паэнякова Полацкага р. Н. р.:

Шэры верабеечка
Па вакошачку скачыць,
Маладая дзевачка

Пад акошачкам плачыць.
— Шэры верабеечка,
Ці з той ты староначкі, 2
Адкуль мая мамка?
Ляці ж ты, мой мілы,
Ды ў тую староначку,
Дзе матулька мая жывець;

воп. 78, спр. 156, сш. 6, л. 3, 1978, в. Тучына Маладзечанскага р. Н. р.:

Дык вы мяне выручайце
Да з гэтай няволенькі,
Ад цяжкай работанькі;

воп. 77, спр. 133, сш. 1, № 57, 1977, в. Старое Сяло Рэчыцкага р.; Нечаев, с. 61—62, № 115, в. Абрынкі Старадубскага п. Н. р.:

Не садзіся на дубочак...
Ці ён мяне ў палон аддаў;

БДУ, папка 3, сш. 49, л. 5, в. Слабодка Лепельскага р.

**822. Дарожачка ды не торненькая**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 73, спр. 72, сш. 25, л. 35—37, № 20. Зап. Н. М. Маркава ў 1973 г. у в. Бацэвічы Клічаўскага р. ад М. М. Ставер і Д. А. Казлоўскай.

**823. У панядзелак рана сіняе мора йграла**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 52, сш. 2, л. 70, № 99. Зап. Л. М. Салавей у 1972 г. у в. Каханавічы Верхнядзвінскага р. ад М. С. Малець.

**824. У панядзелачак рана**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 76, спр. 117, сш. 6, л. 16, № 12. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1976 г. у в. Капавішчы Полацкага р. ад А. А. Стрыкелева, 88 г. Маладой, як прыданыя ад'язджаюць дадому.

**825. У калодзезі да ў новенькім**

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 64, сш. 30, л. 1. Зап. У. П. Груша ў 1962 г. у в. Заастравечча Клецкага р. ад Н. Ц. Кокань, 62 г.

Вар.: спр. 60, сш. 16, л. 4, 1965, в. Макраны Капыльскага р.; спр. 44, сш. 13, л. 9, № 8, 1971, в. Люсіна Ганцавіцкага р.; ф. 8, воп. 76, спр. 116, сш. 3, л. 36—37, в. Морач Клецкага р. Н. р.:

Як ён мяне на год аддаў,
Няхай едзе і забірае;

ГДУ, 1977, в. Чырвонабярэжжа Лельчыцкага р. Н. р.:

А й у летку за жнівамі.
— Да лугам, мамка, лугам,
Да лугам зеляненькім,
Да конікам вараненькім.

### 826. Ох, матухна мая родная

ГДУ. Зап. Н. І. Шарына ў в. Прыбалавічы Лельчыцкага р. ад В. М. Акуліч, 63 г.

### 827. Наказывала лябедка

Шейн, 3, с. 413, № 38, в. Дзякавічы Мазырскага п.

### 828. З віднага калодзезя

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 79, сш. 16. Зап. Г. М. Фалько ў 1974 г. у в. Лазавічы Клецкага р. ад Е. І. Дударэвіч, 74 г.

Вар.: спр. 40а, сш. 9, л. 3, в. Лебедзева Маладзечанскага р.; ф. 8, воп. 77, спр. 130, сш. 4, № 20, 1977, в. Вялікі Рожан Салігорскага р. Н. р.:

Каля новага калодзезя
Залатое чарапенне;

АН СССР, ф. 134, воп. 2, адз. зах. 14, л. 28, № 120, 1914, в. Моладава Навагрудскага п. Н. р.:

Дзе пайду — ножку саб'ю,
Што зраблю — не ўнараўлю.
Работа ж мая перароблена,
Хада ж мая пераходжана,
Мова ж мая перамоўлена;

Чубинский, с. 426, № 1227, в. Міхалкова Мазырскага п.; БДУ, папка 6, сш. 39, л. 9, в. Семежава Капыльскага р.; Захарава, 1984, с. 230, № 723, в. Азяраны Жыткавіцкага р.; Гілевіч, 1979, с. 544—545, в. Стары Свержань Стаўбцоўскага р.

### 829. У панядзелак рана

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 86, сш. 1, л. 2. Зап. А. С. Ліс у 1964 г. у в. Горныя Ходцы Сенненскага р. ад Д. і Я. Парахонькі.

Вар.: БДУ, папка 9, сш. 41, л. 8, в. Пушкары Сенненскага р. Н. р.:

Дзеўка падзівілась:
— Што гэта такое?
Вада глыбока...
Мора памялела.

### 830. А ў новым ды калодзезі

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 82, сш. 31, № 2. Зап. Л. М. Касмовіч у в. Зарэчча Нясвіжскага р. ад В. П. Касмовіч, 76 г.

Вар.: Захарава, с. 168, 1967, в. Пелішча Камянецкага р. Першзоў; Гілевіч, 1979, с. 543—544, пас. Калініна Чачэрскага р.

### 831. Круглае балота

Захарава, 1984, с. 229, № 720, в. Махнавічы Мазырскага р.

### 832. У белым бярэзнічку Манечка грыбы брала

АІМЭФ, ф. 13, воп. 8, спр. 1, сш. 7, л. 9, № 31. Зап. Н. В. Лаўрэцкая ў 1948 г. у в. Кассё Смалявіцкага р. ад Л. В. Нішчык, 47 г.

### 833. Мамачка мая родная

БДУ, д., 1976. Зап. А. У. Рогава ў в. Хацюхова Крупскага р. ад Я. Еварoўскай, 64 г.

### 834. Ля новага калодзежа

БДУ, папка 12, сш. 18, л. 6. Зап. Я. Савік у в. Дзіўная Шаркоўшчынскага р. ад А. В. Шпіронак, 76 г.

### 835. У панядзелак рана

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 40в, сш. 78, л. 1.

### 836. А ў панядзелак рана

Романов, 8, с. 401, Гарадоцкі п.

Вар.: Иванов, с. 293, Курынская вол. Віцебскага п. Сваякі маладой засцілаюць сталы сваімі настольнікамі і садзяцца за стол; Киселев, с. 1, Віцебская губ. Н. р.:

Ці не едзе мой татачка
З вялікай раднёю,
З большай сястрою;

Шейн, с. 302, № 562, в. Старое Сяло Віцебскага п. У панядзелак маладая ідзе па ваду, і ёй спяваюць; с. 594, Віцебскі п. Пасля абеда, а часам і да яго павязваюць маладую і спяваюць; Шлюбскі, с. 108—109, № 199, 1914, в. Смалькі Віцебскага п.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 91, сш. 2, л. 46, 1964, в. Мазалава Віцебскага р. Н. р.:

Прыедуць сястрыцы — галоўку ўбяруць,
Кашульку змяняюць, кашульку змяняюць
І на людзі пакажуць;

БДУ, папка 12, сш. 18, л. 6, в. Дзіўная Шаркоўшчынскага р.; Federowski, с. 400, № 828, каля Ляхавіч і Клецка ў Слуцкім п. Як маладыя пад студню ідуць. Н. р.:

Ці не вязе мне падарачка
Тонкага ды бяленькага,
З паставу да раўненькага.

### 837. З віднага калодзежа

Можейко, с. 149, в. Дуброва Мазырскага р.

Вар.: ГДУ, 1974, в. Стадолічы Лельчыцкага р.

### 838. З глыбокага да калодзежа

АІМЭФ, ф. 8, воп. 83, спр. 213, сш. 2, л. 19. Зап. Л. М. Салавей у 1983 г. у в. Залюцічы Жыткавіцкага р.

Вар.: воп. 75, спр. 97, сш. 7, л. 60, № 45, в. Рачэнь Любанскага р. Н. р.:

І сваяму Марцінкові маладому.
— Кацярынка, дзіцятка,
Старому пакланіся,

Маладому не схісніся,
Бо старэнькі пахваліць,
Маладзенькі спадманіць;

воп. 77, спр. 130, сш. 7, л. 60. Як прыедуць прыданыя. Н. р.:

Маладому добры дзень дай;

ф. 13, воп. 10, спр. 80, сш. 19, л. 3, 1974, в. Ананчыцы Салігорскага р.; Шейн, с. 350—351, № 650, м. Чашнікі Лепельскага п.; Дембовецкий, с. 580, № 311, Клімавіцкі п.; Янчук, с. 88, № 27, в. Языль Бабруйскага п.; Гілевіч, 1979, с. 547, в. Барбэраўка Слуцкага р.

### 839. Маладая Танечка

БДУ, папка 5, сш. 25, л. 18. Зап. у 1960 г. у в. Далідавічы Івянецкага р. ад К. Н. Задрэйка, 59 г.

### 840. А ў пятніцу рана

Добровольский, с. 224, № 542, в. Прачыстае Духаўшчынскага п. Маладая ў «адводзе», госці прыязджаюць яе адведаць.

### 841. Ой, дзевачка, ой, вумная-разумная

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 62, сш. 7, л. 5. Зап. І. М. Швец у в. Асавец Любанскага р. ад С. М. Русаковай.

### 842. Аддалі мяне, не едуць па мяне

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 75, сш. 2, л. 3. Зап. В. А. Буландо ў 1973 г.

### 843. Выйду на гораньку — млын меле

Захарава, 1984, с. 224, № 698, в. Парэчча Пінскага р.

### 844. Ой, вацвіла ды калінанька ў лузе

Захарава, 1984, с. 224, № 696, в. Чамярын Пінскага р.

### 845. Не кукуй, зязюлечка, рана

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 65, сш. 4, л. 4. Зап. І. І. Лушчыцкая ў 1961 г. у в. Крупнікі Крывіцкага р. ад К. Ф. Цюрлік, 76 г.

### 846. Ай, крахнула вутка

АФК, ф. 10, воп. 15, спр. 74, л. 61. Зап. Т. Б. Варфаламеева ў 1974 г. у в. Забор'е Расонскага р. ад Е. Т. Шубанавай.

Вар.: АІМЭФ, ф. 8, воп. 76, спр. 115, сш. 1, № 13, 1976, в. Сякераўшчына Полацкага р. Н. р.:

Вясенька настаніць, 3
Азёркі растаюць, 2
Дзетачкі плавац станцуць...
Цётачкі мае ўстануць;

л. 78, 1976, в. Пазнякова Полацкага р. Як вянок знімаюць. Н. р.:

Кукавала зязюля, на дубнічку седзя,
На дубнічку седзя, у бярэзнічак гледзя.

### 847. Кукавала шэра зязюлечка

ГДУ. Зап. у 1980 г. у Слуцкім р.
Вар.: Шейн, 3, с. 467, в. Дубеі Слуцкага п. Прыданыя маладой.

### 848. Закракала шэра вутачка на моры

Гілевіч, 1979, с. 271—272, в. Вугляны Круглянскага р.
Вар.: БДУ, д., 1976, в. Хацюхова Крупскага р.; Шейн, 1, с. 31, № 38, Віцебскі п.

### 849. Закракала шэра вутачка на моры

АІМЭФ, ф. 8, воп. 86, спр. 230. Зап. А. В. Цітавец у 1986 г. у в. Селішча Крупскага р. ад А. М. Белай, 70 г.

### 850. Чаго, мамачка, барышся

АІМЭФ, ф. 8, воп. 84, спр. 224, сш. 3, л. 44—45, № 107. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1984 г. у в. Радуцін Жлобінскага р. ад П. С. Макаленка, 85 г.

### 851. Змарнела дзіця, змарнела

АІМЭФ, ф. 8, воп. 73, спр. 69а, сш. 5, л. 13, № 9. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1973 г. у в. Віркаў Клічаўскага р. ад М. П. Дрэнь, 65 г. Як прывязуць маладую к яму.
Вар.: воп. 75, спр. 94, сш. 2, л. 49, № 119, в. Прусы Старадарожскага р. Спяваюць у прыданых.

### 852. Ужо стаіць дзеванька ў даліне

Довнар-Запольский, с. 24, № 200, в. Целяханы Пінскага п.
Вар.: с. 16, № 134, в. Дабраслаўка Пінскага п.; Малевич, с. 93, № 26, в. Малева Слуцкага п.; Захарава, 1984, с. 221, № 686, в. Верхні Церабяжоў Столінскага р. Н. р.:

Мы ж сякеркі маем,
Мы ж галлё парубаем,
Масточкі памасцім
І дзеваньку навясцім;

АН СССР, ф. 104, воп. 1, спр. 269, л. 26, 1884, Палессе, спр. 267, там жа.

### 853. Ой, на моры ды на дошчачцы

Захарава, 1984, с. 229, № 721, в. Салава Драгічынскага р.
Вар.: АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 76, сш. 8, л. 7, 1973, в. Сітніца Лунінецкага р.

### 854. Да хадзіла двевачка па гары

Гілевіч, 1979, с. 162, в. Седча Пухавіцкага р.

### 855. Ды не жаласлівыя браточкі

БДУ, папка 8, сш. 9, л. 2. Зап. В. М. Канапліцкая ў г. п. Клічаў ад М. Прастакевіч, 74 г.

**856. А зажурылася дзевачка**

РГТ, ф. 53, воп. 1, спр. 110, № 10, л. 61. Песня прыданых.

**857. А на вуліцы а мяцеліца развявае**

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 92. Зап. Н. Д. Ярашава ў 1969 г. у в. Княжыцы Магілёўскага р. ад Д. Д. Ярашавай.

Вар.: ф. 8, воп. 1, спр. 96, л. 1, 1965, г. Талачыно. Н. р.:

А на дварэ ўжо мяцеліца мяцеіць.
Чаму ка мне а мой татулька не едзіць?..
Няхай мае падвор'ейка паглядзіць;

Шейн, 1, с. 31, № 37, в. Воранава Віцебскага п.

**858. Вумная-разумная Мартусенька**

Шейн, с. 302, Віцебскі п.

Вар.: с. 616, № 598, в. Дуброўкі Лепельскага п.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 49, сш. 2, л. 30—31, 1960, в. Талкачова Сіроцінскага р.; Славяніна, с. 112, № 236, Сеўскі р. Бранскай вобл.; Романов, 8, с. 401, Гарадоцкі п. Н. р.:

Той жа дзянёчак мае ўборы прывязуць,
Той жа часочак маю галоўку ўбяруць.

**859. Ай, умная, а разумная Анечка**

Мажэйка, с. 338, в. Пушкі Лёзненскага р.

Вар.: БДУ, папка 2, сш. 32а, л. 4, в. Старына Ушацкага р. Н. р.:

Ён жа маю сялібачку агледзіць.
Прыедзь, прыедзь ка мне, татулька, хоць ночай,
Агледзь, агледзь маю сялібачку са свечай.

**860. Пазірала наша Манечка**

АН СССР, ф. 104, воп. 1, спр. 251, л. 11, м. Семежава Слуцкага р.

**861. Ай, выйдзі, малойчык, на ганачак**

Романов, 1—2, с. 354, № 75, Сенненскі п.

**862. І выйду ж я за вароцейка**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 74, спр. 78, сш. 1, л. 12. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1974 г. у в. Заэерка Пухавіцкага р. ад Е. Ф. Коўзель, 81 г.

**863. Ой, едзь ка мне, родзе да багаты**

Federowski, с. 405, № 845, каля Ляхавіч і Клецка ў Слуцкім п. Пасля ўпавіцця, як каравай дзеляць і роду клічаць.

**864. Маладая Надзечка**

Захарава, 1984, с. 234, № 737, в. Пелішча Камянецкага р.

### 865. Маладая Галечка, выйдзі за вароты

ГДУ. Зап. Л. Дзмітрыева ў 1982 г. у г. Рагачоў ад А. Я. Лаўрэнавай, 70 г.

### 866. Маладая дзевачка

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 32, сш. 17, л. 6—7, № 3. Зап. М. Казлоўская ў в. Карасі Юрацішкаўскага р. ад М. К. Судзілоўскай, 1886 г. н.

### 867. Паглядзела Касенька

Шырма, с. 320, № 309, 1932, в. Шакуны Пружанскага п.

### 868. Выйдзі, дзеванька, на ганак

Дембовецкий, с. 569, № 208, м. Чарэя Сенненскага п.
Вар.: ЦДАЛМ, ф. 1429, воп. 1, адз. зах. 9, л. 168, № 385, 1936, в. Жорнаўка Бярэзінскага р. Н. р.:

Прыданні едуць, песні пяюць,
Хлопчыкі едуць, куфры вязуць;

РГТ, ф. 53, воп. 1, спр. 110, л. 59, № 7. Н. р.:

Ці не трубкі вязуць, кітайкі
Для сваей дзевачкі каханкі.

### 869. Выйдзі, Машанька, на гарод

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 110, сш. 3, л. 44. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1967 г. у в. Ордаць Шклоўскага р. ад А. В. Жаўранкавай, 57 г.
Вар.: ф. 13, воп. 6, спр. 7, сш. 26, № 13, в. Слаўнае Мсціслаўскага р. Н. р.:

Бацька з маткаю — пасярод,
Брацік з сястрою — пазадзі,
Дружок міленькі — ўперадзі;

Гарэцкі, с. 33, № 71, в. Малая Багацькаўка Мсціслаўскага р.

### 870. Вязуць цёткі прыданак

ГДУ. Зап. Л. Лябёдка ў 1982 г. у в. Майская Крупскага р. ад П. З. Ганчаровай, 69 г.
Вар.: АІМЭФ, ф. 8, воп. 77, спр. 126, сш. 2, № 8, 1977, в. Нача Крупскага р.

### 871. А выйдзі, Мар'янка, на ганак

Романов, 8, с. 381, Лепельскі п.
Вар.: БДУ, д., 1976, в. Хацюхова Крупскага р. Н. р.:

Гэта мае сястрыцы так пяюць,
Гэта мае брацейкі гукаюць.

### 872. Ой, між гор жыта жала

БДУ, папка 12, сш. 20, л. 7. Зап. І. Шкраба ў в. Церабейнае Стаўбцоўскага р. ад Я. І. Шабуні, 61 г.

### 873. З сіняга мора ветры веюць

БДУ, папка 9, сш. 41, л. 12. Зап. А. Панкратава ў в. Пушкары Сенненскага р. ад М. П. Пушкаровай, 1902 г. н.

### 874. Наехалі да нас госці

Брен, с. 39—40, Бельскі п. Вязуць прыданае.

### 875. Пайшла Манечка па ваду

АІМЭФ, ф. 8, воп. 73, спр. 69, сш. 1, л. 91, № 79. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1973 г. у в. Іскань Быхаўскага р. ад А. М. Ляпейка, 28 г. Як вязуць сундук яе да маладога.

Вар.: сш. 2, л. 68, № 52, 1973, в. Іскань Быхаўскага р.; ф. 13, воп. 10, спр. 82, сш. 48, л. 5, 1974, в. Янаўка Кармянскага р. ГДУ, в. Чарнейкі Рэчыцкага р. Н. р.:

У залатыя падкоўкі падкуйся,
Штоб тває падкоўкі бращчалі,
Штоб тває варогі маўчалі.

### 876. Выйшла дзеванька пад гору

Bykowski, с. 280, Пінскі п.

### 877. Выбегла дзеванька на гару

БДУ, папка 1, сш. 48. Зап. А. В. Брухан у в. Вулька Радавецкая Драгічынскага р. ад З. Бычык, 60 г.

### 878. Ой, бразнулі кола

Чубинский, с. 429, № 1237, в. Палоскі Бельскага п.

### 879. На дварэ чырвоная каліна

КСД, № 689. Зап. Л. Н. Целякоўская і Е. Я. Вайтовіч у 1954 г. у в. Навасёлкі Кобрынскага р. ад А. Сімак.

Вар.: АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 22, сш. 1, л. 6, № 26, 1948, в. Гайкоўка Кобрынскага р.; БДУ, д., 1980, л. 56, в. Мансеева Лунінецкага р. Н. р.:

Ой, за гарою, за высокаю млын меле,
Да не гневайся, мая свякроўка, на мяне.

### 880. Маладая дзеванька

Материалы, 2, с. 32, в. Салава Кобрынскага п.

### 881. Чаго сваткі спазніліся

Васильева, № 34, Грабаўская вол. Мазырскага п. Выходзяць на сустрэчу тым, хто прывёз кубел.

### 882. Прыданове-недбалове

Брен, с. 39, Бельскі п. Калі вязуць прыданае.

### 883. Белы прыданкі, белы

Шейн, 3, с. 466, № 146, в. Дубеі Слуцкага п.

**884. Госцікі паэнівыя**

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 92.

**885. Ехалі мы іграючы**

Гілевіч, 1979, с. 511, в. Казлы Вілейскага р.
Вар.: АІМЭФ, ф. 8, воп. 73, спр. 64, сш. 4, л. 6, 1973, в. Мягелі Лепельскага р.

**886. Ці тут, ці тут нашага свата вяселле**

Романов, 8, с. 389, Дрысенскі п.

**887. Ой, чы гэта да тая хата**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 69, сш. 2, л. 18. Зап. М. П. Гваздзёў у 1961 г. у в. Лугі Лунінецкага р.
Вар.: Довнар-Запольский, с. 39, № 293, в. Святая Воля Пінскага п. Н. р.:

Чы гаразд начавала, свёкра бацькам звала;

РГТ, ф. 5, № 11, л. 45—46, 1847, м. Язёры Гродзенскага п. Пярэзва. Н. р.:

Прыслала нас маці дочку адведаці,
Як яна прабывае, свёкарку называе;

Захарава, 1984, с. 224, № 699, в. Парэчча Пінскага р.

**888. Да мы свата не зналі**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, спр. 98, сш. 2, л. 44. Зап. В. І. Скідан у 1975 г. у в. Галоўкі Рэчыцкага р. ад Г. Ф. Шпадарук, 80 г.

**889. Ехалі мы да дарогамі**

Романов, 8, с. 460, в. Дубраўка Гомельскага п. Прыданкі прыязджаюць да жаніха.

**890. А выведзіце нам нашу**

Е. П., с. 77, № 61, Быхаўскі п.

**891. Пакажыце нам наша**

БДУ. Зап. Л. А. Мянько ў 1979 г. у в. Гальцы Столінскага р. ад А. І. Хоміч, 43 г.
Вар.: ГДУ, в. Кажушкі Хойніцкага р.; Шейн, 1, с. 318, № 49, в. Дварэц Рагачоўскага п.

**892. Да казалі, сяло недалёка**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, спр. 97, сш. 3, л. 74, № 67. Зап. А. М. Зайко ў в. Рачэнь Любанскага р. ад М. В. Кукраш, 46 г., і В. А. Ляўчэні, 53 г. Калі едуць да маладога.
Вар.: сш. 6, л. 78, в. Языль Старадарожскага р.; воп. 82, спр. 194, л. 8, 1982, в. Таль Любанскага р. Н. р.:

Із дарожкі мы зблудзілі
Да па лесу, па карэннейку,
Да па полю, па каменнейку;

воп. 85, спр. 229, № 41, 1985, в. Дзякавічы Жыткавіцкага р.; ф. 13, воп. 10, спр. 32, сш. 7, л. 8, Слуцкі п.; сш. 16, л. 11, в. Прусы Старобінскага р.; Moszyński, с. 265, № 709, в. Дарашэвічы Маэырскага п. У дарозе да маладой.

### 893. Прыехалі мы на вясёлы двор

БДУ, папка 8, сш. 50, л. 10. Зап. Ф. Бандаровіч у в. Ячнае Стаўбцоўскага р. ад Н. Я. Сошка.

Вар.: папка 12, сш. 25, л. 10, в. Петкавічы Баранавіцкага р. Н. р.:

За галубку, за сівеньку,
За дзевачку маладзеньку;

АІМЭФ, ф. 8, воп. 73, спр. 70, сш. 4, л. 32, № 30, 1973, в. Крынка Асіповіцкага р.; Захарава, с. 170, 1969, в. Паланэчка Баранавіцкага р. Перазоў; Адраджэнне, с. 261, № 48, 1912, в. Мікалаеўшчына Мінскага п. Прыданыя; Карский, 4, с. 22, в. Студзёнка Навагрудскага п.

### 894. А едзем мы, едзем, а куды прыедзем?

АІМЭФ, ф. 9, воп. 5, спр. 6, л. 32. Зап. А. К. Супінскі ў 1936 г. у в. Столбкі Суражскага р. Прыданкі спяваюць. Або канцоўка: «Па полю, па полю лашчынкі, эабірай, Еленка, пасцілкі».

### 895. А сватка, наш сватка

АІМЭФ, ф. 8, воп. 76, спр. 117, сш. 4, л. 30, № 25. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1976 г. у в. Пышна Лепельскага р. ад М. І. Прывада, 62 г. Як прыданыя злезуць з воза і ідуць у хату да маладога.

### 896. Ой, дзе ты, матулю, доўга ходзіш?

Ніва, 1979, № 40, в. Цісоўка на Беласточчыне.

Вар.: Гілевіч, 1979, с. 519, в. Вал Барысаўскага р.

### 897. А, сваточак наш дамавы

БДУ, д., 1976 г. Зап. А. І. Рогава ў 1976 г. у в. Хацюхова Крупскага р. ад Я. Еварацкай, 64 г.

Вар.: АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 99, сш. 1, л. 39, 1965, в. Ляўкі Аршанскага р.; спр. 112, сш. 2, л. 7, 1967, в. Стараселле Шклоўскага р.; воп. 73, спр. 73, сш. 2, л. 17, № 15, 1973, в. Баркалабава Быхаўскага р.; ЦДАЛМ, ф. 1429, воп. 1, адз. зах. 9, л. 109, № 322, 1936, в. Жукавец Бярэзінскага р.

### 898. Ці не тут тое сяло

Захарава, 1985, с. 225, № 700, в. Харомцы Акцябрскага р.

### 899. Выходзь, сватачка, прадзіў нас

ГДУ. Зап. К. В. Ліс у 1972 г. у в. Бывалькі Лоеўскага р. ад В. Паўлюшчанка.

### 900. А саваток наш, галубок

Гілевіч, 1979, с. 512, в. Ілья Вілейскага р.

### 901. Адчыніце вароцечка

АІМЭФ, ф. 8, воп. 78, спр. 156, сш. 4, л. 38. Зап. А. С. Ліс у 1978 г. у в. Нягневічы Навагрудскага р. ад З. Тур, 78 г.

Вар.: ГДУ, 1982, в. Стараград Кармянскага р. Н. р.:

Ай, дзе ж вы нашу маладую дзелі?
Хоць бы мы на яе паглядзелі.

### 902. Ці ждалі, ці паглядалі вы на нас

БДУ, папка 3, сш. 48, л. 9. Зап. В. Ткач у в. Пунішча Лепельскага р. ад В. А. Крывец, 53 г.

### 903. А зачым, зачым нам прывету нету

Дембовецкий, с. 576, № 274, Магілёўскі п.

### 904. Наехала церазвян поўны двор

Захарава, с. 168, в. Парэчча Пінскага р.

### 905. Мы к свату ехалі

АІМЭФ, ф. 8, воп. 73, спр. 70, сш. 3, л. 25, № 14. Зап. І. К. Цішчанка ў 1973 г. у в. Мязовічы Асіповіцкага р. ад М. І. Некрашэвіч. Свату.

Вар.: воп. 73, спр. 72, сш. 5, л. 27—28, 1973, в. Бацэвічы Клічаўскага р.; воп. 79, спр. 171, сш. 1, л. 50, 1979, в. Казацкія Балсуны Веткаўскага р.; воп. 75, спр. 94, сш. 7, л. 62, 1975, в. Засценак Любанскага р.; 98, л. 62, 1975, в. Дзяражычы Лоеўскага р.; ф. 13, воп. 6, спр. 7, сш. 3, л. 8, в. Рагач Бялыніцкага р.; Шейн, 1, с. 315—316, в. Дварэц Рагачоўскага п.; Шырма, с. 165, № 151, в. Калюга Смалявіцкага р.; ГДУ, 1981, в. Башыца Чачэрскага р.; Барбароў Мазырскага р. Н. р.:

Чаму ж, сваце, не будаваўся,
Ці ж ты нас не спадзяваўся?

### 906. Дайце прыданым волю

Брен, с. 39, Бельскі п. Вязуць прыданае.

Вар.: Federowski, с. 396, № 809, каля Ляхавіч і Клецка ў Слуцкім п. Каб кубел з возу прыймалі; Адраджэнне, с. 261, № 50, 1912, в. Мікалаеўшчына Мінскага п. Перад выпраўкай з прыданкамі; РГТ, ф. 53, воп. 1, спр. 110, л. 53, № 9.

### 907. І ў нашага свата

ГДУ, сш. 55, л. 3. Зап. Л. Данская ў 1982 г. у в. Савічы Брагінскага р. ад А. В. Рэбка, 68 г.

Вар.: сш. 30, л. 8, 1981, в. Бабічы Рэчыцкага р.; в. Покаць Чачэрскага р.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 3, сш. 2, л. 16, 1968, в. Белая Дуброва Чашніцкага р.; воп. 75, спр. 98, сш. 1, л. 62, 1975, в. Дзяражычы Лоеўскага р.; спр. 94, сш. 4, л. 55—56, 1975, в. Крываносы Старадарожскага р. Н. р.:

Да скідаймо да долу, да долу,
Самі едзьмо дадому;

спр. 97, сш. 3, л. 79, № 70, 1975, в. Рачэнь Любанскага р.; воп. 77, спр. 135, сш. 1, № 39, 1977, в. Слабодка Акцябрскага р.; спр. 128, сш. 1, № 18, 1977, в. Асмолавічы Рагачоўскага р.; воп. 79, спр. 165, сш. 4, л. 63, 1979, в. Барталамееўка Веткаўскага р.; воп. 80, спр. 174, сш. 3, л. 24, 1980, в. Навінкі Слуцкага р.; воп. 81, спр. 189, сш. 1, л. 48, 1981, в. Забелле Бешанковіцкага р. Н. р.:

Ці ў хлеў яе несці — каровы наравуцца,
Ці назад дамоў везці — людзі пасмяюцца;

воп. 73, спр. 67, сш. 1, л. 25, в. Цялуша Бабруйскага р.; АФК, ф. 10, воп. 15, спр. 77, л. 235, 1977, в. Пліса Крупскага р. Н. р.:

Адчыніся, гумнішча, павязём жа шкапішча;

ГДУ, сш. 30, л. 8, 1981, в. Бабічы Рэчыцкага р.; в. Покаць Чачэрскага р.; Шейн, 1, с. 188, № 29, в. Хатаевічы Барысаўскага п. Н. р.:

Нашы дамы, як гарады,
А вашы — свінарыкі;

с. 355, в. Ігрушка Сенненскага п.; Шлюбскі, с. 184, № 436, 1923, в. Таўсцюкі Віцебскага п.

### 908. Ірвалі коні, ірвалі

ВПІ. Зап. Л. Н. Андрэйчык у в. Кундры Пастаўскага р.

### 909. Сватка-салавейка

АІМЭФ, ф. 8, воп. 73, спр. 72, сш. 5, л. 27—28, № 12. Зап. Н. М. Маркава ў 1973 г. у в. Бацэвічы Клічаўскага р. ад М. М. Ставер, 82 г.

### 910. Наша скрыня новая

Свитова, с. 167, № 120, в. Астрагляды Старадубскага р.

### 911. За морамі бывалі

Гайдук, с. 115, № 29. Зап. на Беласточчыне. Прыданкі просяць дадатковага пачастунку.

Вар.: Лобач, с. 120—121, Беласточчына. Пярэзва, каля дому.

### 912. Ой, хто, хто то й да нас прыступіць

Шырма, с. 321, № 310, 1932, в. Шáкуны Пружанскага п. Прыданне.

### 913. Лёгка скрыня

Ніва, 1987, № 4, Беласточчына. Пасля выкупа да скрыні падбягалі госці маладога, хапалі яе, паднімалі і кідалі назад. Пры гэтым спявалі.

### 914. Ой, злезь, злезь, бубле, з кубла

Federowski, c. 402, № 833. Зап. каля Ляхавіч і Клецка ў Слуцкім п. Як прыданыя прывязуць кубел, дзеўкі спяваюць, каб брат злез з кубла.

Вар.: Шейн, 1, с. 250, № 35, Навагрудскі п. Н. р.:

Да мы кубла выкупім,
А цябе, бубне, выбубнім.

### 915. Дурні сваты, дурні

АІМЭФ, ф. 8, воп. 73, спр. 69, сш. 2, л. 90, № 81. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1973 г. у в. Іскань Быхаўскага р. ад М. Н. Лісавай, 68 г. Як занясуць сундук у яго хату.

### 916. Нам казалі, восем падушак пуховых

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 64, сш. 3, л. 14. Зап. А. І. Гурскі ў 1961 г. у в. Сосенка Вілейскага р. ад М. П. Віцько, 48 г.

### 917. Ад'язджаюць — пераймаюць

БДУ, папка 6, сш. 1, л. 3. Зап. А. П. Супрон, Р. А. Стэльмах у 1972 г. у в. Шчарбы Глыбоцкага р. ад А. Д. Кукор, 80 г.

### 918. Адчыняйце цісовыя дзверы і ганкі

АІМЭФ, ф. 8, воп. 73, спр. 64, сш. 4, л. 20. Зап. А. С. Ліс у 1973 г. у в. Несіна Лепельскага р. ад М. Ц. Баранавай, 62 г.
Вар.: Гілевіч, 1979, с. 513, в. Залучына Лепельскага р.

### 919. Выйдзі, выйдзі, Манечка, к нам на двор

БДУ, папка 6, сш. ·16, л. 4—5. Зап. Т. Ю. Пшыркова ў в. Янавічы Клецкага р. ад А. І. Велікевіч, 82 г.

### 920. За гарою новае сяло

АІМЭФ, ф. 9, воп. 3, спр. 7, л. 73. Зап. І. Харсевіч у 1888 г. у в. Харава Пружанскага п.

### 921. На дварэ калодзезь і вядро

Ніва, 1978, № 50, в. Баброўка на Беласточчыне.
Вар.: КСД, № 689, 1954, в. Навасёлкі Кобрынскага р. Н. р.:

Сэ пайшла па ваду—змяніце,
Сэ спіт у каморы—будзіце;

ГДУ, 1980, в. Вятчын Жыткавіцкага р.; БДУ, в. Камень Кобрынскага р.

### 922. Ой, на калодзезі круг ляжыць

АІМЭФ, ф. 2, воп. 7, спр. 7, сш. 4, л. 30. Зап. Г. К. Антонаў у 1963 г. у в. Пухавічы Жыткавіцкага р. ад А. І. Макарэвіч, 80 г.
Вар.: Шейн, 3, с. 424, в. Дзякавічы Мазырскага п.

### 923. Ой вы, свашачкі мілыя

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 63, сш. 16, л. 6. Зап. С. А. Зіньковіч у 1962 г. у в. Боркі Мінскага р. ад Г. І. Памалюк, 54 г.

### 924. Прыехалі да прыданачкі

Federowski, с. 474, № 1119, каля Моўчадзі ў Навагрудскім п.
Вар.: с. 476, № 1129, там жа. Як прыданыя прыедуць і на дварэ па-

стануць; с. 395, № 807, каля Ляхавіч і Клецка ў Слуцкім п. Н. р.:

Ці жыва, ці здарова,
Матка ж мая там удома?

Дмитриев, с. 308, в. Лаўрышава Навагрудскага п. Прыданкі з кублам спяваюць; АН СССР, ф. 134, воп. 2, адз. зах. 14, л. 26, № 103, 1914, в. Моладава Навагрудскага п.

### 925. Ой, прыданчэ-каханчэ

Чубинский, с. 449, № 1344, в. Плотніца Пінскага п.
Вар.: с. 466, № 1390, Бельскі п. Н. р.:

Паразвянкі-паненкі...
А цяпер у рубочку;

Moszyński, с. 288, № 806, в. Дарашэвічы Мазырскага п. Калі маладая сядзіць з закрытым тварам пад «паліцай».

### 926. Дзе ж наша да павінная?

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 87, сш. 50. Зап. В. Г. Гузарык у 1973 г. у в. Лугі Лунінецкага р. ад А. Ф. Паўлюкевіч, 55 г.
Вар.: ф. 8, воп. 83, спр. 213, сш. 2, л. 21, 1983, в. Залюцічы Жыткавіцкага р.

### 927. Дзе наша вітаўное?

Moszyński, с. 285, № 794, в. Дарашэвічы Мазырскага п. Калі прыданае прыедзе на панадворак да маладога.
Вар.: АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 17, сш. 1, л. 20, 1946, в. Доўгае Старобінскага р.; воп. 83, спр. 212, сш. 3, л. 22, 1983, в. Колкі Петрыкаўскага р.; Захарава, с. 131, Брэсцкая вобл.

### 928. Дзе ж наша да павінная?

АІМЭФ, ф. 13, воп. 8, спр. 2, сш. 6, л. 12. Зап. А. С. Фядосік у 1948 г. у в. Кашэвічы Капаткевіцкага р. ад А. С. Раманоўскай, 68 г.
Вар.: воп. 10, спр. 70, сш. 2, л. 2, в. Асавец Мазырскага р.; спр. 77, сш. 31, л. 2, 1977, в. Драбаўшчына Клецкага р.; воп. 9, спр. 6, л. 4, № 11, 1960, в. Цырабяжоў Столінскага р.; ф. 8, воп. 77, спр. 143, сш. 2, л. 24, № 16, 1977, в. Граб'ё Акцябрскага р.; воп. 1, спр. 17, сш. 1, л. 20, в. Доўгае Старобінскага р.; ГДУ, в. Казлы Ельскага р.; Чубинский, с. 449, № 1344, в. Плотніца Пінскага п.; с. 648, там жа; Шейн, 3, с. 465, в. Дубеі Слуцкага п.; Гілевіч, 1973, с. 169, в. Арэшніца Клецкага р.

### 929. Без цябе, Верачка

АІМЭФ, ф. 8, воп. 83, спр. 213, сш. 2, л. 23. Зап. Л. М. Салавей у 1983 г. у в. Залюцічы Жыткавіцкага р.
Вар.: ф. 13, воп. 10, спр. 92, сш. 2, л. 34, 1979, в. Гоцк Салігорскага р. Н. р.:

А палонік да на паліцы,
Няма ж мае памачніцы;

АКЛМПІ, ф. 1, воп. 79, спр. 1, сш. 11, л. 3, 1979, в. Камаровічы Петрыкаўскага р. Н. р.:

